# Гарадзенскі палімпсест 2011.
# Асоба, грамадства, дзяржава.
# XV – XX стст.

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2012

УДК 947.6<15–20
ББК 63.3(4Беи)
Г20

**Гарадзенскі палімпсест 2011 – гэта чарговая кніга ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ.**
**ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА** – гэта яшчэ адзін напамін гарадзенцам, што лёс горада ў іх руках. Толькі агульнымі намаганнямі мы здолеем перанесці ў наступныя стагоддзі непаўторнасць гістарычнай Гародні, зберагчы яе ўнікальнасць для нашчадкаў.
**ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА** прысвячаецца той Гародні, якой мы можам ганарыцца.
Дзякуем усім, хто з намі.

**Рэцэнзенты:**

Доктар гістарычных навук, прафесар *З. В. Шыбека*.
*А. А. Радаман*

**Гарадзенскі** палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV –
Г20 XX стст. // Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. — Мінск : Зміцер Колас, 2012. — 384 с. [14 іл.]
ISBN 978-985-6992-14-1

Матэрыялы зборніка прысвечаныя вывучэнню мінулага Гродна як феномена лакальнай гісторыі. У цэнтры даследчыцкай увагі апынуліся сацыяльныя адносіны ў межах «трохкутніка»: Асоба – Грамадства – Дзяржава. Гісторыя дзяржаўных і судовых установаў часоў ВКЛ дапаўняецца даследаваннямі з галіны антрапалагічнай гісторыі, якія пашыраюць далягляды беларускай гістарычнай урбаністыкі.

Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць гісторыя гарадоў Беларусі.

**УДК 947.6<15–20**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-6992-14-1**

# Змест



## Гародня эпохі ВКЛ: дзяржаўныя структуры, грамадства

## Горад і яго жыхары ў XIX – XX стст.

# Content

## The City and its Citizens in the nineteenth – twentieth centuries

# Прадмова

«Гарадзенскі палімпсест» – гэта навуковая праграма, прысвечаная вывучэнню мінулага горада над Нёманам як феномена лакальнай гісторыі. Ідэя праграмы ўзнікла яшчэ падчас міжнароднай навуковай канферэнцыі ў лістападзе 2008 г. Вывучэнне горада перыяду Сярэднявечча і Новага чаму (да канца XVIII ст.) адбываецца ў межах навуковага праекту «Гародня ў перыяд ВКЛ» (кіраўнік к. г. н. Наталля Сліж), а горада апошніх стагоддзяў – у межах праекту «Горадня і яе жыхары ў XIX – XX ст.» (кіраўнік д. г. н. Алляксандр Смалянчук).

Нараджэнне праграмы было абумоўлена як навуковымі, так і грамадскімі чыннікамі. У сітуацыі выразнага супрацьстаяння часткі гарадзенскай інтэлігенцыі бюракратычнай «рэканструкцыі» гістарычнага цэнтра Гродна, якаяператварылася ў фактычнае знішчэнне гісторыка-культурнай аўтэнтычнасці гораду, стала відавочнай фрагментарнасць і невысокі ўзровень нашых ведаў пра яго мінулае. Гістарычны факультэт Гродзенскага Дзяржаўнага універсітэту імя Янкі Купалы, на жаль, так і не здолеў стаць цэнтрам навуковага вывучэння гродзенскай мінуўшчыны.

У межах праграмы «Гарадзенскі палімпсест» былі праведзеныя чатыры навуковыя канферэнцыі (2008–2011) і апублікаваныя навуковыя зборнікі

- Гарадзенскі палімпсест. XII–XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня. 7 лістапада 2008 г.) // Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. – Горадня-Беласток, 2008;
- Гарадзенскі палімпсест. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX стст. // Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. – Горадня, 2009;
- Гарадзенскі палімпсест. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI–XX стст. // Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. – Мінск: Зміцер Колас, – 2011.

Чацвёртая кніга «Палімпсеста» асвятляе невядомыя старонкі палітычнай і сацыяльнай гісторыі горада. Яна складаецца з тэкстаў, адмыслова падрыхтаваных вядомымі даследчыкамі гродзенскай мінуўшчыны, а таксама матэрыялаў міжнароднай навуковай канферэнцыі «Гарадзенскі палімпсест – IV: асоба, грамадства, дзяржава (Гродна, 5–6 лістапада 2011 г.), прысвечанай 515-гадавіне надання гораду магдэбургскага права.

Рэдактарам тэкстаў раздзела *Гародня эпохі ВКЛ: дзяржаўныя структуры, грамадства* з'яўляецца Наталля Сліж. Матэрыялы раздзелу *Горад і яго жыхары ў XIX – XX стст.* рыхтаваў да друку Аляксандр Смалянчук.

У першым раздзеле прадстаўленыя даследаванні па гісторыі горада і рэгіёну перыяду Вялікага Княства Літоўскага (XV–XVIII стст.). Асаблівасці ўвядзення магдэбургскага права разглядаюцца ў артыкуле Наталлі Сліж (Гродна). Дзейнасць гродзенскага магістрату ў 1743–1767 гг. асвятляецца ў тэксце Зміцера Яцкевіча і Вадзіма Урублеўскага (абодва Мінск). Польскі гісторык Марыюш Савіцкі (Аполе) прааналізаваў апісанне горада ў дзённіку Караля Станіслава Радзівіла (1680–1723), а Магдалена Уйма (Аполе) – звесткі пра горад у французскай газеце «Les Nouvelles Ordinaires et Extraordinaires» другой паловы XVII ст. Дзейнасць павятовых судовых установаў і ўраднікаў прадстаўленая ў тэкстах Аляксея Шаланды (гродскі суд) і Уладзіміра Падалінскага (земскі суд). Праца грамнічных соймікаў XVIII ст. разгледжана Віталем Галубовічам (Гродна). Расійскі даследчык Аляксандр Шэкаў (Тула) прадставіў паходжанне гербу «Дамброва» у Туле. Канстанцін Ерусалімскі (Масква) прасачыў лёс маскавітаў у Гародні XVI ст. Даследчык з Беластоку Пётр Хомік засяродзіў увагу на гісторыі гродзенскага манастыра св. Барыса і Глеба да канца XVI ст.

Тэксты другога раздзела (*Горад і яго жыхары ў XIX – XX стст.)* прысвечаныя вывучэнню Гродна як соцыякультурнага феномена, што арганізуе прастору лакальнай гісторыі. Вольга Сабалеўская (Гродна) засяродзілася на праблеме санітарыі і медыцыны «габрэйскага» Гродна XIX – пачатку XX ст. Гісторыя «злачных мясцінаў» і прастытуцыі гэтага перыяду асвятляецца ў артыкулах Аляксандра Радзюка (Гродна) і Таццяны Вароніч (Мінск). Андрэй Чарнякевіч (Гродна) дапоўніў гэтыя сюжэты аповедам пра гродзенскі крымінальны свет міжваеннага перыяду. Іна Соркіна (Гродна) імкнулася пазнаёміць чытача з асаблівасцямі «гістарычнай палітыкі» ў Гродне другой паловы XIX – пачатку XX ст. Раіса Зянюк (Мінск) ахарактарызавала адукацыйную дзейнасць каталіцкага духавенства напрыканцы XVIII – у XIX ст. Мечыслаў Супрон і Вадзім Кароль (абодва Гродна) закранулі праблему супрацьпажарнай бяспекі ў XIX ст. і трагедыі 1885 г., калі пажарам быў знішчаны амаль увесь цэнтр горада. Ларыса Міхайлік (Гродна) працягнула вывучэнне гісторыі міжваеннага горада сюжэтам пра праблему сацыяльнага забеспячэння бяднейшай часткі яго жыхароў. Тадэвуш Гавін (Гродна) звярнуў увагу на практыку адносінаў партыйнай і савецкай улады Гродзеншчыны да карэннага насельніцтва горада і вобласці ў пасляваенныя гады.

Удзельнікі праекта імкнуцца з дапамогай дакументальных слядоў, якія пакінула мінуўшчына, «прачытаць» знішчаныя часам і людзьмі старонкі «гарадзенскага палімпсеста». Пры гэтым гістарычная рэканструкцыя мінулага Гародні/Горадні/Гродна спрыяе больш глыбокаму разуменню асаблівасцяў гарадской цывілізацыі ўсёй Беларусі.

* * *

Арганізацыя навуковых даследаванняў па тэме «Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры Гродна XVI–XX стст.», правядзенне міжнароднай канферэнцыі «Гарадзенскі палімпсест – IV: асоба, грамадства, дзяржава», а таксама выданне гэтага зборніка сталі магчымымі дзякуючы супрацоўніцтву Таварыства беларускай школы, Інстытута славістыкі Польскай Акадэміі навук, Акадэмічнай сеткі даследчыкаў ВКЛ і каардынатараў «Гарадзенскай бібліятэкі». Вялікую дапамогу ў рэалізацыі нашых планаў аказалі таксама нашы замежныя сябры.

Выказваем шчырую ўдзячнасць даследчыкам і фундатарам, а таксама кіраўніцтву Гродзенскага філіяла Беларускага Інстытута правазнаўства за падтрымку.

*Алесь Смалянчук*
*Наталля Сліж*

*Зміцер Яцкевіч, Вадзім Урублеўскі*
*(Мінск)*

# Гарадзенскі магістрат у 1743–1767 гг.

Дадзены артыкул з'яўляецца працягам планамернага даследавання гісторыі, структуры і функцыянавання Гарадзенскага магістрата – органа гарадскога самакіравання. У навуковых зборніках «Гарадзенскі палімпсест» былі апублікаваны два спецыяльных даследаванні, прысвечаных гісторыі Гарадзенскага магістрата адпаведна ў XVII і XVIII стст.[1] Дадзенае даследаванне прысвечана больш вузкаму прамежку часу, а менавіта сярэдзіне XVIII ст. Мэта артыкула – на падставе чатырох актавых кніг з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (далей – НГАБ), якія ахопліваюць прамежак часу з 1743 па 1767 гг., асвяціць дзейнасць Гарадзенскага магістрата, ахарактарызаваць асноўныя віды крыніц, належных да яго справаводства, скласці спіс і біяграмы ўраднікаў.

**Гістарыяграфія.** Акрамя двух згаданых вышэй прац спецыяльных даследаванняў па гісторыі Гарадзенскага магістрата, за выключэннем артыкула Юрыя Гардзеева, прысвечанага канцылярыі, на сённяшні дзень няма[2]. Пытанне ўнутранай планіроўкі і знешняга выгляду ратушы найбольш грунтоўна асветлена ў працах таго ж Юрыя Гардзеева[3] і Алены Квітніцкай[4]. Інстытуту каралеўскіх сакратароў нададзена ўвага ў даследаваннях польскага даследчыка Марэка Феранца[5] і аднаго з аўтараў[6].

Пастаноўка праблемы даследавання гарадскіх эліт Гародні ў XVI–XVIII стст. у інтэрдысцыплінарных сацыялагічным і гісторыка-мовазнаўчым аспектах зроблена Ю. Гардзеевым у артыкуле «Гарадскія эліты Гародні ў Новы час»[7]. Аўтам былі выказаны даволі слушныя заўвагі аб перспектывах даследавання мяшчанскіх эліт з далучэннем дасягненняў сацыялогіі. Але варта прызнаць, што на сённяшні момант для гэтага яшчэ недастаткова сабрана фактаграфічнага матэрыялу. Аднак другі аспект, які базуецца на высвятленні геаграфічнага паходжання прадстаўнікоў гарадской эліты, павінен быць даволі актуальным і даследавацца на падставе лінгвістычнага аналізу, а таксама звестак па антрапаніміцы гарадскога насельніцтва Польшчы, Германіі, Францыі. Не менш цікавым з'яўляецца пытанне іерархіі каштоўнасцяў тагачаснага грамадства. Разгляд яго немагчымы без паглыблення ў той пласт штодзённасці, які асвятляе глыбінныя эмоцыі, спадзяванні, адчуванні чалавека.

Паколькі акцэнт у даследаванні робіцца на стварэнні біяграм урадавых

асоб, то слушным уяўляецца звярнуцца да прац, прысвечаных ураднікам беларускіх гарадоў. Даследаваннем гарадскога самакіравання Віцебска адзначыўся Максім Макараў, які апублікаваў у ім звесткі аб гарадскіх войтах[8]. У артыкуле па гісторыі Віцебскага магістрата апублікаванага аўтарамі дадзенага даследавання даюцца звесткі аб некаторых іншых ураднікаx гэтай установы[9]. Шэраг публікацый у «Годнасці», «Архівістах Беларусі», «Архіварыусе» зроблены адным з аўтараў па біяграмам і радаводам магілёўскіх ураднікаў[10].

Сярод даследаванняў, дзе пададзена інфармацыя пра войтаў Гародні, варта адзначыць выданне «Ураднікі Вялікага княства Літоўскага» Андрэя Рахубы і Генрыка Люлевіча[11]. Таксама біяграфічныя звесткі аб гарадзенскіх ураднікаx прыведзены ў нашых артыкулах[12], працы Юрыя Гардзеева[13] і даследаванні польскага даследчыка Пшэмыслава Баравіка[14]. Геральдыцы гарадзенскіх мяшчан-ураднікаў XVII–XVIII стст. прысвечаны артыкул Аляксея Шаланды[15].

Для вызначэння сутнасці тэрмінаў дакументаў, якія прымяняліся ў актавых кнігах, у дадзеным даследаванні выкарыстоўваўся «Слоўнік старажытнай актавай мовы Паўночна-заходняга края і Царства Польскага», складзены Мікітай Гарбачэўскім[16], таксама ўласныя напрацоўкі[17].

**Крыніцы.** Чатыры паточныя актавыя кнігі Гарадзенскага магістрата за 1743–1767 гг. з’яўляюцца вынікам справаводства двух аб’яднаных палат магістрата. Дамінуюць у актавых кнігах акты куплі-продажу, асэкурацыі, інтрамісіі, квітанцыі, пленіпатэнцыі, данацыі, зрачэнні, цэсіі, тэстаменты, акты на застаўное трыманне маёмасці і інш. Сустракаюцца і такія рэдкія віды дакументаў як інтэрцызы, акты замен (гл. ніжэй), працэдэнцыі. Так, працэдэнцыя (або акт генеалогіі) чатырох пакаленняў роду Сапегаў за 28 верасня 1753 г. – першы дакумент падобнага кшталту, знойдзены намі ў актавых кнігах Гарадзенскага магістрата[18]. Як правіла, дакументы генеалагічнага характару часцей уносіліся ў актавыя кнігі гродскіх і земскіх судоў.

У кнігах гэтага перыяду фіксуецца значная колькасць актаў, здзейсненых прадстаўнікамі магнатэрыі, шляхты і духавенства (прыкладна палова ад усіх дакументаў). Цікавасць прадстаўляюць два акты падзелу маёмасці пасля смерці сястры Тэклі (у апошнім шлюбе Сапежынай) паміж яе братамі Міхалам Казімірам Рыбанькам і Геранімам Фларыянам Радзівіламі, а таксама двух квітацый – ад Міхала Казіміра Радзівіла для былога швагра графа Міхала Сапегі, падляшскага ваяводы, і аналагічная ад Міхала Сапегі для Міхала Казіміра[19]. Дадзеная з’ява даволі характэрна для магістрацкіх кніг ВКЛ сярэдзіны – другой паловы XVIII ст. і звязана з павышэннем статуса магістратаў.

Ніжэй прадстаўлены апісанні зместавага напаўнення актавых кніг Гарадзенскага магістрата:

*Актавая кніга Гарадзенскага магістрата за 05.02.1743 – 14.11.1753 гг.*[20] змяшчае на 631 аркушы (сучаснай нумарацыі) 267 дакументаў.

Структура актавай кнігі:

05.02. – 23.12.1743 г. Акты куплі-продажу (9), асэкурацыі (3), цэсіі (3), квітацыі (2), акты адрачэння (2), тэстаменты (2), данацыі (2), акт кампраміснага пагаднення (2), інтэрцыза (1), пленіпатэнцыя (1), інвентар (1), акт застаўнога трымання (1). Арк. 1–70. Колькасць дакументаў: 29.

03.02. – 23.12.1744 г. Акты куплі-продажу (12), квітацыі (7), акты застаўнога трымання (7), пленіпатэнцыі (5), данацыі (3), асэкурацыі (3), пазыковыя запісы гарадзенскага кагалу (3), інвентары (3), запісы рэфармацыйныя (2), тэстамент (1), улевак (1), дабравольны запіс (1), цэсія (1), інтрамісія (1). Арк. 71–191. Колькасць дакументаў: 50.

15.02. – 04.12.1745 г. Акты куплі-продажу (9), асэкурацыі (5), данацыі (5), квітацыі (4), акты застаўнога трымання (4), акты адрачэння (3), пленіпатэнцыі (2), інтэрцызы (2), апрабацыя (1), тэстамент (1), дабравольны запіс (1), пазыковы запіс (1), інвентар (1), пераклад з «рускай» мовы дабравольнага запісу ад Івана Петранцэвіча для Бенедыкта Івановіча (1). Арк. 192–316 адв. Колькасць дакументаў: 40.

01.02. – 16.12.1746 г. Акты куплі-продажу (10), інтрамісіі (5), квітацыі (4), асэкурацыі (4), пазыковыя запісы гарадзенскіх жыдоў (3), пункты пагаднення (2), улевак (1), кассацыя (1), данацыя (1), пленіпатэнцыя (1), інтэрцыза (1), акт адрачэння (1), акт застаўнога трымання (1), рэестр рухомасці (1). Арк. 317–387. Колькасць дакументаў: 36.

14.01.1747 г. Пленіпатэнцыя (1). Арк. 389–390 адв.; 30.06.1747. Цэсія (1). Арк. 395–396 адв. Колькасць дакументаў: 2.

20.01.1748 г. Пленіпатэнцыя (1). Арк. 388–388 адв. (на латыні); 15.02.1748 г. Пазыковы запіс (1). Арк. 391–392 адв.; 05.07.–26.11.1748 г. Акты застаўнога трымання (4), пазыковыя запісы (3), пленіпатэнцыі (2), улевак (1). Арк. 397 – 416 адв. Колькасць дакументаў: 12.

12.05.1749 г. Пленіпатэнцыя (1). Арк. 393–394; 19.06. – 05.12.1749 г. Акты куплі-продажу (2), акты застаўнога трымання (2), асэкурацыі (2), квітацыя (1), карабарацыя (1). Арк. 417–430 адв. Колькасць дакументаў: 9.

18.03. – 17.06.1750 г. Пленіпатэнцыя (1), асэкурацыя (1), акт куплі-продажу (1). Арк. 431–440 адв. Колькасць дакументаў: 3.

31.03. – 23.12.1751 г. Акты застаўнога трымання (5), пазыковыя запісы (4), пленіпатэнцыі (2), улевак (1), асэкурацыя (1), акт арэнднага права (1). Арк. 441–473 адв. Колькасць дакументаў: 14.

18.01. – 30.12.1752 г. Асэкурацыі (9), акты куплі-продажу (7), акты адрачэння (4), данацыі (4), грашовыя ўнёскі (4), квітацыі (3), цэсіі (3), інтэрцызы (2), карабарацыі (2), пазыковы запіс (1), рэфармацыйны запіс (1), тэстамент (1), пленіпатэнцыя (1), акт арэнднага права (1), дажыvotны запіс (1), інвентар (1), тэстымонія (1). Арк. 475–570 адв. Колькасць дакументаў: 46.

11.01. – 14.11.1753 г. Квітацыі (7), акты куплі-продажу (6), акты застаўнага трымання (4), асэкурацыі (2), данацыі (2), улевак (1), інвентар (1), пленіпатэнцыя (1), тэстымонія (1), працэдэнцыя генеалогіі падканцлера ВКЛ Міхала Сапегі (1). Арк. 571–630 адв. Колькасць дакументаў: 26.

Арк. 631. Завярэнне актавай кнігі калежскімі асэсарамі, падпалкоўнікамі корпуса жандараў Бебелем (?) і Керменскім, якія пазначылі ў ёй 650 аркушоў. Змешчана гербавая пячатка «камісіі Віленскай, Гродзенскай і Беластоцкай».

Арк. 632–640. Рэестр дакументаў за 1743–1753 гг.

Чыстымі з’яўляюцца тры непранумараваных аркушы напачатку кнігі, а таксама пранумараваныя аркушы 15, 16, 58, 87 б (172–173 па старой нумарацыі), 97, 109, 123, 152, 172, 213, 254, 270, 304, 404, 438, 448, 474, 624.

*Актавая кніга Гарадзенскага магістрата за 05.04.1753 – 15.12.1760 гг.*[21] змяшчае на 766 аркушах (старой нумарацыі) 191 дакумент.

Структура актавай кнігі:

05.04. – 12.10.1753 г. Акт адрачэння (1), інвентар (1), акт застаўнага трымання (1), асэкурацыя (1). Арк. 1–14. Колькасць дакументаў: 4.

06.02. – 20.12.1754 г. Асэкурацыі (2), рэкламацыя (1), атэстацыя (1), улевак (1), дажыvotны запіс (1), акт застаўнога трымання (1). Арк. 15–44. Колькасць дакументаў: 7.

23.01. – 15.10.1755 г. Асэкурацыі (4), акты застаўнага трымання (3), акты атэстацыі (2), калькуляцыя (1), пленіпатэнцыя (1). Арк. 45–100. Колькасць дакументаў: 11.

10.03. – 18.11.1756 г. Акт куплі-продажу (1), акт замены (1), інвентар (1), акт застаўнага трымання (1), прывілей (1). Арк. 101–120. Колькасць дакументаў: 5.

05.01. – 15.12.1757 г. Акты куплі-продажу (10), квітацыі (6), пленіпатэнцыі (4), тэстаменты (4), данацыі (3), цэсіі (2), рэформа (1), акт застаўнога трымання (1), акт адрачэння (1), асэкурацыя (1). Арк. 121–240. Колькасць дакументаў: 33.

07.01. – 19.12.1758 г. Акты куплі-продажу (11), квітацыі (8), тэстаменты (7), інтрамісіі (7), асэкурацыі (5), данацыі (4), інвентары (2), прыватныя лісты (2), акт застаўнога трымання (1), кантракт (1), угода (1), інтэрцыза (1), кантумацыя (1). Арк. 241–454. Колькасць дакументаў: 51.

22.01. – 19.09.1759 г. Акты куплі-продажу (10), данацыі (5), квітацыі (4),

акты адрачэння (4), цэсіі (3), асэкурацыі (2), інтэрцызы (2), пленіпатэнцыя (1), інтрамісія (1), акт застаўнога трымання (1), заручны запіс (1), легацыя (1). Арк. 455–583. Колькасць дакументаў: 35.

10.01. – 15.12.1760 г. Акты куплі-продажу (14), асэкурацыі (7), данацыі (6), квітацыі (3), пленіпатэнцыі (3), цэсіі (2), інтэрцызы (2), акты адрачэння (2), улевак (1), запіс аб падзелу маёмасці (1), інтрамісія (1), кансэнс (1), карабарацыя (1), рэестр (1). Арк. 585–766. Колькасць дакументаў: 45.

Арк. 766. Завярэнне актавай кнігі калежскімі асэсарамі, падпалкоўнікамі корпуса жандараў Бебелем (?) і Керменскім, якія пазначылі ў ёй 383 аркушы. Змешчана гербавая пячатка «камісіі Віленскай, Гродзенскай і Беластоцкай».

Арк. 767–781. Рэестр дакументаў за 1753–1760 гг.

Чыстымі з'яўляюцца тры непранумараваных аркушы напачатку кнігі, а таксама пранумараваныя аркушы 22, 34, 96, 232, 254, 258, 276, 301–302, 324, 392, 432, 488, 500, 516, 548, 570, 580, 584, 600, 616, 620, 634–646, 658, 676.

*Актавая кніга Гарадзенскага магістрата за 03.01.1761 – 27.02.1767 гг.*[22] змяшчае на 736 аркушах (старой нумарацыі) 193 дакументы.

Структура актавай кнігі:

03.01. – 28.12.1761 г. Акты куплі-продажу (18), данацыі (5), квітанцыі (4), пленіпатэнцыі (4), асэкурацыі (4), акты адрачэння (4), цэсіі (3), акты застаўнога трымання (2), апісанне на суд кампрамісарскі (1), рэформа (1), табель (1), дыспазіцыя (1), інвентар (1), інтэрцыза (1). Арк. 1–194. Колькасць дакументаў: 50.

02.01. – 13.12.1762 г. Акты куплі-продажу (11), квітацыі (8), асэкурацыі (6), акты адрачэння (4), данацыі (3), інвентары (3), карабарацыі (2), пазыковыя запісы (2), акты «вячыстае права» (2), пленіпатэнцыі (2), кантракты (2), акты застаўнога трымання (2), атэстацыя (1), дажывотны запіс (1), кансэнс (1), рэестр (1), угода (1), рэформа (1), карта (1). Арк. 195–428. Колькасць дакументаў: 54.

09.02. – 28.11.1763 г. Квітацыі (7), асэкурацыі (5), акты куплі-продажу (4), цэсіі (3), акты застаўнога трымання (3), грашовыя ўнёскі (2), рэформы (2), данацыі (2), пагадненне (1), інтэрцыза (1), тэстамент (1), атэстацыя (1), асігнацыя (1), інвентар (1), інтрамісія (1). Арк. 429–552. Колькасць дакументаў: 35.

07.01. – 20.11.1764 г. Акты куплі-продажу (8), асэкурацыі (5), акты застаўнога трымання (3), акты адрачэння (3), квітацыі (3), пленіпатэнцыі (2), акты «замены» (2), ардынанс (1), тэстамент (1), рэформа (1), данацыя (1), кампрамісны запіс (1), вячысты запіс (1), улевак (1), довад пазыковага запісу (1). Арк. 553–670. Колькасць дакументаў: 34.

25.02. – 19.07.1765 г. Акты куплі-продажу (4), кансэнсы (2), данацыя (1),

інтрамісія (1), такса (1), пленіпатэнцыя (1), атэстацыя (1). Арк. 671 – 702. Колькасць дакументаў: 11.

24.01. – 29.11.1766 г. Акты куплі-продажу (5), палюбоўны запіс (1), тэстамент (1), пленіпатэнцыя (1). Арк. 703–734. Колькасць дакументаў: 8.

27.02.1767 г. Такса (1). Арк. 735–736. Колькасць дакументаў: 1.

Арк. 737а. Завярэнне актавай кнігі калежскімі асэсарамі, падпалкоўнікамі корпуса жандараў Бебелем (?) і Керменскім, якія пазначылі ў ёй 383 аркушы. Змешчана гербавая пячатка «камісіі Віленскай, Гродзенскай і Беластоцкай».

Арк. 739–752. Рэестр дакументаў за 1761–1767 гг.

Чыстымі з'яўляюцца тры непранумараваных аркушы напачатку кнігі, а таксама пранумараваныя аркушы 28, 40, 58, 68, 80, 96, 104, 112, 116, 128, 156, 228, 258, 278, 282, 376, 380, 384, 398, 422, 436, 460, 738.

*Актавая кніга Гарадзенскага магістрата, складзеная за час войтаўства віленскага кашталяна, польнага гетмана ВКЛ, князя Міхала Масальскага, за 10.01.1747 – 28.09.1756 гг.*[23] змяшчае на 1051 аркушы (старой нумарацыі) 223 дакумента.

Структура актавай кнігі:

Арк. 1. Тытульны аркуш пад назвай «Акты магдэбургскія горада ЯКМ Гародня ад 1747 года да 1751 года за час войтаўства яснавельможнага яго міласці пана Міхала князя Масальскага, віленскага кашталяна, гетмана польнага ВКЛ, гарадзенскага старосты сабраны. Акты 1752, 1753, 1754, 1755 гг. праз мяне Андрэя Сталінскага, бурмістра таго ж горада, зарэгістраваны, падрыхтаваны».

10.01. – 16.10.1747 г. Акты куплі-продажу (7), цэсіі (4), акты адрачэння (3), квітацыі (3), запісы аб падзелу маёмасці (2), пленіпатэнцыя (1), данацыя (1), рэкагніцыйны запіс (1), кассацыя (1). Арк. 1–106. Колькасць дакументаў: 23.

15.02. – 16.11.1748 г. Квітацыі (14), акты куплі-продажу (5), інтрамісіі (3), данацыі (2), асэкурацыі (2), акты адрачэння (2), рэскрыпт (1), запіс рэфармацыйны (1). Арк. 107–237. Колькасць дакументаў: 30.

29.04. – 09.09.1749 г. Акты куплі-продажу (3), асэкурацыі (3), данацыі (3), квітацыі (3), цэсіі (3), акт адрачэння (1), касацыя (1), тэстымонія (1), запіс аб падзелу маёмасці (1), тэстамент (1), выдзеркаф (1). Арк. 237 а – 348. Колькасць дакументаў: 21.

06.03. – 31.08.1750 г. Квітацыі (5), акты куплі-продажу (2), асэкурацыя (1), данацыя (1), інтрамісія (1), тэстамент (1). Арк. 349–402. Колькасць дакументаў: 11.

11.01. – 07.12.1751 г. Акты куплі-продажу (7), асэкурацыі (5), квітацыі (4), цэсіі (3), акты адрачэння (2), запісы аб падзелу маёмасці (2), інвентар (1), інтэрцыза (1), тэстамент (1). Арк. 403–541. Колькасць дакументаў: 26.

25.05. – 15.12.1752 г. Грашовыя ўнёскі (3), тэстымоніі (2), тэстаменты (2), інтрамісія (1), квітацыя (1), акт куплі-продажу (1), данацыя (1). Арк. 543–588. Колькасць дакументаў: 11.

09.03. – 22.12.1753 г. Акты куплі-продажу (7), квітацыі (2), данацыя (1), тэстамент (1), цэсія (1), пленіпатэнцыя (1), акт адрачэння (1). Арк. 589–648. Колькасць дакументаў: 14.

05.01. – 20.12.1754 г. Акты куплі-продажу (9), квітацыі (9), данацыі (2), грашовыя ўнёскі (2), пленіпатэнцыя (1), інтрамісія (1), «перанос права адрачэння» (1), тэстымонія (1), цэсія (1), запіс на суму (1), камбінацыя (1), акт размежавання (1), інвентар (1), тэстамент (1). Арк. 649–792. Колькасць дакументаў: 32.

20.01. – 29.11.1755 г. Акты куплі-продажу (10), квітацыі (7), акты адрачэння (3), данацыі (2), грашовыя ўнёскі (2), цэсія (1), касацыя (1), дабравольны запіс (1), тэстамент (1), запіс аб падзелу маёмасці (1). Арк. 793–942. Колькасць дакументаў: 29.

22.01. – 28.09.1756 г. Квітацыі (9), акты куплі-продажу (7), данацыі (4), пленіпатэнцыі (2), дажывотны запіс (1), акт адрачэння (1), тэстамент (1). Арк. 943 – 1050. Колькасць дакументаў: 25.

Арк. 1051а. Завярэнне актавай кнігі калежскімі асэсарамі, падпалкоўнікамі корпуса жандараў Бебелем (?) і Керменскім, якія пазначылі ў ёй 525 аркушаў. Змешчана гербавая пячатка «камісіі Віленскай, Гродзенскай і Беластоцкай».

Арк. 1051б.–1064. Рэестр дакументаў за 1747–1756 гг.

Чыстымі з’яўляюцца тры непранумараваных аркушы напачатку кнігі, а таксама пранумараваныя аркушы 8, 16, 41–42, 53–54, 61–62, 78, 146, 94, 158, 170, 232, 244, 252, 257, 265, 281, 321, 418, 434, 449–450, 462, 466, 474, 482, 490, 498, 506, 542, 556, 563–564, 576, 632, 636, 640, 652, 674, 692, 700, 712, 747–748, 870, 914, 946.

Вартым прадстаўляецца пералічыць усе віды дакументаў у апісаных магістрацкіх кнігах: пазыковы запіс («абліг / аблігацыя / аблігацыйны запіс») – даўгавое абязальніцтва; «акты замены» – абмен маёмасцю; «апрабацыя» – згода, дазвол, пацверджанне; «ардэнанс» – загад караля або князя сваім падданым увогуле, асобнай групе ці адной асобе; «асігнацыя» – запіс на атрыманне рухомай або нерухомай маёмасці; «асэкурацыя» – запіс, паводле якога пазыка забяспечваецца за кошт нерухомай маёмасці ці іншай сумы; «атэстацыйны скрыпт / атэстацыя» – дакумент аб прызнанні (атэстацыі) пэўнай дамовы; «данацыя / даравальны запіс» – даравальны запіс на маёмасць для свецкай асобы; «дэляцыя» – адтэрміноўка разгляду справы ў судзе; «дыспазіцыя» – распараджэнне; «інтэрцыза» – перадшлюбны запіс, у якім агаворваліся ўмовы атрымання пасагу; «выдзеркафовы запіс

(выдзеркаф)» – запіс грашовай сумы на водкуп; «дажывотны запіс» – пажыццёвае права на валоданне; «рэфармацыйны запіс» – запіс за прынесены жонкай пасаг роўнай яму сумы; «заручны запіс» – запіс грашовай сумы, якая выплачвалася паводле судовага рашэння пераможаным бокам на карысць пераможцы; «зрачэнне / зрэчны запіс» – адмова ад прэтэнзій на маёмасць; «інвентар» – апісанне маёмасці; «інквізіцыя» – судовае следства; «інтрамісія» – увод ва ўладанне; «калькуляцыя» – дакумент, які фіксуе баланс рахункаў (паступленне фінансаў і іх страту); «кампраміс» – мірнае пагадненне паміж бакамі; «кантракт» – дамова маёмаснага характару; «кантумацыя» – дакумент, які сведчыў няяўку ў суд; «карабарацыя» – запіс замацаванага паміж двума бакамі пагаднення; «касацыя / касацыйны скрыпт» – вердыкт аб адмене пэўнай пастановы ці судовага выраку; «квітацыйны скрыпт / квітацыя» – дакумент аб скасаванні прэтэнзій грашовага ці іншага характару; «легацыя» – даравальны запіс на маёмасць для касцёла; «прыватны ліст» – дакумент, складзены адной асобай і адрасаваны другой асобе па нейкай асабістай патрэбе; «пленіпатэнцыя» – даверанасць; «вячыстае права» – спадчыннае права на валоданне; «працэдэнцыя» – акт генеалогіі; «продаж» – купля маёмасці; «рэвізійны скрыпт» – судовы дакумент аб апісанні маёмасці; «рэестр / сумарыуш» – пералік дакументаў; «рэкагніцыйны запіс» – пісьмовае засведчанне; «рэкламацыя» – пагадненне па пэўных пытаннях; «рэляцыя» – пісьмовае данясенне, пратакол, сведчанне; «рэскрыпт» – загад; «такса» – ацэнка прыбыткам ад нерухомай маёмасці; «трансфузія» – запіс, паводле якога адна асоба перадае сваё права на валоданне чымсьці другой асобе; «тэстамент» – завяшчанне; «тэстымонія» – пацверджанне / пасведчанне; «угода» – пагадненне; «улевак» – грашовы дадатак да нерухомай маёмасці, якая належала продажу; «цэсія» – запіс аб перадачы нерухомай маёмасці іншай асобе пажыццёва або на пэўны тэрмін.

Неабходна адзначыць, што ў згаданых актавых кнігах не зафіксавана «элекцый» – актаў аб абранні магістрацкіх ўраднікаў, што не дазваляе прасачыць механізм дадзенага працэсу ў сярэдзіне XVIII ст.

**Архіў і канцылярыя. У** папярэднім артыкуле па гісторыі магістрата ў XVIII ст. на архіў і канцылярыю ўвага ўжо звярталася. Застаецца патлумачыць пэўныя асаблівасці вывучаемага намі адрэзку часу.

У актавых кнігах сярэдзіны XVIII ст. у адрозненні ад папярэдніх эпох месца пасяджэнняў магістрату не пазначалася. Кожны дакумент пачынаецца класічным выразам: «На урадзе Магдэбургіі места ЯКМ Гародні...». Паколькі ратуша ў Гародні была ўзведзена толькі ў 1784 г.[24], то да гэтага часу канцылярыя і архіў знаходзіліся ў прыватных уладаннях асобных магістрацкіх ураднікаў.

Большасць дакументаў складзены на польскай мове з выкарыстаннем лацінскай тэрміналогіі. Некаторыя акты цалкам складзены на латыні, напрыклад пленіпатэнцыя Георга Кахліцкага за 20 студзеня 1748 г. Дадзены дакумент дазваляе вызначыць лацінскія адпаведнікі найменняўураднікаў магістрата. Так, віцэ-лентвойт – vice Advocali, бурмістры / прэзідэнты – proconsularis, радцы – consularis, пісар – notarius[25].

Па французску з ужываннем лацінскіх тэрмінаў складзены і ўнесены ў актавую кнігу дазвол француджанкі Маргарыты Француазы Габрыэлы Савуа дачцэ Марыі Сафіі Савуа-Дзюпюйснэф выйсці замуж за Дамініка Барталамея дэ Лестрэ, сына купца з Марсэля Жана дэ Лестрэ, які на момант унясення ў актавую кнігу (29 ліпеня 1765 г.), пражываў у Парыжы на вул. Св. Ганорыя[26]. Маргарыта Савуа з'яўлялася ўдавой французскага пратэстанта Жана-Бацісты Савуа, адваката з г. Грэнобль і кантралёра вайсковага шпіталя ў паселішчы Жэсбер, запіс аб смерці якога ў гарадзенскім шпіталі 15 лютага 1765 г. быў засведчаны ў магістраце таксама па-французску 18 ліпеня 1765 г.[27]. Верагодна, насельніцтва Гародні магло папаўняцца і за кошт мігрантаў з далёкай Францыі.

Радзецкімі пісарамі называюцца Мікалай Міхал Шаркоўскі (1743–1752, Ігнат Юзаф Вінцэнт Цярпірох Сцярпейка (1756–1762), Ваўрынец Савалеўскі (1763–1766). Войтаўскімі пісарамі былі Ян Юзаф Казімеровіч (1743–1757), Ігнат Пяткевіч (1753–1755). У трох выпадках пісарскія абавязкі выконваў Тадэвуш Клява (2 снежня 1760 г., 6 лютага 1761 г., 7 красавіка 1763 г.)[28], у адным выпадку – Юзаф Бадаракі (4 снежня 1745 г.)[29]. Пісарамі, як правіла, з'яўляліся мяшчане, аднак зафіксаваны адзін выпадак, калі пісарскія абавязкі выконваў ашмянскі стражнік, шляхціч Вінцэнт з Сака Пяткевіч (23 студзеня 1755 г.)[30]. Верагодна такія выключэнні дапускаліся за адсутнасцю на пасяджэннях асноўных штатных пісараў.

**Магістрат і ўраднікі.** Паводле магдэбургскага права магістрат (на чале з войтам) у кожным горадзе складаўся з рады (бурмістраў і радцаў) і лавы (лаўнікаў). Функцыі войта, яго намесніка лентвойта, рады і лавы ўжо былі разгледжаны намі ў папярэдніх даследаваннях. На пасаду войта і лентвойта ў Гарадзенскім магістраце прызначаліся прадстаўнікі шляхты. Войтам у гэты час быў гарадзенскі староста, князь Міхал Юзаф Масальскі, уплывовы грамадска-палітычны дзеяч. Нам удалося зафіксаваць усяго адну звестку аб яго прысутнасці на пасяджэнні магістрата, якая датуецца 15 кастрычніка 1755 г.[31] Затое яго фінансава-гаспадарчая дзейнасць даволі адметна адлюстравалася на старонках актавых кніг (гл. біяграму Міхала Юзафа Масальскага, змешчаную ніжэй).

Часцей на пасяджэннях магістрата прысутнічалі лентвойты: смаленскі падчашы Міхал Чашэйка (20 лютага 1743 г.)[32], Казімір Ян Непамуцэн

Тадэвуш Пачобут Адляніцкі (05.06.1744 – 15.10.1755 гг.), Станіслаў Шаняўскі (03.10.1758 – 09.02.1762 гг.).

Пасады прэзідэнтаў, бурмістраў, радцаў і лаўнікаў суцэльна займалі прадстаўнікі з мяшчанскага асяроддзя. У дадзеным выпадку цікавасць прадстаўляе тое, колькі ўраднікаў выбіралася ў раду і лаву штогод. У перыядзе 1743–1767 гг. прасочваюцца пэўныя заканамернасці.

Колькасць бурмістраў на пасяджэнні вызначалася лічбай у два чалавекі. Пры немагчымасці прысутнічаць на ім аднаго з бурмістраў – яго замяняў бурмістр старой рады. Пры гэтым тытулатура захоўвалася нават без пазначэння якой рады – гэтага году альбо мінулых. Напрыклад, 20 красавіка 1748 г. Ян Каспар Ёрдан замяніў такім парадкам Яна Мейстра[33]. Зафіксаваны два факты, калі бурмістр старой рады прысутнічаў на пасяджэнні разам з двума асноўнымі бурмістрамі. У абодвух выпадках ім быў каралеўскі сакратар Юзаф Бадаракі (4 жніўня 1749 г., 15 студзеня 1753 г.)[34].

Урад прэзідэнта Гарадзенскага магістрата ўпершыню зафіксаваны ў актавых кнігах 5 траўня 1753 г. На гэтым пасяджэнні прэзідэнтамі называюцца Андрэй Францішак Сталінскі, Вінцэнт Тадэвуш Жылінскі, Юзаф Бадаракі[35]. Яны ж 15 студзеня 1753 г. называюцца бурмістрамі[36]. У перыяд 1753–1757 гг. у справаводстве сумесна выкарыстоўваюцца тэрміны «прэзідэнт» і «бурмістр». У некаторых выпадках прэзідэнт і бурмістр згадваюцца разам на адным пасяджэнні. Так, 21 жніўня 1754 г. бурмістрам называецца Вінцэнт Тадэвуш Жылінскі, а прэзідэнтам – Андрэй Францішак Сталінскі[37]. Для другой паловы XVIII ст. вядомы толькі два выпадкі, калі кіраўнікі пасяджэнняў рады называліся бурмістрамі – 13 студзеня 1768 г., 1 лютага 1779 г.[38] У астатніх выпадках пасяджэннямі рады кіравалі ўраднікі з найменнем прэзідэнтаў. Без аналізу ўсіх актавых кніг Гарадзенскага магістрата яшчэ не магчыма дакладна сказаць ці з'яўляюцца «прэзідэнт» і «бурмістр» найменнямі адной пасады, ці пэўная розніца паміж імі ўсё ж існавала.

Колькасць радцаў на пасяджэннях магістрата вагаецца ад двух у 1757 г. (К. Вінтэргальтр, Б. Мейстр), 1759 г. (К. Вінтэргальтр, Ю. Юшкевіч)[39] да шасці чалавек у 1751–1752 гг. (К. Вінтэргальтр, Т. Высоцкі, В. Жылінскі, Б. Мейстр, Я. Мейстр, М. Шаркоўскі)[40]. Аднак найбольш распаўсюджанай з'яўляецца лічба тры чалавекі, якая прыпадае на 1744 (М. Календа, Ёрдан, М. Шаркоўскі), 1745 (Я. Мейстр, М. Шаркоўскі, Я. Ёрдан), 1746 (Я. Мейстр, К. Вінтэргальтр, М. Шаркоўскі), 1748 (Я. Ёрдан, Шаркоўскі, К. Вінтэргальтр), 1753–1754 (К. Вінтэргальтр, Т. Высоцкі, Б. Мейстр), 1756 (К. Вінтэргальтр, Ю. Юшкевіч, Б. Мейстр), 1764–1766 гг. (Ю. Юшкевіч, М. Жылінскі, В. Каваліцкі)[41].

Колькасць прысутных лаўнікаў вагаецца ад двух да трох чалавек, што прыкметна адрозніваецца ад перыяду XVII ст., дзе іх колькасць

магла складаць 10 чалавек[42]. Апошні раз прадстаўнікі лавы згадваюцца на старонках актавых кніг 13 кастрычніка 1758 г.[43] З гэтага часу і да канца стагоддзя справаводства ажыццяўлялася выключна прадстаўнікамі бурмістраўска-радзецкага суда. Дадзены факт можна патлумачыць тым, што паменшылася колькасць пасяджэнняў, дзе неабходны быў удзел лаўнікаў. У Гарадзенскім магістраце гэта пасада яшчэ згадваецца напачатку XIX ст., а значыць не знікла зусім і працягвала заставацца запатрабаванай[44].

Сярод ураднікаў сярэдзіны XVIII ст. амаль не сустракаюцца прозвішчы ўраднікаў XVII ст. Так, дынастыі Адамовічаў, Гібулаў, Цвіклічаў, Вараб'евічаў Урублеўскіх, Шаматулаў відавочна саступілі месца ў магістраце новым дзеючым асобам з родаў Бадаракі, Жылінскіх, Кляваў, Мейстраў, Сталінскіх. Папярэднія мяшчанскія роды або згаслі або перасталі прымаць удзел у грамадскім жыцці. Аднымі з нямногіх, хто ўтрымаўся ў сістэме гарадзенскага самакіравання, могуць лічыцца мяшчане Высоцкія, як верагодныя нашчадкі радцы (1639–1641 гг.) і бурмістра (1641–1642 гг.) Яраша Высоцкага[45].

Усяго за перыяд з 1743 па 1767 гг. на пасадах у магістраце знаходзіліся 1 войт, 3 лентвойта, 4 прэзідэнта, 6 бурмістраў, 11 радцаў, 10 лаўнікаў, 8 пісараў [гл. Дадатак 1]. Ніжэй прыведзены біяграфічныя дадзеныя пра ўраднікаў магістрата, якія згадваюцца ў актавых кнігах за 1743–1767 гг.[46]

Вінтэргальтр Клеменс, лаўнік у 1745, радца ў 1746, 1748–1757, 1759–1762 гг. У 1753 г. ён валодаў камяніцай на вул. Замкавая. У 1766 г. Клеменс набыў пляц на вул. Рэзніцкая ў Казіміра і Разаліі з Гумераў Савіцкіх[47].

Высоцкі Войцах, радца ў 1743 г.

Высоцкі Тамаш, радца ў 1749–1755, 1758 гг., лаўнік у 1744–1748, 1755 гг. У сярэдзіне ён XVIII ст. валодаў крамай на гарадзенскім рынку[48].

Губчынскі Ян, лаўнік у 1743–1744, 1746–1748, 1750 гг.

Ёрдан Ян Каспар (каля 1710–1751), шляхетны пан, лаўнік у 1737 г., бурмістр у 1743, 1746–1747, 1749 гг., радца ў 1738–1739, 1741, 1744–1745, 1747–1748, 1750 гг. У шлюбе з Канстанцыяй Календай нарадзілася дачка Кацярына. У 1735 г. атрымаў частку сядзібы цесця на Рынку[49]. 1 ліпеня 1743 г. ён набыў у Іанны з Палітальскіх Сіруцёвай, паручнікавай ЯКМ, спадчыннае ўладанне па яе бацьку Міхалу і брату Станіславу – забудаваны пляц на вул. Замкавай[50]. 28 красавіка 1746 г. Ян Каспар купіў чвэрць грунту Мачынскага ў Грандзічах у Станіслава і Кацярыны з Салінкаў Пашкоўскіх[51]. У гэтым жа годзе ён набыў у рэктара гарадзенскай езуіцкай калегіі Антона Вайніловіча камяніцу на вул. Маставая[52].

Пасля смерці Яна Ёрдана яго пазыкі крэдыторам прыйшлося выплачваць жонцы і дачцэ. 15 траўня 1754 г. паручнік каралеўскай гвардыі Ян Тыман адмовіўся ад грашовых прэтэнзій у памеры 100 чырвоных злотых да

Канстанцыі з Календаў Ёрданавай, спадчынніцы маёмасці і пазык нябожчыка Яна Ёрдана, па прычыне выплаты доўга[53]. 26 ліпеня 1754 г. Андрэй Сталінскі выплаціў Юрыю і Ружы з Ляшчынскіх Самішчам, крэдыторам Яна Ёрдана, пазыку ў суме 886 злотых і 22,5 грошаў[54]. 26 красавіка 1762 г. ксёндз-прэор Юліан ад імя гарадзенскага кармеліцкага кляштара выплаціў Канстанцыі Ёрданавай і яе дачцэ Кацярыне Ёрданаўне суму ў памеры 2 тыс. 55 злотых і 11 грошаў, запазычаную ў іх мужа і бацькі[55]. 19 ліпеня 1763 г. ураднікі гарадзенскага земскага суда (суддзя Яўстах Міхал Бенедыкт Александровіч, падсудак Марцін Ян Непамуцэн Алізаровіч, земскі пісар Караль Літавор Храбтовіч) засведчылі факт выплаты Канстанцыяй Ёрданавай і яе дачкой Кацярынай пазык усім 35 крэдыторам іх мужа і бацькі[56].

Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш, шляхетны пан, лаўнік у 1750, радца ў 1751–1752, 1755, 1758, 1760–1761, прэзідэнт у 1753, 1757, 1759, 1761–1763, бурмістр у 1753–1754, 1756–1757 гг., у 1759 г. віцэ-рэгент Скарбовай камісіі ВКЛ. У шлюбе з Ружай Бадаракі меў дзяцей: Юзафа (радца Гарадзенскага магістрата ў 1784, 1789, 1791 гг.)[57], Марыяну (жонка Казіміра Абрамовіча, бурмістра ў 1768 г. і прэзідэнта ў 1774 г.), Ганну, Брыгіду, Альжбету. У 1759 г. разам з жонкай набыў у цесця Юзафа Бадаракі сядзібу на ўсходнім баку вул. Бернардзінскай, якую разам з палацам, афіцынай і стайняй яны прадалі ў 1776 г. за 2 000 зл. Юзафу Зялінскаму[58]. Сям'і Жылінскіх яшчэ належаў фальварак Навасёлкі ў Ваўкавыскім павеце[59].

Жылінскі Матэвуш, радца ў 1761–1766, лаўнік у 1755–1758 гг. Верагодна брат Вінцэнта.

Жылінскі Юры, лаўнік у 1756 г.

Каваліцкі Вінцэнт, шляхетны пан, радца ў 1763–1766 гг. Сын Паўла Каваліцкага і Кацярыны Макарэвічаўны, другі муж Ружы Мейстр[60]. 16 кастрычніка 1747 г. Вінцэнтам Каваліцкім, Юзафам Каваліцкім і Анастасіяй з Каваліцкіх Крышкевічавай быў унесены ў актавыя кнігі запіс аб падзелу бацькоўскага ўладання пад назвай Капліца або Перахрысты[61] (складзены 13 кастрычніка 1747 г.)[62]. 18 кастрычніка 1758 г. гарадзенскі прэзідэнт Юзаф Бадаракі быў уведзены ў валоданне трыма чвэрцямі грунту з пабудовамі ў фальварку Капліцы, уласнасці Вінцэнта Каваліцкага[63].

Каваліцкі Павел, шляхетны пан, лаўнік у 1728–1731 гг. У шлюбе з Кацярынай Макарэвіч нарадзіліся дзеці Пётр, Юзаф, Вінцэнт, Крыстына і Анастасія[64].

Казімеровіч Ян Юзаф, войтаўскі пісар у 1740–1758, 1760 гг.

Календа Міхал, шляхетны пан, бурмістр у 1715, 1718, 1720–1722, 1725–1726, 1728–1729, 1735, 1738, 1741, 1745, радца ў 1712, 1716–1717, 1719, 1723–1724, 1727, 1730–1737, 1739, 1740, 1743–1744 гг. У яго было дзве дачкі – Марыяна (у першым шлюбе за Паўлам Рычы, у другім – за Андрэем

Сталінскім) і Канстанцыя (у першым шлюбе за Янам Ёрданам, у другім – за Тадэвушам Клявай). У першай палове XVIII ст. валодаў вялізнай сядзібай на Рынку, дзе ў 1729 г. знаходзіліся камяніца, аптэка, пякарня і іншыя гаспадарчыя пабудовы, а таксама шынок (у цэнтры)[65]. Верагодна, менавіта яго 25 верасня 1745 г. ён падараваў дачцэ Марыяне Календаўне і яе другому мужу Андрэю Сталінскаму[66].

Каліноўскі Балтрамей, віцэ-лентвойт у 1715 г., райца ў 1718, 1721–1722 гг., сын Юзафа і Агнэшкі з Аўхімовічаў Каліноўскіх. 6 красавіка 1761 г. ён прадаў чвэрць грунту ў фальварку Грандзічах Яну і Марыяне Лашкевічам[67].

Касперовіч Казімір, лаўнік у 1748 г.

Клява Тадэвуш, доктар, прэзідэнт у 1759, 1763–1766 гг., бурмістр у 1768, 1779 гг., радца ў 1760–1762, 1774 гг., радзецкі пісар у 1760–1761, 1763, 1776 гг., лаўнік у 1758 г. Ён быў жанаты з Канстанцыяй Рычы (дачка Паўла Рычы і Марыяны з Календаў, унучка Міхала Календы)[68]. У сям'і нарадзіўся сын Ануфрый. Ён пазней таксама займаў урады лаўніка (1804–1810) і радцы (1810–1812) Гарадзенскага магістрата[69].

Тадэвуш прадаў у 1762 г. цагельню, якая была збудавана на гарадскіх выганах каля в. Мончына[70]. 9 лютага 1762 г. разам з жонкай перадаў Андрэю і Юліяне з Глаўбіцаў Сталінскім аптэку з усім таварам, забудовамі, рухомымі рэчамі, грунтамі і пляцамі[71]. 14 сакавіка 1764 г. Тадэвуш і Канстанцыя былі абавязаны выплачваць Руже з Бадаракаў Жылінскай у дзень Св. Марціна 11 лістапада на працягу шасці год з 1765 г. суму 6 000 польскіх злотых сярэбранай манетай[72]. На ўсходнім баку вул. Маставая на 1775 г. Клява валодаў камяніцай, якую пазней перабудаваў і ўзвёў стайні з боку вул. Бернардзінская[73] У яго валоданні былі пляцы на вул. Аліскоўская[74].

Легатовіч Феліцыян, славетны пан, купец, лаўнік у 1714–1728 гг. Ён трымаў краму на Рынку, ад рэалізацыі прадукцыі якой падчас соймаў 1729 і 1730 гг. атрымаў у два разы больш прыбытку, чым звычайна[75]. У шлюбе з Евай Ласкевічаўнай нарадзіліся дзеці: Ядвіга (стала жонкай Якуба Лявіцкага), Юзаф і Сымон. 27 лютага 1748 г. разам з жонкай прадаў Францішку Юзафу Каэтану Флюку і яго жонцы Крыстыне Барбары з Ліндратаў пляц на вул. Віленскай і Калючынскай за 380 злотых. На ім знаходзіўся драўляны дом, брама, камора, кухня[76]. 26 ліпеня 1748 г. разам з жонкай Феліцыян унёс у актавую кнігу інтрамісійны скрыпт аб уводзе сям'і Флюкаў у валоданне згаданай маёмасцю[77]. Ён яшчэ валодаў крамай і шынком на рынку[78]. 7 чэрвеня 1757 г. яго жонка Ева Легатовічава ў сваім тэстаменце завяшчала дзецям сваю маёмасць[79].

Масальскі Міхал Юзаф (каля 1700 – 26.01.1768 гг.), князь, гарадзенскі войт у 1736–1756 (?) гг., пісар ВКЛ і гарадзенскі судовы староста з 1726 г., мсціслаўскі ваявода з 1737 г., троцкі кашталян з 1742 г. і віленскі з 1744 г.,

польны гетман ВКЛ з 1744 г., вялікі гетман ВКЛ з 1762 г., называўся «графам на Мышы». Міхал Юзаф быў жанаты з Францішкай Агінскай. У іх нарадзіўся сын Казімір[80]. 2 красавіка 1745 г. былі агавораны ўмовы атрымання Міхалам і Францішкай Масальскімі пасагавай сумы ад сваякоў Тэадоры з Солтанаў Сапежынай, будучай жонкі іх сына Казіміра[81].

Масальскі набываў нерухомую маёмасць у гарадзенскіх жыдоў. Так, 27 ліпеня 1744 г. ён купіў у Шавеля Абрамавіча пляц за 49 злотых[82], у Фішэля Зельманавіча – камяніцу з пляцам па вул. Замкавая за 5 400 злотых[83]; 24 верасня 1751 г. у Танхеля Беркавіча – пусты пляц за 11 чырвоных злотых[84], 8 лістапада 1753 г. у Фейгелі Шымховічаўны з сынам Абрамам Фішэлевічам, спадчыннікаў Фішэля Зельманавіча, – камяніцу, размешчаную каля яго палаца па вул. Замкавая, за 10 000 злотых[85], 13 снежня 1753 г. у Энаха Ісакавіча – вольны пляц, які знаходзіўся каля яго стайняў, за 100 злотых[86].

Акрамя таго, Масальскаму прадавалі свае ўладанні іншыя асобы. 5 траўня 1755 г. Дамінік і Тэкля з Солтанаў Фантанны з сынам Юзафам прадалі яму маёнтак Свяцк Гарадзенскага павета за 14 000 злотых[87], 31 кастрычніка 1755 г. Кацярына з Фашчаў Янава Савічава – маёнтак Вілкін Гарадзенскага павета за 6 000 злотых[88], у той жа дзень Аляксандр і Брыгіда з Карпаў Савічы – фальварак Вілкін за 6 021 злоты[89].

Гарадзенскі войт 5 красавіка 1756 г. купіў у надворнага харужага, графа Антонія Красіцкага, за 15 000 злотых вёскі Асташа, Гарачкі, Бяседы, Грывы, Пузы, а таксама фальварак Манцэвічы Гарадзенскага павета[90], 23 ліпеня 1756 г. у Грыгорыя Нарынскага – вёскі Рэпкі, Злобаўшчына, Трацякі, Рашава, Нараські, Сямёнаўка Гарадзенскага і Ваўкавыскага паветаў[91], 12 снежня 1758 г. у Юзафа Трацескага – фальварак Юшканцы і вёску Думблоўцы Гарадзенскага павета за 2 500 злотых[92], 22 красавіка 1760 г. у Міхала і Францішкі з Конскіх Немчаноўскіх падданых Сухоцкіх, якія аселі ў маёнтку Вяйсея, уласнасці князя, за 400 злотых[93], 5 жніўня 1761 г. у Лявона Гласкі, стражнікавіча Полацкага ваяводства, – маёнтак Бяседа Гарадзенскага павету за 4 000 злотых[94].

2 жніўня 1757 г. земскі ваўкавыскі пісарэвіч Казімір Бяляўскі перадаў князю Масальскаму свае права на валоданне ваўкавыскім войтаўствам, нададзенага яму прывілеем Аўгуста III[95].

Некаторыя маёнткі былі перададзены князем у застаўное валоданне. 20 лістапада 1744 г. ён аддаў у заставу маёнткі Струна Ашмянскага павета, Няменчын Віленскага павета інфлянцкаму кашталяну Яну Аўгусту Гільзэну[96], 6 лютага 1754 г. – маёнтак Даманоўшчына старадубаўскаму лоўчаму Антонію і Зоф'і з Храбтовічаў Грэбінскім[97], 18 красавіка 1764 г. ашмянскаму лоўчаму Юрыю і Рэгіне з Масальскіх Радзевічам, а таксама панам Узлоўскім, – фальварак Янішкі за суму 38 096 злотых польскіх і 18 грошаў[98].

Масальскі фігураваў ў пазыковых запісах. 20 сакавіка 1756 г. скасаваў прэтэнзіі грашовага характару да Антонія Залускага, даўгунскага старосты, па прычыне выплаты ім пазыкі ў памеры 18 561 злотага і 20 грошаў[99], а таксама да Тэадоры з Солтанаў Сапежынай, мсціслаўскай ваяводзіны, па прычыне выплаты пазыкі ў памеры 100 тыс. злотых[100]. 11 жніўня 1763 г. генерал літоўскага войска Грыгорый дэ Бебаля пазычыў ў Масальскага 795 злотых[101]. 27 жніўня 1763 г. гарадзенскі войт пацвердзіў факт сваёй пазыкі ў падляшскага ваяводзіча Стафана Годскага 1 500 чырвоных злотых залатой манетай[102].

Мейстр Бенедыкт, шляхетны пан, радца ў 1750–1758 гг. Малодшы сын Яна Мейстра. 24 кастрычніка 1755 г. яго старэйшы брат ксёндз Расціслаў Мейстр, магістр-прамотар (апякун) Ружанца Клімаўскага канвента, адмовіўся на карысць малодшага брата ад абавязка выплачваць яму завешчаную бацькам суму[103]. 14 чэрвеня 1756 г. набыў незабудаваны пляц на вул. Віленскай ад Якуба і Кацярыны з Іванішэўскіх Смалкоўскіх, Францішка і Марыяны з Іванішэўскіх Макарэвічаў, Матэвуша і Ганны з Іванішэўскіх Шаматулаў, Тэадора і Агаты з Іванішэўскіх Трахімовічаў, зяцёў і дачок Тэадора Іванішэўскага і Магдалены з Храноўскіх, за 1 820 чырвоных злотых і два шастакі[104].

Мейстр Ян (каля 1680 – паміж 20 і 25.05.1752), шляхетны пан, бурмістр у 1714–1715, 1720, 1723, 1725–1726, 1729, 1730, 1735, 1737, 1739, 1741, 1744, 1747–1748, радца ў 1712, 1717, 1719, 1721, 1724, 1727, 1728, 1738, 1740, 1743, 1745–1747, 1749–1752 гг. Ян быў жанаты двойчы: першы раз з Кацярынай Храноўскай, другі – з Петранэляй Грынеўскай. У 1720 г. ён набыў пляц у Яна Сіткоўскага на вул. Віленскай, затым ў 1726 г. – у Марціна Хжаноўскага два пляцы на той жа вуліцы[105]. 20 траўня 1752 г. склаў тэстамент на карысць сыноў ксяндза Расціслава і радцы Бенедыкта. Ён быў унесены ў актавую кнігу 25 траўня 1752 г. Завяшчаў пахаваць сваё цела ў касцёле гарадзенскіх дамініканцаў. Бенедыкт атрымаў у спадчыну бацькоўскі пляц з рознымі пабудовамі, скляпамі, пладовымі садамі, агародамі. Акрамя гэтага быў абавязаны выплачваць старэйшаму брату Расціславу 20 год па 100 злотых[106].

Пачобут Адляніцкі (Адляніскі Пачобут) Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш, гарадзенскі абозны, лентвойт у 1744–1755 гг. У першым шлюбе ён быў жанаты з Геленай Глябоўскай, у другім – з Іаннай Красінскай. 31 сакавіка 1751 г. Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш перадаў у застаўное валоданне свой маёнтак Малая Зубрыца Адэльскай парафіі Гарадзенскага павета Станіславу з Ясенькі і Кацярыне з Зянкевічаў Ясеньскім[107]. У той жа дзень Станіслаў Ясеньскі выдаў Казіміру Пачобуту Адляніцкаму і яго жонцы Іанне 400 польскіх злотых у белай манеце[108]. 22 лютага 1764 г. Тамаш Бароўскі сведчыў аб нявыплаце Пачобуту 960 польскіх злотых, як было дамоўлена ў пазыковым запісу 20 верасня 1763 г. Было вырашана, што дадзеную суму Пачобуту абавязаны выплаціць крэдытор Бароўскага нехта Шумовіч[109].

Пяткевіч Вінцэнт з Сака, ашмянскі стражнік, пісар у 1755 г. 4 красавіка 1748 г. сумесна з Пятром Комарам засведчыў аб скасаванні грашовых прэтэнзій да Станіслава Дашкевіча[110]. 4 красавіка 1748 г. такі ж самы дакумент выдаў для Андрэя і Антонія Ігнатовічаў[111], 7 верасня 1754 г. для Яна Млоцкага, варшаўскага чашніка[112], 8 жніўня 1764 г. для Готфрыда Борна[113]. 16 ліпеня 1763 г. выплаціў пазыку земскаму харужаму, татарскаму паручніку Аляксандру Мурзе Крачоўскаму адну тысячу бітых талераў[114]. 20 красавіка 1748 г. Пяткевіч перадаў свой маёнтак Крушыняны ў застаўное карыстанне аршанскаму лоўчаму Пятру і Еве з Горскіх Комарам[115].

Пяткевіч Ігнат, пісар войтаўскі ў 1753, 1755 гг.

Сабалеўскі (у дакументах за 1763–1772 гг. прозвішча пішацца як Савалеўскі) Ваўрынец (Лаўрын), радзецкі пісар у 1763–1772 гг., гарадзенскі паштмайстр, каралеўскі сакратар. Ён быў жанаты з Тэрэзай Бадаракі[116].

Сталінскі Андрэй Францішак, шляхетны пан, радца і пісар каралеўскай мытні ў 1747 г., бурмістр у 1748–1756, 1763, 1768, 1774, 1779 гг., лаўнік у 1746–1747 гг., прэзідэнт у 1753–1755, 1757–1763, 1765–1766, 1768, 1774, 1779 гг. Ён быў жанаты двойчы: першы раз з Марыянай Календаўнай (па першым мужы – Рычы), другі – з Юліянай Глаўбіц, у трэцім – з Зоф'яй Плышэўскай[117]. У яго была дачка Вераніка, жонка ротмістра Гарадзенскага павета, урадніка Скарбу ВКЛ Казіміра Бярнацкага[118]. Андрэй Францішак валодаў домам на заходнім баку Рынку, а таксама камяніцай на вул. Траецкая, трыма пляцамі над Нёманам, валокай зямлі ў Грандзічах (Касцёлаўшчынай, якая раней належала гарадзенскім кармелітам босым)[119]. 25 верасня 1745 г. Міхал Календа падараваў дачцэ Марыяне Календаўне і яе другому мужу Андрэю Сталінскаму пляц на Рынку ў Гародні[120].

У 1751 г. Сталінскі набыў сядзібу ў жамойцкага скарбніка Юрыя Самішчы, якая раней належала Ёрданам, дзе збудаваў камяніцу з аптэкай[121]. 11 снежня 1752 г. Казімір Шушкевіч і Ганна з Канановічаў прадалі Андрэю Сталінскаму паўвалокі грунту ў Сухім сяле[122]. Аб маёмасных дачыненнях Андрэя Сталінскага да сям'і Яна Ёрдана ў 1754 г. інфармацыя прыведзена вышэй (гл. біяграму Яна Ёрдана)[123].

4 траўня 1756 г. купіў у Юрыя і Кацярыны Манюшкевічаў чвэрць грунту ў Сухім сяле[124]. 9 лютага 1762 г. Тадэвуш і Канстанцыя з Календаў Клявы перадалі ў карыстанне Андрэя і Юліяны з Глаўбіцаў Сталінскіх рынкавую камяніцу для забеспячэння сваіх пазык[125]. 26 сакавіка 1762 г. Гарадзенскі магістрат даў дазвол Андрэю Сталінскаму на выкуп валокі ў Сухім сяле за 100 злотых у манашак гарадзенскага брыгітскага кляштару[126]. У той жа дзень брыгіткі адмовіліся ад грашовых прэтэнзій да Андрэя Сталінскага[127].

15 кастрычніка 1755 г. знаходзячыся на пасадзе прэзідэнта склаў і ўнёс

пастанова і ўхвала нейкага ***нядаўняга*** (вылучана – *А.Ш.*) з'езду ў Горадні. Паводле яго рашэнняў, па-першае, дазвалялася зноў выдаваць згодна з Статутам ВКЛ 1566 г. судовыя позвы ці лісты з гродскіх урадаў, па-другое, вуснамі слонімскіх гродскіхураднікаў ясна гаворыцца пра тое, што прававой падставай для «*нынешнега*» іх суду былі рашэнні гарадзенскага з'езда. Іншымі словамі пэўныя гродскія ўрады ў ВКЛ павінны былі ў снежні 1572 г. распачаць свае суды паводле пастановы і ўхвалы нядаўняга гарадзенскага з'езда. Месца яго правядзення дазваляе сцвярджаць, што ў іх ліку быў гродскі суд Гарадзенскага павета.

Час, калі адбыўся згаданы гарадзенскі з'езд, можна прыблізна аднесці на лістапад 1572 г., бо канфлікт паміж Багданам Шаставіцкім і Марынай Альхоўскай адбыўся яшчэ 7 кастрычніка 1572 г.: «*року тепер идучого (15)72 м(е)с(е)ца ок(тебра) 7 дня у неделю пополудни...*»[46]. У адносінах да вызначэння рангу з'езда, мусім прызнаць, што гэта не мог быць з'езд-соймік Гарадзенскага павета, на якім мясцовымі панамі, земскімі і гродскімі ўраднікамі, а таксама шляхтай была прынятая пастанова і ўхвала аб працягу судовай дзейнасці мясцовага гродскага ўраду. У першую чаргу таму, што яго рашэнні аказаліся актуальнымі для гродскага ўраду Слонімскага павета, які належаў да Наваградскага ваяводства. Патлумачыць апошні факт можна толькі тым, што ў Горадні адбыўся сенатарскі з'езд Троцкага ваяводства, а Слонім да адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1565–1566 гг. уваходзіў у Троцкі павет, а таму па старому звычаю «*прыслухаўся*» яго рашэнняў. Абавязкова на гарадзенскім з'ездзе павінен быў прысутнічаць і даць сваю згоду на аднаўленне працы гроду староста Аляксандр Грыгор'евіч Хадкевіч. Магчыма, быў там і сенатар Астафей Багданавіч Валовіч ці яго крэўны Грыгорый Грынькóвіч Валовіч, слонімскі староста і наваградскі кашталян[47]. У гэтым кантэксце становіцца болей зразумелы пазнейшы канфлікт паміж Мікалаем Кішкам, падляшскім ваяводай і слонімскімі гродскімі ўраднікамі за судовы вырак ад 21 лютага 1573 г. на карысць менскага шляхціча Сцяпана Юр'евіча Ванкевіча[48]. Сярод аргументаў умацаванага падляшскага ваяводы Яна Віскоўскага прагучала, што: «*по зештью зъ сего света славное памети ... Жикгимонта Авкгуста короля пол(ь)ского великого кн(я)зя литов(ского) иж дей суды вси устали якож дей и в повете замку г(о)с(по)д(а)ръского сужоны не были...*»[49]. Слонімскія гродскія ўраднікі ў адказ сцвярджалі, што яны судзілі «*(сл)ушне пристойне ведле права...*»[50], праўда, ужо без згадкі пастановы і ўхвалы якога-небудзь з'езда, але, безумоўна, з санкцыі старосты Грыгорыя Валовіча. Апошні суд сваіх гродскіх ураднікаў адназначна кваліфікаваў як «*суд мой кгродский*»[51].

Такім чынам, мяркуем, што гарадзенскі гродскі ўрад у ліпені–лістападзе 1572 г., падобна да іншых гродскіх урадаў у ВКЛ, функцыянаваў, але не судзіў.

Рашэнні аб працягу яго судовай дзейнасці павінны былі прымацца шляхтай на бліжэй невядомым гарадзенскім з’ездзе ў лістападзе 1572 г. і з санкцыі новага старосты. За снежань гэтага ж года захаваліся сведчанні аб працы гарадзенскага гродскага ўрада, праўда, у адсутнасць суддзі. Тым не менеш, поўны склад старых гарадзенскіх гродскіх ўраднікаў: ***Андрэй Мацкевіч Капленскі***, падстароста, ***Мікалай Шымковіч Талочка***, суддзя, і ***Іван Міхайлавіч Жук***, пісар фіксуецца ўжо 23 лютага 1573 г., калі яны актыкавалі з падачы Кацярыны Маркаўны Валовічаўны – ўдаве па Паўлу Юр’евічу Катовічу, гаспадарскаму маршалку і гарадзенскаму падкаморыю – ліст троцкага кашталяна Астафея Багданавіча Валовіча. Апошні, займаючыся падзелам маёмасці паміж дочкамі і зяцямі сваёй крэўнай, 20 лютага 1573 г. у Ожы склаў дакумент і загадаў ім: «*на враде кгродскомъ городенском тот дел при семъ листе моем вызнати и до книг сознанье свое и тот листъ дати уписать на певный рокъ в понеделок пришлый м(е)с(е)ца февруля двадцать третего дня в року тепер идучом тисеча пятсот семдесятъ третем ни одным днем того року непохиляючы и ниякими причынами невымовляючы…*»[52]. За парушэнне пагаднення Астафеем Багданавічам Валовічам накладаліся высокія зарукі па 500 коп літоўскіх грошаў на сябе, як іх апекуна, і 500 – на «*врад староства городенского*»[53]. Апошняя акалічнасць адносілася да судовых функцый гарадзенскага гродскага ўраду. Як бачна з даты выпісу, загад быў выкананы ў вызначаны тэрмін.

Пазнейшая храналогія функцыянавання гродскага суду Гарадзенскага павета прасочваецца па даступных нам крыніцах так: 8 красавіка 1573 г. перад ім засведчыў свой дароўны ліст для жонкі Аўдоцці Іванаўны Кунцэвічаўны Грыгорый Зяноўевіч Дзяльніцкі, гарадзенскі земскі падсудак, дваранін і рэвізор ЯКМ Панямонскіх двароў[54]. Вядома таксама, што гарадзенскі староста Аляксандр Грыгор’евіч Хадкевіч 16 мая 1573 г. быў у Варшаве, дзе падпісаў «*Элекцыйны дэкрэт*» па абранні Генрыка Валезыя новым манархам Рэчы Паспалітай: «*Alexander Chodkiewicz Grodnensis… Capitanei*»[55]. Гарадзенскія гродскія ўраднікі ў поўным складзе: Андрэй Мацкевіч Капленскі, падстароста, Мікалай Шымковіч Талочка, суддзя, і Іван Міхайлавіч Жук, пісар зноў фіксуюцца на сваіх месцах 27 чэрвеня 1573 г., калі перад імі актыкаваў свой прадажны ліст Ян Іванавіч Пуціўлянін Свяцкі[56]. Пазней, 10 ліпеня таго ж 1573 г. з гродскага ўраду атрымаў выпіс з актавых кніг Андрэй Мікалаевіч Эйсімонт са сваёй скаргай на Марка Курча «о *пограбене коровы своей одное за насланемъ кгвалтовнымъ*»[57]. Было гэта ўжо пасля абрання Генрыка Валезыя польскім каралём і вялікім князем літоўскім 16 мая 1573 г., але яшчэ да яго афіцыйнага зацвярджэння на з’ездзе станаў ВКЛ у Вільні 21–22 кастрычніка таго ж году. Сярод тых, хто падпісаў выніковы віленскі дакумент з прызнаннем новага манарха, былі

стары Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч з сынамі, у тым ліку з гарадзенскім старостам Аляксандрам, троцкі ваявода, князь, Стэфан Андрэевіч Збаражскі і троцкі кашталян Астафей Багданавіч Валовіч[58].

Выглядае на тое, што элекцыя манарха ніяк не паўплывала на працу гарадзенскага гродскага ўраду, бо відавочна, што вясной–летам 1573 г. ён функцыянаваў у ранейшым рэжыме і складзе. Па меншай меры актавыя гродскія кнігі працягвалі весціся. Іншымі словамі, гродскі ўрад функцыянаваў фактычна бесперапынна, а прысутнасць суддзі Мікалая Шымковіча Талочкі не пакідае сумненняў у яго судовай дзейнасці ў адзначаны час. Нават смерць ўрадніка не спыняла яго працу. Так, 10 верасня 1573 г. памёр гарадзенскі падстароста Андрэй Мацкевіч Капленскі[59]. Як сведчыць выпіс з гродскіх кніг ад 13 верасня таго ж году «у *неделю третьего дня по смерти п(а)на Анъдрея Мацкевича Капленъского подстаростего городенского*» на ўрадзе засядалі толькі гродскія суддзя і пісар[60]. Яшчэ 20 кастрычніка 1573 г. новага падстаросты прызначана не было: «*...по смерти п(а)на Андрея Мацковича Копленского подстаростего городенского (н)а враде кгродскомъ замку его м(и)л(о)сти г(о)с(по)д(а)ръского городенского перед Миколаемъ Шымковичомъ Толочкомъ судею кгродским а Иваномъ Михайловичомъ Жукомъ писаром кгродским...*»[61].

Новы падстароста ***Багдан Грыгор'евіч Старуноў*** вядомы на пасадзе найраней з 23 лістапада 1573 г.[62] Быў ён верным служэбнікам Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча, які яшчэ ў 1568 г. прасіў манарха аб пераводзе з-пад юрысдыкцыі Бельска пад юрысдыкцыю Бранска купленага Багданам маёнтка на Падляшшы: «*с права присуду послушеньства и всякое повинъности замку нашого Бельского вынемъши права подляшское и присудъ городовый и земский до Бранска подали и тымъ подляшскимъ правомъ ему и потомъству его с того именья судити и правоватися позволили якожъ и панъ виленьский гетманъ найвысший Великого князьства Литовского староста городеньский и могилевский пан Григорей Алексанъдровичъ Ходъкевича насъ за нимъ ото жедалъ...*»[63]. Магчыма, прызначэнне адбылося яшчэ пры жыцці патрона, бо лічыцца, што Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч памёр 19 лістапада 1573 г.[64] Так ці інакш, але сын Аляксандр у падборы кандыдатураў на гродскі ўрад абапіраўся на людзей, якія здаўна верай і праўдай служылі яго бацьку. Улічваючы ролю Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча ў рэфармаванні судовай сістэмы Гарадзенскага павета, можна смела сцвярджаць, што з яго смерцю адыходзіла цэлая эпоха ў гісторыі мясцовага гродскага судовага ўраду.

23 лістапада 1573 г. гродскі ўрад у складзе: ***Багдан Грыгор'евіч Старуноў***, падстароста, ***Мікалай Шымковіч Талочка***, суддзя і ***Іван Міхайлавіч Жук***, пісар выдалі выпіс з гродскіх кніг з прызнаннем Фядзьком

Радзюковічам свайго прадажнага ліста[65]. Але 30 лістапада таго ж 1573 г. ужо толькі адзін гарадзенскі падстароста Багдан Грыгоравіч Старуноў выдаў пад сваёй пячаткай і подпісам пісара Івана Жука выпіс з гродскіх кніг са сведчаннем павятовага вознага ***Станіслава Станьчыковіча*** па справе адэльскага плябана Аляксандра Махцінскага з Даротай Бярнацкай Паўлавай Сарнаўскай[66]. На ўрадзе адсутнічаў па нейкіх прычынах гродскі суддзя Мікалай Шымковіч Талочка. Факт гэты можа сведчыць аб чарговым часовым спыненні разгляду судовых спраў гарадзенскім гродскім урадам у канцы лістапада 1573 г., хаця выпадкі няпоўнага складу здараліся і раней. Адсутнасць сведчанняў непасрэдных крыніц не дазваляе рабіць больш пэўных высноў на гэты конт. Толькі 26 красавіка 1574 г. зноў усё тры гродскія ўраднікі выдалі выпіс з гродскіх кніг баярыну Аніхіму Пашуцічу з актыкацыяй яго адапцыйнага ліста для зяця Цішы Васкевіча, замацаваны дзвюма пячаткамі – падстаросты і суддзі, а таксама подпісам пісара[67] [гл. Дадатак]. Пэўныя згадкі пра дзейнасць гарадзенскага гродскага суда ўтрымліваюцца таксама ў выраку Стэфана Баторыя ад 15 чэрвеня 1581 г. па справе паміж Уршуляй Няпрэцкай і Іванам Цыпляй. У выраку згадваецца, што яшчэ 3 мая 1574 г. ураднік з маёнтку Каханова мужа Уршулі – Андрэя Бесякерскага – гвалтоўна наехаў на двор Івана Цыплі і «*подводу твою розбити мел … и подданого твоего дей Янца взяти и служебницу Капоту Федковну збит(ь) и ее яко бы з некоторыми речами также взяти мел што на выписе ширей поменилъ…*»[68]. Відавочна, маецца на ўвазе выпіс з гарадзенскіх гродскіх кніг з рэляцыяй вознага, на падставе сведчанняў якога Іван Цыпля «о *што якобы еси у кгроду городенского на ней за невчиненемъ справедливости от нее з слугы ее право перевелъ а потом кгды судя ездил якобы она тому суди спротивитися мела…*»[69]. Іншымі словамі, быў атрыманы «*декрет суду кгродского городенского*»[70], для выканання якога на месца выязджаў гродскі суддзя – Мікалай Шымковіч Талочка. Улічваючы патрабаванні Статуту ВКЛ 1566 г.[71] увесь судовы працэс храналагічна павінен быў адбывацца ў маі 1574 г., што адпавядала рашэнням абранага караля польскага і вялікага князя літоўскага Генрыка Валезыя.

Новы манарх Генрык Валезы прыехаў ў Рэч Паспалітую толькі ў лютым 1574 г. Каранацыя адбывалася ў Кракаве 24 лютага таго ж года[72]. 28 красавіка 1574 г. ён выдаў «*Универсалъ по щастливой коронацыи Его К(о)р(олев)ское м(и)л(о)сти стороны судовъ*». Паводле яго прадпісвалася: «*…абы справедливость шла и чинена была которая се за зештьемъ зъ сего света короля его м(и)л(о)сти польского и великого кн(я)зя литовского славное памети Жикгимонта Августа до сего часу задержала якожъ около судовъ кгродскихъ постановили есмо ижъ ити и сужоны вжо быти мают и што по животе его королевское м(и)л(о)сти ажъ до щастливого пнованья нашого*

*яко суды земские такъ и тые кгродские сужоны не были тогъды тая давность около позыванья до права кгродского никому шкодити и права его уймовати не маеть до певного часу то есть почонъши отъ дня и света Светой Троицы рымъского свята теперешнего пришлого ажъ до зупольное чверти року в томъ часе сторона позваная будеть повинъна усправедливити давностью статутовою не закриваючы и до суду земского не отзываючыся*»[73].

Такім чынам, новы кароль польскі і вялікі князь літоўскі Генрык Валезы сваім рашэннем санкцыянаваў працу гродскіх судоў у ВКЛ і прызначыў там, дзе яны былі спынены, найбліжэйшы тэрмін пачатку іх працы – ***30 мая 1574 г.*** Нягледзячы на агульныя словы з дакумента аб тым, што пасля смерці Жыгімонта Аўгуста гродскія суды ў ВКЛ не працавалі, у выпадку з гродскім судовым урадам Гарадзенскага павета «*Універсал*» фактычна пацвярджаў яго паўнамоцтвы і толькі пэўным чынам удакладняў парадак яго далейшай дзейнасці.

Нягледзячы на свае планы наведаць ВКЛ яшчэ ў красавіку 1574 г. Генрык Валезы так іх і не здзейсніў[74]. 30 мая таго ж года ва ўзросце 24 год нечакана памёр кароль Францыі Караль IX Валезы. Атрымаўшы гэтую вестку ў ноч з 18 на 19 чэрвеня 1574 г. Генрык Валезы таемна пакінуў Кракаў. Зноў утварылася сітуацыя бескаралеўя, уся непрыемнасць якой заключалася на гэты раз у адсутнасці ў краіне дзеючага манарха. Вынікам яе была хваля гвалту, якая ўзнялася ў Рэчы Паспалітай[75]. У ВКЛ, напрыклад, Мікалай Дарагастайскі з узброенымі памочнікамі захапіў Шарэшаў, які быў забраны Генрыкам Валезы ў Яраша Крычэўскага яшчэ 28 сакавіка 1574 г.[76] Апошні не жадаў саступаць маёмасць. У сваю чаргу былы кнышынскі староста Стэфан Бяляўскі, пакрыўджаны манархам за перадачу староства Яну Замойскаму, адабраў у апошняга спрэчную вёску Забелы[77]. Адбываліся ўсё гэтыя падзеі ў сітуацыі згортвання сваёй дзейнасці судамі, у тым ліку гродскімі. У прыватнасці, у жніўні 1574 г. у Віленскім ваяводстве: «*Sąd … grodzki wileński, … niedawno sądowych spraw sądzić przestał…*»[78]. У сувязі з гэтым Паны Рада, ураднікі і шляхта Віленскага ваяводства на сваім з’ездзе ў Вільні 10-11 жніўня 1574 г. пастанавілі, што гродскі суд «*znowu władzą swą w czynieniu nieodwłocznej sprawiedliwości wziąć ma…*»[79]. Пры гэтым гродскі суд павінен быў не толькі разглядаць судовыя справы на падставе артыкулаў Статута ВКЛ 1566 г., але і чыніць «*адправу*». Пастанова была абавязковай для гродскіх судоў усіх паветаў Віленскага ваяводства. Уздымала яна таксама праблему апеляцыяў («*apelacyjej porządek*») і адмяняла тэрмін даўнасці для спраў, якія цягнуліся яшчэ з часоў Жыгімонта Аўгуста[80].

Праблема функцыянавання судоў востра стаяла не толькі ў Віленскім ваяводстве. У сітуацыі, калі невядома было ці вернецца Генрык Валезы з Францыі назад, сойм Рэчы Паспалітай у жніўні 1574 г. прызначыў свайму

манарху тэрмін у 9 месяцаў (да 12 мая 1575 г.) для вяртання, а ў лістападзе таго ж году чарговы з'езд усіх станаў ВКЛ у Вільні прыняў дакумент, які вызначыў парадак дзейнасці судоў або да вяртання Генрыка, або да новай элекцыі, вядомы як «*Парадак Святой справядлівасці*»[81]. Паводле яго судаводства ў ВКЛ павінна было ў гэты перыяд абапірацца на земскія і гродскія суды. Гэтыя суды, у сваю чаргу, павінны былі функцыянаваць у ранейшым складзе і на падставе ранейшых прававых норм. Позвы гродскіх судоў павінны былі, як і раней, выдавацца «*pod tytułem i pieczęcią wojewody albo starosty sądowego*». Але былі і новыя моманты. Шмат увагі ў дакуменце надавалася парадку функцыянавання менавіта гродскіх судоў. Вылучым галоўныя палажэнні:

- аб позвах па справах, належных гродскаму суду па Статуту ВКЛ 1566 г.;
- аб складзе гродскага суда, ураднікі павінны быць пад прысягай і аселымі ў ВКЛ;
- аб увядзенні гродскіх судовых рочкаў ці рокаў у ВКЛ;
- аб выкананні ранейшых выракаў і заканчэнні зацягнутых спраў;
- аб зацвярджэнні ўсіх гродскіх запісаў.

Найбольш важнай навіной было ўвядзенне гродскіх судовых рочкаў. Паводле «*Парадку*» яны павінны былі адпраўляцца адныя за другімі «*we czterech niedzielach*», пачынацца з першага дня кожнага месяца і судзіцца «*aż póki się odprawią*». Больш таго, на ***1 студзеня 1575 г.*** былі прызначаны першыя гродскія рокі ў ВКЛ. Быў вызначаны таксама парадак працы гродскіх судоў у новым рэжыме, апісаны механізм судовых працэсаў па крымінальных справах. Важнымі новаўвядзеннямі адзначым асабістую прысутнасць у судзе пазванага, працэдуру выгнання (вывалання) крымінальнага злачынцы, крымінальную адказнасць да трох месяцаў турмы для тых, хто хаваў злачынцаў. Асобам, якія не хацелі прызнаваць «*Парадак Святой справядлівасці*» прадугледжвалася смяротнае пакаранне і канфіскацыя маёмасці[82].

Пасля ад'езду Генрыка Валезыя і напярэдадні лістападаўскага віленскага з'езду шляхта Гарадзенскага павета ў кастрычніку 1574 г. з'ехалася на з'езд-соймік, дзе сярод іншага вырашаліся праблемы функцыянавання судоў, у прыватнасці, падкаморскага. Так, 11 кастрычніка 1574 г. гарадзенскі падкаморы Шыман Андрэевіч Сапоцька выдаў ліст «*мой на семъ зъезде в Городне пры всих врадникох земъских городенских и велю людей зацных зъпрызволенемъ ихъ м(и)л(о)сть*» на каморніцтва Андрэю Мацеевічу Гнявінскаму «*ку помочы собе для отправы прудчейшое и поспешнейшое людское у справах земленыхъ вряд(у) его подкоморскому належачых...*»[83]. Можна меркаваць, што паўнамоцтвы мясцовага гродскага суда былі гарадзенскай шляхтай таксама пацверджаны, бо пазней палажэнне аб пралангацыі працы гродскіх судоў знайшло адлюстраванне ў віленскім «*Парадку Святой справядлівасці*».

Пастанова віленскага з’езду 1574 г. пачала даволі хутка выкарыстоўвацца ў Гарадзенскім павеце. Па меншай меры мясцовы земскі суд, які не функцыянаваў ад смерці Жыгімонта Аўгуста, распачаў сваю працу ўжо зімой 1574 г. У прыватнасці, 5 снежня 1574 г. возны ***Васіль Шапыр*** падаў Барбары Рылоўне Фёдаравай Багушэўскай у яе двары «*позов земский городенский под тытуломъ короля его м(и)л(о)сти Генрика с печатю короля его милости поветовою и с подписом писара земъского Андрея Котовича…*»[84]. Што да судовай практыкі гарадзенскага гродскага суда, то пазней – у 1578 г. – Стэфан Баторый згадваў: «*по отъеханю Кроля Генриха постановенны были судовъ кродскыхъ роки певнихъ воеводствахъ…*»[85] Магчыма, сярод неназваных ваяводстваў было і Троцкае, куды ўваходзіў Гарадзенскі павет. Ужо 17 лютага 1575 г. гарадзенскі гродскі ўрад у поўным складзе: Багдан Грыгоравіч Старуноў, падстароста, Мікалай Шымковіч Талочка, суддзя, і Іван Міхайлавіч Жук, пісар унеслі ў актавыя кнігі вяноўны ліст Паўла Войцахавіча Зброжкі, пісаны 6 лютага таго ж года ў Ожы. Са словаў апошняга: «*тепер заразом маю ехати до замку г(о)с(по)д(а)ръского городенского и сес запис мои вызнати и до книгъ кгродских уписати дати маю…*»[86], можна зрабіць выснову, што мясцовы гродскі ўрад функцыянаваў у адсутнасць манарха і знаходзіўся ў замку, як і раней[87].

У тым жа 1575 г. склад гарадзенскага гродскага суда зноў змяніўся. Сталы век ці нават смерць першага гродскага суддзі Гарадзенскага павета Мікалая Шымковіча Талочкі адкрылі шлях на гэты ўрад ***Івану Багухвалу Дарашкевічу***. Апошні згадваецца як гарадзенскі гродскі суддзя ўжо 8 верасня 1575 г.[88] У гэты дзень гродскі ўрад у складзе: ***Багдан Грыгоравіч Старуноў***, падстароста, ***Іван Багухвал Дарашкевіч***, суддзя, і ***Іван Міхайлавіч Жук***, пісар выдалі выпіс з гродскіх кніг з прызнаннем Мікалая Францкевіча Бразінскага яго давальнага запісу на 500 коп літоўскіх грошаў для жонкі Кацярыны Каўнацкай[89]. Віны на «*врад кгродский городенский*» згадваюцца таксама ў вяноўным лісце Грыгорыя Тумашавіча Эйсімонта жонцы Марыне Сямёнаўне Валовічаўне, датаваным 17 кастрычніка 1575 г. Сведкамі ў ім сярод іншых былі Мікалай Андрэевіч Свірскі[90], гарадзенскі земскі каморнік, і ***Васіль Мардасавіч***, возны Гарадзенскага павета[91]. Яшчэ адзін гарадзенскі павятовы возны ***Станіслаў Станчыковіч*** сведчыў на гродскім ўрадзе па справе Макара Курча 31 кастрычніка 1575 г.[92] Тыя ж тры згаданыя вышэй гродскія ўраднікі фіксуюцца на ўрадзе ў выпісе ад 7 лістапада таго ж года[93]. Было гэта ўжо пасля сканчэння тэрміну вяртання ў Рэч Паспалітую Генрыка Валезыя, калі перад Панамі Радай і шляхтай ВКЛ зноў актуальнай стала праблема элекцыі новага манарха.

У сувязі з апошнім Горадня 8–20 красавіка 1576 г. зноў стала месцам правядзення з’езду станаў ВКЛ. На ім, акрамя Астафея Багданавіча Валовіча,

актыўны ўдзел у абмеркаванні агульнадзяржаўных праблем прымалі: Іван Іванавіч Валовіч, гарадзенскі і ЯКМ маршалак, Андрэй Васільевіч Катовіч, гарадзенскі земскі пісар, і Валенты Каменскі[94]. Паслом са з'езда да Стэфана Баторыя ў Польшчу быў сярод іншых Ян Васільевіч Клюкоўскі, гарадзенскі гараднічы[95]. Прысутнічаў на нарадах і гарадзенскі староста Аляксандр Грыгор'евіч Хадкевіч. Быў ён разам са сваім стрыечным братам Янам Геранімавічам Хадкевічам, віленскім кашталянам і жамойцкім старостай, актыўным прыхільнікам Стэфана Баторыя[96].

Падчас з'езду гарадзенскі гродскі ўрад працаваў, пры гэтым у чацвер 12 красавіка 1576 г. у ім засядаў сам староста Аляксандр Грыгор'евіч Хадкевіч: «*на враде кгродскомъ замку г(о)с(по)д(а)ръского городенского ставши очевисто перед его м(и)л(о)стью п(а)ном Александромъ Грыгоревичом Ходкевичом старостою Городенскимъ державцою аинскимъ и до книг кгродских пан Юри Янушевич Быковский дворанин г(о)с(по)д(а)ръский…*»[97]. Апошні прызнаў сваёй жонцы Ганне Львоўне Абразцоўне ліст, пісаны яшчэ 25 кастрычніка 1575 г., на маёнтак у Макрэцы Гарадзенскага павета: «*якож то за очевистою прозбою п(а)на Юря Быковского до книг кгродских записано есть на што и выпис с книг п(а)ни Юревая Быковская под печатю его м(и)л(о)сти панскою собе взела писан у Городне, в того выпису подпис руки писмом полским тыми словы Александер Ходкович ренко власно а другая подпис руки писмом рускимъ тыми словы Иван Жукъ писар кгродский городенский…*»[98] Пазней гродскі суд працаваў у звычайным рэжыме і складзе, бо ўжо ў суботу 14 красавіка 1576 г. гродскія ўраднікі Багдан Грыгор'евіч Старуноў, Іван Багухвал Дарашкевіч і Іван Міхайлавіч Жук таксама выдавалі выпісы з актавых кніг[99].

На чарговым Мсцібогаўскім з'ездзе станаў ВКЛ, які адбыўся ў маі–чэрвені 1576 г., было прынята рашэнне прызнаць Стэфана Баторыя вялікім князем літоўскім з шэрагам умоваў[100]. Сярод патрабаванняў да манарха адзначым пункт аб увядзенні ў судовых паветах замест маршалкаў кашталянаў[101]. Гарадзенскі павет быў адным з першых у ліку такіх паветаў, а таму ў выніку рэарганізацыі Іван Іванавіч Валовіч аўтаматычна рабіўся бы першым гарадзенскім кашталянам. На момант прызнання Стэфана Баторыя ў якасці вялікага князя літоўскага гродскі судовы ўрад Гарадзенскага павета быў у ранейшым складзе. Адзначым, таксама, што сярод паслоў, накіраваных 3 чэрвеня 1576 г. з Мсцібогаўскага з'езда да новага гаспадара, быў гарадзенскі староста Аляксандр Грыгор'евіч Хадкевіч[102]. З гэтай нагоды яму прыпісваюць прамову ў гонар Стэфана Баторыя: «*ogłosił go wielkim księciem litewskim i użalil się na złamanie pakta unii*»[103].

Такім чынам, правапарадак у Гарадзенскім павеце падчас першых бескаралеўяў 1572–1576 гг., нягледзячы на нерытмічнасць у працы і некаторыя праблемы са складам, абапіраўся на гродскі судовы ўрад,

у сувязі з чым, вымушаны канстатаваць адсутнасць тут надзвычайнага каптуровага суда ў 1572–1573 гг. Па меншай меры, адшукаць нейкія сляды дзейнасці апошняга ў даступных нам крыніцах не ўдалося. Разам з тым, на падставе вывучаных матэрыялаў можна вылучыць наступныя этапы функцыянавання гарадзенскага гродскага судовага ўраду:

1) ***ліпень–кастрычнік 1572 г.*** – смерць манарха і эпідэмія пошасці ў Гарадзенскім павеце ВКЛ прымусілі мясцовы гродскі ўрад часова спыніць сваю судовую практыку. Адшукаць якія-небудзь сведчанні яго дзейнасці ў гэты прамежак часу нам не ўдалося. Тым не менеш, перадача ў ***жніўні 1572 г.*** Гарадзенскага староства сыну Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча Аляксандру спрыяла захаванню на пасадах ранейшага складу гарадзенскіх гродскіх судовыхураднікаў і працягу іх дзейнасці ў пазнейшы перыяд.

2) ***снежань 1572 г.–кастрычнік 1574 г.*** – гродскі ўрад працягнуў працу ў старым складзе: Андрэй Мацкевіч Капленскі, падстароста, Мікалай Шымковіч Талочка, суддзя, і Іван Міхайлавіч Жук, пісар. Прававой падставай для яго дзейнасці была пастанова і ўхвала бліжэй невядомага гарадзенскага з’езда, які адбыўся ў лістападзе 1572 г. Смерць 10 верасня 1573 г. Андрэя Мацкевіча Капленскага прывяла да змены складу гродскага судовага ўраду – падстаростам быў прызначаны верны служэбнік Хадкевічаў Багдан Грыгор’евіч Старуноў. Адзначаны перыяд характарызуецца нестабільнасцю складу гродскага ўраду, што праявілася ў часовай адсутнасці на сваім месцы або падстаросты, або суддзі. Адсутнасць апошняга ў канцы лістапада 1573 г. можа сведчыць аб чарговым часовым прыпыненні судоў. Аднак, першую палову 1574 г. гродскі суд працаваў у складзе: Багдан Грыгор’евіч Старуноў, падстароста, Мікалай Шымковіч Талочка, суддзя, і Іван Міхайлавіч Жук, пісар. Абраны кароль Рэчы Паспалітай Генрык Валезы сваім «*Універсалам*» ад 28 красавіка 1574 г. санкцыянаваў працу гродскіх судоў у ВКЛ і прызначыў найбліжэйшы тэрмін іх пачатку – ***30 мая 1574 г.*** У выпадку з гродскім судовым урадам Гарадзенскага павета «*Універсал*» фактычна пацвердзіў яго паўнамоцтвы і толькі ўдакладніў парадак яго далейшай дзейнасці, бо мясцовы гродскі суд працаваў яшчэ да прыняцця манархам адпаведнага дакумента. Як можна меркаваць, нечаканы ад’езд Генрыка Валезыя справакаваў чарговы часовы перапынак у функцыянаванні гарадзенскага гродскага суду, чые паўнамоцтвы, аднак, былі пацверджаны і працягнуты на з’ездзе шляхты ў Горадні ў кастрычніку 1574 г.

3) ***лістапад 1574 г.–чэрвень 1576 г.*** – адсутнасць Генрыка Валезыя ініцыявала прыняцце ў лістападзе 1574 г. станамі ВКЛ «*Парадку Святой справядлівасці*», які пацвярджаў і пашыраў юрысдыкцыю гродскіх судоў, а таксама з ***1 студзеня 1575 г.*** уводзіў першыя ў ВКЛ гродскія судовыя рокі. У Гарадзенскім павеце пасля смерці Мікалая Шымковіча Талочкі з верасня

1575 г. гродскі суд працаваў у складзе: Багдан Грыгор'евіч Старуноў, падстароста, Іван Багухвал Дарашкевіч, суддзя, і Іван Міхайлавіч Жук, пісар. Падчас іх дзейнасці ў чэрвені 1576 г. абраны польскі кароль Стэфан Баторый быў прызнаны прадстаўнікамі ВКЛ вялікім князем літоўскім, сярод якіх быў і гарадзенскі староста Аляксандр Грыгоравіч Хадкевіч.

# Дадатак

## Гербы гарадзенскіх старостаў і гродскіхураднікаў у другой палове XVI ст.

**(1). Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч**, *кіеўскі ваявода, 1556 г.*

**Герб**: на тарчы страла вастрыём дагары, перакрыжаваная пасярэдзіне (крыжастрэл), ніжні канец раздзёрты ў крокву («*Касьцеша*»), над тарчай гелм без кароны, у кляйноце – пёры стравуса (тры?), вакол тарчы намёт з лісця, па баках кляйнота ініцыялы: «*G[rzegorz]*» || «*C[hodkiewicz]*».




*Герб Грыгорыя Хадкевіча, 1569 г. Гравюра з «Евангелля вучыцельнага» І. Фёдарава.*

**Пячатка**: надрукавана без пазначэння характарыстык[104].

Апісанне яшчэ адной гербавай пячаткі, якой карыстаўся Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч, віцебскі ваявода ў 1554–1555 гг., апублікавалі ўкраінскія геральдысты Алег Аднарожанка і Аляксандр Алфёраў: на тарчы крыжастрэл вастрыём дагары з раздзёртым у крокву ніжнім канцом, над тарчай гелм, у кляйноце пяро стравуса, вакол тарчы намёт, над тарчай ініцыялы: «*G[rzegorz]C[hodkiewicz]*». Форма пячаткі авальная, 14×17 мм[105].




*Гербавая пячатка Грыгорыя Хадкевіча, 1556 г. (Мал. К. Балсуноўскага.)*

Геральдыка Хадкевічаў ужо трапляла ў поле зроку даследчыкаў. У свой час мы імкнуліся давесці, што раздзёрты крыжастрэл быў уласным клейнавым знакам Хадкевічаў, які ў другой палове XVI ст. набыў сугучную з радаводнай легендай назву «*Барэйка*», а пазней ператварыўся ў польскую «*Касьцешу*»[106].

Першым, хто прыпісаў Хадкевічаў да «*Касьцешы*», быў Барташ Папроцкі, які ў сваім гербоўніку «*Гербы польскага рыцарства*» (Кракаў, 1584 г.) адзначыў: «*...familia starodawna Chodkiewiczow kthorzy Kleynotu Kościesza alias Strzegomia używaią...*»[107]. Такая трактоўка паспрыяла пазнейшай гербавай паланізацыі роду.

Прыведзеная гербавая пячатка Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча паходзіць з 1556 г., калі ён быў яшчэ кіеўскім ваяводам. Пазней, віленскі кашталян, гетман найвышэйшы ВКЛ, гарадзенскі і магілёўскі староста карыстаўся іншай пячаткай, якую ён прыклаў 1 ліпеня 1569 г. да акту Люблінскай уніі. На ёй быў складаны герб, апісаны польскімі даследчыкамі Уладзіславам Сэмковічам і Станіславам Кутшэбай так: «*w tarczy czterodzielnej, częściowo zatartej, w prawem górnem polu herb Kościesza, w dolnem Pogoń, w lewem górnem polulew (w lewo), wspięty ponad murem, w dolnem krokiew pojedyncza, wewnątrz i nazewnątrz niej gałeczki; nad tarczą litery: G • A • C*»[108]. Адзначым, што пад кепска відочнымі выдаўцам «*шарыкамі*» ў левым ніжнім полі з кроквай павінны былі быць тры яблыкі ці гранаты.

Гравюра з апісаным вышэй складаным гербам Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча была змешчана на адвароце тытульнай старонкі славутага «Евангелля вучыцельнага», надрукаванага Іванам Фёдаравым у Заблудаве ў 1569 г. У адрозненне ад пячаткі на геральдычнай гравюры з'явіліся закратаваны гелм без кароны, кляйнот у выглядзе аднаго ставусінага пяра (чорнага колеру?) і намёт з лісця. Прыналежнасць гербавых выяў, сабраных разам на чатырохчастковай тарчы, застаецца загадкай. Разгадаць яе паспрабаваў украінскі гісторык Яраслаў Ісаевіч: «На чатырох палях гербавага шчыта намаляваны гербы гетмана і яго продкаў, у тым ліку бацькоўскі герб «Касцеша» і мацярынскі «Праўдзіч», а таксама герб Вялікага княства Літоўскага («Пагоня»), які служыў і гербам Гедымінавічаў князёў Бельскіх, з якіх паходзіла маці гетманавага бацькі»[109]. Сапраўды, у першым полі змешчаны родавы герб Хадкевічаў, а ў трэцім – «Пагоня» бабкі па бацьку княжны Агнешкі Бельскай[110]. Пра герб у другім полі Я. Ісаевіч гаворыць, што гэта мацярынскі «Праўдзіч». Аднак, па-першае, польскі герб «Праўдзіч» выглядаў трошкі інакш: «…у полі блакітным чырвоны мур з зубцамі, з-за якога ўзнімаецца палова залатога льва з залатой праўдай [колам] у лапах…»[111], а па-другое, маці Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча была княжна Васіліса Іванаўна Яраславічоўна[112], якая карысталася таксама гербам «Пагоня», пра што сведчыць яе пахавальная труна[113]. Не мог гэта быць і герб жонкі Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча, бо ёй была княжна Кацярына Іванаўна Вішнявецкая гербу «Карыбут»[114]. Што датычыць апошняга гербу ў чацвёртым полі: кроква з трыма яблыкамі ці гранатамі, то яго Я. Ісаевіч увогуле ніяк не патлумачыў.

Пытанне застаецца адкрытым дагэтуль. Ясна адно – складаны герб Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча быў створаны не па генеалагічнаму прынцыпу, а па нейкаму іншаму.

**(2). Багдан Грыгоравіч Старуноў**, *падстароста гарадзенскі, 1574 г.*

**Герб**: на тарчы галава вала з колцам у пысе, над тарчай кветка на сцябліне з чатырма лісткамі, па баках яе справа і злева па тры кулькі 1:2 («*Венява*» змененая), над імі ініцыялы: «*B[ohdan]*» || «*S[tarunow]*».

**Пячатка**: выразаная ў аркушы кустодзея, захаванасць добрая, адбітак № 1, 12×17 мм[115].



***Гербавая пячатка Багдана Старунова, 1574 г. (Мал. А. Шаланды.)***

26 красавіка 1574 г. Багдан Грыгоравіч Старуноў, гарадзенскі падстароста, Мікалай Шымковіч Талочка, суддзя і Іван Міхайлавіч Жук, пісар выдалі выпіс з кніг спраў гродскіх замку Яго Міласці гаспадарскага гарадзенскага з лістом баярына Аніхіма Пашуціча, якім той «*принял в дом свой до дочки своей Ганны чоловека доброго Тиша Васковича которому зятю своему Тишу и дочце своей Ганне две части именица своего … у Сезеневичох на вечность записал…*»[116].

Род Старуновых не вядомы сярод Венявітаў[117].

**(3). Мікалай Шымковіч Талочка**, *гродскі суддзя Гарадзенскага павета, 1574 г.*

**Герб**: на тарчы падкова канцамі ўніз, пад якую падкладзены доўгі просты крыж у слуп, ніжні канец якога расшчэплены ў крокву, над тарчай ініцыялы: «*M[ikołaj]T[ołoczko]*».

**Пячатка**: выразаная ў аркушы кустодзея, захаванасць добрая, адбітак № 2, 14×15 мм[118].



***Гербавая пячатка Мікалая Талочкі, 1574 г. (Мал. А. Шаланды.)***

Гэта – другая гербавая пячатка гарадзенскага гродскага суддзі. Першай з аналагічным гербам Мікалай Шымковіч Талочка карыстаўся ў 1556–1558 гг.[119] Адрозненні паміж імі заўважальныя як у стылі выканання тарчы і гербай выявы (падкова), так і выбары ініцыяла імя. Калі раней ініцыял «*N*» адпавядаў лацінскай форме імя «*Nicolaus*», то цяпер – польскай.

[1] Артыкул з'яўляецца працягам часткі I, гл.: Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. Частка I: Перадумовы, ход і вынікі рэформы гарадзенскага замкавага суда (1562–1572 г.) // Гарадзенскі палімпсест III. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст. / Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж. Мн., 2011. С. 12–44.

[2] Радаман А. Шляхецкія з'езды і соймікі Навагародскага павета і праблема ўзнікнення каптуровых судоў у Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім у час бескаралеўяў другой паловы XVI ст. // Вестник Академии МВД Республики Беларусь. 2004. № 1 (7). С. 132–136.

[3] Lulewicz H. Funkcjowanie sądownictwa szlacheckiego w Wielkim księstwie Litewskim w okresie pierwszych bezkrólewi (1572–1576) // Z dziejów kultury prawnej. Studia ofiarowane Prof. Juliuszowi Bardachowi. Warszawa, 2004. S. 361–367; Старченко Н. Проблематика сеймиків Волиньского воеводства під час Великого безкоролів'я (1572–1576 рр.) // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV–XVIII стагоддзях: Мат-лы міжнар. навук. канферэнцыі (Менск–Наваградак, 23–24 лістапада 2007 г.). Навук. рэд. С. Сокал, А. Янушкевіч. Мн., 2008. С. 110–126. Старченко Н. Велике безкоролів'я на Волині (1572–1576 рр.) // Україна крізь віки: Збірнік наукових праць на пошану академіка НАН України професора Валерія Смолія. К., 2010. С. 233–258.

[4] Каптуровы суд – часовы надзвычайны суд у Рэчы Паспалітай для разгляду тэрміновых спраў у часы бескаралеўя, гл.: Пазднякоў В. Каптуровы суд // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя (далей – ВКЛЭ). Мн., 2006. Т. 2. С. 41.

[5] Антановіч З. Гарадзенскі каптуровы суд у XVII–XVIII ст. // Гарадзенскі палімпсест III. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст. / Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж. Мн., 2011. С. 77.

[6] Lulewicz H. Funkcjowanie sądownictwa szlacheckiego w Wielkim księstwie Litewskim w okresie pierwszych bezkrólewi (1572–1576). S. 364.

[7] Антановіч З. Гарадзенскі каптуровы суд у XVII–XVIII ст. С. 72.

[8] Akta zjazdów stanów Wielkiego księstwa Litewskiego. Okresy bezkrólewi. (далей – AZS) / Oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2006. T. I. S. 81.

[9] AZS. T. I. S. 81; Lulewicz H. Funkcjowanie sądownictwa szlacheckiego... S. 364.

[10] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси (далей – АСДСЗР). Вильна, 1867. Т. 4. С. 12.

[11] Тамсама.

[12] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7.

[13] Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. Частка I. С. 37.

[14] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7. арк. 87, 147.

[15] AZS. T. I. S. 19; Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach we wrześniu 1572 roku // Przegląd Historyczny. Warszawa, 2000. T. XCI. Zesz. 2. S. 204.

[16] AZS. T. I. S. 20–21, 22.

[17] Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569-1586). Опыт исследования политического и общественного строя. СПб., 1901. Т. 1. С. 285. Заўвага 3. С. 724–725; AZS. T. I. S. 60. Заўвага 85.

[18] Urzędnicy Wielkiego księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Trockie XIV–XVIII wiek / Pod red. A .Rachuby. Opr. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. P. Romaniuk, A. Haratym. Przy współpr. A. Macuka i J. Aniszczanki (далей – UWKL WT). Warszawa, 2009. T. II. S. 337; AZS. T. I. S. 75.

[19] Андрэй Грыгоравіч Хадкевіч, падстолі ВКЛ памёр 21 лютага 1575 г., гл.: Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy. Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 164.
[20] НГАБ. Ф. 694, воп. 4, адз. з. 1027, арк. 1.
[21] Пазнякоў В. Соймы ВКЛ 1440–1568 і Рэчы Паспалітай 1569–1793 // ВКЛЭ. Т. 2. С. 611.
[22] НГАБ. КМФ-18. Метрыка ВКЛ, кн. 57, арк. 107адв.
[23] Тамсама.
[24] Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach... S. 204.
[25] AZS. T. I. S. 38; Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach... S. 208.
[26] AZS. T. I. S. 38.
[27] Ibid. S. 60–61.
[28] НГАБ. КМФ-18. Метрыка ВКЛ, кн. 57, арк. 108.
[29] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 155адв.
[30] Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach... S. 207.
[31] Maroszek J. Pogranicze Litwy i Korony w planach króla Zygmunta Augusta. Z historii dziejów realizacji myśli monarszej między Niemnem a Narwią. Białystok, 2000. S. 349.
[32] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 156.
[33] Тамсама, арк. 156–156адв.
[34] Тамсама, арк.156адв.
[35] Тамсама.
[36] Падобная сітуацыя была ў Гарадзенскім павеце ў лістападзе 1559 г., калі пад час паморку спыніў працу дарэформенны земскі суд. Пры гэтым яго актавыя кнігі працягвалі весціся, гл.: Шаланда А. Земскі суд Гарадзенскага павета ў 1555–1564 г. // Гарадзенскі палімпсест II. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. / Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж. Горадня, 2009. С. 47.
[37] Lulewicz H. Funkcjowanie sądownictwa szlacheckiego... S. 363.
[38] AZS. T. I. S. 20; Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach... S. 204.
[39] Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach... S. 205.
[40] Падалінскі У. Павятовая палітычная эліта ў святле дзейнасці гарадзенскага сойміка ў другой палове XVI ст. // Гарадзенскі палімпсест II. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. / Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж. Горадня, 2009. С. 187–188; Шаланда А. Дарэформенны земскі суд Гарадзенскага павета ў 1562–1564 г. // Гарадзенскі палімпсест III. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст. / Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж. Мн., 2011. С. 53.
[41] Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach... S. 211.
[42] Напрыклад, Ян Васільевіч Клюкоўскі, які быў жанаты з Паланеяй Паўлаўнай Валовічаўнай, быў у 1573 г. гарадзенскім гараднічым. Іншы сваяк падканцлера ВКЛ – Іван Іванавіч Валовіч у гэты ж час з'яўляўся гаспадарскім і гарадзенскім маршалкам, гл.: НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 88адв.; Падалінскі У. Павятовая палітычная эліта… С. 185; UWKL WT. S. 252, 268.
[43] Dubas-Urwanowicz E. Koronne zjazdy szlacheckie w dwóch pierwszych bezkrólewiach po śmierci Zygmunta Augusta. Białystok, 1998. S. 95.
[44] AZS. T. I. S. 45, 49. Саверчанка І. Астафей Валовіч. Гісторыка-біяграфічны нарыс. Мн., 1992. С. 69.
[45] НГАБ. Ф. 1737, воп. 1, адз. з. 1, арк. 349.
[46] Тамсама.
[47] Тамсама, арк. 350.
[48] Lulewicz H. Funkcjowanie sądownictwa szlacheckiego... S. 363.
[49] НГАБ. Ф. 1737, воп. 1, адз. з. 1, арк. 350.

[50] Тамсама, арк. 350 адв.
[51] Тамсама, арк. 351.
[52] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 56–56адв.
[53] Тамсама, арк. 56.
[54] Тамсама, арк. 64адв.–65.
[55] Ptaszycki S. Konfederacja Warszawska roku 1573 w trzecim Statucie Litewskim // Księga pamiątkowa ku uczczeniu czterechsetnej rocznicy wydania pierwszego Statutu Litewskiego / Pod red. S. Ehrenkreutza. Wilno, 1935. Rozprawy wydziału III Towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie. T. VIII. S. 195.
[56] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 57, 58.
[57] Тамсама, арк. 440 адв.
[58] AZS. T. I. S. 85–86.
[59] UWKL WT. S. 306.
[60] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 135адв.
[61] Тамсама, арк. 256.
[62] UWKL WT. S. 306.
[63] НГАБ. КМФ-18. Метрыка ВКЛ, кн. 49, арк. 22 адв.–23. Род нейкага Кірыяка Старуна пад 1605 г. запісаны ў Супрасельскім памянніку, гл.: АСДСЗР. Вильна, 1870. Т. 9. С. 459.
[64] UWKL WT. S. 337. I.Лапа адносіў яго смерць нават на пачатак 1574 г., гл.: Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии… Т. 1. С. 376–377. Заўвага 4.
[65] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк.425 адв. – 426.
[66] Lietuvos Vaistybes istoriajos archyvas. F. 604, ap. 1, b. 9892, l. 12. Факсіміле дакумента надрукавана, гл.: Макарчык Ю. Адэльск 1490–2010. Мн., 2010. Каляровая ўклейка на с. 16.
[67] Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (далей – ГДГАМ). КП 8732. Арк. 1–1адв.
[68] BUW. Rps. 260/52, s. 1.
[69] Ibid.
[70] Ibid, s.1v.
[71] Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. Частка I. С. 32.
[72] Канаплёва С. Генрык Валезы // ВКЛЭ. Мн., 2005. Т. 1. С. 524–525.
[73] НГАБ. КМФ-18. Метрыка ВКЛ, кн. 57, арк. 112адв.
[74] Лялькоў I. Рукапісныя крыніцы Нацыянальнае бібліятэкі Францыі па гісторыі зносінаў паміж Францыяй і Вялікім Княствам Літоўскім у новы час (XVI–XVIII ст.) // Athenaeum. Рэд. А. Дзярновіч. Мн., 1998. Т. I. С. 24.
[75] Onacewicz Z. Panowanie Henryka Walezyusza i Stefana Batorego królów Polskich wyjęte z rękopismów Albertrandego biskupa Zenopolitanskiego. Warszawa, 1823. T. I. S. 51–52.
[76] НГАБ. КМФ-18. Метрыка ВКЛ, кн. 57, арк. 116.
[77] Onacewicz Z. Panowanie Henryka Walezyusza i Stefana Batorego... S. 51–52; Maroszek J. Pogranicze Litwy i Korony... S. 427.
[78] AZS. T. I. S. 96.
[79] Ibid.
[80] Ibid.
[81] Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy. S.182–187; AZS. T. I. S. 122–127.
[82] Lulewicz H. Funkcjowanie sądownictwa szlacheckiego... S. 366–367; AZS. T. I. S. 123–124, 126.
[83] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 293, 294.

[84] Тамсама, арк. 313.

[85] Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года / Рэд. Т.Доўнар. Мн., 2003. С. 224.

[86] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 101.

[87] Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. Частка І. С. 32–33.

[88] UWKL WT. S. 315.

[89] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 106–106адв.

[90] Мікалай Андрэевіч Свірскі, гарадзенскі земскі каморнік быў сынам Андрэя Янавіча Свірскага, панамесніка гарадзенскага ў 1558 г., гл.: Шаланда А. Земскі суд Гарадзенскага павета ў 1555–1564 г. С. 55.

[91] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 248. Гл. таксама: Сліж Н. Вяноўныя запісы ў кнізе Гарадзенскага земскага суда за 1578–1579 г. // Гарадзенскі палімпсест II. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. / Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж. Горадня, 2009. С. 68.

[92] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 442.

[93] Тамсама, арк. 254 адв.

[94] Ротмістр ЯКМ Валенты Каменскі быў набілітаваны Генрыкам Валезыем 10 мая 1574 г. на каранацыйным сойме па просьбе Мікалая Радзівіла, віленскага ваяводы і канцлера ВКЛ: «…знаком пасованья рыцерского и рукою нашою господаръскою на рыцерство его пасовали…», гл.: Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии… Т. 1. С. 432–433.

[95] AZS. T. I. S. 164, 168–169, 173, 175; UWKL WT. S. 268, 286. Пакідаючы Кракаў кіраўнік пасольства менскі кашталян Ян Глябовіч між іншым прасіў земскіх паслоў дабіцца ад Стэфана Баторыя выканання каптуроў бескаралеўя, замацаваных прысягай, гл.: Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии… Т. 1. С. 141.

[96] Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии… Т. 1. С. 138.

[97] НГАБ. Ф. 1755, воп. 1, адз. з. 7, арк. 429.

[98] Тамсама, арк. 430–430адв.

[99] Тамсама, арк. 257адв.

[100] AZS. T. I. S. 181–182, 183–184; Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии… Т. 1. С. 143, 145. Заўвага 3; Początki panowania w Polsce Stefana Batorego 1575–1577 r. Listy, uniwersały, instrukcye // Źródła dziejowe. Wyd. A. Pawiński. Warszawa, 1877. T. IV. S. 20; Onacewicz Z. Panowanie Henryka Walezyusza i Stefana Batorego… S. 138.

[101] AZS. T. I. S. 191; Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии… Т. 1. С. 148.

[102] Лаппо И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии… Т. 1. С. 143.

[103] Kojałowicz W. Herbarz szlachty Wielkiego Księstwa Litewskiego zwany Nomenclator. Kraków, 1905. S. 76.

[104] Болсуновский К. Сфрагистические и геральдические памятники Юго-Западного края. Киев, 1899. С. 2. Табл. I. № 1.

[105] Алфьоров О., Однороженко О. Українські особові печатки XV–XVII ст. за матеріалами київських архівосховищ. Харків, 2008. С. 176. № 773.

[106] Шаланда А. Да пытання паходжання гербу Хадкевічаў // Białoruskie zeszyty historyczne. Białystok, 1995. Nr 1/3. S. 9.

[107] Paprocki B. Herby rycerstwa polskiego. Kraków, 1584. F. 661.

[108] Akta Unji Polski z Litwą 1385–1791. Wyd. S.Kutrzeba, W.Semkowicz. Kraków, 1932. S. 348. Nr 149.
[109] Ісаевіч Я. Рыгор Хадкевіч як выдавец і аўтар прадмоў // Спадчына Скарыны: Зб. матлаў першых Скарынінскіх чытанняў (1986). Уклад. А. Мальдзіс. Мн., 1989. С. 209.
[110] Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 21. Dworzaczek W. Genealogia. Tablice. Warszawa, 1959. Tabl. Nr 166.
[111] Górzyński S., Kochanowski J. Herby szlachty polskiej. Warszawa, 1992. S. 127.
[112] Boniecki A. Poczet rodów... S. 22. Dworzaczek W. Genealogia. Tabl. Nr 166.
[113] Maroszek J. Prawa i przywileje miasta i dobr ziemskich Zabłudów XV–XVIII w. Białystok, 1994. S. 183.
[114] Boniecki A. Poczet rodów... S. 23; Dworzaczek W. Genealogia. Tabl. Nr 166.
[115] ГДГАМ. КП 8732, арк. 1адв.
[116] Тамсама, арк.1.
[117] Górzyński S., Kochanowski J. Herby szlachty polskiej. S. 159.
[118] ГДГАМ. КП 8732, арк. 1адв. Пячатка ўжо друкавалася, гл.: Шаланда А. Гербы роду Талочкаў з Гарадзенскага павета ВКЛ // Краязнаўчыя запіскі. Горадня, 2010. С. 173.
[119] Шаланда А. Земскі суд Гарадзенскага павета ў 1555–1564 г. С. 54; Шаланда А. Гербы роду Талочкаў. С. 173–174.

*Уладзімір Падалінскі*
*кандыдат гіст. навук (Мінск)*

# Да характарыстыкі персанальнага складу гарадзенскага земскага суда ў канцы XVI – пачатку XVII ст.

Усярэдзіне 1560-х гг. у Вялікім Княстве Літоўскім (далей – ВКЛ) адбыўся шэраг рэформ, якія значна змянілі грамадска-палітычны лад у дзяржаве. Адной з такіх рэформ стала ўтварэнне ў паветах выбарных земскіх судоў. Першы склад новага земскага суда Гарадзенскага павета быў вызначаны ў 1565 г. Праўда, адкрытым застаецца пытанне, ці быў ён абраны шляхтай, ці яшчэ быў прызначаны каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам[1]. Мэтай дадзенага артыкула з'яўляецца аналіз асабовага складу выбарнага земскага суда Гарадзенскага павета ад моманту яго ўтварэння ў 1565 г. да пачатку XVII ст. Паспрабуем разгледзець супольнасць судовыхураднікаў праз прызму іх сацыяльнага статусу і маёмаснага становішча, канфесійнай прыналежнасці і этнічнага паходжання. Прасочым шляхі кар'еры і грамадска-палітычную дзейнасць гарадзенскіх земскіх суддзяў, падсудкаў і пісараў. Зробім спробу вызначыць ступень аўтарытэту і папулярнасці членаў суда ў лакальным шляхецкім асяроддзі. Асобную ўвагу звернем на кліентальныя і сваяцкія сувязі шляхты, абіранай у земскі суд Гарадзенскага павета. Акрамя таго, акрэслім галоўныя накірункі далейшых, больш падрабязных, даследаванняў гарадзенскіх судовых ураднікаў.

У 1565 г. гарадзенскім земскім суддзём стаў Іван Фёдаравіч Масальскі, земскім падсудкам – Іван Макаровіч, а пісарам – Лаўрын Мацвеевіч Война[2]. Аднак даволі хутка ў гарадзенскім земскім судзе адбыліся змены. У сакавіку 1566 г. Лаўрын Война стаў пісарам ВКЛ, і яго месца заняў Фёдар Іванавіч Кунцэвіч[3]. Але і ён займаў сваю пасаду менш за паўтары гады. Ужо ў верасні 1567 г. Фёдар Кунцэвіч быў авансаваны на пасаду гарадзенскага харужага. На вакантны ўрад земскага пісара ў верасні 1568 г. быў абраны Андрэй Васільевіч Катовіч[4]. Андрэй Катовіч займаў сваю пасаду да сваёй смерці ў канцы 1605 г. У ліпені 1569 г. адбыліся новыя змены ў складзе суддзяў: на ўрад падсудка быў намінаваны Васіль Міхайлавіч Мялешка[5]. Наступным гарадзенскім земскім падсудкам, у красавіку 1574 г., стаў Грыгорый Афанасьевіч Масальскі[6]. Менавіта ён у маі 1578 г. зрабіў крок па

кар'ернай лесвіцы і замяніў на пасадзе гарадзенскага земскага суддзі памерлага Івана Масальскага[7]. У сваю чаргу, новым падсудкам у Гарадзенскім павеце быў абраны Грыгорый Зяноўевіч Дзяльніцкі[8]. У такім складзе – Грыгорый Масальскі (суддзя), Грыгорый Дзяльніцкі (падсудак), Андрэй Катовіч (пісар) – гарадзенскі земскі суд працаваў даволі доўга, да 1589 г. Пасля намінацыі ў лютым таго года Грыгорыя Масальскага гарадзенскім падкаморым, новы земскі суддзя ў павеце быў прызначаны толькі ў жніўні 1590 г. Ім стаў Леў Міхайлавіч Сапега, які займаў гэты ўрад да 1610 г.[9] А ў самым канцы 1590 г., пасля зыходу са сваёй пасады Грыгорыя Дзяльніцкага, гарадзенскім земскім падсудкам стаў Еранім Грыгор'евіч Валовіч, і быў ім да 1608 г.[10] Так аформіўся яшчэ адзін даволі стабільны склад земскага суда Гарадзенскага павета, які функцыянаваў да канца 1605 г.: суддзя Леў Сапега, падсудак Еранім Валовіч і пісар Андрэй Катовіч.

Звернем увагу, што ў пачатку XVII ст. значную кар'еру ў гарадзенскім земскім судзе зрабіў Кандрат Васільевіч Мялешка, які паслядоўна займаў усе яго ўрады[11]. Так, у пачатку 1606 г. ён замяніў на пасадзе земскага пісара Андрэя Катовіча. Улетку 1609 г., пасля прызначэння Ераніма Валовіча мсціслаўскім земскім суддзём, Кандрат Мялешка становіцца гарадзенскім падсудкам, а ўжо ўвесну 1611 г., пасля смерці Льва Сапегі, – і гарадзенскім земскім суддзём.

Паводле сацыяльнага статусу сярод мясцовых судовых ураднікаў значныя пазіцыі мела шляхта знатнага паходжання – князі і паны. З дзесяці членаў суда ў разглядаемы час да знатных родаў належала чацвёра. Княжацкі тытул насілі Іван і Грыгорый Масальскія. Леў Сапега і Еранім Валовіч паходзілі з панскіх родаў ВКЛ. Прычым, пасаду земскага суддзі ў Гарадзенскім павеце ў канцы XVI–пачатку XVII ст. займалі выключна прадстаўнікі знаці: князі Іван і Грыгорый Масальскія, пан Леў Сапега. Князь Грыгорый Масальскі і пан Еранім Валовіч з'яўляліся гарадзенскімі земскімі падсудкамі. А вось сярод пісараў гарадзенскага земскага суда знатная шляхта ў той перыяд не сустракаецца. Разам з тым, і нязнатная шляхта, прадстаўленая ў складзе мясцовага земскага суда, безумоўна адносілася да лакальнай палітычнай эліты: Іван Макаровіч, Грыгорый Дзяльніцкі, Фёдар Кунцэвіч, Андрэй Катовіч[12]. А Лаўрын Война, пра што адзначым ніжэй, меў даволі сур'ёзную палітычную вагу і на агульнадзяржаўным узроўні.

Што датычыць маёмаснага становішча ўраднікаў, то ў земскім судзе Гарадзенскага павета была прадстаўлена і дробная, і сярэдняя, і, нават, заможная шляхта[13]. Да сярэдняй шляхты належаў гарадзенскі земскі суддзя Іван Масальскі, які ў 1567 г. ставіў у войска ВКЛ са сваіх маёнткаў 15 коннікаў і 8 драбаў[14]. Да ліку сярэдняй шляхты можна аднесці таксама Грыгорыя Масальскага, Івана Макаровіча і Васіля Мялешку. У 1567 г. Грыгорый

Масальскі, будучы земскі падсудак і суддзя Гарадзенскага павета, выстаўляў у войска 4 коннікаў і 2 драбаў, і яшчэ дадаткова, «на ласку господарьскую», – 3 коннікаў. Такім чынам, ён выстаўляў на земскую службу 7 коннікаў і 2 драбаў[15]. Гарадзенскі земскі падсудак Іван Макаровіч у тым жа годзе ставіў у войска 13 коннікаў, з якіх 9 – «на ласку», а таксама 4 драбаў[16]. У сваю чаргу, будучы земскі падсудак Васіль Мялешка выставіў 6 коннікаў і 3 драбаў[17]. Зважаючы на паступовае павелічэнне сваіх уладанняў у канцы XVI–пачатку XVII ст., магчыма дапусціць, што гарадзенскі земскі суддзя Леў Сапега прайшоў шлях ад дробнай да сярэдняй шляхты[18]. А вось земскага пісара Гарадзенскага павета Лаўрына Война трэба адносіць да буйной, заможнай шляхты. Паводле попісу войска ВКЛ 1567 г., ён выставіў на земскую службу 35 коннікаў і 24 драбы, з якіх «на ласку» – 16 коннікаў і 16 драбаў[19]. Затое яго наступнік на пасадзе гарадзенскага пісара Фёдар Кунцэвіч належаў да дробнай шляхты. У 1567 г. ён ставіў у войска 2 коннікаў і 1 драба. Акрамя таго, 1 конніка Фёдар Кунцэвіч выстаўляў звыш вызначанай павіннасці[20]. Да дробнай, а можа нават драбнейшай, шляхты адносіўся мясцовы земскі падсудак Грыгорый Дзяльніцкі, які, разам з братамі Дзмітрыем і Давыдам, «з ыменья своего Вилькиницкого неделеного» ставіў у войска Вялікага Княства 1 конніка[21]. Да дробнага шляхецтва, падобна, належалі таксама гарадзенскія земскія падсудак Еранім Валовіч[22] і пісар Андрэй Катовіч[23]. Заўважым канешне, што нельга абсалютызаваць такія дадзеныя, бо на працягу жыцця маёмаснае становішча шляхцічаў магло змяняцца, прычым, у розны бок. Аднак падаецца відавочным вядучае становішча менавіта сярэдняй шляхты ў земскім судзе Гарадзенскага павета.

У канфесійным плане земскія судовыя ўраднікі Гарадзенскага павета ў разглядаемы перыяд належалі да розных накірункаў хрысціянскага веравызнання. Можна заўважыць, прынамсі ў 1560–70-я гг., пэўную перавагу праваслаўнай шляхты. Так, праваслаўнымі былі суддзя Іван Масальскі, падсудак Васіль Мялешка, пісар Лаўрын Война[24]. З праваслаўя ў кальвінізм перайшоў гарадзенскі земскі суддзя Леў Сапега[25]. А вось Грыгорый Масальскі ў 1590-я гг. з’яўляўся каталікам[26]. Не выключана, што ў яго выпадку магла мець месца канверсія з праваслаўя ці пратэстантызму ў каталіцызм. Каталікам, верагодна, быў і мясцовы земскі падсудак Еранім Валовіч[27]. У нас няма дакладных звестак аб канфесійнай прыналежнасці Івана Макаровіча, Фёдара Кунцэвіча, Грыгорыя Дзяльніцкага і Андрэя Катовіча. Дададзім толькі, што ўскосна на праваслаўнае веравызнанне першых двух могуць указваць іх імёны: Іван і Фёдар[28]. Калі казаць пра этнічнае паходжанне членаў гарадзенскага земскага суда, то можна заўважыць перавагу славянскага элементу. Да родаў усходнеславянскага, «русінскага» паходжання належалі Войны, Катовічы, Масальскія, Мялешкі,

Сапегі[29]. Дыскусійным з'яўляецца пытанне аб этнічным паходжанні роду Валовічаў[30]. Аднак паходзілі Валовічы, хутчэй за ўсё, з Гарадзеншчыны, і ў XVI ст. яны былі настолькі моцна ўключаны ў славянскую культурную традыцыю, што ёсць усе падставы адносіць іх менавіта да «русінскіх» родаў ВКЛ[31]. Да родаў балцкага паходжання належаў род Кунцэвічаў[32]. Цяжка нешта сказаць пра этнічную прыналежнасць Дзяльніцкіх і Макаровічаў. Хаця патронім «Макаровіч» можа сведчыць пра славянскае паходжанне дадзенага шляхецкага роду. Разам з тым, пытанні этнічнай самасвядомасці гарадзенскай шляхты і актывізацыі працэсаў апалячвання ў яе асяроддзі з'яўляюцца адкрытымі, надзвычай актуальнымі ды патрабуюць свайго далейшага грунтоўнага даследавання.

Пры вывучэнні кар'ерных шляхоў членаў земскага суда Гарадзенскага павета можна зрабіць шэраг высноў. Па-першае, яшчэ да свайго прызначэння на нейкі мясцовы судовы ўрад шляхціч ужо меў досвед урадавай дзейнасці ў павеце, у тым ліку і судовай. Так, будучы гарадзенскі земскі суддзя Іван Масальскі на працягу 1564–1566 гг. быў павятовым падстаростам, а Фёдар Кунцэвіч з'яўляўся гарадзенскім пісарам яшчэ ў 1555–1564 гг.[33] Дарэчы, беларускі гісторык Аляксей Шаланда нават называе Івана Масальскага адным з галоўных рэалізатараў рэформы земскага суда Гарадзенскага павета ў 1565–1566 гг., а Фёдара Кунцэвіча – непасрэдным заснавальнікам мясцовай земскай судовай канцылярыі[34]. Еранім Валовіч, перад прызначэннем на ўрад гарадзенскага земскага падсудка, з'яўляўся мсціслаўскім стольнікам і падстаростам[35]. У сваю чаргу, абраны ў 1590 г. земскім суддзём Гарадзенскага павета Леў Сапега з 1584 (1585?) г. быў віцебскім войскім[36]. Урад гарадзенскага неваднічага паслядоўна трымалі будучыя земскія падсудкі Іван Макаровіч і Грыгорый Масальскі[37]. Такі досвед, безумоўна, палягчаў судовым ураднікам выкананне іх службовых абавязкаў. Па-другое, для большасці шляхцічаў з разглядаемай намі супольнасці пасада ў гарадзенскім земскім судзе была вяршыняй кар'еры. Так, вышэйшым і апошнім урадам для Івана Масальскага і Льва Сапегі стаў урад земскага суддзі, для Івана Макаровіча і Васіля Мялешкі – урад земскага падсудка, для Андрэя Катовіча – урад земскага пісара. Акрамя таго, Грыгорый Дзяльніцкі ў 1590 г. з прычыны сталага ўзросту сам адмовіўся ад пасады гарадзенскага земскага падсудка, застаўшыся толькі гаспадарскім сакратаром і рэвізорам[38]. Некаторыя шляхцічы знаходзіліся на сваіх пасадах вельмі працяглы тэрмін. Напрыклад, Грыгорый Дзяльніцкі да сваёй рэзыгнацыі быў гарадзенскім земскім падсудкам больш за 12 год. Іван Масальскі займаў урад павятовага земскага суддзі 13 год, а Леў Сапега – 20 гадоў. Нарэшце, Андрэй Катовіч трымаў урад гарадзенскага земскага пісара каля 37 гадоў! Далейшы кар'ерны рост аказаўся для іх немагчымым.

Хаця, земскія судовыя ўрады ў іерархіі павятовых пасадаў, зацверджанай Статутам ВКЛ 1588 г., займалі не самыя высокія месцы: суддзя і падсудак знаходзіліся ніжэй за павятовага маршалка, падкаморага і харужага, а земскі пісар – ніжэй за войскага, стольніка і падстолія[39].

Тым не менш, для некаторай шляхты праца ў земскім судзе была пляцоўкай для далейшага палітычнага авансу. Так, Еранім Валовіч, пасля амаль 18 год знаходжання на пасадзе гарадзенскага земскага падсудка, быў прызначаны земскім суддзём Мсціслаўскага ваяводства (з 1608 г. да сваёй смерці каля 1615 г.). Фёдар Кунцэвіч з ураду гарадзенскага земскага пісара перайшоў на ўрад мясцовага харужага (1567–1589 гг.). Грыгорый Масальскі паслядоўна займаў пасады гарадзенскага земскага падсудка і суддзі, а затым быў прызначаны гарадзенскім падкаморым (1589–1597 гг.)[40]. Аднак і гэтыя прыклады сведчаць, што ў той перыяд, прынамсі ў Гарадзенскім павеце, праца ў земскім судзе не давала магчымасці зрабіць палітычную кар’еру па-за межамі лакальнага, павятовага ўзроўню. Толькі мясцоваму пісару Лаўрыну Войне ўдалося стаць спачатку вялікім пісарам (1566 г.) і дворным падскарбіем ВКЛ (1569 г.), а затым, стаўшы ў 1576 г. земскім падскарбіем Вялікага Княства, увайсці і ў склад сената Рэчы Паспалітай[41]. Аднак наўрад ці нейкую значную ролю ў гэтым кар’ерным росце адыграла дзесьці гадавое трыманне Лаўрынам Войнам пасады земскага пісара Гарадзенскага павета. Заўважым таксама, што фактычна ніхто з дзяцей разгледжаных намі гарадзенскіх судовых ураднікаў не рабіў кар’еры ў мясцовым земскім судзе. Адзіным выключэннем стаў сын былога падсудка Васіля Мялешкі Кандрат, які заняў урад гарадзенскага земскага пісара больш чым праз 30 гадоў пасля смерці свайго бацькі.

Шляхцічы, якія займалі ўрады гарадзенскага земскага суда, даволі актыўна ўдзельнічалі ў грамадска-палітычным жыцці як свайго павета, так і ўсёй дзяржавы. Даволі часта менавіта яны прадстаўлялі інтарэсы мясцовай павятовай шляхты ў прадстаўнічых інстытутах улады ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Так, пасламі на вальныя соймы Рэчы Паспалітай ад Гарадзенскага павета абіраліся земскі суддзя Іван Масальскі (1569 г.) і падсудак Грыгорый Масальскі (1576 г.)[42]. Цалкам верагодна, што земскі пісар Андрэй Катовіч прадстаўляў гарадзенскую шляхту на вальных соймах 1572 і 1578 гг. Справа ў тым, што вядома яго прысутнасць у Варшаве фактычна ў час соймавых пасяджэнняў[43]. Гарадзенскі земскі падсудак Еранім Валовіч, як пасол ад Мсціслаўскага ваяводства, браў удзел у працы Галоўнага сойміка ВКЛ і вальнага сойма Рэчы Паспалітай 1607 г.[44] На з’ездах Вялікага Княства часоў другога і трэцяга бескаралеўя Гарадзенскі павет рэпрэзентавалі земскі пісар Андрэй Катовіч (Гародня, красавік 1576 г.) і земскі суддзя Грыгорый Масальскі (Вільня, лістапад 1587 г.)[45]. Абіраліся ўраднікі гарадзенскага земскага

суда і дэпутатамі Трыбунала ВКЛ. Напрыклад, земскі суддзя Леў Сапега ў 1598 г. у Трыбунале прадстаўляў Аршанскі павет, а земскі падсудак Еранім Валовіч у 1595 і 1599 гг. – Мсціслаўскае ваяводства[46]. Таксама адзначым, што вальны сойм Рэчы Паспалітай 1578 г. даручыў пісару Андрэю Катовічу збіраць у Гарадзенскім павеце падаткі, прызначаныя на правядзенне вайны з Маскоўскай дзяржавай[47]. Яшчэ да свайго абрання ў склад земскага суда функцыі паборцаў у Гарадзенскім павеце выконвалі Іван Макаровіч (1563 г.) і Грыгорый Дзяльніцкі (1568 г.)[48]. Будучыя гарадзенскія судовыя ўраднікі збіралі падаткі і ў іншых рэгіёнах ВКЛ: той жа Грыгорый Дзяльніцкі на мытных каморах у Юрбарку ў Жамойцкім старостве (сойм 1578 г.), а Леў Сапега ў Віцебскім павеце (сойм 1581 г.)[49]. Еранім Валовіч на вальным сойме 1589 г. быў прызначаны шафарам па зборы пабору ў Мсціслаўскім ваяводстве[50].

Актыўна прыцягваліся члены гарадзенскага земскага суда і да выканання розных гаспадарскіх даручэнняў. Так, Лаўрын Война праводзіў у 1558–1561 гг. валочную памеру ў дзяржаўных маёнтках Гарадзенскага павета[51]. У 1561 г. Іван Макаровіч, Фёдар Кунцэвіч і Грыгорый (?) Дзяльніцкі былі прызначаны аднымі з адказных за дастаўку «до врадниковъ, замковъ и дворовъ господаръскихъ и всихъ месчанъ и подданыхъ» скарбовых лістоў аб выплаце падаткаў, ухваленых вальным соймам Вялікага Княства[52]. Акрамя таго, земскі падсудак Іван Макаровіч у 1566 г. выконваў функцыі гаспадарскага пасла на сойміку Гарадзенскага павета перад вальным соймам ВКЛ, а ў 1567 г. быў шафарам пры каралі і вялікім князі[53]. Іншы гарадзенскі падсудак Грыгорый Дзяльніцкі з'яўляўся каралеўскім рэвізорам[54]. Перад вальным соймам Рэчы Паспалітай 1576 г. земскі пісар Андрэй Катовіч быў прызначаны гаспадарскім паслом на павятовы соймік у Гародні, а Грыгорый Дзяльніцкі – гаспадарскім паслом на соймік Ковенскага павета[55]. Земскі падсудак Грыгорый Масальскі выконваў таксама даручэнні дыпламатычнага характару: у 1580 г. ён з'яўляўся прыставам пры маскоўскіх паслах[56]. Гэтыя факты, на наш погляд, могуць дадаткова сведчыць аб пракаралеўскай арыентацыі значнай часткі гарадзенскіх земскіх судовых ураднікаў.

Нават з улікам гэтых, далёка няпоўных, звестак можна зрабіць выснову аб значным аўтарытэце і папулярнасці членаў гарадзенскага земскага суда сярод лакальнай шляхецкай супольнасці. Не трэба забывацца і на тое, што ўсе судовыя пасады (суддзі, падсудка і пісара) былі выбарныя. Гэта таксама патрабавала ад прэтэндэнта на судовы ўрад мець значны давер з боку мясцовай шляхты. Хаця, інфармацыі непасрэдна пра ход элекцыйных соймікаў Гарадзенскага павета за разглядаемы час амаль не захавалася[57], таму цяжка казаць наколькі сапраўднымі, дэмакратычнымі былі гэтыя выбары. Безумоўна, на пазіцыі таго ці іншага шляхціча ў павеце ўплывалі

не толькі яго асабістыя здольнасці, але і кліентальныя ды суседска-сваяцкія сувязі. Трэба ўлічваць таксама і ролю каралеўскай улады ў прызначэнні ўраднікаў земскага суда. У рэшце рэшт, апошняе слова пры намінацыі аднаго з чатырох кандыдатаў на земскі судовы ўрад заўсёды належала каралю і вялікаму князю.

У сувязі з узрастаннем ролі павятовых судовых устаноў у сацыяльна-палітычным жыцці ВКЛ, магнатэрыя імкнулася ўплываць на асабісты склад земскіх судоў[58]. Гэта давала магчымасць і забяспечваць спрыяльны для сябе разгляд тых ці іншых судовых спраў, і пашыраць свой уплыў на мясцовае шляхецтва. Судовыя сесіі збіралі даволі шмат удзельнікаў, што давала дадатковыя магчымасці розным палітычным сілам праводзіць агітацыю сярод шляхты. Падобна, што гарадзенскі земскі суд не быў тут выключэннем. У яго склад уваходзілі кліенты амаль усіх найбольш уплывовых палітыкаў ВКЛ таго часу. Можна сцвярджаць аб кліентальнай залежнасці земскага суддзі Івана Масальскага ад віленскага кашталяна, вялікага гетмана і гарадзенскага старосты Грыгорыя Хадкевіча. Гэта пацвярджаецца і тым, што Грыгорый Хадкевіч прызначыў Івана Масальскага гарадзенскім падстаростам, г. зн. сваім намеснікам, і зместам ліставання паміж імі[59]. Пэўную залежнасць ад старэйшай лініі Хадкевічаў мог мець земскі падсудак Грыгорыя Дзяльніцкі, бо прынамсі яго брат Дзмітры ў 1560-я гг. з'яўляўся кліентам Грыгорыя Хадкевіча[60]. А вось гарадзенскі земскі падсудак Васіль Мялешка быў кліентам віленскага ваяводы і канцлера Мікалая Радзівіла Рудога[61]. З яшчэ адным магнатам ВКЛ, троцкім кашталянам і падканцлерам Астафеем Валовічам, быў звязаны гарадзенскі земскі пісар Андрэй Катовіч. Прынамсі, у 1572 г. ён выступаў сведкам у Астафея Валовіча і яго жонкі пры заключэнні імі маянтковай здзелкі з Васілём Копцем[62]. З вялікай доляй верагоднасці можна казаць пра ўплыў Астафея Валовіча і на ўраднікаў дарэформеннага гарадзенскага земскага суда[63]. Меў сваіх кліентаў у складзе земскага суда Гарадзенскага павета і канцлер ВКЛ Леў Сапега. Так, у 1589 г. ён забяспечыў для будучага гарадзенскага земскага падсудка Ераніма Валовіча пацвярджэнне надання сёл у Крычаўскай дзяржаве (Мсціслаўскае ваяводства) і пляцу ў Мсціславе[64]. Дарэчы, і Кандрат Мялешка, які з 1606 па 1611 гг. прайшоў шлях ад пісара да земскага суддзі Гарадзенскага павета, з'яўляўся кліентам канцлера Льва Сапегі[65]. Аднак наяўных звестак недастаткова, каб казаць штосьці канкрэтнае аб ступені ўплыву стасункаў «патрон-кліент» на фарміраванне складу гарадзенскага земскага суда і яго дзейнасць. Магчыма, падрабязнае і грунтоўнае даследаванне менавіта судовай практыкі дазволіць раскрыць гэтую праблему[66]. Таксама як і пытанне аб ступені непасрэднага ўплыву каралеўскай улады на выбар і прызначэнне мясцовых земскіх судовых ураднікаў.

Члены земскага суда Гарадзенскага павета, акрамя уплывовых патронаў, мелі і даволі цесныя сваяцкія сувязі з прадстаўнікамі як лакальнай, так і агульнадзяржаўнай палітычнай эліты. Важнейшую ролю тут адыгрывалі шлюбныя сувязі. Так, дачка земскага суддзі Івана Масальскага Багдана была жонкай гарадзенскага падкаморага, а потым кухмістра ВКЛ Мікалая Сапегі[67]. Дарэчы, брата земскага суддзі Гарадзенскага павета Льва Сапегі. Сам Леў Сапега быў жанаты на дачцэ выбітнага дыпламата Вялікага Княства другой паловы XVI ст. менскага кашталяна Міхала Гарабурды – Алене[68]. Яшчэ адзін гарадзенскі суддзя Грыгорый Масальскі меў жонку з роду Макаровічаў. Верагодна, гэта была дачка гарадзенскага земскага падсудка Івана Макаровіча[69]. А сястра Грыгорыя Масальскага Марына была жонкай гарадзенскага гродскага суддзі Салуяна Багуфала Дарашковіча[70]. Земскі падсудак Грыгорый Дзяльніцкі быў жанаты на сястры мясцовага харужага і былога земскага пісара Фёдара Кунцэвіча Аўдоцці[71]. Гарадзенскі земскі падсудак Васіль Мялешка праз маці быў звязаны з родам Тышкевічаў, а праз родную сястру Анастасію – з родам Трызнаў[72]. Заўважым, што некаторыя ўраднікі Гарадзенскага земскага суда мелі і даволі ўплывовых сваякоў. Так, братам земскага пісара Фёдара Кунцэвіча быў даволі прыкметны шляхецкі дзеяч Гарадзенскага павета Канстанцін Кунцэвіч[73]. Земскі суддзя Леў Сапега быў сваяком канцлера ВКЛ Льва Сапегі, а таксама меў роднага брата Мікалая, які займаў урады гарадзенскага падкаморага (1582–1589 гг.) і кухмістра ВКЛ (1589–1611 гг.)[74]. З даволі аўтарытэтнага роду ў ВКЛ паходзіў земскі падсудак Еранім Валовіч. Безумоўна, такія сваяцкія сувязі ўмацоўвалі пазіцыі таго ці іншага шляхціча ў асяроддзі мясцовай шляхты, а таксама спрыялі яго палітычнай дзейнасці і кар’еры.

Такім чынам, у канцы XVI–пачатку XVII ст. у складзе земскага суда Гарадзенскага павета ў цэлым пераважала сярэдняя шляхта, як знатнага (Іван і Грыгорый Масальскія, Леў Сапега), так і нязнатнага (Іван Макаровіч, Васіль Мялешка) паходжання. Пасаду гарадзенскага земскага суддзі займалі выключна прадстаўнікі сярэдняй і знатнай шляхты. Разам з тым, і прадстаўнікі дробнай, нязнатнай шляхты (Грыгорый Дзяльніцкі, Фёдар Кунцэвіч, Андрэй Катовіч) абіраліся ў склад суда, а менавіта на ўрады пісара і падсудка. Адзінкавым і надзвычай непрацяглым было трыманне пасады земскага пісара заможным шляхцічам Лаўрынам Войнам. Гарадзенскі земскі суд разглядаемага перыяду можна назваць шматканфесійным і шматэтнічным, аднак, са значным дамінаваннем шляхты славянскага паходжання і з досыць трывалымі пазіцыямі шляхты праваслаўнага веравызнання. Земскія судовыя ўраднікі Гарадзенскага павета актыўна бралі ўдзел у грамадска-палітычным жыцці як на рэгіянальным, так і агульнадзяржаўным узроўні. Яны, безумоўна, адносіліся да лакальнай палітычнай эліты, мелі папулярнасць і аўтарытэт

сярод мясцовай шляхецкай супольнасці. Падкрэслім, што некаторыя члены гарадзенскага земскага суда карысталіся даверам шляхты іншых рэгіёнаў ВКЛ, напрыклад, Віцебскага (Леў Сапега) і Мсціслаўскага (Еранім Валовіч) ваяводстваў. Павятовы земскі суд быў хутчэй вяршыняй кар'еры для павятовай шляхты, а не пляцоўкай для далейшага палітычнага авансу. Нават тая шляхта, якая перайшла на вышэйшыя пасады (Грыгорый Масальскі, Еранім Валовіч, Фёдар Кунцэвіч), ўсё роўна, засталася на лакальным узроўні грамадскага жыцця. Зноў жа, адзіным выключэннем была кар'ера Лаўрына Войны. Важным фактарам прызначэння ў склад суда, на нашу думку, быў папярэдні досвед выканання гаспадарскіх даручэнняў і ўрадавай дзейнасці, у тым ліку і судовай. А такі прафесійны вопыт мелі фактычна ўсе з разгледжаных шляхцічаў. У асяроддзі гарадзенскіх земскіх судовых ураднікаў можна прасачыць і існаванне пратэкцыянісцкіх адносін, і пракаралеўскія арыентацыі. Аднак уплыў кліентальных сувязей і каралеўскага двара на склад ды дзейнасць мясцовага земскага суда патрабуе далейшага вывучэння. Можна казаць пра даволі цесныя сваяцкія і шлюбныя сувязі членаў гарадзенскага земскага суда, як паміж сабой, так і з прадстаўнікамі павятовай ды агульнадзяржаўнай эліты. Што, у сваю чаргу, таксама ўплывала на палітычную дзейнасць і кар'еру гэтых шляхцічаў.

У дадзеным артыкуле была зроблена толькі спроба акрэсліць калектыўны партрэт ураднікаў земскага суда Гарадзенскага павета. Безумоўна, дадзеная праблематыка з'яўляецца далёка не вычарпанай. Перспектыўнымі накірункамі даследавання можна назваць падрабязнае вывучэнне судовай практыкі гарадзенскага земскага суда, палітыка-прававой культуры і ўзроўню адукацыі яго ўраднікаў. Свайго асобнага аналізу патрабуюць і павятовыя возныя. Таксама больш глыбокі разгляд суседска-сваяцкіх сувязей гарадзенскай шляхты можа паказаць нефармальны бок працы мясцовага суда. Неабходнае, нарэшце, правядзенне параўнаўчага аналізу супольнасці гарадзенскіх судовых ураднікаў з аналагічнымі супольнасцямі іншых паветаў Вялікага Княства Літоўскага і, магчыма, іншых рэгіёнаў Рэчы Паспалітай.

---

[1] Гл. на гэты конт погляды А. Шаланды і В. Галубовіча: Галубовіч В. Соймік Гарадзенскага павета ў XVI–XVII стст. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. / Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. Гародня, 2009. С. 153; Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. Частка I: Перадумовы, ход і вынікі рэформы гарадзенскага замкавага суда (1562–1572 гг.) // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст. / Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. Мінск, 2011. С. 22–26. Гл. таксама: Шаланда А. Земскі суд Гарадзенскага павета ў 1555–1564 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. С. 49.

[2] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 2: Województwo Trockie XIV–XVIII wiek / Pod red. A. Rachuby. Warszawa, 2009. S. 286, 301, 321. Як можна меркаваць, першы склад гарадзенскага земскага суда быў сфармаваны да чэрвеня 1565 г. Пра асабовы склад гарадзенскага земскага суда гл. таксама: Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. Земскія ўраднікі Гарадзенскага павета ВКЛ (другая палова XVI – першая палова XVII ст.) // Герольд Litherland. № 17. Год V–VI. Горадня, 2006. С. 98–109; Vilimas D. LDK pavietų žemės teismų pareigūnai (1566–1588 m.): Pirmoji pavietų bajoriškųjų juristų karta // Lituanistica. 2002. Nr. 4. P. 3–27.

[3] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 286; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego (1386–1795). Kraków, 1885. S. 271. Па меркаванні беларускага даследчыка В. Галубовіча, менавіта Ф. Кунцэвіч стаў першым сапраўды выбарным ураднікам земскага суда Гарадзенскага павета: Галубовіч В. Соймік Гарадзенскага павета… С. 153.

[4] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 241, 286.

[5] Ibid. S. 301.

[6] Ibid. S. 301.

[7] Ibid. S. 321.

[8] Ibid. S. 302.

[9] Ibid. S. 298, 321.

[10] Ibid. S. 302.

[11] Ibid. S. 286, 302, 321.

[12] Падалінскі У. Павятовая палітычная эліта ў святле дзейнасці гарадзенскага сойміка ў другой палове XVI ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. С. 182–192. Пра палітычную дзейнасць В. Мялешкі фактычна нічога не вядома.

[13] Нашы крытэрыі падзелу шляхты ВКЛ на маёмасныя групы гл.: Падалінскі У. Палітычная эліта Лідскага павета ў апошняй трэці XVI ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 16, сш. 1 (30). 2009. С. 3–30.

[14] Русская историческая библиотека (далей – РИБ): В 39 т. Т. 33: Литовская Метрика. Отдел третий. Ч. 3: Книги публичных дел. Переписи Литовского войска. Петроград, 1915. Стб. 472.

[15] РИБ. Т. 33. Стб. 532–533. Пра актыўную грамадскую і фінансава-гаспадарчую дзейнасць г. Масальскага гл.: Vilimas D. LDK pavietų žemės… P. 8; Wiśniewski J. Massalski (Mosalski) Hrehory Afanasewicz // Polski Słownik Biograficzny (далей – PSB). T. 20/1, z. 84. Wrocław etc., 1975. S. 134–135.

[16] РИБ. Т 33. Стб. 520, 708.

[17] РИБ. Т 33. Стб. 846–847. На жаль, не захавалася лічба коннікаў, якіх В. Мялешка ставіў у войска ВКЛ у 1565 г.: Там же. Стб. 256.

[18] Lulewicz H. Sapieha Lew h. Lis (zm. 1610) // PSB. T. 35/1, z. 144. Warszawa–Kraków, 1994. S. 83–84. Гл. таксама: Sapiehowie. Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe: W 3 t. T. 1. Petersburg, 1890. S. 209–210.

[19] РИБ. Т 33. Стб. 460–461.

[20] Тамсама. Стб. 677.

[21] Тамсама. Стб. 694.

[22] Е. Валовіч паходзіў з адносна беднай галіны роду. Так, у 1528 г. яго дзед Марк Валовіч ставіў у войска ВКЛ толькі 2 коннікаў: Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года / Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 523. Кніга публічных спраў 1. Падрыхт. да друку А. Груша, М. Спірыдонаў, М. Вайтовіч. Мінск, 2003. С. 95. Гл. таксама: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску (далей – НГАБ), ф. КМФ-18, воп. 1, адз. з. 76, арк. 12адв.–13адв.

[23] Гл. напрыклад: Vilimas D. LDK pavietų žemės... P. 8.

[24] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией: В 39 т. Т. 2. Вильна, 1867. С. 43; Czarnocki K. Historie o Mieleszkach / do druku podał K. Czarnocki. Warszawa, 2008. S. 37; Liedke M. Od prawosławia do katolicyzmu. Ruscy możni i szlachta Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec wyznań reformacyjnych. Białystok, 2004. S. 89.

[25] Lulewicz H. Sapieha Lew... S. 84.

[26] Wiśniewski J. Massalski (Mosalski) Hrehory... S. 134.

[27] Без спасылкі на крыніцу Ераніма Грыгор'евіча Валовіча каталікам называе польская даследчыца М. Ледке: Liedke M. Od prawosławia do katolicyzmu. S. 116. Праўда, памылкова лічыць яго сынам навагародскага кашталяна Грыгорыя Валовіча.

[28] Хутчэй за ўсё, наступнае пакаленне Кунцэвічаў перайшло з праваслаўя ва ўніяцтва. Так, гарадзенскі харужы Якуб Кунцэвіч, сын Ф. Кунцэвіча, разам са сваёй жонкай Барбарай у XVII ст. падараваў зямельныя ўчасткі ў Гародні для ўніяцкага манастыра базыльянак: Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня (Сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў 16–18 ст.). Гародня–Wrocław, 2008. С. 231.

[29] Катовічы і Мялешкі паходзілі з Валыні: Liedke M. Od prawosławia do katolicyzmu. S. 89, 94; Niesiecki K. Herbarz Polski / Wyd. J. Bobrowicz. T. 5. Lipsk, 1840. S. 329, T. 9. Lipsk, 1842. S. 433–438; Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku / Ułożył i wydał A. Boniecki. Warszawa, 1887. S. 150–151.

[30] Напр., балцкае паходжанне Валовічаў выводзіў К. Нясецкі: Niesiecki K. Herbarz Polski. T. 9. S. 414. Погляд пра літоўскія карані Валовічаў зацвердзіўся і ў польскай гістарыяграфіі XX ст.: Wasilewski T. Testament Ostafiego Wołłowicza // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1962. T. 7. S. 165.

[31] Liedke M. Od prawosławia do katolicyzmu. S. 84; Poczet rodów... S. 381.

[32] Niesiecki K. Herbarz Polski. T. 5. S. 441–442.

[33] Шаланда А. Земскі суд Гарадзенскага павета ў 1555–1564 гг. С. 44–49; Ён жа. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. С. 22, 28–30; Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 286, 305–306.

[34] Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. С. 27; Ён жа. Дарэформенны земскі суд Гарадзенскага павета ў 1562–1564 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. С. 53.

[35] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 302; Volumina Constitutionum. T. II (1550–1609). Vol. 2 (1587–1609). Warszawa, 2008. S. 136.

[36] Lulewicz H. Sapieha Lew... S. 83.

[37] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 278.

[38] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 302; Vilimas D. LDK pavietų žemės… P. 17. Хаця г. Дзяльніцкі і пакінуў пасаду падсудка, але працягваў удзельнічаць у палітычным жыцці. Так, у 1593 г. ён прадстаўляў Гарадзенскі павет на Галоўным з'ездзе ВКЛ у Вільні: Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. 2: Okresy panowań królów elekcyjnych XVI–XVII wiek / Oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2009. S. 104.

[39] Раздзел 3, артыкул 6: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. Мінск, 1989. С. 116. Дарэчы, цікавую інфармацыю пра ўяўленні часткі шляхты ВКЛ аб іерархіі земскіх і павятовых урадаў на мяжы XVI/XVII ст. гл.: Wisner H. Hierarchia urzędów świeckich Wielkiego Księstwa Litewskiego w świetle projektu poprawy systemu obronnego (1601 r.) // Miscellanea Historico-Archivistica. T. VII. Warszawa, 1997. S. 45–49.

[40] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 241, 286, 298, 302.

[41] Wolff J. Senatorowie i dygnitarze... S. 186, 191, 271.

[42] г. Масальскі быў соймавым паслом і ў 1590 г.: Падалінскі У. А. Прадстаўніцтва Гарадзенскага павета на соймах Рэчы Паспалітай у апошняй трэці XVI ст. // Леў Сапега

(1557–1633 гг.) і яго час: зб. навук. арт. Гродна, 2007. С. 32, 34, 35. На жаль, інфармацыя аб соймавым прадстаўніцтве Гарадзенскага павета за апошнюю трэць XVI–пачатак XVII вельмі абмежаваная.

43 НГАБ, ф. КМФ-18, воп. 1, адз. з. 257, арк. 30адв.; адз. з. 272, арк. 60адв.

44 Akta zjazdów... T. 2. S. 170, 173, 175.

45 Akta zjazdów... T. 1: Okresy bezkrólewi / Oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2006. S. 169, 280.

46 Deputaci Trybunału... S. 96, 106, 109. Дэпутатамі Трыбунала ВКЛ з Гародні абіраліся таксама Ф. Кунцэвіч (1588 г.) і Р. Масальскі (1597 г.): Ibidem. S. 74, 101.

47 Volumina Constitutionum. T. II (1550–1609). Vol. 1 (1550–1585). Warszawa, 2005. S. 429.

48 РИБ. Т. 30: Литовская Метрика. Отдел первый–второй. Ч. 3: Книги публичных дел. Юрьев, 1914. Стб. 666; Lietuvos Metrika / Liet. istorijos inst. Kn. 531: 1567–1569 / Parengė L. Anužytė ir A. Baliulis. Vilnius, 2001. P. 53, 134. У 1568 г. у Гарадзенскім павеце функцыі паборцы выконваў ужо былы земскі пісар Ф. Кунцэвіч: РИБ. Т. 30. Стб. 451.

49 Volumina Constitutionum. T. II, vol. 1. S. 427, 461.

50 Volumina Constitutionum. T. II, vol. 2. S. 136. Шафар – адказны за паступленне і размеркаванне падаткаў. Не выключана, што Е. Валовіч быў у 1589 г. і паслом ад Мсціслаўскага ваяводства.

51 Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 1. Вильна, 1881. Гл. таксама: Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. С. 21–22, 113, 238–239.

52 Любавский М. К. Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. Приложения. Москва, 1900. С. 103, 104.

53 Любавский М. К. Литовско-русский сейм. Приложения. С. 180; РИБ. Т. 33. Стб. 520, 708; Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 301.

54 Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 302.

55 Лаппо И. И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911. Приложения. С. 54.

56 Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею: В 5 т. Т. 3. СПб., 1848. С. 259.

57 Галубовіч В. Соймік Гарадзенскага павета… С. 154–163.

58 Роля судовых інстытутаў, у тым ліку і земскага суда, у палітычным жыцці, а таксама ўзаемны ўплыў судовых і палітычных органаў улады на прыкладзе Малой Польшчы вельмі яскрава паказаны ў працы польскага гісторыка В. Сакалоўскага: Sokołowski W. Politycy schyłku złotego wieku. Małopolscy przywódcy szlachty i parlamentarzyści w latach 1574–1605. Warszawa, 1997.

59 Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. С. 26; Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 305–306, 337.

60 РИБ. Т. 33. Стб. 694. Хаця, у 1567 г. непасрэдна адзначалася, што Р. Дзяльніцкі служыць «королю его милости»: Там же.

61 Ragauskienė R. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (Apie 1515–1584 m.). Vilnius, 2002. P. 374.

62 НГАБ, ф. КМФ-18, воп. 1, адз. з. 257, арк. 34адв. Сярод іншых сведак быў і гарадзенскі маршалак Іван Валовіч, стрыечны брат А. Валовіча.

63 Шаланда А. Дарэформенны земскі суд Гарадзенскага павета ў 1562–1564 гг. С. 48.

64 НГАБ. ф. КМФ-18, воп. 1, адз. з. 76, арк. 12адв.–13адв.

65 Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. Земскія ўраднікі Гарадзенскага павета… С. 104.

66 Напрыклад, ужо наяўныя даследаванні працы гарадзенскага гродскага суда паказваюць, што ён не заўсёды кіраваўся ў сваёй дзейнасці выключна прававымі нормамі: Шаланда А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVII ст. С. 34–36.

[67] Lulewicz H. Sapieha Mikołaj h. Lis (zm. 1611) // PSB. T. 35/1, z. 144. Warszawa–Kraków, 1994. S. 121.
[68] Lulewicz H. Sapieha Lew... S. 84.
[69] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 301; Wiśniewski J. Massalski (Mosalski) Hrehory... S. 134.
[70] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 315.
[71] Urzędnicy Wielkiego Księstwa... S. 302; Vilimas D. LDK pavietų žemės... P. 11.
[72] Czarnocki K. Historie o Mieleszkach. S. 37–38.
[73] Пра К. Кунцэвіча гл.: Падалінскі У. Павятовая палітычная эліта… С. 182, 184, 185, 191.
[74] Lulewicz H. Sapieha Mikołaj... S. 120–122.

*Віталь Галубовіч*
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

# Грамнічныя соймікі Гарадзенскага павета ў XVIII ст.: даследчая мазаіка

У структуры дзяржаўных установаў Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVIII стст. павятовыя соймікі адыгрывалі ключавую ролю. Можна і трэба сцвярджаць, што ад соймікаў у гэтай краіне залежала ўсё, паколькі фармальна інстытуты ўлады, пачынаючы з мясцовых судоў і сканчваючы парламентам і ўладаром, фармаваліся пры іх пасрэдніцтве. Адсюль узнікае магчымасць даследавання працэсу соймікавання праз дыферэнцыяцыю яго асобных функцый. Мэтай дадзенага артыкула з'яўляецца спроба абагульніць некаторыя звесткі пра грамнічныя соймікі ў Гарадзенскім павеце. Улічваючы тыя абставіны, што найбольш каштоўная частка крыніц па гісторыі Гарадзенскага сойміка, а менавіта гродскія кнігі XVI–XVII ст., да нашага часу не захаваліся, даследаванне грунтуецца пераважна на дадзеных XVIII ст.

У гістарыяграфіі парадак арганізацыі дэпутацкіх і спадарожных ім соймікаў неаднойчы станавіўся прадметам асобнага даследавання. Ужо расейскі даследчык І. Лапа акрэсліў асноўныя адметнасці грамнічных сходаў на матэрыяле XVI – першай паловы XVII ст.[1]. Найбольш істотна ўяўленне пра дэпутацкія грамнічныя і іншыя сходы былі зробленыя ў даследаваннях польскіх гісторыкаў А. Закшэўскага і А. Рахубы[2]. У беларускай гістарыяграфіі да падзеяў на гарадзенскіх соймікаў у кантэксце палітычнай барацьбы магнацкіх груповак звяртаўся А. Мацук[3]. Істотным дасягненнем польскай гістарыяграфіі ў накірунку вывучэння дэпутацкіх соймікаў з'яўляецца публікацыя ў 2004–2007 гг. спісаў трыбунальскіх суддзяў па кожным павеце ВКЛ[4].

Так званыя грамнічныя соймікі абавязаны сваім з'яўленнем часам Стэфана Баторыя, калі быў утвораны вышэйшы апеляцыйны суд дзяржавы – Трыбунал ВКЛ. Для забеспячэння рэгулярнага абнаўлення складу гэтай установы ў адпаведнасці з пастановай варшаўскага сойма 1581 г. у ВКЛ пачынаючы з 1582 г. уводзіўся новы тып павятовага сойміка – дэпутацкага, які кожны год склікаўся на свята Грамніцаў[5]. Акрамя функцыянальнага боку, адметнасцю гэтага сойміка стала яго прывязка да акрэсленага часу, што зрабіла яго выключна зручнай нагодай для вырашэння самых разнастайных пытанняў.

*Удзельнікі соймікаў*

Пытанне пра колькасць удзельнікаў гарадзенскіх соймікаў закранaлася намі некалькі разоў, аднак ні ў адным выпадку гаворка не ішла пра грамнічныя дэпутацкія нарады. Паколькі дакладнай статыстыкі прысутных няма, то пра колькасць прысутных на грамніцах можна ўмоўна меркаваць толькі па спісах подпісаў пад грамнічнымі крэдэнсамі і ляўдумамі. Для ілюстрацыі абмяжуемся выбарачнымі дадзенымі, якія па аб'ектыўных прычынах датычацца XVIII ст. Ляўдум 1719 г. падпісалі 34 шляхціцы[6], 1741 – 58[7], 1743 г. – 34[8] 1754 г. – 28[9]. Пад крэдэнсам на дэпутацыю 1767 г. пастаўлена 110 подпісаў[10], 1770 г. – 60[11], 1772 г. – 147[12], 1780 г. – 67[13], 1783 г. – 83[14], 1785 г. – 72[15]. Магчыма, гэтыя дадзеныя і не адлюстроўваюць рэальную лічбу прысутных, але адначасова дэманструюць уяўленне складальнікаў дакументаў пра колькасць асобаў, неабходную для легітымацыі абраных на дэпутатаў. Відавочна, што ў часы Станіслава Аўгуста на дэпутацкія соймікі збіралася сама меней каля сотні шляхціцаў. Але гэта датычыцца толькі дэпутацкай часткі грамнічных нарадаў. Значна большая колькасць падпісантаў грамнічных дакументаў зафіксавана ў надзвычайных сітуацыях, якія фармальна не датычацца выбараў трыбунальскіх суддзяў. Напрыклад, пастанову на выкананне дэпутацкіх функцый складзеную, 3 лютага 1783 г., падпісалі больш 80 шляхціцаў, а складзеную праз два дні заяву супраць няслушнага абрання харужага гарадзенскага больш за паўтысячы асобаў[16]. Атрымліваецца, што далёка не ўсе прысутныя падпісвалі дакументы.

З часу свайго з'яўлення дэпутацкія соймікі сталі важным пунктам прыцягнення мясцовай шляхты і магнатаў, чые інтарэсы былі шчыльна звязаныя з паветам. У 1621 г. на мясцовыя грамніцы ездзіў, на той час падканцлер ВКЛ, Яраш Валовіч, праўда, не вядома, ці здолеў прыняць удзел у самім сойміку, бо ён пісаў 10 лютага з Саколкі да Крыштафа Радзівіла: «*свядома выправіўся да Гародні на грамнічны соймік, каб паспрабаваць, ці не будуць цяжкімі гэтыя маразы пры маёй старасці і слабым здароўі, але ледзь не мёртвага мяне з саней знялі ў Гародні, дзе я, над звычай, мусіў пажыць некалькі дзён пасля сойміка, каб зберагчы здароўе і чакаючы адлігі*»[17].

У XVIII ст. аснову прысутных на дэпутацкіх сойміках складалі мясцовыя ўраднікі, якія і верхаводзілі пры абранні дэпутатаў. Часам заўважаецца прысутнасць і больш паважаных асобаў: віленскі ваявода Казімір Ян Сапега ў 1700 г., смаленскі біскуп Людвік Караль Агінскі ў 1719 г.[18], лоўчы ВКЛ Міхал Сапега ў 1741 г.[19], віленскі каштылян Міхал Масальскі ў 1748 г.[20] Але толькі адзін сенатар быў рэгулярным наведвальнікам соймікаў, надворны падскарбі Антоні Тызенгаўз.

*Кіраванне нарадамі*

Ад таго, хто ачольвае нарады ці як адбываецца працэс абрання спікера, у вялікай ступені залежаць іх вынікі. Да праблемы кіравання соймікавымі нарадамі на прыкладзе пасольскага сойміка мы ўжо звярталіся[21], тым не менш варта асобна вылучыць яе і ў адносінах гарадзенскіх грамніцаў.

Як і ў выпадку з перадсоймавымі соймікамі грамнічныя нарады ў Гародні далёка не заўжды адбываліся пад кантролем мясцовых павятовых маршалкаў. У 1700 г. дырэктарам аднаго раздвоенага сойміка быў віленскі ваявода Казімір Ян Сапега, у 1710 г.– Юрый Кміт з Казельска Агінскі, радашковіцкі староста[22], у 1711 г. – Жыгімонт Алексы Бухавецкі, земскі пісар, у 1737 г. – Антоні з Ваганава Міцута, гарадзенскі падстолі і падстароста, у 1743 г. – Якуб Храптовіч, мечнік, у 1754 г. – Лукаш Барановіч, гараднічы, у 1765 г. – Тадэвуш Юндзіл, падкаморы, у 1791 г. – Францішак Юндзіл, падкаморы[23].

Дарэчы, нашы назіранні дазволілі крыху дапоўніць апублікаваныя польскімі і беларускімі даследчыкамі звесткі пра дырэктараў. Так, паводле актавага запісу ад 19 лютага 1714 г. дырэктарам грамнічнага сойміка 1714 г., называецца Караль Міцута[24] а згодна з лістом Жыгімонта Вала ад 7 лютага 1736 г., грамнічны соймік прайшоў пад «*дырэкцыяй яго міласці пана гарадзенскага падкаморыя*»[25], якім на той час быў Казімір Фларыян Міцута[26]. «*Ляўдум грамнічнага сойміка найсвятлейшага Гарадзенскага павета*» актыкаваны 10 лютага 1768 г. сведчыць, што дырэктарам, прынамсі 8 лютага, быў не Ігнат Храптовіч[27], а пры адсутнасці апошняга («*in absentia jasnie wielmożnego pana Chreptowicza*») – Ян Мароз, гарадзенскі будаўнічы, які падпісаў дакумент як маршалак грамнічнага сойміка[28].

Адметна, што з трох дзесяткаў грамнічных соймікаў, імёны дырэктараў якіх вядомыя, менш траціны адбыліся пад кіраўніцтвам павятовых маршалкаў. Грамнічныя соймікі выконвалі настолькі важную ролю, што маршалкам давяралі весці нарады толькі ў сітуацыях, калі можна было кантраляваць іх палітычную лінію. Відаць, толькі няўпэўненасць у выніках грамнічных нарадаў змусіла Антонія Тызенгаўза чатыры гады запар, пачынаючы з 1769 г. і да 1772 г., манапалізаваць дырэктарскія функцыі[29]. Зрэшты, менавіта знакамітаму гарадзенскаму рэфарматару належыць бясспрэчнае пяршынства ў колькасці вядомых выпадкаў дырэктарства, бо з улікам раздвоенага сойміка 1763 г. ён кіраваў на Грамніцы пяць разоў[30].

Цікава, што нават зрыў сойміка не спыняў некаторых амбітных дырэктараў у жаданні пакіраваць. Такі выпадак зафіксаваны ў 1715 г., калі вялікая група шляхціцаў (дакумент падпісалі амаль шэсцьдзесят чалавек) занесла пратэстацыю на Самуэля Лазовага, які разам з ураднікамі пасля

скасавання легальных нарадаў 4 лютага працягваў на наступны дзень соймікаванне пад сваім старшынствам, чым выклікаў незадаволенасць шляхціцаў[31]. Само пытанне пра дырэктарства часам станавілася больш прынцыповым, чым усё астатняе, у тым ліку абранне дэпутатаў. У 1732 г. грамнічны соймік быў сарваны на стадыі вызначэння дырэктара, калі прысутныя «*адзін аднаму саступалі дырэктарскія паўнамоцтвы і змарнаваўшы цэлы дзень на гэтую асаблівую цырымонію, бясплённа разышліся*»[32]. Аналагічная сітуацыя мела месца у 1756 г., калі дэпутацкі соймік «*разышоўся на дырэктары*»[33].

Асаблівасцю грамнічных нарадаў было тое, што для кіравання ўсімі разнавіднасцямі нарадаў – ад дэпутацкіх да гаспадарчых – выбіралі аднаго дырэктара, які быў сташынёй спачатку на трыбунальскім, а потым на іншых сойміках, калі такія праводзіліся.

У XVIII ст. павятовыя маршалкі станавіліся на чале грамнічных нарадаў не так часта. З дзевяці гарадзенскіх маршалкаў гэтага часу пра некаторых увогуле не вядома, каб яны былі грамнічнымі дырэктарамі: Крыштаф Міцута, Антоні Тамаш з Ваганава Міцута (быў дырэктарам толькі як падстолі – гл. выш.). Пра большасць можна дакладна сцвярджаць, што яны хаця б аднойчы стаялі на чале грамнічных соймікаў: соймік 1705 г. праходзіў пад старшынствам Яна Масальскага, соймікі 1716, 1719, 1721 гг. – Крыштафа Віктарыяна Юндзіла, 1773 і 1776 гг. – Юзафа Валовіча, 1792 г. – Казіміра Волмера[34].

### *Выбары дэпутатаў*

Абранне дэпутатаў магло адбывацца па некалькіх сцэнарах. Пры спрыяльных для пэўнай палітычнай групы ўмовах дэпутатаў абіралі «*liberis suffragiis per pluralitatem*», 7 лютага 1765 г.[35] У сітуацыі адсутнасці кансенсуса выбары адбываліся ў канфліктнай форме, што прыводзіла да зрыву пасяджэнняў і, адпаведна, недаабрання дэпутацкага камплекта. Такая сітуацыя мела месца ў 1713 г., 1715 г., 1725 г., 1730 г., 1742 г., 1756 г. і іншых гадах[36]. Толькі ў асобных выпадках, і пад уздзеяннем канфрантацыі паміж палітычнымі групоўкамі дэпутацкія соймікі ў Гародні раздвойваліся. Так было ў 1700 г., калі сапежынская і рэспубліканская партыі правялі асобныя соймікі і абралі два камплекта дэпутатаў[37], а таксама ў 1763 г., калі на мясцовым грунце разгарнулася барацьба прыхільнікаў Радзівілаў і Чартарыйскіх[38]. Аналіз храналогіі зрываў грамнічных соймікаў сведчыць, што ўсе яны адбыліся на працягу першай паловы – сярэдзіны XVIII ст. Пачынаючы з 1765 г. і да канца існавання Рэчы Паспалітай зрываў дэпутацкіх соймікаў у Гарадзенскім павеце не было, а мясцовыя абывацелі рэгулярна абіралі сваіх суддзяў у Трыбунал.

*Дэпутаты Гарадзенскага павета*

Дзякуючы намаганням польскіх гісторыкаў пагадовыя спісы трыбунальскіх суддзяў, абраных гарадзенскай шляхтай за час існавання Трыбунала ВКЛ, былі апублікаваныя яшчэ ў 2004 г. Фактычныя дапаўненні ці ўдакладненні гэтага спіса маюць другасны характар. Так, паводле гэтай публікацыі, гарадзенскія дэпутаты Ігнатовіч і Рукевіч, абраныя на сойміке 1763 г. пад старшынствам Антонія Тызенгаўза, не ўдзельнічалі ў працы Трыбунала[39], а беларускі даследчык А. Мацук сцвярджае, што выбары іх былі прызнаныя легітымнымі і яны ўвайшлі ў лік суддзяў[40].

Абраныя ці, часцей, фармальна абраныя гарадзенскія дэпутаты, не гледзячы на тое, што мусілі прадстаўляць інтарэсы сваіх патронаў, належалі ў масе сваёй да найбольш уплывовых мясцовых родаў: Катовічаў, Міцутаў, Юндзілаў, Александровічаў, Боўфалаў, Валовічаў, Эйсмантаў, Валаў, Волмераў.

Здараліся выпадкі, калі гарадзенскія дэпутаты не праходзілі працэдуру верыфікацыі сваіх паўнамоцтваў і пазбаўляліся права удзельнічаць у пасяджэннях Трыбунала, як гэта мела месца ў 1745 г.[41]

*Гарадзенскія дэпутаты – трыбунальскімі маршалкамі*

Прадстаўнікі гарадзенскага павета не вельмі часта станавіліся маршалкамі Трыбуналу ВКЛ. У XVIII ст. вядомы пяць выпадкаў, калі на чале вышэйшай апеляцыйнай установы краіны абіраліся гарадзенскія дэпутаты: у 1708 г. – Казімір Ян Сапега, віленскі ваявода, у 1741 г. і 1748 г. – гарадзенскія старосты, адпаведна Міхал Масальскі і Юзаф Адрыян Масальскі, у 1747 г. – Ян Міхал Давойна Салагуб, берасцейскі ваявода, у 1784 г. – Францішак Ельскі, старадубскі падкаморы[42]. З пункту гледжання лакальных інтарэсаў, найбольш звязанымі з Гарадзенскім паветам, хіба, былі Масальскія.

Атрыманне вельмі ўплывовай пасады маршалка залежала ад палітычнай сітуацыі і заўжды было вынікам вельмі складанай і папярэдне падрыхтаванай гульні. Узыход у 1708 г. на маршалкоўскі пасад К. Я. Сапегі быў у значнай ступені абумоўлены падтрымкай шведаў. Князі-старосты Масальскія маршалкоўства здабылі праз асабістыя сувязі. За дапамогай у пратэкцыі М. Масальскі пісаў асабіста да сваіх уплывовых патронаў. Пра што сведчыць яго ліст ад 7 лютага 1741 г. да канцлеравай Канстанцыі з Радзівілаў Сапегавай, дзе паведамляючы аб сваім абранні дэпутатам на грамнічным сойміку ў Гародні, ён просіў «*ласку*» трыбунальскага маршалка, запэўніваючы, што дасць «*доказ належнай удзячнасці*»[43]. Як Масальскі залежаў ад гэтай падтрымкі, відаць з паўтору просьбы ў лісце ад 21 лютага 1741 г.[44] Акрамя Сапегаў, М. Масальскі атрымаў гарантыі ад віленскага

ваяводы Міхала Чартарыскага ды віцебскага ваяводы Марціна Агінскага, што забяспечыла яму канчатковы поспех[45]. Праз сем гадоў маршалкоўства яго сына Юзафа Адрыяна стала вынікам згоды паміж Міхалам Казімірам Радзівілам і Міхалам Чартарыйскім ды дамоўленасцей самога Міхала Масальскага[46], на той час ўжо віленскага кашталяна і польнага гетмана. Юзаф Адрыян Масальскі, відавочна, быў толькі актыўным статыстам: дэпутацкі мандат ён здабыў на сойміке, дзе дырэктарам быў сам – М. Масальскі[47], а ўсё астатняе гарантавалі сувязі апошняга. Хаця Ю. А. Масальскі і сам спрабаваў здабыць пратэкцыю і рассылаў лісты да ўплывовых асобаў. Напрыклад, 11 лютага 1748 г. ён склаў ліст да Яна Фрыдэрыка Сапегі, канцлера ВКЛ, з просьбай, каб апошні яго «*вялікім сваім крэдытам падтрымаць мог*»[48].

*Інцыдэнты*

Штогадовае соймікаванне на свята Грамніц не заўжды было падставай для пошуку кампрамісу. Больш таго, менавіта на лютаўскія соймікі прыпадае вялікая колькасць сутыкненняў, злоўжыванняў і правапарушэнняў крымінальнага зместу. Некаторыя з такіх выпадкаў трапілі ў поле зроку гісторыкаў, як, напрыклад, факт спойвання перад грамнічным соймікаваннем у 1741 г. усёй радзівілаўскай партыі і прызначэння выбараў дэпутатаў на чатыры гадзіны раніцы[49]. Улічваючы абмежаванасць дэталёвых звестак пра інцыдэнты, спынімся на некалькіх беспрэцэдэнтных узорах праяў «шляхецкай дэмакратыі» у Гародні, тым больш, што гэтая тэма застаецца актуальнай і для нашага часу.

*Падзеі 1717 г.* Крыніцы дазваляюць аднавіць шэраг адметных і надзвычай паказальных падзеяў, якія адбыліся ў час лютаўскіх соймікаў гарадзенскай шляхты. Прыкладам злоўжывання і парушэння прававых нормаў сталіся грамніцы 1717 г., вынікі якіх мелі выразнае крымінальнае адценне, а таму трапілі на разгляд адказных за такія справы судовыхураднікаў у асобах гарадзенскага старосты Грыгорыя Катовіча і яго намесніка Лукаша Барановіча. У іх прысутнасці 10 лютага 1717 г. у кнігі гарадзенскага гродскага суда быў актыкаваны маніфест-пратэстацыя мясцовых зямян Міхала Радзіваноўскага і Фларыяна Абухоўскага з абвінавачаннем войскага гарадзенскага павета Самуэля Лазовага і вядомых апошняму, «*прынцыпалу,*» шматлікіх іншых саўдзельнікаў, названых «*гвалтаўнікамі і злачынцамі*»[50]. Сутнасць падзеяў выкладалася ў наступнай паслядоўнасці. Са словаў пацярпелых, ініцыятар здарэння, пан войскі, прыбыў на грамнічны соймік да Гародні і «*…змовіўшыся з вяльможным яго міласцю панам Юндзілам, гарадзенскім маршалкам, ды іншымі іх міласцямі панамі ўраднікамі, карумпуючы некаторую шляхту, схіліў іх да таго, каб яго абралі дэпутатам да Трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага, што права паспалітае рабіць*

*забараняе, бо вольнымі галасамі належыць быць абраным, а паколькі абвінавачаны пан Лазовы* ***быў да сойміка намінаваны*** *дэпутатам праз яго міласць пана маршалка, а не абраны шляхтай, то пра гэта пацярпелыя, разам з іншымі іх міласцямі, аберагаючы вольнасці шляхецкія, правы і соймавыя канстытуцыі, восьмага лютага склалі пратэстацыю, якая мела подпісы паноў абывацеляў Гарадзенскага павета і была аддадзена для запісу ў актавыя кнігі гарадзенскай гродскай канцылярыі…*»[51]. У пратэстацыі быў зафіксаваны факт незаконнага абрання і атрымання ад павятовага маршалка адпаведнага пасведчання – крэдэнса. Пратэстуючыя таксама запатрабавалі, каб пасля ўскрыцця злоўжывання ўраднікі спынілі соймікавыя нарады ў сціслым коле, але ў адказ атрымалі на свой адрас ад пана Лазовага пагрозу аб «*збіцці да смерці*». Цікава, што гэты ўраднік, як і яго супольнік маршалак, гарадзенскі старосціч[52], быў да такой ступені ўпэўнены ў сваёй беспакаранасці, што неўзабаве прыступіў да выканання сваіх абяцанак, для чаго сабраў грамаду з ліку сваіх слуг, чэлядзі, і загадаў ім сваіх апанентаў «у *месце Гародні і ўдзень, і пасярод ночы хапаць і збіваць*». Паміж іншымі 9 лютага 1717 г. ад «пахвалкі» пана войскага пацярпелі Міхал Радзіваноўскі ды Фларыян Абухоўскі, якіх «*ні ў чым не вінаватых людзей, шляхту радавітую, гвалтам ўзятых да вязніцы, не зважаючы на паспалітае права, соймавыя канстытуцыі,* [Я. Лазовы] *найперш словамі несумленнымі, гонару шляхецкага неадпаведнымі, на стацыі*[53] *іх у Гародні ілгаў, лаяў, як хацеў прыніжаў, а потым загадаў нарыхтаваць кіёў, якімі пратэстуючых асобаў па-тыранску неміласэрна з пазбаўленнем шляхецкага гонару, паасобна паклаўшы, білі, мардавалі, пачынаючы ад галавы ажно да ступняў, пакідаючы крывёй зацёклыя сінякі, і так біць загадаў, што іх амаль да смерці не збілі…*»[54]. Ледзь жывых шляхціцаў прынеслі да гасподаў, але ўжо на наступны дзень (!) яны былі ў стане зрабіць заяву пра злачынства ў судзе. Складана сказаць, наколькі такая практыка фармавання дэпутацкага камплекта ад павета была пашыранай, але ў самой пратэстацыі сустракаецца характэрны выраз для вызначэння здарэння – «*нечуванае бяспраўе*», што, сапраўды, можа сведчыць пра выключнасць падобнай сітуацыі для гарадзенскіх грамнічных соймікаў. Магчыма, што карупцыйная «суполка» войскага і маршалка стала вынікам іх прыблізна адначасовага падвышэння ў павятовай іерархіі: Крыштаф Віктарын Юндзіл упершыню згадваецца як маршалак 3 лютага 1716 г., а Самуэль Казімір Лазовы атрымаў намінацыю 14 лютага 1716 г.[55] Праўда, малаверагодна, каб «*бяспраўе*» было рэдкасцю ў Гародні, дзе не было недахопу ў міжфракцыйным супрацьстаянні ні раней, ні пазней, а ўраднікі традыцыйна прымалі рашэнні ў вузкім коле[56]. Аднак, нельга выключаць і таго, што самі пацярпелыя свядома ціснулі на правасуддзе абараняючы ўласныя інтарэсы, альбо, сапраўды, не мелі выразнага ўяўлення пра

Асабліва высокай была смяротнасць у дзіцячым узросце. Паводле дадзеных на 1840 г., больш за 50% памерлых сярод гарадзенскіх габрэяў складалі дзеці ва ўзросце да 7 г.[15] Гэтую сумную статыстыку стваралі дрэннае акушэрства, звычай нараджаць не ў шпіталі, а ў хаце, дзе адсутнічалі кваліфікаваная ўрачэбная дапамога і належныя санітарныя ўмовы, а таксама абразанні. Шмат дзяцей памірала ад дыфтэрыі. Як было адзначана ў павятовай справаздачы па ўрачэбнаму ведамству: «Усе выпадкі крупу скончыліся неспрыяльным вынікам, таму што бацькі не звяртаюць увагі пакуль дзіця не пачне захлынацца»[16].

Пры гэтым смяротнасць у дзіцячым узросце сярод габрэяў Расійскай імперыі ў сярэдзіне XIX ст. была меншая, чым сярод іншых канфесійных груп. Дадзеныя Цэнтральнага статыстычнага камітэта на 1867–1870 гг. сведчаць: з кожнай тысячы народжаных дзяцей памерлі на працягу першага году жыцця 277,5 праваслаўных, 211,8 пратэстантаў, 175,3 магаметан і толькі 149,8 габрэяў. С. О. Грузенберг тлумачыў гэтую з’яву тым, што грамадская мараль вучыла глядзець кожнага мужа на павялічэнне сям’і як на Божае блаславенне, якое павінна прынесці новае шчасце. Да дзяцей ставіліся з вялікай любоўю, забяспечвалі парадзісе і нованароджанаму найлепшы клопат, цікавіліся станам іх здароўя[17].

Нізкая ў параўнанні з хрысціянамі смяротнасць сярод дарослых тлумачыцца асаблівай увагай да гігіены, якая ўласціва для габрэйскай традыцыі. Як справядліва адзначаў І. Абрахамс, «[у іўдаізме існавала – *В. С.*] празмерная рэгламентацыя ў галіне рытуальнага ачышчэння, але тут габрэі больш набывалі, чым гублялі»[18]. Для ўсіх прадстаўнікоў габрэйскай супольнасці абавязковымі былі наведванні лазні хаця б раз на тыдзень перад шабатам. Амавенне ў рытуальным басейне (мікве) жанчыны рабілі пасля «забароннага перыяду» і нараджэння дзіцяці. Перапісчыкі святых тэкстаў змывалі грахі перад пачаткам працы над Торай. Сучаснікі адзначалі, што габрэям менш шкоды наносілі эпідэміі, а практыка ранніх шлюбаў і адданасць сямейнаму жыццю прадухілялі распаўсюджванне венерычных хвароб.

***Прафілактыка захворванняў.*** Багатае на адкрыцці XIX стагоддзе прынесла цікаўнасць да тэхнічных ведаў і навуковай літаратуры. З’явілася разуменне залежнасці здароўя ад ладу жыцця і стану нервовай сістэмы, неабходнасці адпачынку на прыродзе, карысці свежага паветра і спорту. Калі ў чалавека былі слабыя лёгкія, яму раілі паехаць на мора альбо ў горы, «грудную жабу» (стэнакардыю) – лячыць «на лецішчы, у сасновым бару, здаля ад густанаселенай мясцовасці»[19]. Наведванне замежных курортаў ператварылася ў неад’емную частку жыцця гарадзенскай эліты. Добры прыклад таго, як трэба клапаціцца пра ўласнае здароўе падавалі гарадзенскія ўрачы-

габрэі, А. М. Андрэс і І. С. Кулькін, якія ў 60–90-я гады XIX ст. сістэматычна выязджалі за мяжу на курорты (гл. Дадатак).

Калі меркаваць па архіўных актах, габрэі звычайна накіроўваліся на Прыбалтыйскія і нямецкія курорты, што вызначыла геаграфічнае месцазнаходжанне Гародні, веданне праз габрэяў блізкай да ідышу нямецкай мовы, наяўнасць культурных кантактаў з Нямеччынай (гістарычнай прарадзімай габрэяў-ашкеназаў і ўзорам акультурацыі для прыхільнікаў Гаскалы). Антысеміцкая пастава ўладароў нямецкіх земляў ускладняла прыезд расійскіх габрэяў на некаторыя курорты. Напрыклад, у славутым Карлсбадзе ў 1879 г. вялася гарачая дыскусія наконт немэтазгоднасці допуску да лячэбных крыніц «неахайна апранутых габрэяў-халатнікаў», кансерватыўных габрэяў мяжы аселасці[20].

Найчасцей мэтай падарожжа гарадзенцаў былі Кранц і Кісінген, куды выбіраліся цэлымі сем’ямі[21]. Кранц (сёння Зеленагорск, Расія) – гэта невялікі нямецкі гарадок пад Кёнігсбергам, які дзякуючы сваім бальнеалагічным і гразевым лячэбніцам у канцы XIX ст. ператварыўся ў фешэнебельны курорт[22]. Прываблівай баварскі Бад Кіссінген, які ў пачатку XIX ст. набыў еўрапейскую славутасць. Лячыць хваробы стрававальнай, сардэчна-сасудзістай сістэмы, апорна-рухальнага апарату і парушэння абмену матэрыі сюды прыязджалі каранаваныя асобы, вядомыя літаратары і музыкі. Акрамя мінеральнай вады з шасці тэрмальных крыніц, буржуазію вабілі цудоўная прырода, маляўнічы курортны парк, разарый, мноства сквераў, імклівае свецкае жыццё Бад Кіссінгена[23].

Гарадзенскую жыхарку Адэлю Янкелеўну Гурвіч пачатак Першай сусветнай вайны сустрэў на курорце Францэнсбад ва Усходняй Багеміі (Аўстра-Венгрыя, сёння Чэхія). Ён быў вядомы дзякуючы мінеральным ваннам і гразі, тэрмальным водам ўсіх відаў[24]. Моўша Аўсеевіч Касоўскі мог дазволіць сабе лячэнне на нямецкім курорце Бад Кройцнах, мінеральныя воды якога пачалі выкарыстоўвацца на пачатку XIX ст. Калі ў 1912 г. тут знайшлі радон, у Бад Кройцнах пацягнуліся хворыя на захворванні скуры, сэрца, апорна-рухальнай сістэмы, рэўматычныя і нервовыя хваробы[25].

Бальнеа-кліматычны курорт Эмс быў мэтай падарожжа Зэльды-Башы Шыманаўны Рудкоўскай і яе дачкі Малкі. У Баварыі, цікавай тэрмальнымі крыніцамі і старажытнымі замкамі, адпачывалі летам 1914 г. Рыўка Абрамаўна Вінаград і яе нявестка Маша. У Зальцбруне (Пруская Сілезія), крыніцы і горны клімат якога лячылі дыхальную і нервовую сістэмы, бавіла час Таўба Вульфаўна Штэйнберг. Гарадзенцы-габрэі выязджалі за мяжу для атрымання кваліфікаванай урачэбнай дапамогі. Іосель Гецэлевіч Рэзнікоўскі з жонкай Гнесяй Зелікаўнай знаходзіўся ў клініцы Берлінскага дзяржаўнага універсітэта[26].

Разуменне дабрачыннасці як абавязку падштурхнула да рашэння зрабіць адпачынак на курорце бессаслоўным. Так, у гарадзенскай суполкі з'явіліся 554 квадратныя сажні зямлі ў багатай на карысныя мінеральныя воды мясцовасці Друскенікі[27]. На базе габрэйскага шпіталя была створана ўстанова, якая прымала на водалячэнне габрэяў мяжы аселасці. Дабрачыннай дзейнасцю ў Друскеніках на працягу сяр. 50 – пач. 80-х гг. XIX ст. кіраваў рабін Абрам-Якуб Трэгер. Ён стварыў вакол шпіталя касмапалітычнае кола аднадумцаў Таварыства апекі над хворымі беднякамі. За 25 год дзякуючы яму на курорце адпачылі 426 пацыентаў[28]. Трэгер шмат часу аддаваў перапісцы з грамадскімі дзеячамі габрэйскіх суполак Расіі і рэдакцыямі габрэйскіх часопісаў («Рассвет», «Izraelita»), пры дапамозе якіх збіраў грошы для хворых. Дапамагалі таксама дабрачынныя канцэрты[29].

На друскеніцкім курорце для бедных прымалі і габрэйскіх, і хрысціянскіх пацыентаў. Хворых у габрэйскім шпіталі наведваў урач-хрысціянін Пілецкі. На працягу 22 год да сваёй смерці ў 1878 г. ён бясплатна даглядаў пацыентаў, а калі-некалі і дапамагаў ім грашыма, не робячы розніцы паміж хрысціянінам і габрэям[30].

Бясплатную дапамогу бедным хворым габрэям паказвалі ў Друскеніках ўрачы, якія самі прыязджалі адпачыць на воды. Сярод іх варшавяне хірург Рам і гінеколаг Свентахоўскі, віленская акушэрка Білг[31]. Сродкі для адпачынку бедных габрэяў збіралі гранд-дамы гарадзенскага грамадства – Рэбека Разэнталь, Аляксандра Фрумкіна, Яха Грынберг. Дзякуючы дапамозе дабрачынцаў у 1880 г. тут адпачыла больш за 300 беднякоў[32]. Тыя з бедных хворых, якім абавязкова патрэбны былі мінеральныя воды, свежае паветра і купанні, маглі звяртацца ў гарадзенскае дабрачыннае таварыства «Лінас Гацэдэк», статут якога прадугледжваў у крайніх выпадках (напрыклад, сухоты) аплату адпачынку на курорце[33].

***Медычная дапамога як частка дабрачыннай дзейнасці.*** Дабрачыннасць у габрэйскім асяроддзі з'яўлялася абавязкам кожнага. На рубяжы XIX-XX ст. яна была фармалізаваная. Таварыствы атрымалі статуты вызначанага ўзору, прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю. У Гародні з'явіліся філіі філантрапічных арганізацый, геаграфія якіх ахоплівала ўсю мяжу аселасці, былі заснаваны таварыствы, праца якіх абмяжоўвалася горадам альбо яго часткай (напрыклад, Занёманскім фарштатам). Статуты гэтых дабрачынных таварыстваў, звычайна, прадугледжвалі аказанне медычных паслуг бедным адзінаверцам. У 1908 г. улады дазволілі дзейнасць Таварыства дапамогі бедным габрэям гарадзенскага Занёманскага фарштату «Ахіэзэр», якое збіраліся «забяспечваць медычнай дапамогай, змяшчаць у шпіталі»[34].

Як і ў кожным значным габрэйскім цэнтры, у Гародні было дабрачын-

нае таварыства «Лінас Гацэдэк». Яго мэта – «аказанне дапамогі на даму бедным хворым. Дапамога праяўлялася ў запрашэнні на сродкі таварыства ўрачоў, фельчараў, забеспячэнні медыкаментамі і харчаваннем згодна з рэкамендацыямі ўрача; раздачы малака, каньяку, яек, мяса». Сябры таварыства перадавалі ў часовае карыстанне хворым нескладанае медычнае абсталяванне, ладзілі дзяжурства медычнага персаналу, дапамагалі фінансава (як выключэнне)[35].

Дэпартамент паліцыі, звыклы ў кожным саюзе бачыць небяспечную змову, падазраваў, што «Лінас Гацэдэк» – патаемнае таварыства, дзе вялікія сродкі, сабраныя для бедных, раскрадаюцца праз старшынь. Толькі добрая асабістая рэпутацыя гарадзенскіх філантропаў і шматгадовая легальная дзейнасць таварыства ў адпаведнасці са статутам абаранілі яго ад закрыцця ў 1903–1904 гг.[36]

***Арганізацыя медычнага абслугоўвання.*** Габрэйскае насельніцтва мяжы аселасці карысталася паслугамі прыватных урачоў, дзяржаўнай медыцыны і габрэйскай сацыяльнай сістэмы медычнай дапамогі. Наяўнасць апошняй пашырала мажлівасці габрэяў у галіне аховы здароўя. У казённыя шпіталі габрэі амаль не звярталіся: там не было мажлівасці выконваць рэлігійныя і побытавыя запаветы (харчаванне, гігіена, вопратка), пацыенты-хрысціяне варожа ставіліся да пацыентаў-габрэяў. Урачы накіроўвалі туды пацыентаў толькі калі адпаведныя аддзяленні адсутнічалі ў габрэйскіх шпіталях.

Грамадскія шпіталі, амбулаторыі, дзіцячыя прытулкі і дамы састарэлых, дзе таксама аказвалі медычныя паслугі ў гарадах пры наяўнасці месцаў прымалі габрэяў з наваколля. Сучаснікі крытычна ацэньвалі такі стан рэчаў. Л. Рохлін адзначаў, што больш прадуктыўна заснаванне дробных дабрачынных габрэйскіх шпіталяў у павятовых гарадах і мястэчках, таму што там «вольная практика, фельдшеризм, знахарство и эксплуатация владельцев аптечных магазинов создали для еврейского населения, весьма бедного в своей массе, дорогие и нецелесообразные способы лечения»[37].

У Гародні існавалі магчымасці для карыстання паслугамі медыцынскай сістэмы. Габрэйскім шпіталем загадваў камітэт, які складаўся з заможных і ўплывовых грамадскіх дзеячаў. Пацыенты атрымлівалі ежу, вопратку, бялізну і лекі. Кансультацыі ў амбулаторыі для бедных былі бясплатнымі[38]. Урачы імкнуліся лячыць не толькі лекамі, але і атмасферай, «як у хаце, толькі лепш». Статут шпіталя сцвярджаў, што ў яго сценах могуць знаходзіцца выключна пацыенты. Насамрэч калі дом састарэлых быў перапоўнены, сюды прымалі таксама старых адзінокіх беднякоў. Са сродкаў шпіталя выдзялялася дапамога бяднейшым, якія жылі ў горадзе без заробкаў[39].

Габрэйскі шпіталь у Гародні быў адчынены ў першай палове XIX ст. на

вул. Малой Траецкай (тады *Нямецкі рынак*). Ён узгадваецца пад 1824 г.[40] У канцы 40-х гг. XIX ст. шпіталь знаходзіўся ў заняпадзе. Інспектары з Урачэбнага аддзялення канстатавалі: «Медыцынская і гаспадарчая часткі засталіся без апекавання, медык ваеннага шпіталя, які наведваў хворых гэтай установы, ўжо два месяцы як перапыніў наведванні»[41].

У 1868-1871 гг. для яго ўзведзены будынак на вул. Свярдлова, 3 (тады *Татарская*). Гараджане любілі гэтае месца за прыгожы краявід, чыстае паветра. Тэхнічнае абсталяванне шпіталя было лепшым у Гародні. У 90-я гг. XIX ст. у лячэбніцы працавалі тры аддзялення: інфекцыйнае, унутраных хвароб і хірургічнае. У штаце акрамя фельчараў з'явіліся два штатных урача. На 1900 г. гарадзенскі грамадскі шпіталь быў самым вялікім сярод габрэйскіх па губерні. У ім налічвалася 60 ложкаў. Для параўнання: у Берасцейскім – 50, Кобрынскім – 20, Ваўкавыскім – 7.

Да гэтага трэба дадаць 15 ложкаў у лячэбніцы пры тытунёвай фабрыцы Ё. Шарашэўскага. Пры гэтым колькасць месцаў у дзяржаўных шпіталях Гародні ў два разы перавышала тое, што магла прапанаваць грамадская дабрачыннасць габрэяў. У акруговай лячэбніцы Гародні налічвалася 140 месцаў, а ў турэмным шпіталі – 30[42]. Цяжкія часы для габрэйскай лячэбніцы прыйшлі з пачаткам Першай сусветнай вайны. У 1915-1918 гг. у сувязі з акупацыяй шпіталь быў вывезены. Будынак і частка абсталявання перададзеныя гарадскому шпіталю[43].

Габрэйскім шпіталем кіраваў Савет, які складаўся з эліты гарадскога габрэйства, вядомых філантропаў і грамадскіх дзеячаў. Яны мелі неабходны для вырашэння праблем уплыў і знаёмствы ў адміністратыўных колах, і, як людзі заможныя, маглі даваць прыклад шчодрымі ахвяраваннямі. У 1848 г. гэта былі А. Канэль, З. Эпштэйн і І. Броўда. Аднак улады былі незадаволены іх працай, адзначалі, што «шпіталь утрымліваецца неахайна»[44].

У канцы XIX ст. Савет шпіталя складаўся з 12 асоб. У 1890-1894 гг. гэта былі спадчынныя ганаровыя грамадзяне купцы 1 гільдыі Беньямін Гешэлевіч Ашкеназі, Лейзер Моўшавіч Брэгман, Аўраам Якаўлевіч Фрумкін, купцы Іосель Лейбавіч Шарашэўскі, Маісей Саламонавіч Ясеноўскі, Арон Зельманавіч Перліс, Абесій Тэвелевіч Тарлоўскі, Едзід Шлёмавіч Яноўскі, Максім Маісеевіч Эльяшаў, Эля-Хаім Генахавіч Гольдберг, Абрам Іосіфавіч Бархан, мешчанін Міхель Крыньскі[45]. У спісе самыя багатыя жыхары Гародні – фінансісты, уласнікі буйных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў.

Пра забеспячэнне габрэйскага шпіталя ўсім неабходным клапаціўся апекунчы камітэт. Сябрам такой установы ў 1848, 1852 і 1853 гг. быў мясцовы купец 3 гільдыі, член Савета гарадзенскага габрэйскага шпіталя Лейба Аўсеевіч Нотэс[46]. У 1871 г. апекуном часовага халернага шпіталя ў Старым

замку стаў вядомы габрэйскі філантроп купец 1 гільдыі Беньямін Гешэлевіч Ашкеназі, за медычную дапамогу там адказваў ўрач Аўраам Андрэс. Апекуном халернага лазарэта на Занёманскім фарштаце быў абраны іх адзінаверац Рубінроўт[47].

Фонды шпіталя фарміраваліся за кошт суполкі, датацыяў са скрыначнага падатку і добраахвотных ахвяраванняў[48]. Каб органы мясцовага кіравання далі дазвол на незапланаванае выдзяленне фінансаў са скрыначнага падатку (напрыклад, на неадкладны рамонт, абсталяванне і прэпараты), з імі вялі доўгую бюракратычную перапіску. Дзейнасць габрэйскага шпіталя знаходзілася пад пільным наглядам урачэбнай канцылярыі Гарадзенскага губернскага праўлення. Інспекцыі суправаджаліся складаннем актаў, якія сведчаць пра нястачу і дрэнныя побытавыя ўмовы ў габрэйскім шпіталі Гародні.

Штат складаўся з фельчара і санітара, вартаўніка і кухаркі. Першапачаткова сціплыя грамадскія сродкі не дазвалялі ўвесці сталую стаўку ўрача, таму доктар сумяшчаў працу ў дзяржаўным шпіталі з аглядам хворых у габрэйскай лячэбніцы. Калі існавала альтэрнатыва, перавагу аддавалі адзінаверцу[49]. У канцы 90-х гг. XIX ст. статыстыка зафіксавала наяўнасць двух урачоў і двух фельчараў на 60 хворых. Забяспечанасць габрэйскага шпіталя медычнымі кадрамі была трохі лепшай, чым ў акруговай лячэбніцы, дзе на 100 хворых прыпадала два ўрача і пяць фельчараў[50].




*Дынаміка руху пацыентаў у гарадзенскім габрэйскім шпіталі ў 1907 г.*

Колькасць ложкаў у гарадзенскім габрэйскім шпіталі з цягам часу павялічвалася. У 1898 г. тут было 60 месцаў, а ў 1907 г. іх колькасць перавысіла 80. Як бачна з дыяграмы, занятасць месцаў у гэтай ўстанове залежала ад пары году. Свайго максімуму яна дасягала ў халодныя месяцы (снежань-красавік), калі ўзрастала колькасць прастудных і інфекцыйных хваробаў. Найменш пацыентаў адзначана ў жніўні-кастрычніку, калі імунітэт самы моцны, хваля прастудных захворванняў наперадзе, а перыяд інфекцыйных

хвароб сістэмы стрававання прайшоў[51]. Трансфармацыю праходзілі таксама функцыі габрэйскага шпіталя. Напачатку ў статуце адзначалася, што не прымаюцца невылечна хворыя і пацыенты з псіхічнымі адхіленнямі, але на пачатку XX ст. знаходзім хворых на рака, эпілептыкаў і каля 30 пацыентаў з «сапсаваннем разумовых здольнасцей»[52].

Падчас эпідэмій габрэйскі шпіталь, а іншым разам і малітоўныя дамы ператвараліся ў халерныя баракі. Апошняе сустракалася габрэйскай супольнасцю без энтузіязму: цэлыя кварталы з пераважна габрэйскім насельніцтвам заставаліся без дамоў малітвы. Ва ўмовах адсутнасці грамадскага транспарту старым людзям цяжка было некалькі разоў на дзень ісці на вялікую адлегласць, а выбірацца на малітву ў конным экіпажы было не па сродках. Таму, калі ў 1894 г. Абель Тарлоўскі і Нотка Баярскі, старшыні габрэйскага малітоўнага дома «Хае Адам» на вуліцы Вялікай Траецкай, звярнуліся да губернатара з паданнем аб ліквідацыі халернага барака, што змяшчаўся тут ужо некалькі разоў, улады далі на гэта дазвол[53].

Пра тое цэнтрам барацьбы супраць халеры ў Гародні быў менавіта габрэйскі шпіталь сведчыць і той факт, што ў перыяд паміж адным і другім наведваннем гораду хваробай абсталяванне і рэчы з часовых халерных лазарэтаў захоўваліся якраз у ім. Эпідэмія здымала ўсе этнічныя і сацыяльныя ўмоўнасці чалавечага свету. Разам з габрэямі дапамогу ў халерных лазарэтах атрымлівалі хрысціяне. У ваенных умовах (напрыклад, падчас Крымскай вайны) гарадзенская габрэйская супольнасць імкнулася выказаць сваю лаяльнасць дзяржаве. Гэта магло праяўляцца ў выдзяленні некалькіх ложкаў у габрэйскім шпіталі на карысць параненых і лячэнні іх за кошт суполкі.

Важнай часткай габрэйскай медыцынскай сістэмы былі аптэкі. На працягу XIX – пачатку XX ст. у Гародні існавалі аптэкі двух катэгорый – дзяржаўныя і прыватныя. Дакумент за 1894 г. называе адну вольную аптэку, якая належала габрэю. Гэта завядзенне Марка Абрамавіча Вінавера, адчыненае ў 1888 г. У іншых трох гарадзенскіх аптэках сярэдзіны 90-х гг. XIX ст. габрэі былі ў персанале. У фарнай аптэцы Адамовіча аптэкарскім памочнікам працаваў Давід Мееравіч Эпштэйн, вучнем – Ілля Якаўлевіч Лапін; у аптэцы Кандратовіча аптэкарскі памочнік Міхаіл Сямёнавіч Суботнік; у аптэцы Ф. К. Атовіча ўвесь калектыў складалі габрэі (правізар Монас Лейбавіч Клінкаўштэйн, аптэкарскі памочнік Меер Камінскі, вучань Лазар Каган)[54]. У 1914 г. на Мураў'ёўскай вуліцы з'явілася аптэка Саўла Шварца[55].

***Медыцынскія кадры.*** Звесткі пра габрэйскіх медыкаў першай паловы XIX ст. сустракаюцца рэдка. Павялічэнню колькасці ўрачоў перашкаджала замкнёнасць габрэйскай супольнасці. Нацыянальная сістэма адукацыі, якая склалася гістарычна, рабіла акцэнт на рэлігійныя прадметы, каментаван-

не святых тэкстаў, а не на вывучэнне прыродазнаўчых і дакладных навук, хаця нельга не адзначыць цікаўнасць да іх некаторых габрэйскіх рэлігійных лідэраў (напрыклад, Іллі Віленскага). У бібліятэках гарадзенскіх габрэяў былі прыродазнаўчыя трактаты, траўнікі і лячэбнікі, але далей самастойнага чытання іх у вольны час справа не ішла. У дзяржаўных навучальных ўстановах прадстаўнікі традыцыйнага габрэйскага свету бачылі сродак русіфікацыі і хрысціянізацыі.

Жаданне некаторых прадстаўнікоў маладога пакалення атрымаць сучасныя веды ў агульных школах успрымалася як рэлігійнае адступніцтва, а тыя, што, нягледзячы на супраціўленне сваякоў, атрымлівалі адукацыю еўрапейскага кшталту і вярталіся ў родны горад фельчарамі ці ўрачамі, мелі рэпутацыю ерэтыкоў. Пры гэтым кантакты з імі не перапынялі і з супольнасці не выдалялі. Іх прагматычна лічылі «мумхэ» – карыснымі спецыялістамі. Добры прыклад на гэтую тэму прывёў у сваіх успамінах Абрам Паперна: фельчару Казляку даравалі нават сумнеўныя жарты пра Месію. Іншага даўно прымусілі б пакінуць мястэчка, але Казляк быў мумхэ, таму капыляне вынеслі вердыкт: «Ерэтык ён, зразумела, і ёсць, але на гэта ж ён і фельчар; ад фельчара нічога іншага і чакаць нельга»[56].

Павялічэнню колькасці медыкаў-габрэяў на дзяржаўнай службе перашкаджалі таксама расійскія законы. Гэта тычылася не толькі ўрачоў, але і лекарскіх вучняў. «Загадваецца вам прыкласці ўсе намаганні і ў кароткі тэрмін знайсці і запрасіць на месцы павятовых лекарскіх вучняў, якія зараз займаюць габрэі, здольных хрысціян, якія маюць адпаведныя веды», – чытаем у цыркуляры ўрачэбнага аддзялення гарадзенскага губернскага праўлення за 1824 г.[57]

Кваліфікаванага спецыяліста, павітуху Алену Пініяс, якая прадставіла дыплом Віленскага універсітэта і даведку з Мінскай ўрачэбнай канцылярыі, прыняўшы на працу, адразу звольнілі. Дэпартамент духоўных спраў патлумачыў Гарадзенскай урачэбнай канцылярыі, што «габрэі пакуль застаюцца ў сваёй веры і згодна з законам не могуць прымацца на дзяржаўную службу, таму што няма правілаў пра прысягу іх»[58]. Не дзіўна, што згодна са статыстыкай, у 1824 г. у Гародні не было аніводнага ўрача альбо фельчара-габрэя.

Залатым часам для габрэяў стала цараванне Аляксандра ІІ, калі для асоб габрэйскага веравызнання былі адчынены дзверы сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Расіі патрабаваліся спецыялісты – вучоныя, інжынеры і, зразумела, дактары. Габрэйскую моладзь дыплом еўрапейскага кшталту вабіў перспектывай прэстыжнай, добра аплачваемай працы і мажлівасцю акультурацыі ў расійскім грамадстве. Старэйшае пакаленне разумела карысць ільгот, якія даваў дыплом, а менавіта мажлівасцю выехаць па-за мяжу аселасці і вызваліцца ад службы ў арміі.

У гэты час універсітэцкі дыплом набыў гарадзенскі ўрач-габрэй Ілля Саламонавіч Кулькін, які скончыў курс у Імператарскай Медыка-хірургічнай Акадэміі ў Санкт-Пецярбурзе са ступенню лекара[59]. Разглядаючы біяграфію гэтага гарадзенскага ўрача, разумеем, што ў 60–70-я гг. габрэйства не было перашкодай для ўзорнай кар'еры дзяржаўнага служачага. Маючы дыплом лекара, 32-гадовы Ілля Кулькін быў прызначаны штатным урачом Гарадзенскай мужчынскай гімназіі і заняў пасаду спецыяльнага ўрача гораду. Апошняе прадугледжвала агляд «жанчын, што займаюцца распустай», прастытутак («промысляющих женщин»)[60]. Занятак гэты добра аплачваўся (500 рублёў у год), але прыемным альбо прэстыжным яго назваць нельга. Пэўна таму пры першай мажлівасці І. Кулькін пайшоў з пасады спецыяльнага ўрача. У 1868 г. бачым Кулькіна ўжо гарадзенскім павятовым ўрачом.

Выдатную кар'еру зрабіў таксама іншы выпускнік Імператарскай Медыка-хірургічнай Акадэміі Аўраам Маісеевіч Андрэс. У 60–90-я гг. XIX ст. ён займаў пасады гарадзенскага павятовага ўрача, ардынатара гарадзенскай акруговай лячэбніцы і ваеннага шпіталя, урача турэмнага замку (гл. Дадатак)[61].

У 80-я гг. XIX – 10-я гг. XX ст. атрыманне прафесіі ўрача для габрэяў ускладняла абмежавальная палітыка ўрадаў Аляксандра III і Мікалая II. У гімназіях, універсітэтах і акадэміях была ўведзеная «адсоткавая норма». Інтэлігенцыю габрэйскага веравызнання лічылі нелаяльнай, але не толькі габрэі былі парыямі ў імперыі Раманавых. У час рэакцыі пад падазрэнне трапляла любая «інакавасць»: у поглядах, палітычных арыентацыях, веры, мове, нават вонкавым выглядзе. Пад увагу бралася этнаканфесійная прыналежнасць кандыдата на пасаду. Калі выпускнік харкаўскага ветэрынарнага вучылішча г. Букштэйн паспрабаваў знайсці працу па спецыяльнасці ў Гародні, з Губернскага праўлення прыйшлп адмова: «Пажадана мець ветэрынарнага ўрача, але не габрэйскага і не каталіцкага веравызнання»[62].

Самым славутым урачом-габрэям Гародні канца XIX стагоддзя быў ураджэнец Беластока Лейзэр Мордхавіч (Лазар, Людвік) Заменгоф. Дакументы захавалі інфармацыю пра яго юнацкія гады. Будучы стваральнік міжнароднай мовы эсперанта ў 17-гадовым узросце вучыўся дрэнна. Як даносілі гарадзенскаму губернатару з Беластоцкай дырэкцыі вучылішчаў, у першым класе за «беспаспяховасць і не зусім добрыя паводзіны» ён быў пакінуты на другі год. Пасля першай чвэрці Лазар Заменгоф, наогул, перастаў вучыцца і «на спакусу вучняў збягаў з класа і швэндаўся падчас урокаў па гораду», а таму ў кастрычніку 1874 ён быў выключаны з гімназіі са сціплымі вынікамі – «поспехі па ўсіх прадметах – 1 (слабыя), паводзіны – 2 (незадавальняючыя)».

Цікава, што пры гэтым у прашэнні на імя губернатара аб дазволе прыняць хрысціянскую веру Заменгоф упэўніваў, што прайшоў 2-класны курс Беластоцкай рэальнай гімназіі і хацеў бы працягваць вучобу далей, але бацька не жадаў аплачваць вучобу: «Не пажадаў болей плаціць за наступныя курсы, толькі тое мне казаў, каб пайшоў я на якую-небудзь дзяржаўную службу, а паколькі габрэям наогул няма нідзе ніякіх шансаў на дзяржаўнай службе, то я з Беластока ў Гародню прыбыў і жадаю ад усяго сэрца быць сапраўдным праваслаўным чалавекам і верным слугой свайму Гасудару і рускай Айчыне».

Заменгоф запрашаў губернатара ў хросныя бацькі і прасіў накіраваць яго ў манастыр і схаваць ад габрэяў, якія яшчэ не ведаюць пра яго жаданне хрысціцца[63]. На жаль, у справе адсутнічае вердыкт губернатара, але адмоўная характарыстыка беластоцкага настаўніка, які ахарактарызаваў Заменгофа як «вельмі ненадзейнага юнака» не перашкодзіла атрымаць медыцынскую адукацыю. Пасля вучобы ў Маскве і Варшаве ў 1885 г. ён атрымаў дыплом ўрача-акуліста і пачаў вольную практыку.

У Гародні Заменгоф жыў з 1893 па 1897 гг. Вядома, што ён лячыў многіх беднякоў бясплатна. Сёння на доме па вуліцы Кірава, 5 (раней *Паліцэйская*), дзе ён жыў ў канцы 90-х гг. XIX стагоддзя, вісіць дошка ў гонар «доктара Эсперанта».

Нягледзячы на абмежавальныя «майскія законы» 1882 г. колькасць урачоў-габрэяў у Гародні паступова павялічвалася. Калі за 1882 г. Памятная кніжка Гарадзенскай губерні паказала наяўнасць у горадзе толькі аднаго дантыста (Л. Б. Каўфман), то праз сем год побач з 8 урачамі-хрысціянамі тут налічвалася ўжо 7 габрэяў. Гэта былі Г. Т. Замкаўскі, І. І. Ротэнштэйн, С. Л. Гажанскі, Г. Я. Гершун, О. А. Хазановіч і дантысты В. Л. Каўфман і Р. Б. Андрэс[64]. У 1907 г. колькасць урачоў-хрысціян дасягнула 10-ці, а іх калег-габрэяў – 19-ці. У спісе падаюцца прозвішчы ўрачоў С. Л. Гажанскага, Ф. В. Эпштэйна, С. Ю. Хазана, С. Х. Саета, Л. І. Гаўхмана, М. Н. Вольфа, І. Г. Гурвіча, І. І. Офера, С. З. Раўтэнштэйна, А. В. і Х. А. Шапіраў, дантыстаў І. Л. Харэца, М.-Я. А. Аркіна, Р. І. Фруміна, Г. Б. Гілула, П. М. Крынскай, М. І. Ненкеса, Д. І. Іофэ, Ф. Д. Выгодскага[65].

Кідаецца ў вочы з’яўленне ўрачэбных дынастый: Рэйхля Андрэс была дачкой урача Б. Андрэса, дантыст Л. Б. Каўфман перадаў спецыяльнасць сыну Веніяміну. Нельга не адзначыць і з’яўлення сярод медыкаў вышэйшай кваліфікацыі жанчын – дантыстак Рэйхлі Беркаўны Андрэс і Паўліны Маркаўны Крынскай. Сярод першага пакалення дантыстаў-жанчын была Рэйзля Шаеўна Эпштэйн, родам з Гародні, якая пасля заканчэння Кіеўскай урачэбнай школы збіралася паступаць ва універсітэт Святога Уладзіміра, каб атрымаць дыплом зубнога ўрача[66].

З сярэдзіны XIX стагоддзя ў габрэйскім асяроддзі пачалі з’яўляцца сярэднія медычныя работнікі, фельчары і санітары, якія набылі прафесію падчас службы ў арміі. Калі яны жадалі ператварыць набытыя веды ў цывільную прафесію, то павінны былі атрымаць пасведчанне дзяржаўнага ўзору пасля адпаведнага экзамену[67]. Іншым шляхам пайшоў напрыканцы 60-х гг. XIX ст. адстаўны радавы Емерцінскага пяхотнага палка Сендэр Моргенштэрн, які пачаў у Гародні незаконную прыватную практыку, за што трапіў пад суд[68].

Пад уплывам жорсткай рэакцыі 1882–1883 гг. ускладніліся ўмовы прыёму габрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, было забаронена наймаць іх на дзяржаўную службу, прайшла хваля высяленняў гэтай канфесійнай групы з вёсак. Многія вясковыя фельчары згубілі свае пасады і ператварыліся ў вольнапрактыкуючых фельчараў Гародні. Габрэйская моладзь спрабавала атрымаць прафесію фельчара праз здачу экзамену пры гарадзенскай мужчынскай гімназіі. Так зрабіў у 1911 г. Шахна Сімхавіч Эпельбаўм[69]. Нягледзячы на цяжкасці, фельчары-габрэі з’яўляліся і на дзяржаўнай службе. У канцы 80-х – першай палове 90-х гг. XIX ст. сярод персаналу Акруговай гарадзенскай лячэбніцы знаходзім Іцку Абрамавіча Фіна[70].

Габрэйская супольнасць лічыла, што ў выпадку неабходнасці за парадай можна звярнуцца і да знахара, і да «бывалага чалавека». Існавала нават прымаўка: «Калі захварэў, пытай не ўрача, а хворага»[71]. У кожным горадзе ведалі асоб, якія лячылі чараваннем. У справаздачы пра стан здароўя насельніцтва за 1867 г. прызнавалася: «Вера простонародья в знахарей почти безусловна и искоренение их представляется невозможным»[72].

Нягледзячы на тое, што іх практыкі знаходзіліся ў супярэчнасці з верай, раіцца з прадстаўнікамі народнай медыцыны не баяліся, таму што лічылася: габрэйскія чараўнікі звяртаюцца да светлых сіл, а іншаверцы – да цёмных, дэманічных. На крайні выпадак звярталіся і да іншаверцаў. «У хваробах псіхічных і нервовых, напрыклад, пры вар’яцтве, падучай хваробе, спазмах і дзіцячых канвульсіях рэдка габрэі абыходзяцца без татарына ці баал-шэма[73], якія звяртаюцца да курэння розных траваў, нашэптваюць, малююць колы, прыносяць ціхай вады і г.д.,» – сцвярджаў этнограф М. Берлін, распавядаючы, пра замовы ад зубнога болю, суроку, дзіцячых хвароб і бясплоддзя[74].

На мяжы народнай і афіцыйнай медыцыны стаялі цырульнікі. Дзяржаўная статыстыка сцвярджала, што ў 1824 г. у Гародні налічвалася 10 прадстаўнікоў гэтай прафесіі: Іосель Гдалевіч, Янкель Моўшавіч, Нішаль Янкелевіч, Беньямін Абрамавіч, Абрам Іцкавіч Трайняк, Іосель Моўшавіч, Арон Моўшавіч, Лейзэр Іоселевіч, Моўша Абрамавіч Пражэвальскі і Іцка Лейзаравіч Штэйн. Берасцейскі павятовы ўрач Кіршт лічыў іх шарлатанамі, абвінавачваў у аказанні медыцынскай дапамогі без адпаведнага пасведчання і прафесійных ведаў, рэвізіямі змагаўся з падпольнай медыцынскай

практыкай[75]. У гэтым была пэўная логіка. Гарадзенскія ўрачы ведалі, што ў народзе «існуе шкодны для здароўя звычай пры ўсіх хваробах пускаць сабе кроў»[76]. Увядзенне кантролю за дзейнасцю цырульнікаў, што займаліся кровапусканнем, зменшыла смяротнасць.

Адным са спосабаў кантролю было ўвядзенне пасведчанняў на права займацца гэтым рамяством. Цырульнікі, як фельчары і фармацэўты, абавязаны былі здаць экзамен пры Гарадзенскай ўрачэбнай управе. На прыкладзе берасцейскага жыхара Хуны Абрамавіча Бенаха, можам даведацца, якімі кампетэнцыямі валодаў цырульнік. Дакумент сцвярджае, што кандыдат «быў выпрабаваны ва ўменні пускаць кроў; спыняць і сцішваць пасля гэтага кроў; ставіць ражкі; падрыхтоўваць і ставіць звычайнае прамыванне страўніка; вымаць зубы; падрыхтаваць і паставіць шпанскія мушкі, перавязваць лёгкія раны і язвы; падрыхтоўваць ванны; прывіваць засцерагальны гузік, даглядаць хворых»[77].

Сярод прафесій медыкаў-жанчын была пашыраныя – акушэрка і павітуха. Яны падпарадкаваліся ўрачу. Акушэркі ў іерархіі знаходзіліся вышэй, бо мелі афіцыйнае пасведчанне аб заканчэнні курса спецыяльнай навучальнай установы. У 1907 г. у Гародні працавалі акушэркамі 16 габрэяк і 9 хрысціянак. Павітухамі былі 2 габрэйскія і 3 хрысціянскія жанчыны[78]. Папулярнасці гінекалагічных спецыяльнасцей сярод габрэек спрыяла заснаванне ў Гародні ў 1876 г. Спавівальнай школы. У 80-я гг. яна не падлягала адсоткавай норме, таму хаця статут Школы прадугледжваў перадусім прыём жанчын-сялянак, большасць навучэнак складалі маладыя габрэйкі. Вучаніцы прымаліся на казённы і ўласны кошт. Яны жылі ў будынку школы, атрымоўвалі ежу, вопратку, абутак і канцылярскія прыналежнасці. Нешматлікія вучаніцы былі «вольноприходящими», жылі з сваякамі і з’яўляліся толькі на занятках. Навучанне доўжылася два гады[79].

У Спавівальнай школе вучыліся дзяўчаты самага рознага ўзросту. Статут вызначаў яго 18–30 гадамі, але, паводле падлікаў на 1893 г., сярэдні ўзрост прынятых у вучаніц-габрэек складаў 19,6 года[80]. Сярод абітурыентак былі і дзяўчаты пасля казённага вучылішча ці пансіёну, і маці сямействаў, што дасягалі 30-гадовага ўзросту. На жаль, сацыяльнае пахожданне вучаніц школы прасачыць па дакументах не атрымалася. Сярод вядомых гарадзенскіх сем’яў можна прыгадаць толькі дачку друкара Мейлаховіча Соф’ю, якая распачала вучобу ў 1884 г.[81]

Не ўсе тыя, што былі залічаны ў Школу, праз два гады пакідалі яе дыпламаванымі спецыялістамі. Адны кідалі вучобу «па сямейных абставінах», другія адлічваліся за дрэнную вучобу. Здараліся нават скандалы, напрыклад, 19-гадовая Сара Дымент, якая вучылася добра, была выключана за грубае абыходжанне з хворымі. «Нягледзячы на вымову, заўвагі і нават па-

каранне», яна працягвала сварыцца з парадзіхамі, за што і была выдалена з апошняга курса Школы.

Умовай прыёму ў спавівальную школу было ўменне чытаць і пісаць на рускай мове. Дзе атрымлівалі веды будучыя вучаніцы, невядома. Толькі ў некалькіх выпадках у паданні аб прыёме пазначана, што яго ўладальніца скончыла двух альбо чатырохгадовы курс вучылішча, наведвала жаночы пансіён. Можна меркаваць, што большасць габрэйскіх дзяўчат нават у канцы XIX ст. атрымлівала хатнюю адукацыю. А гэтага было ўжо недастаткова, пра што сведчаць вынікі прыёмных іспытаў. Абітурыенткі павінны былі здаваць дыктоўку і чытанне на рускай мове і арыфметыку, і мала хто з іх мог ганарыцца вялікімі дасягненнямі. На ўступных экзаменах 1885 г. сярэдняя адзнака – 2,6 балаў. За дыктоўку габрэйскія дзяўчаты мелі ў сярэднім 2,8 балаў, па чытанню – 2,4, па арыфметыцы 2,8[82].

Конкурс у гэтым годзе адсутнічаў, таму ў лік вольнанаведніц трапілі абітурыенткі з двойкамі. Праз дзесяць год бачым некаторы прагрэс у справе жаночай адукацыі. Сярэдні бал на ўступных іспытах павялічыўся да 3,2. Лепшыя вынікі паказалі Г. Стучынская – 15 балаў пасля трох іспытаў, Х. Ш. Лявіт – 13 і П. Вайнштэйн – 12[83]. З’явіўся конкурс, што сведчыць пра папулярнасць спавівальнай школы сярод габрэек.

Асобную групу медыкаў складаў персанал аптэк. Іх працай кіравалі правізары, якім падпарадкаваліся аптэкарскія памочнікі. Шлях да атрымання гэтых пасад пралягаў праз экзамен ва універсітэце. У матэрыялах за 1884 г. згадваюцца імёны двух габрэяў-правізараў (М. Л. Клінкаўштэйн і М. А. Вінавер) і двух аптэкарскіх памочнікаў (Д. М. Эпштэйн і М. Камінскі). Трое з іх атрымалі пасведчанне ў 1892 г. пры Варшаўскім Імператарскім універсітэце і толькі М. А. Вінавер, сын купца, атрымаў вышэйшую адукацыю ў 1875 г. у Маскоўскім універсітэце[84]. Цікава, што сярод аптэкарскіх памочнікаў на пачатку XX ст. сталі з’яўляцца жанчыны. У 1911 г. пры гарадзенскай гімназіі лацінскую мову здавалі мяшчанкі Нойма Моўшаўна Прэс, Двойра Шаеўна-Лейзэраўна Канэ і Сора Міхелеўна Каган. Яны працягвалі сямейныя традыцыі[85].

На ніжэйшай ступені ў аптэчнай іерархіі знаходзіліся аптэкарскія вучні. У аптэках Гародні сярод аптэкарскіх вучняў большасць складалі прадстаўнікі габрэйскай супольнасці. Напрыклад, у 1894 г. у горадзе працавалі пяць аптэкарскіх вучняў-габрэяў і трое хрысціян, наогул па губерні суадносіны былі 18 да 8[86]. Дзякуючы «Звесткам пра колькасць прыватных аптэк у Гарадзенскай губерні» да нас дайшлі імёны І. Я. Лапіна, М. С. Суботніка і Л. Кагана, аптэкарскіх вучняў Гародні сярэдзіны 90-х гг. XIX ст.[87]

У перыяд рэакцыі, калі шлях да атрымання вышэйшай медычнай адукацыі быў ускладнены «адсоткавай нормай» габрэйскія хлопцы часцей аддавалі перавагу менавіта гэтай прафесіі. Але і тут былі складанасці:

губернскія ўлады сачылі, каб сярод аптэкарскіх вучняў не ўтварылася поўная габрэйская манаполія. Калі ў 1894 г. Аўраам Любіч вярнуўся пасля дэмабілізацыі ў Гародню і выказаў жаданне стаць аптэкарскім вучнем, губернскае праўленне патлумачыла, што ў аптэках губерні на гэтай пасадзе і так зашмат габрэяў і паданне адстаўнога яфрэйтара было адхілена[88].

Будучыя аптэкарскія вучні наведвалі 4-класнае дзяржаўнае вучылішча альбо самастойна і з дапамогай рэпетытараў асвойвалі яго праграму. Потым кандыдаты здавалі іспыты пры мясцовай гімназіі, атрымлівалі пасведчанне аптэкарскага вучня і маглі пачынаць прафесійную дзейнасць у аптэках. Так было, напрыклад, з 14-гадовым Восіпам Зільманавічам Любічам, вучнем у аптэцы Развадоўскага[89]. У 1910 г. экзамен на званне аптэкарскага вучня пры гарадзенскай гімназіі здавалі Ізраіль Сямёнавіч Нямцэвіч, Гірша Янкелевіч Канецпольскі, Іосіф-Хаім Янкелевіч-Беравіч Лебенгарц, Кальман Давідавіч Піер, Моўша Абрамавіч Дземброўскі, Шмуель Янкелевіч Семаковіч і іншыя[90]. Большасць з іх потым раз’ехалася па павятовых гарадах і мястэчках Гарадзенскай губерні.

Падводзячы вынік, заўважым, што хваробы, распаўсюджаныя сярод гарадзенскіх габрэяў, былі выкліканы пераважна сацыяльнымі прычынамі: цяжкімі ўмовамі жыцця і працы, няякасным харчаваннем, адсутнасцю магчымасцей для добрага адпачынку для габрэйскіх беднякоў, якія ў XIX – пачатку XX ст. складалі большую частку гарадзенскага габрэйства. Уласцівая для габрэяў медыцынская сістэма склалася гістарычна як частка сацыяльнай дзейнасці абшчын. Медыцынская дапамога была даступнай для ўсіх саслоўяў гарадзенскага габрэйскага грамадства. Яе якасць у асноўным адпавядала ўзроўню расійскай медыцыны таго часу. Габрэйскі шпіталь, амбулаторыя, прытулак, дом састарэлых, асобныя дабрачынныя таварыствы аказвалі насельніцтву той жа комплекс паслуг, што і адпаведныя інстытуцыі Прыказу грамадскай апекі і таксама мелі сацыяльны характар. Гэта дазволіла габрэйскай сістэме аховы здароўя лёгка інтэгравацца ў дзяржаўную медыцынскую сістэму.

Недахопы габрэйскай сістэмы аховы здароўя вызначыў яе грамадскі характар і беднасць асноўнай масы. Усе медыцынскія ўстановы знаходзіліся на балансе габрэйскіх суполак, залежалі ад прыватных філантропаў і мясцовых улад, якія вырашалі пытанне аб выдзяленні сродкаў са скрыначнага збору на карысць габрэйскіх медыцынскіх устаноў, а становішча габрэйскага шпіталя – ад асоб грамадскіх дзеячаў, якія ўваходзілі ў апякунскую раду, і іх ангажаванасці ў філантрапічную дзейнасць. Дыскрымінацыйная дзяржаўная палітыка запавольвала прыток медычных кадраў габрэйскага веравызнання. «Адсоткавая норма», абмежаванне альбо забарона прымаць

на дзяржаўную службу асоб габрэйскага веравызнання прадвызначылі перавагу сярод медыкаў-габрэяў спецыялістаў сярэдняга звяна. Габрэйская медыцынская сістэма Гародні ў XIX – пачатку XX ст. мела класавы характар. Народная медыцына спалучалася са знахарствам.

Далейшае вывучэнне тэмы мае вялікія перспектывы. Па-першае, трэба адзначыць значнасць эмпірычнага пласта даследавання. Гісторыя як габрэйскай медыцыны ў мяжы аселасці, так і беларускай медыцыны, наогул, да гэтага часу не напісаныя, у нешматлікіх публікацыях па тэме мноства памылак і «белых плям». Па-другое, медыцынская сістэма з'яўляецца важнай часткай паўсядзённага жыцця: хваробы, санітарна-гігіенічныя ўмовы дазваляюць лепш уявіць жыццё «звычайнага чалавека ў звычайных абставінах». І, па-трэцяе, вывучэнне гісторыі габрэйскай медыцыны стварае мажлівасць выйсці на вельмі цікавую і пакуль што некранутую ў айчыннай гістарыяграфіі праблематыку аб фарміраванні расійска-габрэйскай інтэлігенцыі і мадэлях акультурацыі габрэйскага насельніцтва мяжы аселасці ў расійскае грамадства.

## Дадаткі

*Фармулярныя спісы гарадзенскіх урачоў габрэйскага веравызнання (1889)*[91]

Формулярный список о службе ординатора Гродненской окружной лечебницы, исполняющего должность Гродненского городового врача коллежского советника Авраама Андреса

Коллежский советник, лекарь **Авраам Моисеевич Андрес**, ординатор Гродненской окружной лечебницы, исполняющий должность Гродненского городового врача. 57 лет от роду, *вероисповедание* иудейское, имеет ордена Св. Анны 2 и 3 степени, Св. Станислава 2 степени, бронзовую медаль за усмирение польского восстания 1863–64 года и знак Красного Креста.

*Жалованье*. 400 руб., столовых 200 руб. Итого 600 руб.

*Сословная принадлежность*. Из мещан.

*Наличие недвижимости*. Родовых имений он и его родственники не имеют.

*Образование*. По окончании курса наук в Санкт-Петербургской медико-хирургической Академии удостоен степени Лекаря 11 июня 1859.

*Государственная служба*. Приказом Министра Государственных имуществ, назначен сверхштатным врачом при Гродненской Палате государ-

ственных имуществ 1862 года августа 10 дня. Приказом Министра Государственных имуществ за № 1 назначен сверхштатным окружным врачом Волковысского округа 1864 года января 1 дня. Министром Внутренних Дел переведён ординатором Гродненской окружной лечебницы 1865 года февраля 10 дня. Сверх сего назначен исполняющим должность Гродненского городового врача 1865 года февраля 27 дня. Указом Правительствующего Сената от 1862 года января 29 дня… за выслугу лет произведён в титулярные советники со старшинством с 10 августа 1862 года.

*Чины и звания*. Указом Правительствующего Сената от 11 сентября 1865 за выслугу лет произведён в коллежские асессоры… Указом Правительствующего Сената от 10 августа 1869 за выслугу лет произведён в надворные советники… Указом Правительствующего Сената от 10 августа 1873 за выслугу лет произведён в коллежские советники… С разрешения господина Командующего войсками Виленского военного округа и на основании приказа по военному ведомству исполнял ординаторскую обязанность при гродненском военном госпитале с 12 сентября 1877 по 13 апреля 1879 года.

Всемилостивейше награждён 2 апреля 1882 орденом Св. Станислава 2 степени за отличную усердную службу и особые труды по обязанности врача гродненской тюремной лечебницы 2 апреля 1882 года. Всемилостивейше награждён 2 апреля 1882 орденом Св. Анны 2 степени за отличную усердную службу и особые труды по обязанности врача гродненской тюремной лечебницы 14 февраля 1886 года.

*Был ли за границей?* Был для излечения от болезни с 6 июня 1864 на 4 месяца, из которого возвратился 3 сентября до срока за 1 месяц и 3 дня. В 1877 тоже за границу на 2 месяца с 16 июля и на срок явился. И 1883 за границу на 2 месяца с 20 июня по 20 сентября на срок явился. В 1886 за границу на 2 месяца с 20 июня, на срок возвратился. И в 1889 на 2 месяца за границу и на срок возвратился с 25 июля по 22 сентября.

*Женат или холост?* Вдов. У него дети: сыновья Гуго, род.25.09.1863, Моисей, род. 7.12.1864. Дочери: Берта, род. 9.01.1862 замужем за врачом Перецем; Роза род. 1.10.1867, замужем за врачом Гожанским; все вероисповедания иудейского.

<u>Формулярный список о службе Гродненского уездного врача, коллежского советника Ильи Соломоновича Кулькина</u>

Коллежский советник, лекарь **Илья Соломонович Кулькин**, Гродненский уездный врач 59 лет от роду, *вероисповедание* иудейское, знаков отличия не имеет.

*Жалованье* 460 руб., столовых 460 руб. Итого 920 руб.

*Сословная принадлежность*. Из мещан.

*Наличие недвижимости*. Родовых имений он и его родственники не имеют.

*Образование.* По окончании курса наук в Санкт-Петербургской медико-хирургической Академии в 1858 году со степенью Лекаря представлением Господина Попечителя Виленского Учебного Округа назначен штатным врачом при Гродненской гимназии 5 сентября 1863 года.

*Государственная служба.* Сверх занимаемой должности назначен временно особым врачом гор. Гродно для присмотра за приносящими разврат женщинами с вознаграждением по 500 рублей в год из сумм однопроцентного сбора, взысканного с городских домов, принадлежащих помещикам и римско-католическому духовенству 2 ноября 1863. Определён гродненским уездным врачом с освобождением от занятий особого врача городу Гродно 27 января 1868.

*Чины и звания* Указом Правительствующего Сената от 4 июня 1868 года за выслугу лет произведён в титулярные советники с 5 октября 1863 года. Указом Правительствующего Сената от 27 марта 1869 года за выслугу лет произведён в коллежские асессоры с 5 окт. 1866 года. Указом Правительствующего Сената от 16 июня 1871 года за выслугу лет произведён в надворные советники с 5 октября 1870 года. За отличную усердную работу по Положению господ министров Всемилостивейше вознаграждён 180 рублями из сумм сбора за обучение по гимназии 25 декабря 1870 года. Указом Правительствующего Сената от 9 марта 1876 года за выслугу лет произведён в коллежские советники с 5 октября 1876.

Предложением господина Попечителя Виленского Учебного Округа от 8 сентября 1877 года согласно желанию уволен от должности штатного врача при гимназии 3 сентября 1877 года.

Министерство ВД на основании ст. 310 и 522 Уст. О пенс. Т. № Св. Зак. за выслугу 20 лет назначил в пенсию на службе половину из 460 руб. оклада жалованья, а именно 230 рублей в год со дня подачи просьбы о пенсии с 1884 года 22 февраля.

*Был ли за границей?* Был уволен в отпуск на 2 месяца с 16 июня 1884 года и возвратился в срок.

*Женат или холост?* Женат на Тоубе Рахиль, имеет детей: сына Марка, род. 4 ноября 1859; дочери: Анну-Басю, род. 21 февраля 1863; Александру, род. 12 мая 1864; Розу, род. 18 октября 1865; Софью, род. 18 апреля 1868. Жена и дети все вероисповедания иудейского, жена и 2 дочери находятся при нём.

---

[1] Цыт. па: Грузенберг, С. О. Болезни еврейского населения и их причины / С. О. Грузенберг // Материалы по статистике болезненности в России: Оттиск их журн. «Международная клиника. СПб., 1890. С. 17.

[2] Бендетсон, Н. Еврейский квартал и парадные улицы / Н. Бендетсон // Рассвет. 1880. № 25. С. 978.

[3] Субботин, А. П. В черте еврейской оседлости: отрывки из экономических исследований

в западной и юго-западной России за лето 1887 года / А. П. Субботин. СПб., 1890. Вып. 2. С. 30.

[4] Zborowski, M. Das Stetl. Die untergangene Welt / M. Zborowski, E. Herzog. Munchen: Verlag C. H. Beck, 1992. S. 44.

[5] Тамсама, с. 44–45.

[6] Бес-мідраш – памяшканне, дзе габрэі збіраюцца на малітву і дзеля вывучэння рэлігійнай навукі.

[7] Роговников, С. Домашнее и школьное воспитание евреев / С. Роговников // Учитель. 1864. № 10 (май). С. 370–371.

[8] Котик, Е. Мои воспоминания / Е.Котик. СПб. М. Иерусалим: Мосты культуры / Гешарим, 2009. С. 59.

[9] Паперна, А. И. Из Николаевской эпохи / А. И. Паперна // Евреи в России: XIX век. М.: Новое литературное обозрение, 2000. С. 99.

[10] Бухштаб, Л. Б. Болезни евреев: публичная лекция, читанная в г. Одессе 9 сентября 1913 года / Л. Б. Бухштаб. Одесса, 1914. С. 10.

[11] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 19, адз. з. 1299, арк. 40.

[12] Тамсама. Ф. 9, воп. 2, адз. з. 435, арк. 68.

[13] Бухштаб, Л. Б. Болезни евреев… С. 17–24.

[14] Тамсама. С. 17.

[15] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 20, адз. з. 641.

[16] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 32, арк. 73 адв.

[17] Грузенберг С. О. Болезни еврейского населения и их причины // Материалы по статистике болезненности в России: Оттиск из журн. «Международная клиника». СПб., 1890. С. 11, 17.

[18] Abrachams, I. Zycie codzienne żydów w Sredniowieczu / I. Abrachams. Warszawa: Wyd-wo Cyklady, 1996. S. 94.

[19] НГАБ у Гародні. Ф. 2, воп. 30, адз. з. 1130, арк. 27.

[20] Pogadanki // Izraelita. 1879. № 8 (9–21 lutego). S. 61.

[21] НГАБ у Гародні. Ф. 369, воп. 1, адз. з. 106, арк. 90–91.

[22] http://dic.academic.ru/dic.nsf/enc_geo/1884/Зеленоградск. [Дата доступу 25.05.2011]

[23] http://www.euro-travel.ru/healtour1-23.html [Дата доступу 25.05.2011]

[24] http://travel.octarin.ru/travel/spa/places/europe/Czech. [Дата доступу 25.05.2011]

[25] http://www.alary.ru/cure/germany/bad_krojcnah. [Дата доступу 25.05.2011]

[26] НГАБ у Гародні. Ф. 369, воп. 1, адз. з. 106, арк. 96.

[27] Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці. Ф. 56, воп. 1, адз. з. 15, арк. 2.

[28] Z Cesarstwa // Izraelita. 1879. № 40 (5-17 pazdziernika). S. 332.

[29] R-s Chrześcjanin / Piszą nam z Druskienik / Korespondencja Izraelity // Izraelita. 1878. № 38 (15–27 września). S. 305.

[30] Z kraju // Izraelita. 1878. № 43 (27 pazdziernika – 8 listopada). S. 351.

[31] Pogadanki // Izraelita. 1879. № 26 (22 czerwca – 4 lipca). S. 216.

[32] Z tygodnia // Izraelita. 1881. № 6 (30 stycznia). S. 46.

[33] НГАБ у Гародні. Ф. 103, воп. 1, адз. з. 52, арк. 1.

[34] Тамсама. Адз. з. 65, арк. 2.

[35] НГАБ у Гародні. Ф. 103, воп. 1, адз. з. 52, арк. 1.

[36] Тамсама. Ф. 1, воп. 27, адз. з. 2842, арк. 1.

[37] Рохлин Л.Л. О еврейских лечебных заведениях в России // Еврейский медицинский голос. СПб., 1908. С. 6–7.

[38] НГАБ у Гародні. Ф. 15, воп. 1, адз. з. 8, 440.

[39] Тамсама. Ф. 1. Воп. 21, адз. з. 931, арк. 3 адв.

[40] Тамсама. Ф. 1, воп. 2, адз. з. 562, арк. 22 адв.
[41] Тамсама. Воп. 21, адз. з. 931, арк. 1.
[42] Тамсама. Воп. 9, адз. з. 1180, арк. 11, 12, 131, 138.
[43] Сабалеўская В. А., Баціс М., Буцько У., Крапівіна Н., Паняеў А., Фядосава Ю., Ханф Э., Шлёгель г Гародня: сляды яўрэйскага жыцця: Праваднік па яўрэйскай Гародні // Arche. 2010. № 6. С. 344–415.
[44] НГАБ у Гародні. Ф. 1. Воп. 21, адз. з. 931, арк. 3 адв.
[45] Тамсама. Воп. 17, адз. з. 1840, арк. 1-9.
[46] Тамсама. Воп. 28, адз. з. 568; ф. 9, воп. 1, адз. з. 459; ф. 15, воп. 1, адз. з. 8.
[47] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 459, арк. 62, 112.
[48] НГАБ у Менску. Ф. 332, воп. 1, адз. з. 27.
[49] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 849.
[50] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 2905, арк. 3.
[51] Тамсама. Воп. 2, адз. з. 2010, арк. 6 адв. – 243 зв.; воп. 1, адз. з. 2905, арк. 3.
[52] Тамсама. Ф. 9, воп. 2, адз. з. 435, арк. 68–333.
[53] Тамсама. Ф. 17, воп. 1, адз. з. 89, арк. 5, 22.
[54] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 2200, арк. 4–8 адв.
[55] Лялевіч, Я. Ад Каложы да Фартоў: гістарычная спадчына Гродна / Я. Лялевіч, І. Трусаў, А. Чарнякевіч. Мінск: Лімарыус, 2008. С.15.
[56] Паперна, А. И. Из Николаевской эпохи / А. И. Паперна // Евреи в России: XIX век. М.: Новое литературное обозрение, 2000. С. 60.
[57] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 7, адз. з. 86, арк. 72 адв.
[58] Тамсама. Арк. 67 адв.
[59] Тамсама. Ф. 38, воп. 2, адз. з. 1, арк. 101 адв.
[60] Тамсама. Ф. , воп. 14, адз. з. 123, арк. 1-1 адв.
[61] Тамсама. Арк. 101 адв. – 102 адв.
[62] Тамсама. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 2016, арк. 2.
[63] Тамсама. Воп. 7, адз. з. 1826, арк. 1–4.
[64] Памятная книжка Гродненской губернии на 1882 год: адрес-календарь и статистическо-справочные сведения. Гродно, 1881. С. 5; Памятная книжка Гродненской губернии на 1889 год: адрес-календарь и статистическо-справочные сведения. Гродно, 1889. С. 91.
[65] Памятная книжка Гродненской губернии на 1908 год: адрес-календарь и статистическо-справочные сведения. Гродно, 1908. С. 14.
[66] Памятная книжка Гродненской губернии на 1908 год. С. 54, 57.
[67] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 354, 2197.
[68] Тамсама. Адз. з. 266, арк. 1–21.
[69] Тамсама. Воп. 25, адз. з. 2400, арк. 45.
[70] Тамсама. Воп. 1, адз. з. 2197, арк. 125 – 125 зв.
[71] Мойхер-Сфорим, М. История одной жизни / М. Мойхер-Сфорим // Еврейский мир. 1909. Люты. С. 125–126.
[72] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 2131, арк. 75.
[73] Баал-шэм – габрэй-цудатворца, вера ў іх моц была асабліва распаўсюджа сярод хасідаў.
[74] Берлин, М. Очерк этнографии еврейского народонаселения в России / М. Берлин // Этнографический сборник, издаваемый императорским русским географическим обществом, СПб, 1862, вып. V. С. 34, 35.
[75] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 7, адз. з. 86, арк. 79–80, 580–614 адв..
[76] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 2131, арк. 75.
[77] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 20, арк. 17–18.

[78] Памятная книжка Гродненской губернии на 1908 год: адрес-календарь и статистическо-справочные сведения.- Гродно, 1908. С. 14.
[79] НГАБ у Гародні. Воп. 1, адз. з. 633, арк. 5.
[80] Тамсама. Адз. з. 2205.
[81] Тамсама. Адз. з. 971, арк. 40, 88 адв.
[82] НГАБ у Гародні. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 1070, арк. 72.
[83] Тамсама. Адз. з. 2686. Арк. 223 адв.
[84] Тамсама. Адз. з. 2200. Арк. 4–8 адв.
[85] Тамсама. Ф. 1, воп. 25, адз. з. 2400, арк. 26, 35, 54, 89, 95, 98, 116, 159.
[86] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 2131, арк. 2.
[87] Тамсама. Адз. з. 2200, арк. 4-8 адв.
[88] Тамсама. Арк. 3–3 адв.
[89] Тамсама. Воп. 7, адз. з. 3, арк. 54 адв.
[90] Тамсама. Ф. 1, воп. 25, адз. з. 2400, арк. 26, 35, 54, 89, 95, 98, 116, 159.
[91] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 1691, арк. 74–78, 84–87.

*Аляксандр Радзюк,*
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

# Злачныя мясціны Гародні ў другой палове XIX ст.

На побытавым узроўні тэрмін «злачная мясціна» атаясамліваецца ў першую чаргу з месцам, дзе адбываецца п'янства і распуста. Менавіта ў такім сэнсе гэты фразеалагізм замацаваны сёння ў некаторых тлумачальных слоўніках[1]. Найбольш трапна пад гэтыя характарыстыкі, на нашу думку, падыходзяць піцейныя ўстановы і публічныя дамы. Менавіта яны з'яўляюцца галоўным аб'ектам дадзенага даследавання.

Вывучэнне злачных мясцінаў Гародні другой паловы XIX ст. аказалася справай даволі складанай. Падчас працы над тэмай выявілася, што шынкі і падобныя ім установы траплялі ў сферу інтарэсаў мясцовых і цэнтральных уладаў амаль што выключна ў сувязі з правядзеннем нейкіх фіскальных ці санітарна-гігіенічных мерапрыемстваў. У сваю чаргу, публічныя дамы цікавілі афіцыйныя органы ў асноўным з пункту гледжання захавання пазітыўна-стабільнай сітуацыі з венерычнымі захворваннямі ў горадзе. Зразумела, што падобны, аднабаковы падыход абмяжоўвае магчымасці даследчыкаў у раскрыцці найбольш сутнасных аспектаў, што звязаны з функцыянаваннем злачных мясцінаў. Сітуацыя ўскладняецца тым, што ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гародні, на падставе крыніц якога напісаны гэты артыкул, адсутнічаюць фонды гарадской паліцыі і жандармерыі. Інфармацыю прыйшлося, літаральна, здабываць «па зярнятках», прасейваючы тузіны спраў у «данясеннях гарадзенскага паліцмайстра аб надзвычайных падзеях, што адбыліся ў горадзе». Але і гэты від крыніцы (нягледзячы на тое, што былі перагледжаны сотні падобных дакументаў), на жаль, не дае цэласнай карціны па абранай тэме.

### *Да тыпалагізацыі піцейных установаў*

Тэрмін «піцейная ўстанова» з'яўляецца абагульняючым для азначэння рознага тыпу «гандлёвых кропак», у якіх адбываўся гандаль спіртнымі напоямі, і таму патрабуе расшыфроўкі. Зрабіць гэта складана, бо ў справаводстве другой паловы XIX ст. для яго азначэння выкарыстоўвалася некалькі сінанімічных выразаў, а часцяком тая ж самая ўстанова акрэслівалася рознымі словамі.

У пераважнай большасці выпадкаў у дачыненні да месца продажу спіртных напояў (як для выпіўкі на месцы так і на вынас) улады выкарыстоўвалі тэрмін «піцейная ўстанова». Таксама дзеля гэтых мэт даволі часта ўжываліся яго сінонімы – «шынок» і «карчма». Канешне, па сваім функцыянальным прызначэнні гэтыя ўстановы не былі ідэнтычнымі адна адной. Але ў дакументах таго часу гэтая розніца часта нівеліравалася: «Глік заявіў, што тры рамізнікі ўцягнулі яго ў *піцейную ўстанову*, што на Марыінскай слабадзе каля Скідзельскай заставы, мерцвяка […] сцягнулі з воза (мёртвага) жыда і ўнеслі ў *карчму* Гліка»[2].

Паказальным у гэтым выпадку з'яўляецца прыклад шынка «Сакрэт», які ў двух дакументах, што датуюцца 1851 г. адным і тым жа чыноўнікам у розных месцах акрэсліваецца як «*піцейная ўстанова*», «*заезны дом*», «*карчма*» і «*шынок*»[3]. Іншае культавае гарадзенскае месца другой паловы XIX ст. «Пагулянка» ў пісьмовых крыніцах называецца то карчмой, то піцейнай установай. Надалей у некаторых выпадках мы таксама будзем карыстацца гэтымі азначэннямі ў якасці сінонімаў.

Падобная тыпалагічная градацыя была вельмі істотная ў першую чаргу для тагачасных уладаў: у залежнасці ад тыпу той ці іншай піцейнай установы ў дачыненні да яе дзейнічалі розныя нормы адпаведных прававых актаў (у першую чаргу піцейнага статута), што вызначалі час працы, асартымент гандлю, катэгорыі наведвальнікаў і г. д. Каб плаціць меншыя грошы ў мясцовы бюджэт і мець іншыя прэферэнцыі, гаспадары піцейных устаноў даволі часта выдавалі іх за іншы тып, чым ён быў насамрэч. Найбольш часта для легалізацыі сваёй дзейнасці па продажы моцных напояў гарадзенскімі шынкарамі выкарыстоўвалася назва «*харчэўня*». Па звестках мясцовых уладаў першая кропка грамадскага харчавання падобнага кшталту з'явілася ў Гародні ў 1848 г.[4], а ў 80-я гады XIX ст. яна адназначна дамінавала сярод усіх аналагічных устаноў.

У 1882 г. гарадзенскі паліцмайстар распачаў сапраўдную кампанію барацьбы супраць псеўдахарчэўняў. Ён рэгулярна скардзіўся вышэйшым уладам, што ўсе наскрозь установы губернскага цэнтра, якія па патэнтах і шыльдах значацца як «харчэўні», не адпавядаюць свайму статусу: «У харчэўнях, як і ў тракцірных установах, павінны быць рознага кшталту закускі, як халодныя, так і гарачыя, а таксама і продаж гарбаты». У гарадзенскіх жа харчэўнях, у большасці выпадкаў, асартымент гандлю абмяжоўваўся спіртнымі напоямі і халоднымі закускамі. Шынкарам такі стан рэчаў быў толькі на руку, бо, як сцвярджаў паліцмайстар, у падобным выпадку ім «прадстаўляецца права ажыццяўляць гандаль у святочныя і нядзельныя дні, а таксама падчас службы ў цэрквах»[5]. Да таго ж статус харчэўні даваў магчымасць гаспадару размясціць яе ў найбольш прывабных для ганд-

лю кропках і не вымагаў, як у выпадку з піцейнымі ўстановамі, захавання адпаведнай адлегласці ад культавых, вайсковых, губернскіх інстытуцый[6]. Акрамя таго, выхаванцам розных навучальных устаноў уваход у харчэўню, у адрозненні ад піцейнай, не быў забаронены, чым некаторыя гарадзенскія вучні і карысталіся[7].

Багатае справаводства другой паловы XIX ст. зафіксавала іншыя назвы і тыпы піцейных устаноў, што функцыянавалі ў Гародні на той час. Акрамя вышэй узгаданых шынкоў, піцейных устаноў, заезных (пастаялых) дамоў і харчэўняў, гэта былі *тракціры* (іх колькасць на працягу вызначанага часу заставалася досыць малой), *рэстарацыі* (удзельная вага якіх увесь час павялічвалася). Яны мелі права весці гандаль спіртнымі напоямі толькі «распівачна», г.зн. на месцы. Да гэтай жа групы таксама можна аднесці і «*аўстэрыі*», якія спарадычна ўзгадваюцца ў дакументах за розныя гады.

*Вінныя* склепы (іншыя назвы *рэнскавыя* або *рэйнскія склепы*), *піўныя лаўкі*, *портарныя лаўкі* былі досыць звычайнай з'явай для гарадзенцаў другой паловы XIX ст. Але ў адрозненні ад тых жа самых тракціраў яны не мелі права адпускаць алкагольныя вырабы на вынас (што праўда гэтае правіла далёка незаўсёды выконвалася). У 1850 г. у Гародні мела месца спроба ўтварыць так званыя «*водачныя выставы*» «падчас Петрапаўлаўскага кірмашу, што на Скідзельскай заставе і на Сянной плошчы падчас базарных дзён». Але сам ініцыятар гэтай ідэі гарадзенскі паліцмайстар быў вымушаны адмовіцца ад яе ў сувязі з тым, што павышаны попыт на спіртныя напоі ў азначаныя дні маглі задаволіць традыцыйныя шынкі[8]. Магчыма, азначаны тып піцейнай установы замацаваўся ў канцы 50-х гадоў XIX ст. ужо пад іншай назвай – «*шторфных*» і «*вядзёрных*» *лавак*, якіх налічвалася на той час у горадзе 8 штук[9]. Цікава, што ў іншых гарадах і мястэчках Гарадзенскай губ. (за выключэннем Беластока і Драгічына) падобны тып піцейных устаноў на той час адсутнічаў.

Даволі часта ў дакументах згадваюцца *буфеты*. На працягу вызначанага часу гэта былі пераважна часовыя ўстановы, якія адчыняліся ў сувязі з правядзеннем нейкага мерапрыемства (маскарад, баль, танцы, падчас прыезду цырка і г. д.) ці на некаторы адрэзак часу (летам у гарадскім садзе ці іншым месцы адпачынку гарадзенцаў). Пры наяўнасці адпаведнага дазволу яны таксама маглі ажыццяўляць продаж алкаголю, што аўтаматычна пераводзіла іх у лік злачных мясцінаў. Яскравым доказам гэтаму з'яўляецца буфет «Аркадзія», што дзейнічаў у 1898 г. у Панямунскім лесе ў летнім павільёне – месца «разгула і п'янства»[10]. Больш ці менш рэгулярны характар функцыянавання ў другой палове XIX ст. мелі буфеты ў гарадскім тэатры і на чыгуначным вакзале, але яны, здаецца, моцныя напоі наведвальнікам не рэалізоўвалі.

У канцы стагоддзя ў Гародні ўзнікаюць новыя тыпы піцейных устаноў, дзейнасць традыцыйных набывае новыя адценні. Чаго вартае толькі такое спалучэнне – *«склеп рускіх він і пейсахавай гарэлкі»*[11]?! Шырокае распаўсюджанне набываюць *піўныя лаўкі*, якія пасля ўвядзення дзяржаўнай манаполіі становяцца асноўным відам прыватнаўласніцкіх гандлёвых кропак падобнага кшталту. Таксама ў дакументах сустракаюцца такія назвы як *рэстаран-кухмістарская для габрэйскага насельніцтва*, *закусачная*, *чайная з закускай* і г. д. У 1899 г. па ініцыятыве капітана парахода «Русалка» Роберта Александровіча адчыніўся буфет на судне, што рабіў рэйсы паміж Гародняй і Мастамі[12].

А вось тэрмін *кабак* не быў у які-небудзь спосаб адлюстраваны на гарадзенскіх шыльдах ці нават афіцыйных справаздачах. Гэтае слова адмыслова выкарыстоўвалася цывільнымі і вайсковымі ўладамі, калі яны хацелі падкрэсліць негатыўны складнік функцыянавання мясцовых піцейных устаноў. Яно сустракаецца не так часта, але той сэнс, які ў яго ўкладваўся, найбольш трапна адпавядае таму азначэнню, што характарызуе злачныя мясціны. «Тракцір яго з'яўляецца месцам п'янага разгула, – дзяліўся ўражаннямі чыноўнік акцызнага ведамства ад наведвання піцейнай установы Васілеўскага, што месцілася на Сянной плошчы ў доме габрэя Любіча, – пакідае ўражанне дарэформенага кабака»[13].

Такім чынам, другая палова XIX ст. вызначаецца стракатасцю разнастайных формаў піцейных устаноў Гародні. Яны розніліся функцыянальным прызначэннем, спектрам паслуг, сацыяльным складам наведвальнікаў, умовамі гаспадарання. Разам з традыцыйнымі для папярэдніх эпох тыпамі дамоў, што ажыццяўлялі гандаль спіртнымі напоямі (*карчма, заезны дом, шынок*), пад уплывам еўрапейскай і агульнаімперскай тэндэнцый у гэты час узнікаюць новыя тыпы падобных устаноў (*рэстарацыі, чайныя, склепы він* і г. д.) Пры гэтым гарадскія ўстановы падобнага тыпу працягвалі захоўваць мясцовы каларыт…

## *Дзве канцэпцыі гарадзенскіх шынкоў*

Увогуле цывільныя і вайсковыя ўлады даволі часта ўжывалі адмоўныя азначэнні для характарыстыкі гарадзенскіх піцейных устаноў і таго, што ў іх адбывалася. Словы *прытон, распуста, парок, п'янства, разгул* – гэта не поўны пералік тых штампаў, якія трывала замацаваліся за падобным тыпам устаноў у свядомасці тагачасных людзей і, адпаведна, у гістарычных крыніцах. Але такі спосаб успрыняцця шынкоў не быў адзіным. Ён цалкам супярэчыць тым ацэнкам, што сустракаюцца на старонках дакументаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца гаспадары гэтых самых устаноў. З іх слоў вынікае,

што гарадзенскія шынкі – гэта амаль што «прытулак для ягнятак»: «Вядома, што звычаі і норавы ўсіх станаў кожнага краю розняцца. Тут (у Гародні – *А.Р.*) наведваюць піцейныя ўстановы і бяседуюць (у беларускай мове тэрмін «бяседа» азначае «збор людзей за пачастункамі» – *А.Р.*) у іх прыстойным чынам і людзі сярэдняга, а калі-нікалі і вышэйшага класа, таму што многія піцейныя ўстановы складаюцца з некалькіх чыстых пакояў, што ўпрыгожаны мэблямі […]»[14], – адзначаецца ў калектыўным лісце (больш за 30 подпісаў) шынкароў на імя губернатара фон Галера ў 1863 г. Чыя ж ацэнка дзейнасці гарадзенскіх піцейных устаноў больш адпавядае рэчаіснасці?

Пачнём з кантынгенту, які наведваў мясцовыя піцейныя ўстановы. Як сведчаць дакументы таго часу, публіка была досыць стракатай. У розных крыніцах за розныя гады ў пераліку наведвальнікаў сустракаюцца згадкі аб сялянах, габрэях-фактарах, пісарах, бухгалтарах і іншых чыноўніках, майстравых людзях, пекарах, карэтніках, фельдфебелях, жанчынах, краўцах, фельчарах, «рабочых людзях», сакрэтных агентах, нарэшце, рамізніках і г. д. У адным з дакументаў, што датуецца 1898 г., уладамі праведзены падзел публікі аднаго з грамадскіх месцаў харчавання на «чыстую і майстравых».

У мастацкай кнізе В. Рабіна акцэнт робіцца на наведвальніках розных рабочых прафесій: «У суботу ўвечары ў (харчэўні – *А. Р.*) Шымен-Лейвы збіраюцца заўсёднікі шынка – рыбнікі, грузчыкі, дрывасекі і чорнарабочыя. З дня ў дзень прыходзяць яны сюды прапусціці чарку гарэлкі, выпіць чарку віна […]»[15]

Вучні навучальных устаноў Гародні сярод кліентаў шынкоў павінны лічыцца хутчэй як выключэнне, чым правіла. Хаця прыклад суседняга Беластока, дзе была выдадзена адмысловая газета-аднаднёўка гумарыстычнага зместу пад назвай «Бальны веснік (нумар першы і апошні)», пакідае багатую глебу да разважанняў у гэтым кірунку.

Вайскоўцы з'яўляліся надзвычай важным элементам у функцыянаванні гарадзенскіх піцейных устаноў. З аднаго боку – гэта быў галаўны боль, бо досыць часта яны былі прычынай розных непрыемных здарэнняў, сутычак і боек, як напрыклад у выпадку, што датуецца красавіком 1879 г.: «На Іерусалімскай вуліцы ў піцейнай установе Моўшы Сегаловіча ўвечары рабочыя купца Лейпунскага пачалі бойку з салдатамі, адзін з іх кідаючы камяні трапіў у іншага салдата-мінака, якога шпіталізавалі»[16].

З іншага боку, салдаты і афіцэры займалі пачэснае месца сярод наведвальнікаў тых жа самых шынкоў. Аб тым, што вайскоўцы (як вышэйшыя, так і ніжэйшыя чыны) былі ласыя да выпіўкі, сумнявацца не выпадае: «Унцер-афіцэр 9 роты Стараінгермаландскага палка Лука Вярбіцкі а 14-й гадзіне самавольна адлучыўся за горад у карчму Ласосну зкуль а 19-ай быў прынесены ніжнімі чынамі непрытомны п'яны на кватэру, дзе пры аказанні

медычнай дапамогі праз 10 хвілін памёр»[17]. Акрамя таго, размяшчэнне ў горадзе вайсковых частак непасрэдна ўплывала на лакалізацыю мясцовых шынкоў: «У сувязі з непарадкамі, якія робяць ніжэйшыя чыны 26 артылерыйскай брыгады, што размешчаны ў казармах за Скідзельскай заставай […] у сувязі з тым, што на Іерусалімскай вуліцы, а таксама і на Слабодцы па блізкасці тых казармаў утварылася мноства жыдоўскіх кабакоў...», – скардзіўся і прасіў разабрацца вышэйшы афіцэрскі чын гэтай часткі[18].

У калектыўным лісце шынкароў, які прыводзіўся вышэй, падкрэсліваецца прыстойны інтэр'ер і выгляд гарадзенскіх піцейных устаноў. На жаль, недахоп крыніц па гэтым прадмеце не дае нам магчымасці пацвердзіць ці абвергнуць гэтае сцвярджэнне. Але нават тыя нешматлікія дадзеныя, якія сустракаюцца ў розных дакументах, даюць падставу сцвярджаць, што большасць піцейных устаноў другой паловы XIX ст. былі размешчаны зусім не ў адмысловых будынках. Пад шынок мог быць прыстасаваны, фактычна, кожны звычайны дом (неабавязкова камяніца). Прыведзены вышэй прыклад аб імгненным павелічэнні колькасці шынкоў на адной з вуліц горада, у сувязі з дыслакацыяй у тым раёне вайсковай часткі, з'яўляецца пацверджаннем гэтай тэзы.

Сапраўды, не маглі ж габрэі ў такі кароткі прамежак часу пабудаваць і абсталяваць там пэўную колькасць адмысловых шынкоў? Куды прасцей было атрымаць ад губернскіх уладаў патэнт (ліцэнзію) на ажыццяўленне адпаведнай дзейнасці і прыстасаваць дзеля гэтага ўжо існуючыя будынкі: «Васіль Грынкевіч, гаспадар піўной лаўкі на Занёманскім фарштаце (абвінавачаны) у прадстаўленні для промыслу сваёй кватэры […], якая аддзелена ад лаўкі толькі перагародкай з дошак»[19]. У падобным выпадку ўлады патрабавалі ад гаспадароў выканання пэўных умоў, адной з якіх з'яўлялася абавязковая наяўнасць асобнага ўваходу ў памяшканне, дзе ажыццяўляўся гандаль. Таксама катэгарычна забаранялася, каб наведвальнікі маглі з піцейнай установы трапіць у жылую частку памяшкання. Што праўда, гэтае правіла (як дарэчы і многія іншыя) не заўсёды выконвалася.

Можна сцвярджаць, што піцейныя ўстановы (ці частка з іх) складаліся з аднаго ці некалькіх пакояў, мелі (барную) стойку, сталы і лавы. Некаторыя шынкі былі абсталяваныя лядоўняй для захавання харчовых прадуктаў. Згадкі пра наяўнасць у шынках більярда датуюцца 60-мі гадамі XIX ст.[20] Сапраўдны масавы характар гэты від баўлення часу набывае ў канцы стагоддзя, аб чым сведчаць шматлікія звароты гаспадароў да ўладаў з просьбамі дазволіць ім трымаць більярд (пры тым, што стол для більярда каштаваў зусім не танна – да 800 руб.[21]) У гэты ж час у найбольш заможных рэстарацыях з'яўляюцца «музычныя скрыні-аўтаматы» (ігральныя шафы)[22].

Куды больш поўную карціну таго, як выглядалі мясцовыя шынкі дае

нам мастацкая літаратура. І ў першую чаргу, асноўным экспертам у гэтым пытанні выступае габрэйскі пісьменнік Восіп Рабін, які нарадзіўся і правёў сваё юнацтва ў Гародні, а ў сталыя гады стварыў цэлы летапіс габрэйскага жыцця нашага горада ў XIX ст. З улікам усіх асаблівасцяў, якія ўласцівы такому віду крыніц, гэты твор, тым не менш, варты даверу. Такім чынам, у адпаведнасці з В. Рабінам традыцыйная габрэйская харчэўня (паралельна аўтар таксама ўжывае тэрмін шынок) XIX ст. выглядала наступным чынам: «У харчэўні Шымена-Лейвы падлога сёння ўсыпана апілкамі. За буфетнай стойкай, якая застаўлена півам і вінамі, чакаючы гасцей уладкаваўся сам гаспадар. З боку кухні ідзе водар апетытных буракоў (баршча) […] Пасярод пакоя на стале месціцца вялікі пузаты самавар. На ўсіх канцах стала расстаўлены гліняны посуд, раскладзены алавяныя лыжкі, драўляныя сальнічкі. У глыбокай місе накрышана сала […]»[23]

Не да канца зразумела, ці былі ўсе шынкі таго часу абсталяваныя шыльдамі. Улады патрабавалі ад шынкароў, каб на адпаведным будынку абавязкова прысутнічаў вонкавы атрыбут, які б сведчыў аб характары дзейнасці гэтай установы: «Прыстаў першай часткі Гародні […] прыбыў у домік мешчаніна Мойшы Пазняка для агляду піцейнай установы […] да якога разраду яна належыць па патэнту і ўнутранаму ўстройству і ці мае адпаведную шыльду»[24]. Натуральна, што гаспадары таксама былі зацікаўленыя ў тым, каб неяк азначыць месца сваёй гандлёвай актыўнасці. Але разам з тым, на іканаграфічных дакументах другой паловы XIX ст., у тым ліку і на малюнках Напалеона Орды, які з фатаграфічнай дакладнасцю замаляваў сярод іншага і цэнтральную частку горада, і Занёманскі фарштат, і ўезд у Гародню, нідзе няма шыльдаў.

А вось што пісаў згаданы В. Рабін: «[…] Шыман-Лейві адчыняе сваю харчэўню «Сем грошай». Уласна, шыльды з такой назвай няма, нідзе яна (назва – *А. Р.*) не згадваецца, але кожны ведае дзе гэтая харчэўня знаходзіцца»[25]. Цалкам магчыма, што піцейныя ўстановы таго часу хутчэй за ўсё не мелі адмысловых шыльдаў з уласнымі назвамі, а былі пазначаны толькі агульнымі інфармацыйнымі знакамі. Аб гэтым, між іншым, сведчаць словы з рапарта гарадзенскага паліцмайстра, што датуюцца 1882 г.: «Усе гэтыя ўстановы, на шыльдах якіх ёсць надпіс «харчэўня», з’яўляюцца нічым іншым як піцейнымі дамамі»[26].

Такім чынам, супастаўляючы прадстаўленыя вышэй погляды на гарадзенскія піцейныя ўстановы, можна канстатаваць, што тая карціна, якая была прэзентавана ў калектыўным лісце гарадзенскіх шынкароў, не зусім адпавядала рэчаіснасці. Тым больш, што шынкі нельга аднесці да месцаў, дзе людзі збіраліся для «прыстойнай бяседы». З прадстаўленага матэрыялу таксама вынікае, што піцейныя ўстановы таго часу падзяляліся

на некалькі катэгорый, у адпаведнасці з сацыяльным статусам той публікі, якая іх наведвала. Не выклікае сумненняў, што асноўны кантынгент іх наведвальнікаў складалі пераважна бяднейшыя слаі месцічаў (у тым ліку прадстаўнікі гарадскога «дна»), а таксама вайскоўцы. Менавіта гэтыя дзве катэгорыі ў асноўным і прычыніліся да фармавання адмоўнага аблічча гарадзенскіх шынкоў у цэлым.

*Шынкі як месцы супрацьстаяння: улады vs шынкі → месцічы vs улады*

Абраныя рамкі даследавання звязаны з рэалізацыяй уладамі некалькіх вельмі істотных кампаній у дачыненні да ўсяго піцейнага бізнесу, якія радыкальным чынам паўплывалі на ўсю сістэму гарадзенскіх піцейных устаноў.

1848 г. – гэта тая дата, калі ў Гародні была праведзена спроба значнага скарачэння колькасці злачных мясцін. У гэты год гарадскі магістрат спахапіўся, што лічба піцейных устаноў у Гародні не адпавядае тым нормам, якія дапускаліся палажэннем аб акцызным зборы. Аказалася, што гэты дакумент дазваляў мець у горадзе не больш за 1 шынок на 10 дамоў. У Гародні ж колькасць піцейных устаноў на той час рознымі асобамі ацэньвалася ў 500 ці 250 шынкоў[27]. Хаця другая лічба з’яўляецца больш верагоднай, усё роўна, нават яна выглядае фантастычнай. З улікам таго, што колькасць жылых дамоў у горадзе на той час складала каля 1 тыс., атрымоўваецца, што ў кожным чацвёртым доме (за выключэннем дзяржаўных і рэлігійных устаноў) месціўся шынок ці нешта падобнае. Перафразуючы неўміручых класікаў савецкай літаратуры І. Ільфа і Я. Пятрова пра наш горад можна сказаць, што «У губернскім горадзе N было так шмат шынкоў ды тракціраў, што здавалася людзі ў горадзе нараджаюцца для таго, каб выпіць і закусіць».

Канешне, гарадскія ўлады не маглі пагадзіцца з парушэннем інструкцыі. Натуральна, што імі была распачата кампанія па скарачэнні колькасці піцейных устаноў у горадзе. Можна толькі ўявіць, якая рэакцыя чакала іх з боку гаспадароў усіх гэтых шынкоў, якія шырокія перспектывы для карупцыі прадстаўляла правядзенне гэтай акцыі (неабходна было пакінуць толькі 110, а «астатнія 140 падвергнуць ліквідацыі»[28]). Мусіць справа зацягнулася на гады, бо паводле гадавой справаздачы гарадзенскага паліцмайстра ў 1850 г. у Гародні існавалі 240 піцейных дамоў, 7 склепаў він, 5 тракціраў і гатэляў[29].

Праўда, з цягам часу ўладам удалося дабіцца свайго. Колькасць злачных мясцінаў у горадзе скарацілася. Так, статыстыка за 1858 г., якая на жаль не можа лічыцца дакладнай ужо з тае прычыны, што не ўлічвала тыя злачныя мясціны, якія знаходзіліся ў руках гаспадароў-хрысціян, зафіксавала

лічбу ў 66 піцейных ўстаноў, 13 заезных двароў і 4 склепаў замежных він[30]. Наступныя дадзеныя тычацца ўжо 1880 г., калі ў горадзе было зафіксавана 110 піцейных устаноў[31]. З улікам таго, што ўсё насельніцтва Гародні на той час складала 36 020 чалавек, атрымоўваецца, што 1 шынок прыпадаў на 327,5 гарадзенцаў. У параўнанні з іншымі гарадамі губерні, Гародня па гэтых паказчыках не была лідэрам, а саступала Берасцю, дзе ў 1880 г. налічвалася амаль што ў паўтара разы больш аналагічных устаноў.

У наступныя гады колькасць шынкоў па горадзе заставалася больш ці менш стабільнай. Улады кантралявалі іх колькасць і адмаўлялі ў просьбах на адкрыццё новых у выпадку, калі яна дасягала нейкай дапушчальнай лічбы[32]. Такім чынам, з улікам тых дадзеных, што прыводзяцца ў Дадатку, аказваецца, што колькасць піцейных устаноў у Гародні ў другой палове XIX ст. вагалася ад 80 да 250[33].

Даволі цікавыя звесткі аб гарадзенскіх шынках і іх гаспадарах утрымлівае дакумент, які прадстаўлены ў Дадатку. Па-першае, ён дае адказ на пытанне аб рэлігійнай прыналежнасці гаспадароў (арандатараў) гарадзенскіх піцейных мясцін. У адпаведнасці з гэтай крыніцай колькасць шынкароў хрысціян і габрэяў на той час мела адносіны як 1 да 10. Дарэчы, на пачатку 80-х гадоў гэтая дыспрапорцыя была яшчэ больш выразнай. Тады з 110 гарадзенскіх шынкоў толькі 4 належала неіўдзеям[34] (для параўнання – у Беластоку на той час шынкароў-хрысціян не было ўвогуле).

У структуры хрысціянскага насельніцтва, што займалася гэтай справай цягам XIX ст. было шмат сялянаў і выхадцаў з вёскі, што мянялі свой ранейшы статус і станавіліся мяшчанамі. Некаторыя з іх набывалі ў горадзе камяніцы, станавіліся гаспадарамі рэстарацый, але не маглі нават паставіць свой подпіс пад дакументам[35]. Па-другое, дзякуючы гэтаму спісу, можна даведацца, што каля 2/3 «тракцірных» устаноў месціліся ва ўласных хатах шынкароў і толькі 1/3 арандаваліся. Таксама звяртае на сябе ўвагу высокая ўдзельная вага ў спісе шынкароў-жанчын. Па-трэцяе, гэты дакумент дае інфармацыю аб іх размяшчэнні. Каля 20% піцейных устаноў знаходзілася на левым беразе Нёмана, а яшчэ прыкладна 30% лакалізаваліся на чатырох асноўных вуліцах: Садовай, Саборнай, Падольнай і Маставой. Дарэчы, у параўнанні з 1858 г. яны здабылі для сябе ў горадзе новыя тэрыторыі, бо, калі верыць папярэдняму дакументу, на той час іх размяшчэнне ў Гародні абмяжоўвалася 5–6 вуліцамі ў цэнтры і Занёманскім фарштатам[36].

31 чэрвеня 1896 г. стала, пэўна, апошнім днём у дзейнасці большасці піцейных устаноў Гародні. З наступнага дня ўладамі была рэалізавана кардынальная рэформа ўсёй сістэмы гандлю спіртнымі напоямі. У выніку ўвядзення дзяржаўнай манаполіі забараняўся дробны (распівачны) продаж алкагольных вырабаў (у тым ліку і піва) прыватнымі асобамі. Дазваляўся

гандаль толькі «на вынас». Канешне, падобнае мерапрыемства карэнным чынам ламала ўсю тую структуру злачных мясцін, што складвалася дзесяцігоддзямі. Гаспадары ранейшых шынкоў і іншых падобных установаў, фактычна, засталіся без працы і павінны былі тэрмінова мяняць накірунак сваёй дзейнасці. Некаторыя з гарадзенскіх шынкароў (дадзеныя тычацца выключна габрэяў) перакваліфікаваліся ў гандляроў, некаторыя засталіся ў сферы грамадскага харчавання, але змянілі профіль сваіх установаў на закусачныя, харчэўні, сталовыя, чайныя і нават заняліся продажам квасу. Некаторыя так і не знайшлі сабе занятку ці былі нават вымушаны пакінуць горад[37].

Такая падзея, як закрыццё старых шынкоў і пераход да новай сістэмы рэалізацыі спіртных напояў, мела вялікі рэзананс сярод усёй мясцовай супольнасці. Паміж жыхароў Гарадзенскай губ. хадзілі чуткі, «што віно (у сэнсе гарэлка) будзе горшым, слабейшым, з вялікімі недамерамі, што віно можна будзе набываць толькі пасля атрымання на тое пасведчання ад валаснога праўлення ці духавенства […]»[38] Улады таксама баяліся рэакцыі гараджан на падобныя змены і мусілі арганізаваць у Гародні (як, дарэчы, у Беластоку і Берасці) паліцэйскія пасты ў першыя дні дзяржаўнай манаполіі паблізу вінных лавак[39].

У разглядаемы перыяд улады імкнуліся да рэгламентавання не толькі колькасці, але і іншых праяваў дзейнасці піцейных установаў. Агульнадзяржаўныя правілы піцейнага промыслу забаранялі мець шынкі бліжэй за 150 сажань ад казармаў, за 40 сажань ад культавых пабудоў, працаваць у нядзелю ці «табельныя дні», пакуль у храмах не скончыцца імша і г. д.[40] Асобным галаўным болем афіцыйных органаў было недапушчэнне дзейнасці шынкоў у межах г. зв. «адкупной двухвёрстнай дыстанцыі», калі забаранялася існаванне любых піцейных установаў на адлегласці менш, чым дзве вярсты ад горада.

Гарадскія ўлады распрацоўвалі адмысловыя мясцовыя правілы для падобных установаў. Так, у адпаведнасці з «Абавязковымі пастановамі аб ажыццяўленні ў г. Гародні тракцірнага промыслу», што былі складзены гарадской Думай у лістападзе 1893 г., шынкарам прадпісвалася мець патэнт на відавоку, буфет для моцных напояў, асобную кухню, склеп, трымаць прыбіральню у чысціні, дазвалялася працаваць з 7 да 23 гадзін (болей толькі з адмысловага дазволу), забаранялася занавешваць шыбы і г. д.[41] Разам з тым, азначаныя пастановы замацоўвалі жорсткія абмежаванні на месцазнаходжанне шынкоў. Не дазвалялася мець піцейныя ўстановы: «1. На Рыбацкай слабодцы і паўночна-заходняй частцы горада, якая абмяжоўваецца р. Нёманам, зямельнай граніцай горада да Грандзіцкай дарогі і архіерэйскага моста, а адсюль ярам пад гэтым мостам да р. Гараднічанкі,

уніз па яе плыні да моста на Віленскім завулку, а адтуль [...] да ўпадзення гэтай рэчкі ў Нёман; 2. У мясцовасці, што размешчана на паўднёва-усходняй частцы горада за выключэннем Падольнай вуліцы ад чыгуначнага моста да дома Легача ўключна [...]»[42]

Як вядома, кожнае дзеянне спараджае супрацьдзеянне. Гаспадары шынкоў ды іх заўсёднікі, калі ўпотай, а калі непрыхавана парушалі азначаныя правілы ды не толькі іх. Нягледзячы на жорсткі кантроль з боку адпаведных акцызных службаў, паліцмайстра, жандараў, начальнікаў участкаў і гараднічых у Гародні, як адзначаў ў сваім рапарце адзін з чыноўнікаў «бесперапынна адбываецца кормчаства»[43] (гэта значыць нелегальны, беспатэнтны продаж алкаголю).

Дастаткова зірнуць на маштабы мясцовай кантрабанды, яе асартымент, каб пераканацца ў тым, што гэтае сцвярджэнне мае пад сабой рэальную аснову. «Левым» спіртам, ромам, аракам, портарам ахвотна карысталіся як легальныя, так і нелегальныя шынкары. Пры гэтым яны маглі пастаяць у абарону свайго тавару, як, напрыклад, гэта зрабілі габрэі ў выпадку, калі чыноўнікі акцызнага збору разам з дзесятнікам і двума радавымі паспрабавалі канфіскаваць бочку (прыкладна 7 вёдзер) спірту ў Гіршы Следзя, які жыў на Казіным рынку. У выніку «сабраўся натоўп да сарака чалавек [...] кінуўся на іх з камянямі, паленамі, сякерамі [...] і пачалі іх біць [...] выкралі бачонак». Чыноўнік з прыкрасцю адзначаў, што «падобны гвалт адбываецца ўжо не першы раз, што акцызныя чыноўнікі кожны раз знаходзяцца ў страху»[44].

Але былі і іншыя спосабы супрацьстаяння ўладам. Яскравым прыкладам больш мірнага супраціву з'яўляюцца падзеі, што адбываліся ў Гародні і наваколлі на пачатку 50-х гадоў XIX ст. Тады месцічы і ў першую чаргу габрэі арганізавалі сапраўдную змову (*херым*, што азначае праклён, адлучэнне), каб не купляць і не піць «ніякіх піцей у зоне водкупа»[45]. Узнікае нават думка, ці можа яны асэнсавалі згубны ўплыў алкаголю і далучыліся да суполкі «Цвярозасць»? Але, не такімі былі гарадзенцы ў тыя часы. Калі было прынятае тайнае рашэнне не купляць спіртное ў горадзе, то гэта зусім не азначала, што гэтага нельга было рабіць па-за яго межамі (і адначасова межамі чарачнага водкупу). Месцічы «цэлымі натоўпамі» накіроўваліся ў карчму «Сакрэт», што тады месцілася па-за межамі двухвёрстнай мяжы.

Зразумела, што гэтая ўстанова не магла задаволіць попыту ўсіх жадаючых. Другім папулярным накірункам «п'янага шопінга» на доўгі час становіцца суседняе Каралеўства Польскае. «У сувязі з продажам у Царстве Польскім гарачых напояў па больш нізкіх цэнах [...] жыхары, што жывуць уздоўж і каля мяжы, асабліва ж рабочы люд накіроўваюцца з гарадоў і мястэчак штодня ў вялікай колькасці нават па некалькі сот (!)

чалавек на суткі ў межы Царства Польскага, дзе не толькі спажываюць на месцы […], але і прыносяць і прывозяць значныя партыі»[46], – скардзіўся начальнік гарадзенскага чарачнага водкупу Міхайла Тапчоў. А хадзіць далёка і не трэба было. «З улікам мясцовых абставінаў […] па размяшчэнню Гародні пры вёсцы Ласосна, дзе напоі добрай якасці прадаюцца па танных коштах, мясцовы піцейны збор прыносіць казне вельмі малую карысць»[47], – адзначалася ў лісце, датаваным ужо 60-мі гадамі.

У больш позні час народ вынаходзіў іншыя спосабы здабыцця таннага спіртнога. Як адзначалася медыцынскім дэпартаментам МУС у 1884 г., «у некаторых мясцовасцях Расіі насельніцтва спажыве ў якасці напою адэкалон»[48]. Пры гэтым найбольшай папулярнасцю цешыўся «Народны адэкалон № 10», які ўтрымліваў ад 60 да 80 % спірту «па Тралесу».

Невядома ці спажывалі гарадзенскія месцічы падобны парф’юм, але з пэўнасцю можна казаць, што ў канцы XIX ст. у нашым рэгіёне значным попытам карыстаўся (дарэчы, як і ў канцы XX ст.) тэхнічны спірт. Чыноўнікі акцызнага ведамства неаднаразова затрымлівалі цэлыя транспарты з нейкай вадкасцю ў бочках, якая па накладных дакументах акрэслівалася як чорны неачышчаны шкіпінар ці спіртавы лак: «Транспарты гэтыя, мусіць, прызначаліся да адпраўкі на тайныя бровары, дзе вадкасці гэтыя лёгка пераўтвараюцца ў прыдатны для ўжытку моцны напой, які пасля свабодна збываецца ў рознага кшталту беспатэнтных шынках»[49].

Атрыманы ў выніку падобных дзеянняў сурагат карыстаўся вялікай папулярнасцю ў народа «дзякуючы ўласціваму яму гаркаватаму смаку і больш моцнаму п’янючаму дзеянню». Канцэнтрацыя падобных перагоначных заводаў у Беластоку, Берасці, Бельскім уездзе дае падставу меркаваць, што такі промысел быў вядомы і ў нашым горадзе, тым больш, што спірт пасля разліваўся ў бутэлькі з-пад казённага віна і рэалізоўваўся нават праз афіцыйныя кропкі гандлю (манапалькі)[50].

У сувязі з прыведзенымі фактамі хацелася б закрануць праблему схільнасці тагачаснага насельніцтва да спажывання спіртных напояў. Афіцыйныя таксама, як і неафіцыйныя, звесткі па гэтай праблеме носяць супярэчлівы характар. З аднаго боку сустракаюцца дадзеныя, якія сведчаць аб значнай распаўсюджанасці гэтай шкоднай звычкі ў мясцовага насельніцтва. Як адзначана ў афіцыйнай гадавой справаздачы гарадзенскага земскага суда за 1855 г. «маральнасць тут у чорнага народа вельмі слабая ад навыку спажываць моцныя напоі па вялікай колькасці корчмаў і неадукаванасці […]»

І сапраўды, калі звярнуцца да афіцыйнай статыстыкі, то зафіксаваныя там лічбы спажывання спіртных напояў уражваюць. У гадавой справаздачы губернатара за 1850 г. адзначана, што ў гэтым годзе ў Гародню было завезена

28 245 вёдзер гарэлкі і 450 вёдзер спірту. Зразумела, што не ўсё тое, што ўвозіцца абавязкова спажываецца. Але наступны радок з гэтай статыстыкі сапраўды ставіць у тупік: за год спажыта 27 950 вёдзер гарэлкі і 450 вёдзер спірту (1 вядро = дваццаці бутэлькам = 12,299 літрам). Канечне ж гэтыя дадзеныя не адлюстроўваюць сапраўднай карціны спажывання спіртных напояў на душу насельніцтва ў Гародні. Магчыма, частка гэтага алкаголю ішла на тэхнічныя патрэбы. Нельга таксама забываць пра вайсковую прысутнасць у горадзе. Але з іншага боку, гэтыя лічбы афіцыйныя, а колькі спіртнога пранікала па нелегальных каналах? А калі ўзгадаць тыя натоўпы, якія штодня з адной толькі мэтай хадзілі за мяжу?

З усяго гэтага вынікае, што праблема п'янства была надзвычай актуальнай у тыя часы. І не толькі сярод вайскоўцаў. Аналіз спісаў асоб, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў Гародні нават за першую палову XIX ст. выяўляе там асоб, якія туды трапілі «за п'янства і …» (далей ідуць розныя варыяцыі – «гульня ў карты», «разбэшчаны лад жыцця» і г. д.).

У 1864 г., па загаду М. Мураўёва ў горадзе была ўтворана адмысловая «камісія для выяўлення асоб, якія парушаюць грамадскі спакой». Гэтым органам былі выяўлены 16 месцічаў (сярод іх дваране, чыноўнікі, мяшчане, сяляне і г. д.), «заняткі якіх зводзяцца да пастаянага п'янства, выпрошвання міласціны па хатах і піцейных дамах»[51]. Па загаду віленскага генерал-губернатара 6 асоб з гэтага спісу (у каго былі сем'і, таго разам з блізкімі) былі высланы па этапу ў глыб Расіі. І гэта не быў адзіночны выпадак. Ёсць прыклады, калі нават бацькі звярталіся да ўладаў з просьбамі аб высылцы іх дзяцей з той жа матывацыяй. Сяляне прымусова накіроўвалі такіх асоб у Сібір па прыгаворах грамады.

Трагікамізм сітуацыі заключаецца ў тым, што Расія – гэта апошняя краіна, куды можна высылаць за п'янства. Тым больш, як заўважыў адзін з акцызных чыноўнікаў, які мусіць на практыцы меў магчымасць параўнаць два гэтыя рэгіёны «сялянская маса ў Паўночна-заходнім краі мала схільная да няўтомнага прапойства ў параўнані з насельніцтвам цэнтральных губерняў […]»[52] Але нават тут, трапляючы ў горад, селянін набываў не толькі новы сацыяльны статус, але і новыя мадэлі паводзінаў. Як адзначаў мешчанін В. Акутовіч (паходзіць з в. Кашэўнікі), які набыў у складчыну з хлопцамі 4 вядры піва «Баварскага» і гранец гарэлкі: «Я рабочий человек нуждаюсь румки водки»[53].

Падсумоўваючы прыведзеныя вышэй дадзеныя, можна з пэўнасцю сцвярджаць, што мясцовыя піцейныя ўстановы з'яўляліся важным элементам сацыяльнай структуры гарадскога ландшафту. Гэта былі месцы, якія пазіцыяніравалі афіцыйным структурам. Спробы ўладаў абмежаваць, рэгламентаваць, падпарадкаваць іх дзейнасць сустракалі актыўны супраціў

не толькі з боку шынкароў, але і значнай часткі гарадской супольнасці. Нягледзячы на тое, што мясцовыя шынкі садзейнічалі пашырэнню п’янства сярод мясцовага насельніцтва, яны выконвалі шэраг пазітыўных функцый, у т. л. з’яўляліся адным з месцаў сацыяльнай адаптацыі новых жыхароў да рэаліяў гарадскога жыцця.

*Шынкі як цэнтры крымінальнага жыцця*

Не толькі п’янства з’яўлялася характэрным атрыбутам гарадзенскіх злачных мясцін. Шматлікія факты сведчаць аб тым, што шынкі былі досыць неспакойнымі месцамі. У тым ліку і з крымінальнага гледзішча. Найбольш часта яны траплялі на старонкі паліцэйскіх данясенняў у сувязі з крадзяжамі. Сумы, што знікалі з кішэняў наведвальнікаў, – гэта яшчэ адно сведчанне разнастайнасці сацыяльнага статуса публікі, што бавіла там час. «У піцейнай установе Зэльмана Кахманчыка ўдзень у жыда Аўзора Бодажа адбыўся крадзёж 1 руб. з кішэні Юдэлем Фрэйдовічам». Справа дайшла да бойкі, у выніку якой пацярпелі два гарадавыя[54]. «Селянін Сакольскага ўезду Якаў Жыўко ў піцейнай установе Пайнаса на Сянной плошчы лёг спаць, у той час зайшоў мешчанін Моўша Неман, які ў Жыўко, што спаў выцягнуў з кішэні 50 руб.»[55] Канешне, у большасці выпадкаў гэта былі невялікія пакражы, але сустракаюцца і іншыя прыклады: «12 студзеня 1876 г. а 6-й гадзіне ўвечары ў сялян, якія прывезлі дровы (на продаж у Гародню – *А. Р.*) былі зведзены два кані з санямі ў той час як сяляне прадаўшы дровы кінулі коней на вуліцы, а самі зайшлі ў піцейную ўстанову і напіліся [...]»[56]

Ёсць падставы меркаваць, што некаторыя шынкары былі звязаныя з крымінальным светам. На гэта, між іншым, указвае факт збыту крадзенага сітцу ва ўстанове Малкі Законавай[57] ці продажу ў адным з габрэйскіх шынкоў Юдэлем-Давідам Эльгелем за 150 руб. машынкі вырабленай з гіпсу для фальшавання 10 кап. манеты[58]. Паказальна і тое, што пасля абрабавання гадзіннікавай майстэрні Залскялевіча (знікла 50 гадзіннікаў), пацярпелы адразу ж паказаў на шынкара Бажанскага, як на галоўнага падазраванага. Пасля гэтага крадзены тавар цудоўным чынам вярнуўся да пацярпелага[59].

Разам з тым, шынкі (і іх гаспадары) самі неаднаразова станавіліся ахвярамі рабаўнікоў. «Уначы з 6 на 7 лістапада 1876 г. з ліку тых адпускнікоў (салдатаў), што ехалі па чыгунцы [...] 7 з іх, калі цягнік прыпыніўся на 1,5 гадзіны пры тутэйшай станцыі, гвалтоўным чынам уварваліся ў піцейную ўстанову жыда Крынскага, што ў яго доме па Садовай вул., пабілі там шкло ў шыбах і некалькі бутэлек з гарэлкаю»[60]. Менш пашчасціла арандатару карчмы «Аўгуставок», што месцілася ў маёнтку з аналагічнай назвай пад самай Гародняй. Уначы з 1 на 2 лістапада 1863 г. шынкар Янкель

Бямштэйн пачуў груканне ў дзверы, «вырашыўшы, што гэта аб'езд, адразу ж адчыніў. У карчму ўвайшлі трое салдатаў з сякерамі [...] салдаты запыталіся ці няма ў вас мяцежнікаў [...] адзін з іх ударыў сякерай па галаве шынкара два разы [...] Адзін з іх ударыў сякерай у шафу і выбіў дошку, адчыніў шафу і вынуў з Бібліі пачак крэдытнымі білетамі ў 371 руб., маленькі мех з срэбранай манетай»[61] і г. д.

Цяжка ўявіць сябе тагачасны шынок без гвалту і боек. Цікава, што некаторыя з падобных канфліктаў мелі выразна міжнацыянальны характар. Што праўда, іх завадатарам выступаў не мясцовы элемент. Біліся не толькі з салдатамі. Прыстаў другой часткі Гародні Бюфонаў даносіў аб падзеі, што мела месца 7 кастрычніка 1885 г. у шынку М. Крынскага, што на Купецкай вул.: «А 16-ай гадзіне ў піцейную ўстанову ў якасці наведвальнікаў зайшлі рускія рабочыя (трэба разумець стараабрадцы – *А. Р.*) ў колькасці да 15 чалавек, з ліку якіх трое пачалі без усялякае нагоды абражаць словамі наведвальніка жыда Мардхеля Смільке, што знаходзіўся ў той установе, а калі апошні пачаў ім адказваць, то тройца пачала наносіць яму абразы ўжо дзеяннямі. Шмілек выйшаў на вуліцу, а за ім рускія рабочыя, але ўжо не біліся. Да жыда далучыўся яго брат Лейба [...] і бойка зноў аднавілася [...]» Сярод пацярпелых быў і гарадавы[62].

Неаднаразова трапляў у крымінальныя звесткі і буфет, што на чыгуначным вакзале, хаця ў ім, верагодней за ўсё, спіртнога не было. Пацярпеў ён падчас узгаданага вышэй налёту салдатаў-адпускнікоў, калі адтуль зніклі некалькі шклянак і іншая маёмасць. 19 ліпеня 1873 г. тут зноў адбыўся інцыдэнт, які таксама быў звязаны з вайскоўцамі. «Чатыры афіцэры з жанчынамі верагодна лёгкіх паводзінаў прыбылі на станцыю чыгункі і патрабавалі, каб ім адчынены быў буфет». У выніку высвятлення адносін паміж імі, з аднаго боку, і буфетчыкам Гоферам і яго сястрой, з іншага «адзін з афіцэраў ударыў у твар Гоферу [...] Гофер адштурхнуў ад сябе афіцэра, які будучы ў нецвярозым стане ўпаў. Афіцэр гэты пайшоў на тэлеграфную станцыю і паслаў наступную тэлеграму: «В Вильно генерал-губернатору Потапову. Мне на вокзале разбили голову, требую медицинской помощи. Жандармы бездействуют. Штабс-капитан [...] Цуриков»[63].

У злачнае месца, з уласцівымі яму атрыбутамі, вельмі проста магла ператварыцца любая мясціна, дзе ажыццяўляўся продаж віна ды гарэлкі. «Падчас маскараду ў летнім клубе г. афіцэры заўважыўшы жыда Берку Цяпліцкага, што стаяў каля дзвярэй клуба патрабавалі ад яго квіток на ўваход [...] Служачы гарадской думы жыд Шварц заўважыў, што не трэба груба звяртацца з публікай», пасля пачаліся разборкі на ўзроўні «А ты хто такі?» Пры гэтым Шварц пакрыўдзіўся на выкарыстанне ў дачыненне да яго асобы займенніка «ты» і абяцаў падаць скаргу на афіцэраў. «У гэты

час карнет Херсонскі, выйшаў з буфета і працягваў лаяцца на Лявіцкага (мясцовы чыноўнік, які прысутнічаў падчас ўсёй папярэдняй сцэны), які адказваў яму на дзёрзкасць дзёрзкасцю, і Хярсонскі нанес удар Лявіцкаму па твары, Лявіцкі, маючы ў гэты час у руках палку нанёс Хярсонскаму ўдар па галаве, і палка разляцелася на кавалкі…»[64]

Падобныя жарсці назіраліся і падчас гарадзенскіх шляхетных (*благородных*) сходаў. Падчас аднаго з такіх мерапрыемстваў у 1880 г., што суправаджалася зноў такі маскарадам у клубе дайшло нават да страляніны. Завадатарамі традыцыйна выступілі вайскоўцы, якіх нечым абразіў таварыш губернскага пракурора Сафяна: «Надоечы вы пакрыўдзілі афіцэраў, за што б'юць», – пачуў ён ў свой адрас. У адказ ён дастаў рэвальвер і стрэліў у афіцэра, які меўся пагрозу ажыццявіць на практыцы. Куля прайшла міма і нікога не параніла[65].

Ва ўсіх рапартах, у якіх утрымлівалася апісанне падобных падзей, звяртае на сябе ўвагу цікавая дэталь: іх аўтар, гарадзенскі паліцмайстар, заўсёды знаходзіўся на баку мясцовых жыхароў (у тым ліку габрэяў), а не вайскоўцаў.

Але вернемся да святаў, што ладзіліся вайскоўцамі ў нашым горадзе. Падрыхтоўка да аднаго з такіх маскарадаў ледзьве не скончылася сапраўднай катастрофай для ўсяго горада: «Грамада г. афіцэраў маючы намер арганізаваць танцавальны вечар у сваім лагерным павільёне, дзеля чаго падрыхтавала феерверкі і бенгальскія агні […] Адзін з распараджальнікаў свята штабс-капітан фон Румель, жадаючы праверыць бенгальскія агні, пачаў падпальваць іх у хатцы, дзе былі складзены ракеты […]»[66], – зразумела, чым усё скончылася. І ўсё гэта ў непасрэднай блізкасці ад артылерыйскіх складоў.

Акрамя маскарадаў, феерверкаў, боек гарадзенскія месцічы мелі яшчэ схільнасць да азартных гульняў. А дзе, як не ў шынку, можна было у той час рэалізаваць падобныя памкненні. Дзеля гэтага ў некаторых піцейных установах Гародні шырокае распаўсюджанне атрымаў більярд. Гулялі «на пустыя партыі, на выпіўку»[67] і, пэўна, на грошы. Карты афіцыйна не былі забароненыя. Не дазваляліся толькі азартныя гульні на грошы. А як вядома, чаго нельга рабіць, тое яшчэ больш прыцягальнае. Некаторыя пакідалі ў піцейных установах ці не ўвесь свой здабытак, іншыя (напрыклад, чыноўнік Трускоўскі) з прычыны пройгрышаў канчалі жыццё самагубствам[68]. І ў гэтым выпадку гарадзенскія шынкі яшчэ раз пацвердзілі свой злачны статус.

Класічным у гэтым плане з'яўляецца прыклад селяніна Франца Казла, які са сваёй кабетай і яе пасагам прыехаў з Лідскага ўезду ў Гародню ў 1867 г. «для пошукаў службы ці для занятка промысламі». Відаць, ён палічыў, што найбольш надзейным спосабам атрымаць неабходную інфармацыю аб новым месцы будзе прайсціся па мясцовых шынках. Тут ён і пазнаёміўся

з селянінам Ф. Благушэўскім, які трымаў шынок у доме Будрыка на Падольнай вул. Ф. Казёл пасля сведчыў у судзе, што апошні «упрошваў згуляць з ім у карты (у «штос», які афіцыйна быў забаронены) […] з суботу на нядзелю гулялі ўсю ноч у карты (у шынку – *А. Р.*) да 10-й раніцы […] выйграў у яго Благушэўскі 190 руб.» На кватэры Ф. Казёл выцягнуў з жончынага куфра 500 руб., размяняў іх у габрэйскіх мянялаў і пайшоў аддаваць доўг: «У панядзелак гралі з 8-й увечары да 9-й раніцы […] Благушэўскі выйграў рэшту грошай»[69]. Разбіральніцтва па гэтай справы зацягнулася на гады.

Аб тым, што гэта не быў адзінкавы выпадак (у тым ліку і ва ўзгаданым шынку), сведчыць, між іншым, наступнае данясенне начальніка губернскіх жандараў, што датуецца 1872 г.: «У піцейных установах рознага кшталту адбываюцца азартныя картачныя гульні. У іх прымаюць удзел пераважна дробныя чыноўнікі, афіцэры і іншыя асобы […] што цягне за сабой крайнюю нэнзу і п’янства […] і маральны заняпад. З ліку такіх прытонаў, дзе збіраюцца граць, вылучаюцца ўстановы Айзіка Фрэнкеля ў доме ўдавы Благушэўскай, Іцкі Брода на Садовай вул., Арона Любарта на Купецкай, Янкеля Лапінера […]»[70]

Дадзеная інфармацыя знаходзіць пацверджанне як у афіцыйных, так і неафіцыйных крыніцах. Так, аўтар ананімнага данясення ўказвае на шынок рудога Іцкі, што месціўся супраць Казённай палаты, як на месца, дзе хеўра, якая складалася з галоўнага бухгалтара казначэйства і іншых чыноўнікаў, «многіх ужо згубіла». Гарадскі ж паліцмайстар, адмаўляючы факт картачнай гульні ў большасці ўстаноў, прызнае, што ў Айзіка Фрэнкеля нейкі Чамброўскі прайграў усе грошы, якія раней скраў[71].

Улады сапраўды прымалі сур’ёзныя захады па выкараненні азартных гульняў. Той жа паліцмайстар з гэтай мэтай ладзіў сапраўдныя аблавы ў рэстарацыі П. Плонскага (1852 г.). І ўрэшце, калі яму ўдалося *flagrante delicto* з картамі ў руках схапіць фельчара Кузьміцкага (трымаў банк) і фактара Шрэдара (пеніцыраваў, а іншая публіка назірала), яго чакала глыбокае расчараванне: Кузьміцкі ў гэты ж дзень уцёк з гаўптвахты, а фактар аказаўся сакрэтным агентам! «З мэтай росшуку ў Гародні замежных гульнявых карт, асабліва прускай вытворчасці, я выкарыстаў дзеля гэтых мэт сакрэтнага агента жыда Таўлея Шрэдара, які ўжо неаднаразова даказваў свае старанне […] заходзіў з рознае нагоды ў тракцірныя ўстановы і кандытарскія для росшукаў па прадмеце», – прасіў за агента старшы чыноўнік па асаблівых даручэннях[72].

У той жа час, не трэба перабольшваць крымінальны характар піцейных устаноў Гародні. У цэлым шынкі былі не самымі небяспечнымі месцамі ў горадзе. Як сведчаць шматлікія рапарты паліцмайстраў, куды значна больш злачынстваў адбывалася на вуліцах ды ў дамах гарадзенскіх месцічаў.

Акрамя сваіх асноўных функцый, у дзейнасці гарадзенскіх піцейных установ можна вылучыць шэраг дадатковых. Сярод іх рэкрыатыўную (шынок – месца адпачынку), інфармацыйна–даведачную (шынок – месца абмену і збору інфармацыі), інтэграцыйную (шынок – месца, якое садзейнічала згуртаванню гарадской супольнасці незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, сацыяльнага ці прафесійнага статуса).

*Бардэлі ў структуры злачных мясцінаў горада*

Публічныя дамы ў ацэнках афіцыйных уладаў мелі статус вельмі набліжаны да піцейных установ. Часцяком у рапартах чыноўнікаў яны фігуруюць разам, праз коску, як мясціны, у якіх бясконца адбываецца п’янства ды распуста[73]. Да таго ж, у некаторых выпадках гэтыя два тыпы установ знаходзіліся пад адным дахам, а калі-нікалі шынкі таксама выкарыстоўваліся жанчынамі адпаведнай прафесіі ў якасці месца пражывання і работы. На гэта наўпрост указвае факт заражэння венерычнай хваробай салдатаў мясцовага гарадзенскага гарнізона «у карчме на Падольнай вул., што паміж праваслаўнымі і каталіцкімі могілкамі ад дзеўкі Ганны»[74]. Падобная тэндэнцыя была характэрна не толькі для нашага горада. Найбольш востра яна стаяла ў Берасці і Беластоку, дзе падобныя жанчыны «бадзяюцца па кабаках і заезных дварах […] займаюцца тайнай распустай у розных піцейных установах, харчэўнях і г. д…»[75] Яшчэ адным прыстанішчам для берасцейскіх прастытутак былі мясцовыя чайныя.

Адна з першых згадак аб існаванні бардэляў у Гародні датуецца 1826 г. Тады барацьбу супраць іх павёў ксёндз-настаяцель цыстэрыянскага кляштара Вярдуцкі, які скардзіўся, што «каля бернардзіскага касцёла жыд Іцка адкрыў (у сваім доме – *А. Р.*) утрыманне непатрэбных жанчын, праз што кляштару нанесена крыўда і для храма Божага непрыстойнасць». Аб тым, які эфект мела змаганне ўладаў з гэтай праблемай сведчыць наступны ліст ксяндза-настаяцеля, што датуецца 1828 г., у якім размова ідзе ўжо аб некалькіх дамах у ваколіцах узгаданага кляштара, дзе гаспадары хрысціяне і габрэі ўтрымлівалі «непатрэбных жанчын»[76].

Ці не адзіным спосабам барацьбы з прастытуцыяй у той час была высылка жанчын «на месцы іх сталага жыхарства». Зразумела, што вынікі азначанай меры былі мізэрныя. Нарэшце, стаміўшыся змагацца з гэтай з’явай, зразумеўшы, што перамагчы яе немагчыма, царскія ўлады ў 1843–1844 г. інстытуцыяналізавалі прастытуцыю па ўсёй імперыі. Тады ж былі выдадзены адпаведныя правілы як для *мамак* (жанчын, што трымалі бардэлі) так і для саміх прастытутак, якія дэталёва рэгламентавалі асновы іхняга рамяства.

Галоўным лейтматывам гэтых правілаў было ўвядзенне паліцэйскалекарскага нагляду за прастытуткамі. Дзякуючы гэтай меры, сёння мы можам пазнаёміцца з некаторымі статыстычнымі дадзенымі, якія тычацца гарадзенскай прастытуцыі, што праўда пераважна толькі за 80-я гады XIX ст.

***Табліца № 1. Некаторыя дадзеныя аб прастытуцыі ў Гародні ў 80-я гады XIX ст.***

| *Дата* | *05. 1880* | *09. 1880* | *01. 1882* | *09. 1882* | *01. 1884* | *09. 1884* | *01. 1886* | *09. 1886* | *09. 1888* | *01. 1890* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| прастытутак «па спісе» | 33 | 36 | 35 | 43 | 34 | 35 | 33 | 39 | 38 | 75 |
| у публічных дамах | 18 | 18 | 8 | 15 | 9 | 9 | 9 | 9 | ? | 56 |
| «адзіночак» | 21 | ? | 32 | 27 | 25 | 27 | 31 | 40 | 28 | 41 |
| затрыманыя за «тайную распусту» | 1 | - | - | - | 18 | 18 | - | - | 2 | 9 |
| публічных дамоў | 4 | 4 | 2 | 5 | 2 | 2 | 2 | 1 | 4 | 4 |
| дамоў сустрэч | - | - | 6 | 8 | - | - | - | - | - | 1 |

Крыніцы: НГАБ у Гродне. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 752, 841, 979, 1183, 1387.

З прадстаўленых дадзеных вынікае, што колькасць публічных дамоў на працягу азначанага перыяду была невялікай і вагалася ад аднаго ў верасні 1886 г. да пяці ў верасні 1882 г. Але разам з тым, трэба адзначыць, што само паняцце публічнага дому (бардэля) было ў той час у значнай ступені ўмоўным. Па-першае, гэта вынікала з таго, што ў той час адсутнічалі спецыялізаваныя будынкі, якія былі адмыслова прызначаны пад бардэлі. Як і ў выпадку з шынкамі, публічным мог стаць кожны ці яго частка: «Кватэра Сельцара (дзе месціўся бардэль – *А. Р.*) складаецца з трох пакояў, якія аддзеленыя перагародкай па правай палове і аднаго пакоя, што вядзе з сенцаў прама»[77]. Па-другое, пад бардэлем у той час разумелася памяшканне, дзе прастытуткі ажыццяўлялі сваю дзейнасць пад патранажам *мамкі*. Разам з тым, афіцыйныя дакументы фіксуюць факт пражывання некалькіх (3-5) прадстаўніц гэтай прафесіі разам у адным памяшканні, напрыклад, «на Купецкай вул. у доме Каўфмана» і г. д.[78]

Колькасць прастытутак, што легальна займалася сваёй дзейнасцю ў Гародні, выглядае больш-менш стабільнай. Адзінае з гэтай карціны выпадае пачатак 1890 г., калі назіраецца іх значны рост у параўнанні з папярэднім

часам. Але гэтая стабільнасць насамрэч толькі вонкавая. Іншыя дадзеныя сведчаць аб надзвычайнай плывучасці кадраў унутры цэха. Так, у 1867 г. максімальная колькасць прастытутак, што стаялі на ўліку ў горадзе склала 57 чалавек (12 верасня), мінімальная – 25 (15 верасня). За тры дні лічба скарацілася больш чым у два разы! Акрамя таго, параўнанне двух імянных спісаў ад 13 ліпеня 1867 г. (57 жанчын) і 2 студзеня 1870 г. (41 кабета) выявіла супадзенне толькі чатырох прозвішчаў, якія прысутнічаюць у абедзвюх ведамасцях[79].

Можна зрабіць выснову, што большасці прадстаўнікоў самай старажытнай прафесіі была ўласціва геаграфічная мабільнасць, г.зн. сезоннае ці сітуатыўнае перамяшчэнне ў межах пэўнага рэгіёну, а, можа, і ўсёй краіны. Улетку гэта маглі быць курортныя Друскенікі, ці мясцовасці, што знаходзіліся бліжэй да палявых лагераў вайскоўцаў або кірмашы. Ваўкавыскі земскі спраўнік у 1851 г. адзначаў: «У Ваўкавыскім уездзе бардэлей зусім няма, а толькі ў Зэльвянскі і Свіслацкі кірмашы адчыняюцца часова жанчынамі, якія прыбываюць з розных гарадоў»[80]. Колькасць «адзіночак» заўсёды пераважала над тымі, што знаходзіліся пад апекай *мамак* у публічных дамах.

Лічбы ў графе «тайнае распуста» ні ў якой ступені не адлюстроўваюць маштабнасці той праблемы, што існавала ў тагачасным грамадстве. Як адзначалася ў некаторых даследаваннях канца XIX – пач. XX ст., «тайная прастытуцыя ўяўляе сабой грамадзіну, у супастаўленні з якой афіцыйная – невялічкая часцінка з'явы». Гэта «самы велізарны і разнастайны клас прастытутак», які складаецца з жанчын усіх званняў, станаў, грамадскага становішча і ўзростаў[81].

Узгаданыя ўжо спісы сведчаць аб інтэрнацыянальным складзе гарадзенскіх прастытутак. У пераважнай большасці выпадкаў прафесійны калектыў таго ці іншага бардэля быў монарэлігійны, хаця сустракаюцца дамы, дзе хрысціянкі і габрэйкі працавалі разам[82]. У канфесійным плане хрысціянкі пераважалі. Некаторыя імёны і прозвішчы здраджваюць наяўнасць у ліку гарадзенскіх прастытутак рускіх па паходжанні: Марфа Вараб'ёва, Пелагея і Аксення Фёдаравы, Марфа Яфімава і г. д.

Не толькі ў Гародні, але і ў іншых гарадах рэгіёна існавала практыка, калі *мамка* была габрэйкай, а «абслугоўваючы персанал» хрысціянкамі. Што тычыцца сацыяльнай прыналежнасці то, на жаль, гэтыя дадзеныя амаль зусім не адлюстраваны ў тагачасным справаводстве. Адзіным сведчаннем з'яўляецца адзнака «салдатка» насупраць некаторых прозвішчаў.

Больш разнастайныя дадзеныя па гэтай праблеме даюць вынікі перапісу насельніцтва 1897 г. На тэрыторыі Гарадзенскай губ. прастытуцыю ў якасці сваёй асноўнай прафесійнай дзейнасці засведчылі 159 асоб (у тым ліку 10 мужчын) з іх 57 асоб (36 %) гэта жыхары Гародні. Аналіз узроста-

вых характарыстык сведчыць, што большая іх частка належала да групы ў прамежку паміж 20–39 гадамі (64 %). Яно і не дзіўна: дваццаць год – гэта досыць працяглы перыяд ў жыцці любога чалавека, акрамя таго на яго прыпадае пік жыццёвай актыўнасці. Разам з тым, лічбы, якія выходзяць за межы гэтага ўзроставага адрэзку сведчаць аб моладзевым аблічча мясцовай прастытуцыі: 2,6 % з іх складалі дзяўчынкі 15–16 гадоў і каля 30 % 17–19-гадовыя. Рэальна ж, удзельная вага гэтай групы была значна вышэйшая за прадстаўленыя тут паказчыкі, бо, па зразумелых прычынах, некаторыя публічныя жанчыны завышалі свой сапраўдны ўзрост.

Таксама асцярожна трэба ставіцца і да дадзеных пра нацыянальную прыналежнасць гарадзенскіх прастытутак. У адпаведнасці з табліцай «Размеркаванне насельніцтва па групах заняткаў і па народнасцях на падставе роднай мовы» атрымоўваецца, што больш за палову (51 %) з іх складалі полькі, 33 % – габрэі (у іх ліку адзін мужчына), 11 % – беларускі, 3 % – немкі, і 2 % (1 кабета) – рускія[83]. Тут варта яшчэ раз падкрэсліць, што прыведзеныя дадзеныя нельга лічыць абсалютна дакладнымі. Колькасць прастытутак на той час не ведала ніводнае статыстычнае бюро. Некаторыя дарэвалюцыйныя даследчыкі для атрымання прыкладнай колькасці асоб, што займаліся гандлем свайго цела, прапаноўвалі афіцыйныя паказчыкі павялічыць у 5–10 разоў[84].

На жаль, па-за дадзенымі афіцыйнай статыстыкі застаецца праблема шляхоў рэкрутацыі жанчын у гэтую прафесію. Не выклікае сумненняў, што некаторыя рабілі гэта не па сваім жаданні. У «Віленскім весніку» за 1890 г. апісваецца падобны выпадак гандлю «жывым таварам», які, што праўда, тычыцца Вільні: «Адзін з віленскіх фактараў, які займаецца дастаўкай мясцовым *мамкам* «мілых стварэнняў», накінуўшыся на такую бедную, сумленную дзяўчыну ўгаварыў яе ехаць з сабою абяцаючы дастаць ёй у Вільні добрую службу. Спакусіўшыся [...] паехала з ім у Вільню [...] Напужаная дзяўчына хацела адразу ж з'ехаць, але тут сустрэлася з грознаю Гаспадыняй, якая пагражала ёй. Патрэбна было выканаць некаторыя фармальнасці, каб пацвердзілі добраахвотнае яе паступленне ў шэрагі прастытуцыі [...] Асцярожна ўзяўшыся за дзяўчо яны пачалі яе задобрываць рознымі пачастункамі і будучы пад уплывам выпітых напояў, дзяўчына пагадзілася»[85].

Габрэі таксама наведвалі публічныя дамы. Гэты факт не адмаўляе В. Рабін, які ў цэлым быў схільны да ідэалізацыі іўдзейскай супольнасці Гародні. Яго стаўленне да падобнай з'явы было негатыўным. Менавіта з візітам у бардэль аднаго з галоўных персанажаў рамана ён звязвае пачатак найбольш разбуральнага пажару 1885 г.: «У гасцях у «дзяўчынак» усе выпілі як мае быць, пасля яшчэ добра дадалі. Справа дайшла да бойкі [...] Дзяўчаты выскачылі на вуліцу лямантуючы «Каравул, рэжуць». Надышла паліцыя

і забрала кампанію ў кутузку. Так і атрымалася, што Эля Шлаен, які, звычайна, спаў уначы ў двары, агню не ўбачыў і не змог нікога папярэдзіць»[86].

Але асноўнымі кліентамі гарадзенскіх публічных дамоў былі вайскоўцы. Гэтаму ёсць шмат сведчанняў, найбольш каларытным з якіх з'яўляецца ліст-ультыматум да гарадзенскага губернатара, напісаны ад імя «пераважна салдатаў» у 1888 г. Дакумент, сапраўды, унікальны і варты бліжэйшага знаёмства:

*Его Превосходительство Госп. Гродненскому Губернатору*

*Мы просителей Военные и граждане г. Гродно*

***Донесение***

*В г. Гродно находиться дома терпимости дворянские т.е. – 3 – а простыя не находятся не однаго так поэтому мы просителей военыя и граждане г. Гродно не в состояние ходить по дворянским домам и платить по рублю, так мы покорнейше честь имеем просить Ваше Высоко Превосходительству не оставить нашу просьбу т.е. чтобы открылось дом терпимость простой для простонародия потому что народ болеет и приказывают идти к докторам публичным, но простыя дома нет, а если Ваше превосходительство не дадите знать чтобы открыть простыя дома <u>так будет в г. Гродны большия скандалы</u>* (падкрэслена ў тэксце – А. Р.) *и вообще грабежей будет ловить по улицам честныя женщины мы уже не будем смотреть за ответственность но уже тогда кого не попало так поэтому Покорнейше честь имеем просить не оставить нашу просьбу без последствие во всех городах российской империе есть дома простыя но в г. Гродно уже – 2 – год как нет.*

*Мы просителей военыя и граждане города Гродно*
*по большой части солдаты*[87]

Яшчэ адным сведчаннем, якое пацвярджае прыярытэтны статус вайскоўцаў у якасці кліентаў публічных дамоў і дзевак-адзіночак, з'яўляюцца паказанні былога ўнцер-афіцэра гарадзенскага батальёна Іллінава, які на допыце адзначыў: «Пелагею Смірэнскую я ведаю, яе ведаў амаль што ўвесь батальён»[88]. Менавіта фактар армейскай прысутнасці абумовіў першынство Берасця ў межах губерні ў развіцці прастытуцыі цягам усяго XIX ст. Але разам з тым салдаты і афіцэры былі не адзінымі наведвальнікамі бардэляў. Цывільныя чыноўнікі і служачыя, сяляне, прадстаўнікі рабочых прафесій, рэвалюцыянеры таксама карысталіся паслугамі гарадзенскіх прастытутак.

Як сведчыць прыведзены вышэй ліст, у Гародні існавалі бардэлі некалькіх катэгорый. Тыя, што па рублю, былі недасягальныя для про-

стых людзей і салдат. Зыходзячы з агульнай градацыі публічных дамоў па ўсёй імперыі, да трэцяй (найбольш таннай) катэгорыі падобных устаноў адносіліся такія, дзе аплата за паслугу не перавышала 50 кап. Менавіта пад такі разрад трапляў публічны дом, які наведаў А. Хралоў 3 лютага 1879 г. «Заплаціўшы 30 кап. публічнай дзеўцы Хане Кахлер ён зайшоў да яе ў асобны пакой»[89]. Што праўда, гэта адбывалася ў Берасці. Наконт гарадзенскіх расцэнак ёсць сведчанне прастытуткі Семярынскай аб тым, што млынар з Ласосна заплаціў ёй 2 руб. за ноч[90]. Як бачым за гэты від паслуг існавала іншая такса.

Сваю прафесійную дзейнасць жанчыны дадзенай групы ажыццяўлялі не толькі ў бардэлях ці пакоях, што здымалі. Дзеля гэтых мэтаў таксама выкарыстоўваліся гатэлі. У спісе публічных жанчын за 1870 г. Мерка Воўк першапачаткова значылася ў бардэлі на Гараднічанскай вул. у *мамкі* Гохавай, а праз некаторы час насупраць яе прозвішча з'явілася адзнака «на Купецкай вул. у Казанскай гасцініцы адная»[91]. У той жа час у Гародні можна было пры дапамозе фактара замовіць дзяўчынку да сябе ў нумар: «Хахракоў (расейскі рэвалюцыянер – *А. Р.*) спыніўся ў Купецкай гасцініцы, куды прыбыў 5 лістапада 1881 г. […] адзін з фактараў гасцініцы М. Бегельман па патрабаванню яго Хахракова прывез яму публічную дзеўку Юльку, якая жыве ў публічным доме на Віленскім завулку»[92].

У табліцы № 1 прыводзяцца дадзеныя аб наяўнасці ў Гародні *дамоў сустрэч*. У адрозненні ад публічных дамоў, у іх не было ні *мамкі*, ні, адпаведна, прастытутак, якія тут жа жылі і ажыццяўлялі сваю прафесійную дзейнасць. Дом сустрэч прадстаўляў кліенту толькі памяшканне, куды ён прыходзіў ужо са сваёй дзяўчынай.

У Берасці ў цёплую пару года папулярнасцю карыстаўся гарадскі сад: «Бывалі нават выпадкі, што паліцыя знаходзіла некаторых ніжэйшых чыноў у гарадскім садзе, у кустах, з жанчынамі, калі-нікалі нават без усялякае вопраткі […] і вымушана была накіроўваць іх у паліцэйскай адзежы ў крэпасць»[93]. Не думаю, што Гародня тут чымсьці адрознівалася ад паўднёвага суседа. А можна было за адпаведную плату забраць прастытутку з сабой у іншы горад. Так, напрыклад, зрабіў нейкі афіцэр Новаінгермаландскага палка, які заплаціўшы 50 руб. Срэбрам (!) *мамцы* Ёфе, накіраваўся з дзяўчынай-габрэйкай у Бельск[94].

Гарадскі лекар, які ажыццяўляў медычны нагляд за публічнымі жанчынамі ў Гародні канстатаваў іх нізкі маральны стан і разбэшчанасць: «Большасць з якіх самага нізкага манеру»[95]. Паводле дакументаў, прастытуткі былі аматаркамі выпіць, прасілі наведвальнікаў пачаставаць іх спіртным. Кліенты бардэляў былі таксама часцяком на падпітку. Сукупнасць гэтых фактараў ператварала публічныя дамы ў мясціны павышанай рызыкі.

Найбольш драматычны выпадак, звязаны з гарадзенскімі бардэлямі адбыўся 1 кастрычніка 1876 г. Тады чыноўнік прыказа грамадскай апекі А. Шыгідзевіч і тэлеграфіст П. Белазерскі а 2-й гадзіне ўначы завіталі ў публічны дом Ф. Кухарскай, што месціўся ў Жандарскім завулку. Абодва былі на падпітку. Дзяўчынкі пачалі з іх кпіць. «Пакрыўдзіўшыся на дзеўку Ясінскую, Шыгідзевіч даў ёй поўху. Калі ж *мамка* Кухарская прапанавала Шыгідзевічу выйсці з яе кватэры, то ён […] схапіў запаленую газнічку і кінуў яе ў твар Кухарскай»[96]. Імгненна пачаўся пажар. Ад агню загінула як сама *мамка*, так і прастытутка Кавальская, што была побач.

Не раз ужо ўзгаданая публічная дзеўка Семярынская на падпідку распавядала знаёмым аб тым, як яе каханак (з вайскоўцаў) і ўтрымальнік дома Сельцар забілі і абрабавалі аднаго з яе кліентаў. У бардэль накіроўваліся асобы з набытымі нячэсным шляхам грошамі: «Чыноўнік супрасльскай паштовай станцыі Гумберг, які падазраецца ў растраце казённых грошай самавольна пакінуў месца службы […] Гумберг быў знойдзены ў (Гародні – *А. Р.*) публічным доме Марыі Бутавай і падчасператрусу пры ім быў знойдзены раскрыты грашовы канверт, адрасаваны ў Варшаву, з якога былі выцягнутыя грошы»[97].

На жаль, далейшы, больш поўны і ўсебаковы аналіз функцыянавання прастытуцыі ў Гародні ў вызначаны час значна ўскладняецца адсутнасцю крыніц па азначанай тэме. Але, нават з прадстаўленага матэрыялу вынікае, што публічныя дамы займалі важнае месца ў структуры злачных мясцін. Як і ў выпадку з шынкамі, у Гародні ў гэты час існавала некалькі катэгорый і тыпаў падобных установаў, якія розніліся як відам паслуг, так і сацыяльным (матэрыяльным) статусам наведвальнікаў. Бардэлі не з’яўляліся асноўным месцам канцэнтрацыі гарадской прастытуцыі. Большая частка жанчын, якія гандлявалі сваім целам, былі г. зв. «адзіночкі». Спробы ўладаў узяць іх дзейнасць пад паліцэйскі і лекарскі нагляд, па вялікім рахунку поспеху не мелі, бо большую частку людзей дадзенай прафесіі складалі «нелегалы». Гарадзенская прастытуцыя мела шматнацыянальны характар. Гэты факт быў выкліканы не толькі асаблівасцямі мясцовай этнічнай супольнасці, але таксама і тым, што ёй была ўласціва геаграфічная мабільнасць.

Прыведзеныя факты дазваляюць зрабіць высновы аб тым, што злачныя мясціны з’яўляліся важнымі элементамі штодзённага жыцця. Яны ў некаторай ступені супрацьстаялі структурам афіцыйных уладаў, фарміравалі не казённы дух горада. Фактарам, які ў вялікай ступені паўплываў на іх колькасць, размяшчэнне і спецыфіку дзейнасці была вайсковая прысутнасць у горадзе і навокал яго. Функцыянуючы ў рамках агульнаімперскага заканадаўства мясцовыя ўстановы падобнага тыпу мелі шэраг асаблівасцей, абумоўленых нацыянальнымі, культурнымі, геаграфічнымі адметнасцямі рэгіёна.

Прадстаўлены матэрыял таксама выяўляе несумненную сувязь гарадзенскіх злачных мясцінаў з мясцовым крыміналам.

Гарадзенскія піцейныя ўстановы прыцягвалі месцічаў не толькі як месцы, дзе адбываўся продаж спіртных напояў. Гэта былі пэўныя цэнтры публічнага жыцця ў першую чаргу ніжэйшых слаёў насельніцтва, гарадскога «дна». Стэрэатыпы паводзінаў у падобных установах, іх знешні выгляд і ўнутранае жыццё фармаваліся на стыку некалькіх нацыянальных традыцый, гарадской і вясковай культуры, што ў сваю чаргу, вызначала іх своеасаблівы каларыт і іншыя асаблівасці, характэрныя выключна для дадзенай мясцовасці. Злачныя мясціны другой паловы XIX ст. увабралі ў сябе шмат падзей, у якіх адлюстравалася штодзённае жыццё тагачасных месцічаў, іх характары, памкненні, праблемы, маральнасць.

## Дадатак

*Спіс асоб, што трымалі тракцірныя ўстановы ў Гародні (каля 1887 г.)*

1. Бялецкі Станіслаў – у доме Каплана на Садовай вул.
2. Баркоўская Разалія – у доме Ясяноўскіх на Саборнай вул.
3. Катхе Аляксандр – у доме Гольдберга на Саборнай вул.
4. Суплікоўская Івона – на вакзале
5. Рудзінская Браніслава – у доме Міцкевіча на Садовай вул.
6. Высоцкая Юзэфа – у доме Хаіма Пераца на Салдацкай слабодцы
7. Чуцінская Марыя – у доме Веражбіцкага на Сянной плошчы
8. Лінкевіч Ева – у доме Фінкеля на Садовай вул.
9. Якаўлеў Аляксандр – у гарадскім тэатры
10. Левін Кадыш – ва ўласным доме на Садовай вул.
11. Левін Давід – ва ўласным доме на Садовай вул.
12. Цукерман Давід – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
13. Каплан Меер – ва ўласным доме на Саборнай вул.
14. Велярава Хіона – ва ўласным доме на Сянной плошчы
15. Канель Цалька – на Манастыпскім завалку
16. Бергман Лейзар – на Біржавой плошчы
17. Ёсель Шмерка – ва ўласным доме на Мяшчанскай вул.
18. Індурскі Шавель – ва ўласным доме на Падольнай вул.
19. Крынская Галя – ва ўласным доме на Садовай вул.
20. Канцыпер Моўша – ва ўласным доме на Александраўскай слабодцы
21. Марат Ёсель – ва ўласным доме на Рыначным завалку
22. Гельгар Бейля – ва ўласным доме на Іерасулімскай вул.

23. Янкоўская Рохля – ва ўласным доме на Падольнай вул.
24. Шклярская Пеша – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
25. Дынес Лейзар – ва ўласным доме на Мяшчанскай вул.
26. Сідэрскі Арон – ва ўласным доме на Садовай вул.
27. Эпштэйн Мордхель – ва ўласным доме на Саборнай вул.
28. Левінсан Мордхель – ва ўласным доме на Саборнай вул.
29. Мазавер Фейга – на Занёманскім фарштаце
30. Мазавер Гірш – ва ўласным доме на Скідзельскай заставе
31. Крынскі Міхель – ва ўласным доме на Купецкай вул.
32. Фумкін Восіп – ва ўласным доме на Саборным завалку
33. Кахманчык Рэйза – ва ўласным доме на Купецкай вул.
34. Катоўскі Шмуель – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
35. Гольдберг Шмуер (прыказчык Матыса Арніна) – у доме Арніна на Сянной плошчы
36. Янкоўскі Мендаль – ва ўласным доме на Замкавай вул.
37. Гарніцкая Сіма – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
38. Трыбман Давід – ва ўласным доме на Іерусалімскай вул.
39. Фольфсан Нісанель (прыказчык Матыса Арніна) – ва ўласным доме на Замкавай вул.
40. Шварц Абрам – ва ўласным доме на Мяшчанскай вул.
41. Штэйн Рохля – ва ўласным доме на Маставой вул.
42. Эбер Лейзер – ва ўласным доме на Мяшчанскай вул.
43. Казлоўскай Ганна – у доме Піка на Сянной плошчы.
44. Дубінскі Мордхель – ва ўласным доме на Татарскай вул.
45. Лабенская Ента – у доме Гершун на Мяшчанскай вул.
46. Цяпліцкая Малка – ва ўласным доме на Рыбнай плошчы
47. Тарлоўскі Цэвель – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
48. Левін Перля – ва ўласным доме на Мяшчанскай вул.
49. Кур'янскі Йосан – ва ўласным доме на Маставой вул.
50. Вольф Беніамін – ва ўласным доме на Замкавай вул.
51. Мазавер Пінхус – ва ўласным доме на Падольнай вул.
52. Нейман Іцка – ва ўласным доме на Скідзельскай заставе
53. Шварц Шома – ва ўласным доме на Новашасейнай вул.
54. Шапіра Лейб – ва ўласным доме Садовай вул.
55. Любіч Ёсель – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
56. Капліцкі Давід – ва ўласным доме на Мяшчанскай вул.
57. Кавянокі Берка (піўная лаўка) – ва ўласным доме на Пажарным завулку
58. Калецкая Гейля – на Пагулянцы
59. Сулькес Янкель – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
60. Губер Гірш – ва ўласным доме за пажарнай камандай
61. Піўная лаўка – у доме Палюты пры Біржавой плошчы
62. Маўшоўскі Гешаль – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце

63. Любіч Зэльман – пры Сянной плошчы дзве ўстановы
64. Каўфман Малка – ва ўласным доме на Сянной плошчы
65. Прусін Давід – ва ўласным доме на Садовай вул.
66. Ратфорт Іцка – ва ўласным доме на Садовай вул.
67. Установа ў клубе – на Садовай вул.
68. Ясяноўскі Лейба – ва ўласным доме на Палявой вул.
69. Брэгман Лейзер – ва ўласным доме на Біржавой вул.
70. Тарлоўскі Хаім-Меер – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
71. Любіч Берка – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
72. Гарніцкі Абель (піўная лаўка) – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
73. Куліцкі Шэпцель – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
74. Любіч Ітка – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
75. Фердар Сара (кухмістарскі стол) – у доме Садоўскага на Саборнай вул.
76. Гершун Моўша – ва ўласным доме на Мяшчанскай вул.
77. Клін Шмуель (піўная лаўка) – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
78. Чарток Янкель – ва ўласным доме на Саборнай вул.
79. Сапажынскі Шмерка (піўная лаўка) – ва ўласным доме на Занёманскім фарштаце
80. Евін Цалька (піўная лаўка) – ва ўласным доме на Маставой вул.
81. Кунц Восіп – ва ўласным доме на Агароднiцкай вул.
82. Любіч Феліцыя (піўная лаўка) ва ўласным доме на Алексанлраўскай слабодцы

Складзены па НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 1058. Арк. 5–6.

---

[1] www.frazeologiya.ru/fraza/zlacznyiy.htm
[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне. Ф. 1, воп. 27, адз. з. 2704. Арк. 2.
[3] Тамсама. Ф. 2, воп. 34, адз. з. 1806, 798.
[4] Тамсама. Ф. 2, воп. 34, адз. з. 1901, Арк. 1.
[5] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 22. Арк. 24, 38.
[6] Тамсама. Ф. 2, воп. 34, адз. з. 1524. Арк. 34, 58.
[7] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 22. Арк. 326.
[8] Тамсама. Ф. 1, воп. 13, адз. з. 435. Арк. 44.
[9] Тамсама. Ф. 2. воп. 34, адз. з. 1459. Арк. 2.
[10] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 848. Арк. 133.
[11] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 816. Арк. 33.
[12] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 848. Арк. 105.
[13] Тамсама. Арк. 11.
[14] Тамсама. Ф. 1, воп. 6, адз. з. 363. Арк. 5.
[15] Рабин И. В разные годы. Москва, «Советский писатель», 1981. С. 283.
[16] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 770. Арк. 14.
[17] Тамсама. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1306. Арк. 36.
[18] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 22. Арк. 28.
[19] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 848. Арк. 227.
[20] Тамсама. Ф. 581, воп. 2, адз. з. 182.

[21] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 881. Арк. 27.
[22] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 669. Арк. 18, 31.
[23] Рабин И. Указ. твор. С. 283, 344.
[24] НГАБ у Гродне. Ф. 1076, воп. 1, адз. з. 13. Арк. 2.
[25] Рабин И. Указ. твор. С. 283.
[26] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 22. Арк. 24.
[27] Тамсама. Ф. 2, воп. 34, адз. з. 485. Арк. 8, 11.
[28] Тамсама. Арк. 20.
[29] Тамсама. Ф. 1, воп. 29, адз. з. 329. Арк. 20
[30] Тамсама. Ф. 1, воп. 13, адз. з. 926. Арк. 99–100.
[31] Тамсама. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 1214. Арк. 58.
[32] Тамсама. Ф. 1, воп. 13, адз. з. 991. Арк. 3.
[33] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 881. Арк. 27; адз. з. 22. Арк. 123.
[34] Тамсама. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 1214. Арк. 58.
[35] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 669. Арк. 18.
[36] Тамсама.
[37] Тамсама. Ф. 1, воп. 18, адз. з. 484. Арк. 24–26.
[38] Тамсама.. Арк. 193.
[39] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 651. Арк. 341.
[40] Тамсама. Ф. 2, воп. 34, адз. з. 1524. Арк. 58; Ф. 1, воп. 17, адз. з. 1058. Арк. 296.
[41] Гродненские губернские ведомости 1894 (22.10) г. № 82. С. 2.
[42] Тамсама.
[43] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 13, адз. з. 519. Арк. 12.
[44] Тамсама. Ф. 2, воп. 38, адз. з. 652. Арк. 614–616.
[45] Тамсама. Ф. 2, воп. 34, адз. з. 1806.
[46] Тамсама. Ф. 2, воп. 34, адз. з. 798. Арк. 39.
[47] Тамсама. Ф. 1, воп. 6, адз. з. 363. Арк. 5.
[48] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 1002. Арк. 1.
[49] Тамсама. Ф. 30, воп. 1, адз. з. 105. Арк . 174.
[50] Тамсама.
[51] Тамсама. Ф. 1, воп. 6, адз. з. 400. Арк. 12.
[52] Тамсама. Ф. 1, воп. 18, адз. з. 484. Арк. 193.
[53] Тамсама. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 848. Арк. 179.
[54] Тамсама. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 771. Арк. 58.
[55] Тамсама. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 1195. Арк. 37.
[56] Тамсама. Ф. 1, воп. 15, адз. з. 1146. Арк. 18.
[57] Тамсама. Ф. 1, воп. 27, адз. з. 2705. Арк. 26.
[58] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 1306. Арк. 29.
[59] Тамсама. Ф. 1, воп. 23, адз. з. 407. Арк. 84.
[60] Тамсама. Ф. 1, воп. 15, адз. з. 1156. Арк. 11.
[61] Тамсама. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1412. Арк. 25.
[62] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 824. Арк. 61.
[63] Тамсама Ф. 1, воп. 23, адз. з. 582. Арк. 81.
[64] Тамсама. Ф. 1 , воп. 23, адз. з. 582. Арк. 69.
[65] Тамсама. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 1199. Арк. 23.
[66] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 178. Арк. 41.
[67] Тамсама. Ф. 581, воп. 2, адз. з. 182. Арк. 7.
[68] Тамсама. Ф. 1, воп. 7, адз. з. 310. Арк. 2.
[69] Тамсама. Ф. 581, воп. 2, адз. з. 182.

[70] Тамсама. Ф. 1, воп. 7, адз. з. 310. Арк. 1.
[71] Тамсама. Арк. 2, 4.
[72] Тамсама. Ф. 1, воп. 28, адз. з. 373. Арк. 1, 2.
[73] Тамсама. Ф. 2, воп. 13, адз. з. 268. Арк. 1; Ф. 9, воп. 1, адз. з. 513. Арк. 92.
[74] Тамсама. Ф. 1, воп. 28 адз. з. 341. Арк. 58.
[75] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 513. Арк. 37, 108.
[76] Тамсама. Ф. 1, воп. 2, адз. з. 1698. Арк. 1, 4.
[77] Тамсама. Ф. 581, воп. 3, адз. з. 1154. Арк. 38.
[78] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 46. Арк. 5–6.
[79] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 46, 323.
[80] Тамсама. Ф. 1, воп. 28, адз. з. 341. Арк. 43.
[81] Голосенко И. Русская дореволюционная социология о феномене проституции // Рубеж № 10–11. С. 31.
[82] НГАБ у Гродне. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 323. Арк. 2.
[83] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. Т. XI. Гродненская губерния. СПб., 1904. С. 192–223.
[84] Голосенко И. Русская дореволюционная социология о феномене проституции // Рубеж № 10–11. С. 31
[85] Виленский вестник. 13 марта 1890 г. С. 2.
[86] Рабин И. Указ. твор. С. 195.
[87] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 8, адз. з. 2303. Арк. 1–2.
[88] Тамсама. Ф. 581, воп. 3, адз. з. 1154. Арк. 44.
[89] Тамсама. Ф. 1, воп. 3, адз. з. 1401. Арк. 8.
[90] Тамсама. Ф. 581, воп. 3, адз. з. 1154. Арк. 9–10.
[91] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 323. Арк. 91.
[92] Тамсама. Ф. 1, воп. 8, адз. з. 812. Арк. 276.
[93] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 513. Арк. 92.
[94] Тамсама. Ф. 1, воп. 21, адз. з. 943.
[95] Тамсама. Ф. 9, воп. 1, адз. з. 513. Арк. 206.
[96] Тамсама. Ф. 1, воп. 15, адз. з. 1155. Арк. 1, 243.
[97] Тамсама. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 362.

*Татьяна Воронич,*
*кандидат ист. наук (Минск)*

# Город и проституция: из истории повседневности Гродно (вторая половина XIX – начало XX вв.)

*Организация надзора за проституцией*

Официально проституция в Российской империи была запрещена. В соответствии со статьей 155 Устава о предупреждении и пресечении преступлений запрещалось «открывать днем и ночью дом свой, или наемный, для непотребства, входить в оный и непотребством своим или непотребством иных снискивать себе пропитание»[1]. Это статья, впервые появившись в российском законодательстве еще в XVIII веке, спокойно просуществовала вплоть до падения Российской империи без каких-либо существенных изменений.

Но несмотря на все запреты, проституция всё же существовала. Вследствие широкого распространения венерических заболеваний среди населения, а главное, среди войск, российское правительство решило проституцию, которая была названа главной причиной этого явления, хотя бы взять под контроль. В результате появляется целый ряд циркуляров, постановлений, узаконений, регламентирующих проституцию. Эти многочисленные подзаконные акты, фактически, аннулировали статью 155, которая продолжала существовать скорее, как символ того, что хотя проституция и признана терпимой, российское правительство все же выступает против торговли женщинами, а все принятые документы носят временный характер.

Единого законодательства для всей Российской империи в отношении регламентации проституции не существовало. В каждом городе могли действовать свои административные нормы, свои правила, которые в общих чертах соответствовали общеимперским. Первые «Правила содержательницам борделей» и «Правила для публичных женщин» были утверждены 29 мая 1844 г.[2] и предназначались для Санкт-Петербурга. Затем эти правила были распространены на все города Российской империи. 8 октября 1903 г. было утверждено новое «Положение об организации надзора за проституцией в Империи»[3]. Таким образом, занятие проституцией было взято под контроль местных властей и легализовано.

В соответствии с «Правилами содержательницам борделей», «Правилами для публичных женщин» 1844 г. и циркуляром министра внутренних дел 26 октября 1851 г.[4] все женщины, занимающиеся проституцией, а также дома терпимости подлегали обязательному строгому надзору со стороны полиции. Для этого полицейские органы власти составляли особые списки публичных женщин. В губернских городах списки проституток хранились во Врачебной управе, в уездных городах – в городской больнице. Такие моменты, как условия административного подчинения женщины надзору и ее исключения из списков публичных женщин в документах прописаны не были. Все эти и многие другие вопросы организации надзора за проституцией зависели исключительно от личного решения полицейского чиновника.

В рассматриваемый период первая попытка организовать отдельные органы контроля над проституцией в Гродно была предпринята в 60-е гг. XIX в. Для борьбы с распространением венерических заболеваний, и прежде всего сифилиса, среди войск, расквартированных в западных губерниях, генерал-губернатор Муравьев сделал распоряжение о назначении в городах временных особых врачей для медицинского осмотра проституток и особых полицейских чиновников для наблюдения за проститутками с ежегодным жалованьем по 250 рублей[5]. В Гродно в 1863 г. таким «временно-особым» врачом был назначен штатный врач Гродненской гимназии Кулькин[6] с жалованьем 500 р. в год. Введенные должности особых чиновников по контролю над проституцией просуществовали до 1867 г., а затем были упразднены из-за отсутствия денежных средств. А все их обязанности были возложены на штатных городских и уездных врачей и полицейских чиновников[7].

В январе 1870 г. в Гродно по распоряжению губернатора была учреждена новая временная комиссия «для присмотра за развратными женщинами» в составе городового и военного врачей и полицейского чиновника. В обязанности ее членов входило дважды в неделю производить медицинский осмотр женщин «занимающихся непотребством» в домах терпимости и «живущих одиночками на своих квартирах», также один раз в неделю в городском полицейском управлении осматривать «вообще всех женщин промышляющих развратом и не имеющих постоянных квартир». Кроме того, они обязывались быть готовыми в любое время осмотреть всех тех женщин, на которых мужчины, заболевшие сифилисом, укажут как на заразивших их. Комиссия также должна была составлять списки всех женщин «занимающихся непотребством», в которые вносились сведения о месте жительства женщин, а также данные о состоянии их здоровья на день медицинского осмотра. Эти списки за подписями всех членов комиссии регулярно представлялись во Врачебное отделение Губернского правления[8].

В конце XIX – начале XX вв. в Гродно надзором за проституцией занимался назначенный полицмейстером помощник пристава. Именно на основании его донесений полицейское управление составляло списки проституток. Списки проституток, работающих в публичных домах составлялись на основании сведений, представленных самими содержательницами борделей. Результатом такого порядка стали многочисленные злоупотребления со стороны полицейских чиновников, когда были случаи арестов невинных девушек за «тайный разврат» по одному лишь подозрению полицейского чиновника, которого проститутки называли «контролером». Опытные же проститутки, со стажем, откупаясь от полиции, годами могли тайно заниматься проституцией[9].

Накануне Первой мировой войны в Гродно, так же как и во многих других городах Беларуси, никаких органов контроля над проституцией не существовало. Домов терпимости не было, регистрация проституток не велась. Все они по мере обнаружения выселялись из города. Тем не менее, проститутки в городе были. Только по данным, имеющимся у полиции, в 1913 г. в Гродно их насчитывалось около 50, хотя на самом деле было значительно больше.

Все выявляемые проститутки отправлялись на медицинский осмотр. При задержании проститутки сами заявляли, что хотели бы состоять под врачебно-полицейским надзором, проходить регулярно медицинское освидетельствование, и иметь соответствующие билеты. Объяснялось это тем, что проститутки боялись чрезмерного распространения венерических болезней в их среде. Тем не менее, как заявлял гродненский полицмейстер, «снабдить их таковыми (билетами) и зарегистрировать не представляется возможным»[10].

Полицмейстер ходатайствовал о создании в Гродно Врачебно-полицейского комитета, необходимость существования которого, помимо прочих причин, он подтверждал целым рядом заявлений проституток: «1913 года, апреля 5 дня. Я, нижеподписавшаяся Гродненская мещанка Виктория Михайловна Манцевич, проживающая на Иерусалимской улице […], даю настоящую подписку господину гродненскому полицмейстеру в том, что, не имея других средств к жизни, я занималась и буду заниматься проституцией, а потому прошу снабдить установленной книжкой»[11].

В соответствии с распоряжением гродненского губернатора от 3 мая 1913 г. в городах губернии стали создаваться врачебно-полицейские комитеты. Уже в мае 1913 г. таковой действовал в Бельске, в декабре – в Кобрине[12]. Врачебно-полицейский комитет был создан и в Гродно.

В соответствии с принятыми им 23 июля 1915 г. решениями в Гродно вводилась обязательная регистрация и регулярное медицинское освиде-

тельствование проституток, причем их численность в городе не должна была превышать 20. Все остальные в обязательном порядке выселялись из города. Зараженные венерическими заболеваниями немедленно удалялись из города и для лечения отправлялись в Волковыск или Слоним в больницы Приказа общественного призрения. А полицмейстеру, на которого возложили обязанности распорядителя комитета, было поручено найти «какое-либо лицо в качестве агента», который бы разыскивал и выслеживал тайных проституток, с жалованьем около 60 рублей в месяц[13]. Воплотить все решения в жизнь не удалось. Уже в сентябре Гродно был оккупирован немецкими войсками.

### *Подчинение проституток медико-полицейскому надзору*

Порядок подчинения проституток надзору не гарантировал женщине, как бы ни была безупречна ее нравственность, того, что она не будет безосновательно привлечена к медицинскому осмотру и внесена в списки проституток[14]. Подчинить женщину врачебно-полицейском надзору, т. е. внести ее в списки проституток, можно было только при условии ее добровольного согласия, либо на основании сведений, представленных полицией. Однако добровольность подчинения была достаточно условной. Если женщина не соглашалась, то ее привлекали к ответственности по 44 статье Устава о наказаниях, налагаемых мировыми судьями, «за не исполнение распоряжений правительства, относящихся к предупреждению непотребства»[15], а, именно, «за тайный разврат». Закон предусматривал наказание в виде денежного штрафа в размере 100 рублей либо лишение свободы сроком до одного месяца.

Прямой статьи закона, которая давала бы возможность признать женщину проституткой и насильственно подчинить ее врачебно-полицейскому надзору, в российском законодательстве не было[16]. Тем не менее безграмотность женщин и их бесправие давали широкие возможность для произвола полицейским органам власти. Привлечение к судебной ответственности было одним из способов давления на женщину, чтобы вынудить ее добровольно подчиниться врачебно-полицейском надзору[17].

Таким образом, под надзор полиции, как правило, попадали либо неопытные, только начавшие заниматься проституцией, либо проститутки низшего разряда. Для того, чтобы уличить проститутку высшего или среднего разряда у полиции не хватало времени и средств. Эта категория проституток проживала в своих квартирах, хорошо одевалась, посещала театры и другие общественные места. Обвинить в проституции такую женщину было крайне сложно[18].

В 1915 г. гродненский полицмейстер жаловался, что в Гродно «большинство проституток составляет пришлый элемент женщин, на вид очень приличных, нередко довольно состоятельных, живущих одиночками и занимающих отдельные квартиры. Установить занятие таких женщин проституцией возможно лишь при содействии публики, пользующейся услугами их»[19].

В некоторых российских городах существовали специальные агенты, сыщики, которые выслеживали подобных женщин. О необходимости назначения таких сыщиков в Гродно указывал доктор Гродненского военного госпиталя Шмидт еще в 1870 г., однако, ничего так и не было сделано[20]. С другой стороны, у этих проституток было достаточно материальных средств, чтобы откупиться от полицейских, которые получали таким образом дополнительный заработок. Кроме того, эти женщины имели своих высокопоставленных покровителей. Нередко мужчины при необходимости выдавали этих женщин за своих родственниц или невест, чтобы они могли избежать принудительной регистрации[21].

Как уже отмечалось, условия исключения женщин из списков проституток в правилах 1844 г. оговорены не были. По правилам 1903 г. женщина могла быть освобождена из-под врачебно-полицейского надзора только после того, как было доказано, что она «оставила промысел разврата». В правилах о надзоре за проституцией в Минске детализировалось, что женщина исключалась из списков проституток в случае ее смерти, замужества, либо в результате ходатайства самих женщин, если оно будет признано уважительным[22].

В правилах 1844 г. о замене паспортов проституток медицинскими билетами речи не шло. Тем не менее, эта практика стала общераспространенной по всей Российской империи. В 1876 г. совместным постановлением гражданского и военного ведомств было принято решение о выдаче медицинских билетов взамен паспортов[23]. Если женщина хотела выехать из города, то она должна была пройти медицинский осмотр в день отъезда с отметкой «здорова» и сдать медицинский билет в полицейское управление. Только в таком случае она могла получить паспорт.

К концу XIX в. паспорт на руки женщине уже не выдавался. Вместо него для переезда в другой город она получала «проходное свидетельство» («проездной билет»), а паспорт пересылался по новому адресу в соответствующее полицейское управление. По правилам 1903 г. за проститутками-одиночками устанавливался секретный надзор и паспорт оставался у них на руках. Но, по-прежнему, паспорта забирались у проституток домов терпимости, за которыми устанавливался явный надзор[24].

В результате установленной системы надзора за проституцией ограни-

чивалась личная свобода женщины. Женщина лишалась общегражданских документов, удостоверяющих личность. Вместо паспорта она получала медицинский (санитарный) билет (смотровую книжку), так называемый «желтый билет», в котором указывались имя, возраст и место жительства женщины, и данные о медицинских осмотрах. В Санкт-Петербурге помимо этих сведений в медицинские билеты женщин домов терпимости вносились антропологические приметы: рост, лицо, волосы, глаза, нос, подбородок, и рот, а также какие-либо особые приметы.

Выходя из дому, женщина всегда должна была иметь при себе билет. В домах терпимости билеты хранились на видном месте, чтобы можно было узнать о состоянии здоровья женщин. В 1903 г. клиенты уже просто оповещались, что они имеют право потребовать предъявить им медицинский билет проститутки.

Поменять место жительства женщина могла только с согласия полиции. В 1870 г. военный врач Шмидт предлагал даже из публичных домов не выпускать проституток без разрешения полиции[25].Содержательницы борделей также обязаны были сообщать полиции все сведения, как о поступивших в бордель новых женщинах, так и покинувших ее заведение.

*Дома терпимости, тайные притоны, дома свиданий, бордели…*

По данным 1889 г. в Гродно было 4 дома терпимости, в которых работало 25 женщин, и 11 проституток, промышлявших самостоятельно[26].

Дома терпимости было разрешено открывать женщинам в возрасте от 30 до 60 лет. В 1903 г. минимальный возраст был увеличен до 35 лет, а максимальный не ограничивался. На самом деле, в 1889 г. в Гродненской губернии публичные дома, хозяйки которых были моложе 30 лет, составляли 11 %[27]. В основном (67 %) содержательницами борделей в городах Гродненской губернии были женщины в возрасте от 30 до 45 лет. Некоторые вели этот бизнес до последних дней своей жизни. В Гродно в 1904 г. содержательнице дома терпимости на Подгорном переулке Рейзе Глаз было 72 г.[28]

Для открытия борделя необходимо было получить специальное разрешение в полиции. С 1903 г. разрешение выдавал Врачебно-полицейский комитет (там, где он был), но с санкции полиции. Требовалось также иметь еще и согласие домовладельца, в доме которого планировалось открыть бордель. Предполагаемую квартиру осматривала специальная комиссия, состоящая из врача, полицейского чиновника и представителя врачебно-полицейского комитета.

Хозяйка борделя обязана была проживать непосредственно в своем заведении. В соответствии с законом 1903 г. содержательницы борделей име-

ли право выходить замуж. Муж мог проживать вместе с ней в публичном доме, но ему категорически запрещалось вмешиваться в дела своей жены[29]. Практически все хозяйки гродненских борделей, имели мужей, только некоторые были вдовами[30]. Вместе с тем, женщинам запрещалось содержать при себе своих собственных детей старше трехлетнего возраста[31].

Подавляющее большинство содержательниц борделей в Гродненской губернии были еврейками (83 %) и принадлежали к мещанскому сословию (72 %)[32].

В среднем публичные дома в Гродненской губернии работали от одного до пяти лет. Затем они закрывались, как правило, по распоряжению местных властей за нарушение каких-либо норм, тишины и спокойствия на прилегающих улицах. Потом они могли вновь открыться. Но были бордели, и таких было чуть менее половины (44 %), которые имели давнюю историю, переходя по наследству от матери к дочери. Такие дома насчитывали в своей истории от 10-15 до 50 лет[33].

Помимо домов терпимости в Российской империи существовали еще и тайные притоны, притоны разврата и дома свиданий. Обычно хозяева этих заведений предоставляли только помещения для встреч мужчин с проститутками. Могли также и сами поставлять клиентам проституток, которые проживали на отдельных квартирах. Но довольно часто проститутки проживали непосредственно в этих квартирах. Нередко в полицейских отчетах под притонами подразумевались квартиры проституток-одиночек. Зачастую хозяева квартир сдавали комнаты проституткам под видом обыкновенных квартиранток. Причем хозяйка квартиры обеспечивала их бельем, одеждой, питанием. А затем проститутка должна была отработать весь свой долг. Хозяйка поставляла клиентов и забирала себе весь заработок проститутки, которая попадала таким образом в полную от нее зависимость.

Многие проститутки оказывались, фактически, в бесправном положении перед своими хозяевами. Квартирохозяйки и сутенеры могли забрать у женщины весь ее заработок, либо в счет долга присвоить что-либо из одежды. Во многих случаях женщины находились в неоплатном долгу у своих хозяек. Зачастую содержательницы удерживали у себя проституток с помощью шантажа, грозя избить женщину, если она решит покинуть бордель или притон.

Интересно, что если дома терпимости содержали женщины, что и требовалось законом, то тайные притоны принадлежали, как правило, мужчинам. Так, например, два тайных притона в Гродно в 1906 г. по Виленскому переулку были расположены «домах Янкеля Бейрама, Якова Будзинского»[34].

Стоимость разового посещения проститутки в публичных домах Грод-

ненской губернии составляла от 20-30 копеек до одного рубля в зависимости от уровня заведения. Если клиент желал остаться на ночь, то он должен был заплатить от 75 копеек до пяти рублей. Кроме того, проститутку можно было взять к себе домой. Цена такого визита проститутки из домов терпимости среднего и низшего разряда варьировалась от одного до трех рублей, из борделя высшего уровня – зависела от договоренности[35].

Содержание домов терпимости было прибыльным делом. Хозяйки борделей забирали 75 % всей суммы, заработанной проституткой[36]. В 1904 г. содержательницы Сара и Рейза Глаз даже сумели построить новое двухэтажное каменное здание специально для борделя за счет своих собственных средств.

Заработки уличных проституток также зависели от их уровня, молодости, красоты. Самые дешевые получали от трех до 15 копеек[37]. Проститутки высшего разряда, элитные, могли позволить себе дорогие украшения и собственные квартиры. Как правило, они имели постоянных клиентов, которые покровительствовали им.

### *Проститутки Гродно: численность, состав*

В городах Российской империи можно выделить две группы проституток. Одна работала и проживала в домах терпимости (публичных домах, борделях). Другая действовала самостоятельно. Это т.н. проститутки-одиночки. Некоторые их них имели своих сутенеров.

Проституткам-одиночкам было разрешено снимать квартиры, но проживать в них они могли только по одной. В результате некоторые просто не имели средств для содержания постоянной квартиры. Поэтому летом они оставляли свое жилье и вели кочевой образ жизни, ночуя в поле, возле военных лагерей, на кладбищах, в развалинах старых домов. Когда не было средств для найма квартиры зимой, женщины день проводили в кабаках, трактирах, а ночь – в ночлежных домах.

В 1903 г. проституткам было разрешено проживать в квартирах по двое. Несмотря на все ограничения, проститутки проживали на квартирах и по трое, и по четверо. Так было легче выживать. В 1906 г. в Гродно было четыре квартиры с 10 проститутками-одиночками по 2-3 в каждой, и около 20 «бродячих» проституток «перекочевывающих с места на место»[38].

Проститутки отличалась высоким уровнем мобильности по перемене места жительства. Женщины меняли хозяек, переходя из одного борделя в другой, или на съемные квартиры, а затем вновь могли вернуться к своей прежней хозяйке. Значительная часть проституток не имела в качестве постоянного места жительства даже какой-либо один определенный город.

Они «гастролировали» по городам, останавливаясь в гостиницах лишь на несколько недель или месяцев. Состав проституток в крупных городах Беларуси на протяжении года в 70-90-е гг. XIX в. менялся, более чем на 65-70 %.

В 1893 г. в Гродно по официальным сведениям было 5 домов терпимости, в которых работало 86 проституток, кроме того, было зарегистрировано проституток-одиночек – 91, задержано по подозрению в тайной проституции – 12[39].

По мнению современников, в Российской империи число зарегистрированных проституток никогда не соответствовало реальной численности публичных женщин. В зависимости от города, число явных проституток составляло от 1/5 до 1/10 от действительного числа всех женщин, занимающихся проституцией[40].

Встретить проституток можно было, практически, на всех главных улицах Гродно, где они искали клиентов, а также в районах их квартир и борделей. В сер. XIX в. наиболее популярными среди проституток были улицы, примыкающие к железнодорожному полотну и расположенные вдоль набережной Немана – это Подольная, Огородная, Мостовая, Подгорная, Полицейская, Песочная и Иерусалимская, а также Городничанская. Часть проституток проживала в Занеманской части города. В 1867 г. на Городничанской улице располагался дом терпимости содержательницы Иофовой, на Подольной улице в доме Германа – Кроликовой, в доме Гришкевича – Чупуринской, и на Полицейской улице – содержательницы Могилевской, в каждом из которых проживало от трех до семи женщин[41].

К началу XX в. проститутки освоили еще Солдатскую слободу, Александровскую улицу, Виленский переулок, Гончарную, Купеческую, Муравьевскую, Пороховую, Прачечную, Софийскую, Татарскую и Фабричную улицы.

Свои услуги, помимо борделей, проститутки оказывали во всех подходящих для этого местах. Прежде всего, это были их собственные квартиры, и квартиры военных, а также гостиницы, кофейни, чайные, харчевни, бани, конюшни, окрестности казарм, глухие городские улицы, сады и огороды, берег Немана и пр.[42] В Бресте бывали случаи, когда во время ночных облав полиция находила солдат в одном нижем белье в городском саду, в кустах, и вынуждена была отправлять их в крепость в полицейской одежде[43].

По вероисповеданию в Гродненской губ. в 1889 г. среди проституток можно выделить три основные группы. Чуть более половины (52 %) исповедовали католичество, 16 % – православие, около одной трети (31 %) были иудейками[44]. Большая часть (64 %) проституток принадлежала мещанскому сословию, одна треть (30 %) – крестьянскому[45].

По данным 1889 г. подавляющая часть (87 %) проституток Гродненской губернии была безграмотной. Хотя среди них встречались и те, кто полу-

[43] Там же. Оп. 1, д. 513, л. 184 об.
[44] Статистика Российской империи. Вып. XIII. С. 20-21.
[45] Там же. С. 36-37.
[46] Там же. С. 48-49.
[47] Там же. С. 40-41, 44-45.
[48] Там же. С. 66-67.
[49] Там же. С. 54-55, 58-59.
[50] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России // Вестник общественной гигиены, судебной и практической медицины, издаваемый Медицинским Департаментом. 1895. Т. XXVIII. Книга 2. Ноябрь. С. 161.
[51] Там же. С. 161-162; Шыбека З. Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет. Курс лекцый. Вільня, 2009. С. 277.
[52] Бентовин Б. И. Доклад о проституции детей // Труды первого всероссийского съезда по борьбе с торгом женщинами и его причинами, происходившего в Санкт-Петербурге с 21 апреля по 25 апреля 1910 г. Т.II. СПб., 1912. С. 448-449.
[53] Там же. С. 448-449.
[54] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 2, д. 2003, л. 21.
[55] Там же. Л. 27.
[56] Там же. Д. 807, л. 8–9 об.
[57] Там же. Д. 2003, л. 27.
[58] Там же. Л. 133 об.
[59] Там же. Л. 73.
[60] Там же. Л. 45.
[61] Там же. Л. 11-11 об.
[62] Там же. Л. 27.
[63] Там же. Л. 20 об.
[64] Там же. Л. 45.
[65] Там же. Л. 46.
[66] Там же. Л. 46.
[67] Там же. Л. 56, 60.
[68] Там же. Л. 66.
[69] Там же. Л. 69-69 об., 71.
[70] Там же. Л. 109.
[71] Там же. Л. 1 об.
[72] Там же. Л. 34.
[73] Там же. Л. 84 об.
[74] Там же. Л. 27 об., 39.
[75] Статистика Российской империи. Вып. XIII. С. 70-71.
[76] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 1, д. 2358, л. 230.
[77] Там же. Оп. 3, д. 34, л. 27-28; Оп. 2, д. 638, л. 184-185.
[78] Елистратов А. И. Доклад о роли права и нравственности в борьбе с торгом и куплею женщин в целях разврата // Труды первого всероссийского съезда по борьбе с торгом женщинами и его причинами, происходившего в Санкт-Петербурге с 21 апреля по 25 апреля 1910 г. Т.II. СПб., 1912. С. 406-407.
[79] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 160.
[80] Елистратов А. И. Доклад о роли права и нравственности в борьбе с торгом… С. 407.
[81] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 160.

[82] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 1, д. 2358, л. 234-235 об.
[83] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 160.
[84] Там же.
[85] Елистратов А. И. Доклад о роли права и нравственности в борьбе с торгом… С. 406.
[86] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 160.
[87] Елистратов А. И. Доклад о роли права и нравственности в борьбе с торгом… С. 412.
[88] Устав о наказаниях, налагаемых мировыми судьями//Свод законов Российской Империи. СПб., 1897. Книга 2. Т. 15. С. 181.
[89] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 1, д. 2358, л. 234-235 об.
[90] Подсчитано по: Обзор Гродненской губернии за 1894, 1896, 1898, 1900-1911 года. Гродно, 1895, 1897, 1899, 1901–1912. Ведомости о движении населения в Гродненской губернии.
[91] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 162.
[92] Обзор Гродненской губернии за 1900 год. Гродно, 1901. С. 102.
[93] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 1, д. 1412, л. 81 об.
[94] Обзор Гродненской губернии за 1900 год. Гродно, 1901. С. 101.
[95] Справочная книга для врачей. Издание Медицинского Департамента. СПб., 1890. Том I. С. 426.
[96] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 1, д. 1412, л. 82 об.
[97] Петерсен О. В. О сифилисе и венерических болезнях в городах России // Труды высочайше разрешенного съезда по обсуждению мер против сифилиса в России, бывшего при Медицинском Департаменте с 15 по 22 января 1897 г. СПб., 1897. Т. 1. С. 126-127; Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 141.
[98] Национальный исторический архив Беларуси (Минск). Ф. 2513, оп. 2, д. 929, л. 113.
[99] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 3, д. 34, л. 4.
[100] Шашков С. С. Исторические судьбы женщины… С. 872.
[101] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 4, д. 125, л. 19 об.-20.
[102] Там же. Л. 28 об.
[103] Там же. Д. 868, л. 34.
[104] Там же. Оп. 1, д. 513, л. 123 об.
[105] Там же. Д. 868, л. 34.
[106] Там же. Д. 513, л. 224.
[107] Там же. Д. 2682, л. 1.
[108] Там же. Д. 513, л. 206.
[109] Свод узаконений и распоряжений правительства… Вып. 1. С. 94.
[110] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 4, д. 155, л. 15 об.
[111] Елистратов А. О прикреплении женщины к проституции. С. 213.
[112] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 2, д. 323, л. 26-33.
[113] Справочная книга для врачей. Издание Медицинского Департамента. СПб., 1890. Том I. С. 473.
[114] Там же. С. 463.
[115] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 1, д. 513, л. 206.
[116] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 151.
[117] Там же. С. 151, 156.

[118] Свод узаконений и распоряжений правительства по врачебной и санитарной части в империи. СПб., 1895–1896. Вып. 1. С. 78.
[119] Свод узаконений и распоряжений…Вып. 1. С. 84; Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России... С. 144.
[120] Свод узаконений и распоряжений…Вып. 1. С. 81.
[121] Там же. С. 81.
[122] Там же.
[123] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 2, д. 323, л. 52 об.
[124] Там же. Оп. 1, д. 2682, л. 1-2 об.
[125] Там же. Оп. 1, д. 513, л. 123 об.
[126] Там же. Оп. 2, д. 323, л. 25, 52 об.
[127] Там же. Оп. 1, д. 513, л. 6, 123 об.
[128] Елистратов А. О прикреплении женщины к проституции. С. 32.
[129] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 1, д. 513, л. 123 об.
[130] Там же. Л. 6.
[131] Штюрмер К. Л. Проституция в городах. С. 37.
[132] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 4, д. 155, л. 14 об.
[133] Там же. Л. 35.
[134] Устав о предупреждении пресечении преступлений // Свод законов Российской империи. Издание 1890 г. СПб., Б. г. Том 14. С. 27.
[135] Елистратов А. О прикреплении женщины к проституции. С. 23.
[136] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 4 д. 125, л. 15 об., 19.
[137] Там же. Л. 5-6об.
[138] Грацианов П. А. К вопросу и реорганизации надзора за проституцией в России… С. 156, 157.
[139] Кринолин – в прошлом широкая юбка на тонких обручах.
[140] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 4, д. 155, л. 16 об.
[141] Свод узаконений и распоряжений…Вып. 1. С. 170.
[142] НИАБ в Гродно. Ф. 9, оп. 2, д. 2003, л. 35 об.
[143] Там же. Л. 46.
[144] Там же. Л. 64 об.
[145] Там же. Л. 12, 93 об.
[146] Там же. Л. 73-73 об.
[147] Там же. Л. 46.
[148] Там же. Л. 12.
[149] Там же. Л. 36.
[150] Там же. Л. 36.
[151] Там же. Л. 35 об.
[152] Там же. Л. 16-16 об.

*Іна Соркіна,*
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

# Гістарычная палітыка ў Гродне ў другой палове XIX – пачатку XX ст. паводле матэрыялаў архіўных фондаў мясцовай адміністрацыі

На 60-я гады XIX – пачатак XX ст., калі адбывалася палітычная і сацыяльна-эканамічная мадэрнізацыя, ішлі працэсы нацыястварэння, зараджаліся і развіваліся нацыянальныя рухі сярод шматлікіх народаў Расійскай імперыі, прыпадае «эпоха стварэння нацыянальнай памяці». У гэты час ва ўмовах татальнай русіфікацыі нашага краю пашыраюцца інтэграцыйныя гістарычныя канцэпцыі з вялікадзяржаўнай ідэяй Расіі, канчаткова афармляецца «заходнерусізм» як галоўны напрамак у фарміраванні гістарычнага вобраза беларускай мінуўшчыны ў гістарычнай навуцы і сферы масавай гістарычнай свядомасці. Аднак і ў такіх надзвычай неспрыяльных умовах паўставалі і першыя нацыянальныя інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі[1]. Таму і ў дачыненні да беларускіх губерняў царскай імперыі слушным ёсць сцвярджэнне Хагена Шульца, што паўсюды ў Еўропе XIX ст. было стагоддзем «пераможнага паходу нацыянальнай гістарыяграфіі», якая нават «негістарычным» малым нацыям «прымервала гістарычныя строі»[2].

У дадзеным артыкуле робіцца спроба паказаць асноўныя накірункі *гістарычнай палітыкі*. У адпаведнасці з сучаснай нямецкай гістарыяграфіяй *гістарычная палітыка* трактуецца як дзяржаўная палітыка ў галіне памяці. Як яна ажыццяўлялася ў Гродне? Наколькі была паспяховай? Як рэагавалі на яе гарадзенцы? Даследаванне выканана пераважна на аснове дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, а таксама Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва (Вільня).

Гістарычная палітыка ў другой палове XIX – пачатку XX ст. вызначалася барацьбой з польска-каталіцкім уплывам і паслядоўнай русіфікацыяй, якія разгарнуліся ў Беларуска-Літоўскім краі пасля разгрому паўстання 1863 г. Выкарыстанне мінулага ў палітычных інтарэсах дзяржаўных уладаў стала з'явай публічнага жыцця.

Адным з галоўных напрамкаў гістарычнай палітыкі гэтага перыяду з'яўляецца ўздзеянне на гістарычную свядомасць народа праз **сістэму адукацыі.** Выкладанне гісторыі ў навучальных установах Гродна, як

і ўсяго Краю, было арганізаванае такім чынам, што гістарычная адукацыя служыла інтарэсам расійскага самадзяржаўя[3]. Па-першае, настаўнікі былі, як правіла, выхаванцамі такіх універсітэцкіх цэнтраў Расійскай імперыі, як Санкт-Пецярбург, Масква, Кіеў, Харкаў, што не магло не адбіцца на стане іх свядомасці. У расійскую сістэму адукацыі ўкаранялася функцыянальна-дзяржаўная мадэль падрыхтоўкі настаўніка, паводле якой змест педагагічнай адукацыі павінен быў абапірацца на такія сацыяльна-палітычныя і духоўныя каштоўнасці, як самадзяржаўе, праваслаўе і руская народнасць. На лекцыях, якія чыталіся на педагагічных курсах настаўнікаў школ Гродзенскай епархіі, былі вызначаныя якасці, якім павінны адпавядаць настаўнікі: «Твердость или зрелость нравственных убеждений, которая является следствием глубокой веры в Бога, преданности церкви православной, неизменной любви к отечеству – России, искренной преданности Царю и правительству…»[4]

Па-другое, падручнікі для устаноў Віленскай навучальнай акругі адрозніваліся ад адпаведных кніг для цэнтральных губерняў вялікадзяржаўным тлумачэннем гісторыі Краю, вялікай увагай да гісторыі праваслаўя. Паколькі гарадзенскія настаўнікі гісторыі мелі, як правіла, гістарычна-філалагічную адукацыю, то пры выкладанні гісторыі шырока выкарыстоўваліся расійскія літаратурныя творы з гістарычным зместам. Расійская літаратура XIX ст. была (і застаецца) каланіяльнай па сваёй сутнасці. Гэта пераканаўча паказала амерыканская даследчыца Эва Томпсан у сваёй працы «Песняры імперыі», прысвечанай працэсу татальнага пранікнення вялікадзяржаўнай ідэі ў расійскі культурны дыскурс[5].

Гарадзенскія вучні, як правіла, вывучалі гісторыю, якую ніколі не перажывалі іх продкі. Але дзякуючы старанням некаторых выкладчыкаў, у першую чаргу, Яўстафія Арлоўскага, вучні далучаліся да краязнаўства. Нягледзячы на ідэалагічную абмежаванасць працаў Я. Арлоўскага (як прыхільніка «заходнерусізма»), ён ўнёс пэўны ўклад у захаванне гарадзенцамі гістарычнай памяці пра лёс уласнага горада.

Гістарычная палітыка расійскіх уладаў рэалізоўвалася і праз **пашырэнне ў нашым краі літаратуры з інтэрпрэтацыяй мінуўшчыны, адпаведнай палітычным інтарэсам царызму.** Яшчэ ў другой палове 1820-х гг. на Гродзеншчыне меў месца прымусовы распаўсюд сярод мясцовых жыхароў «Истории государства Российского» Мікалая Карамзіна ў перакладзе на польскую мову. Поўны збор гэтага твора складаўся з 11 тамоў і каштаваў 100 руб. асігнацыямі. У Гродзенскай губерні з дапамогаю адміністрацыйнага рэсурсу «раздалі» 9 камплектаў. З месцаў паступалі рапарты аб спагнанні з памешчыкаў па 100 руб. за ўручаныя экземпляры працы Карамзіна[6].

Гэты твор, як вядома, быў замоўлены Аляксандрам І. Райнер Ліндner

назваў яго першым маніфестам новага імперскага разумення гісторыі з боку самадзяржаўя[7]. Эва Томпсан ацэньвае «Историю» Карамзіна як першы значны крок у кірунку, які можна назваць тэкстуальнай імперыяй, а яе аўтара – як першага расійскага інтэлігента, які свой талент паклаў на алтар дзяржавы, прапануючы схемы апраўдання расійскай тэрытарыяльнай экспансіі[8].

Здзіўляе аператыўнасць, з якой шматтомная праца Карамзіна з'явілася ў польскамоўнай версіі ў Гродне і іншых населеных пунктах заходняга рэгіёна Расійскай імперыі: ад моманту завяршэння яе напісання (1820 г.) і распаўсюду на Гродзеншчыне ў польскамоўным перакладзе прайшло ўсяго 6 гадоў. Цар так моцна ўпадабаў гэтую працу, што Карамзін быў вызвалены ад абавязку атрымліваць дазвол на друк «Истории» ў дзяржаўнага цэнзара. Гэта было выключэнне ў расійскай палітычнай сістэме.

Гродзенская губернская адміністрацыя і надалей актыўна займалася выкананнем распараджэнняў аб спрыянні пашырэнню ў нашым краі гістарычнай літаратуры з патрэбнай для расійскага самадзяржаўя інтэрпрэтацыяй мінуўшчыны. Так, у пачатку XX ст. мясцовыя ўлады распаўсюджвалі твор Нечвалодава «Сказания о Русской Земле», які вельмі высока ацаніў Мікалай II і распарадзіўся «принять все меры для самого широкого распространения этой книги, с которою должны быть особенно основательно знакомы, как имеющие наибольшее влияние на воспитание населения, все священники, все офицеры армии и флота и все народные учителя и учительницы; равным образом та же книга должна быть хорошо известна каждому ученику средних учебных заведений и иметься во всех библиотеках, как при церквах Империи, так и библиотеках войсковых, школьно-народных, ученических, классных и фундаментальных и, наконец, во всех народных читальнях»[9].

Аб характары гістарычнай літаратуры, якой папаўняліся бібліятэкі Гродна, сведчыць архіўны дакумент 1912 г. *Переписка с Гродненским народным домом, народными училищами, губернским комитетом попечительства о народной трезвости, об обеспечении библиотек и читален книгами и световыми картинами*, у якім сярод іншых узгадваюцца кнігі: Волховский. Домашний быт Русских царей; Данилевский. Потемкин на Дунае; Соловьев. Полное собрание сочинений. 7 томов; Толстой А. Князь Серебрянный. Повесть времен Иоанна Грозного; Дементьева. Царская невеста Мария Влонова. Историческая повесть; Чистяков. Исторические повести; Чистяков. Русские исторические рассказы; Карпович. Самозванные дети. Историческая повесть в 3-х частях из времен императрица Екатерины 2; Митропольский. Тяжелый год 1812 г.; Покоренный Кавказ. Исторический очерк; Михайловский В. Св. Равноапостольский Великий князь Владимир; Ломан. Воцарение дома Романовых; Павлович. Рассказы из русской истории; Погосский.

Оборона Севастополя; Супонев. Рассказы о севастопольцах; Тихомиров. Из истории родной земли; Тихомиров. Куликова битва; Иллюстрированнайя история царствования Императора Петра Великого; Суворов в анекдотах; В Московском царстве; История России в портретах по столетиям; Женщины в Допетровском обществе; Нравы русских при Петре Великом; Старина русской земли; Монгольское иго; Тихомиров. Древняя Россия; Тихомиров. Новая Россия[10].

З нагоды 100-гадовага юбілея вайны 1812 г. бібліятэкі Гродна і Гродзеншчыны папоўніліся шматлікай расійскай гістарычнай літаратурай. Паступілі наступныя кнігі, брашуры, карціны: «Заслуженного профессора Н. П. Михневича: а) На память об Александре I и 1812 г.; б) 1812 г. на Руси; в) Бородинский бой; Н. Д.-Аго. Благословенный царь; П. А. Россиева: а) Сожженная Москва; б) Изгнание двадзесяти языке; в) Русские освобождают Европу; Профессора А.Г.Елчанинова. Народная война и герои из народа в 1812 г.; Е. Поселянина: а) За Веру, Царя и Родину; б) 100 лет назад; А. Е. Зарина: а) Женщины героини в 1812 г.; б) Тимошкина команда; В. В. Жерве: а) Славный герой 1812 г. – Кутузов; б) герои-солдаты в 1812 г.; в) славные партизаны 1812 г.; г) Герои 1812 г. Барклай-де-Толли и Багратион; П. Краснова. Донцы и Платов; Е. Ф. Орловского. Гродненская губерния в 1812 г.; Раскрашенных световых картин на стекле для публичных народных чтений по книжке проф Н. П. Михневича «1812 г. на Руси» – 40 картин; Портретов для бесплатной продажи народу: а) Императора Александра I; б) Князя Голенищева-Кутузова; в) Князя Багратиона; г) Графа Платова; д) Генерал-лейтенанта Давыдова; е) А. Н. Сеславина»[11].

Бібліятэкай Гродзенскага Народнага Дома ў 1911 г. выпісваліся наступныя перыядычныя выданні: «Россия», «Новое время», «Сельский вестник», «Русское чтение», «Дружеские Речи», «Крестьянин», «Русский паломник», «Народное дело», «Хутор», «Родина», «Нива»[12]. У канцы 1914 г. было рэкамендавана выпісаць гістарычны штомесячны часопіс «Русская старина»[13]. Загадчык 1-й чайной Гродна звяртаўся з просьбай да Гродзенскага камітэта папячыцельства аб народнай цвярозасці выпісаць газеты «Свет», «Северо-Западная жизнь», часопіс «Огонёк»[14].

На сценах у бібліятэках, чайных віселі абразы РПЦ, партрэты расійскіх манархаў, палкаводцаў, пісьменнікаў. Напрыклад, у 3-й народнай чайной Гродна былі абразы Збаўцы, Мікалая Цудатворца, Серафіма; партрэты імператара Мікалая II, імператрыцы, Суворава, Пушкіна і іншых (усяго 10)[15].

Паралельна з пашырэннем падобнай літаратуры ўлады павінны былі сачыць за з'яўленнем забароненых цэнзурай выданняў. Напрыклад, у 1884 г. сярод забароненай літаратуры значыліся: Толстой (А. К., граф). Русская история от Гостомысла с IX по XIX в. Шутка-поэма. Berlin, 1884;

В память столетия Пугачевщины (1773 – 1873). Лондон. Издание журнала «Вперед». 1874; Драгоманов М. Историческая Польша и великорусская демократия. Женева, 1881; Записки декаблиста. Материал для истории возмущения 14 декабря 1825 г. и участников его. Перевод с немецкого. Спб., 1869; Исторический сборник Вольной русской типографии в Лондоне. С предисловием Искандера. Лондон, 1861; Исторические документы из времен Александра I. Лейпциг, 1880. (Международная библиотека. Том XXIV.); Исторические очерки России 1855 – 1878 гг. Лейпциг, 1880; Польская революция и гордиев узел Европейской политики. Берлин, 1863; Размова про богатство и бедносць (переделка с украинского на белорусский язык). Типография «Работника». Женева, 1880; Barzykowski (Stanisław) Historya powstania listopadowego. Poznań, 1883. Tom I. 487 str. Tom II. 417 str. I Tom III; Krótki zarys historyi kościoła katolickiego. X.A.St. Poznań, 1884; Leliwa (Piotr). Jan Sobieski i jego wiek. Kraków, 1884. Tom III; Skrochowski (Ignacy). Powieść z lat dawnych «Ogniem i Mieczem. Henryka Sienkiewicza». Kraków, 1884; Gorzkowski (Maryan). Wskazówki do dawniejszego obrazu Jana Matejki «Kazanie Skargi». Kraków, 1884[16]

Кантроль за недапушчэннем распаўсюду забароненых цэнзурай выданняў здзяйсняўся праз нагляд за кніжнымі крамамі і гандлярамі кніжнай прадукцыі ў разнос. Матэрыялы аб вобшуках і канфіскацыях тавараў кнігарняў захаваліся, напрыклад, у фондзе канцылярыі віленскага генерал-губернатара. Так, у лістападзе 1867 г. рабіліся агляды дробных крамаў з рэлігійнымі прадметамі. У Вільні былі канфіскаваныя 109 назваў кніг і брашур, з іх 12 – свецкага характару. Усе кнігі свецкага зместу, акрамя граматыкі, характарызаваліся ў перапісцы губернскай адміністрацыі як напісаныя «в совершенно польском духе».

Творы «Książeczki obrazkowi» і «Obrazki Historyczne», выдадзеныя ў Варшаве ў 1862 г., змяшчалі «рассказы из польской истории, прославляющие с энтузиазмом своих королей и полководцев», былі «проникнуты духом польского патриотизма и католической религиозной экзальтации». «Podarunek dla Ludu naszego» (Варшава, 1862–1863) быў непрымальны для чыноўнікаў, бо напісаны «для поддержания польских преданий», а «Ksiądz Wikary» (Варшава, 1863) непрымальны, бо «польская земля рассматривается как самостоятельное государство и внушается убеждение, что ксёндз есть источник мудрости и добра для народа»[17].

Сярод адукаваных жыхароў былых Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай папулярнасцю карысталася не толькі падобная літаратура, але і творы мастацтва на гістарычныя тэмы. Так, гродзенскія губернскія ўлады мелі шмат клопатаў з праблемай распаўсюду праз разносны гандаль фотаздымкаў карцін вядомага мастака Яна Матэйкі, сярод якіх «Прыняцце

Стэфанам Баторыем Рускага пасольства», «Падзелы Польшчы» і іншыя, а таксама выявы біскупа Ледахоўскага ў турме. Чыноўнікі характарызавалі творы Я.Матэйкі як «польскую прапаганду»[18].

У лісце віленскага генерал-губернатара ад 30 чэрвеня 1880 г. гродзенскі губернатар папярэджваўся аб магчымым хуткім з'яўленні на Гродзеншчыне фотакопій карціны Яна Матэйкі, прысвечанай паўстанню 1863 г. Гэтая карціна зрабіла фурор на выставе ў Кракаве і пачала распаўсюджвацца ў выглядзе фотаздымкаў у Польшчы і ў Беларуска-Літоўскім краі.

У гэтым лісце твор Матэйкі апісваецца наступным чынам: «Варшавским генерал-губернатором получено сведение, что на открытой несколько недель тому назад в Кракове в здании «Сукенницы» художественной выставке польских живописцев появилась картина Матейки, принадлежащая к числу не удавшихся по художественному исполнению произведений и без сомнения писанная под влиянием желчного раздражения и патриотического фанатизма. Картина эта представляет внутренность тюрьмы, на стене обозначен 1863 г., граф Муравьев изображен стоящим в стороне, держа одну руку в кармане брюк, плащ на нем едва держится и он с улыбкою смотрит как палачи надевают кандалы на приговоренных к смерти польских патриотов: молодого мужчину и девушку, а на заднем плане виднеются русские солдаты со зверскими лицами. По окончании в Кракове судебного процесса над социалистами публика особенно стала оказывать внимание к этой картине…»[19]

Яшчэ адным напрамкам гістарычнай палітыкі ў Гродне было **навязванне гараджанам расійскага юбілейна-ўшанавальнага канона.** Вялікая ўвага надавалася арганізацыі шматлікіх імпрэзаў, прысвечаным юбілейным датам расійскай гісторыі і расійскіх манархаў:

- 1862 г. – 1000 годдзе Расійскай дзяржавы;
- 1872 г. – 200 годдзе Пятра Вялікага;
- 1877 г. – 100 годдзе Аляксандра I;
- 1888 г. – 900 годдзе хрышчэння рускай зямлі;
- 1889 г. – 50 годдзе з дня «ўз'яднання» уніятаў з РПЦ;
- 1892 г. – 500 годдзе з дня канчыны Св. Сергія Раданежскага;
- 1896 г. – 100 годдзе з дня нараджэння Мікалая I;
- 1896 г. – 100 годдзе з дня нараджэння Кацярыны II;
- 1899 г. – 100 годдзе з дня нараджэння А. С. Пушкіна;
- 1900 г. – 100 годдзе з дня смерці А. Суворава;
- 1902 г. – 100 годдзе Гродзенскай губерні;
- 1912 г. – 300 годдзе саравання Раманавых;
- 1912 г. – 100 годдзе вайны 1812 г.

Падставай для святкавання 1000-годдзя Расіі паслужыла падзея,

звязаная з запрашэннем у Ноўгарад князя Рурыка. Для збору сродкаў на ўсталяванне народнага помніка ў Ноўгарадзе, прысвечанага гэтай юбілейнай даце, была абвешчана ўсерасійская падпіска. З жыхароў Гродна ніхто не адгукнуўся на гэтую прапанову. Грошы па Гродзенскай губерні збіраліся з цяжкасцю. Перасылаліся мізэрныя сумы. За перыяд з мая 1857 г. па лістапад 1860 г. у губерні ўдалося сабраць 146 руб. 87,5 к.[20]

Затое гродзенскаму губернатару ўдалося праявіць паспяховую актыўнасць у продажы медалёў у гонар 1000-годдзя Расіі, а таксама ў памяць аб вызваленні сялян з-пад прыгону. У лісце да Канторы медалёў у Санкт-Пецярбург ад 14 лютага 1864 г. ён прасіў даслаць у Гродна 500 вялікіх медалёў у памяць 1000-годдзя Расіі і 500 медалёў у памяць вызвалення сялян. Праз два з паловай месяцы ў сталіцу імперыі зноў быў адпраўлены ліст з просьбаю даслаць яшчэ па 1000 абодвух медалёў[21].

Праграма святкавання 900-годдзя хрышчэння Рускай зямлі, зацверджаная гродзенскім губернатарам, складалася з 4-х пунктаў:

« – сделать распоряжение к своевременному объявлению народу о предстоящем торжественном праздновании 15 июля Православной церковью и о прекращении в означенный день всех будничных работ;
– заблаговременно приготовить к этому торжеству народ, уясняя ему значение события крещения Руси и заслуги Св. князя Владимира в этом деле;
– учеников народных училищ, ЦПШ и других школ ознакомить с жизнью и деятельностью и подвигами Св. Владимира, научить читать и петь наизусть некоторые молитвы и песнопения Святому;
– 15 июля в самый праздник устроить торжественные собрания в зданиях учебных заведений, на которых прочитать житие Св. Владимира и выдержки из других книг религиозно-нравственного содержания, применительно сказанному торжеству»[22].

Губернатар таксама звяртаўся да начальніка 26-й пяхотнай дывізіі князя Шчарбатава з просьбай выдзеліць аркестр ваеннай музыкі падчас хроснага ходу[23].

У 1894 г. гродзенскі губернатар па просьбе таганрогскага гарадскога галавы ініцыяваў збор сродкаў на ўзвядзенне помніка Пятру I у Таганроге. З гэтай мэтай, каб «привлечь наивозможно большее число жертвователей к участию в деле увековечения в памяти потомства неоценимых для России подвигов и деяний Незабвенного Преобразователя нашего Отечества Императора Петра Великого», былі распаўсюджаны заклікі, у якіх усхваляліся заслугі Пятра I перад Расіяй. У падпісных лістах ад насельніцтва Гродзенскай губерні жыхары Гродна не значыліся. Можна дапусціць, што сродкі

збіраліся прымусова, бо, напрыклад, ад Кобрынскага ўезда здалі грошы 4 чалавекі (13 руб. 30 кап.). Усе яны былі паліцэйскімі прыставамі[24].

Збіраліся сродкі і на ўшанаванне памяці Аляксандра Неўскага. Гарадзенскі спраўнік паведамляў 6 лютага 1895 г., што на пабудову ў яго гонар царквы ў Севастопалі сабрана 23 руб. 51 кап., у тым ліку з сялянаў – 2 руб. 31 кап.[25]

Нагадаем, што ў самім Гродне Аляксандра-Неўская царква была ўзведзеная на Дварцовай плошчы яшчэ ў канцы 1860-х гг. Ідэя пабудовы царквы ўзнікла ў 1866 г. пасля замаху Каракозава на Аляксандра ІІ. Узвядзенне царквы меркавалася за кошт дабрачынных ахвяраванняў жыхароў губерні, якія такім чынам хацелі «увековечить драгоценную для каждого верноподданного память счастливого исхода грозившей опасности Государю Императору»[26]. арта адзначыць, што на самым пачатку гэтай кампаніі па ініцыятыве губернскай адміністрацыі разглядалася пытанне пра мэтазгоднасць накіраваць сабраныя грошы на аднаўленне Каложскай царквы. Аднак на сходзе, які адбыўся 16 красавіка 1866 г. у гарадскім клубе, ахвярадаўцы выказаліся ўсё ж за ўзвядзенне царквы ў гонар Аляксандра Неўскага[27].

Збор сродкаў набыў шырокі размах. Рабілі ахвяраванні ўсе сацыяльныя слаі: сяляне, памешчыкі, чыноўнікі, навучэнцы, духавенства. Усяго за 1866–1870 гады было сабрана 18 346 рублёў[28]. На сабраныя сродкі на працягу 1869 г. архітэктарам Гур'евым быў узведзены храм. 4 красавіка 1870 г. царква была асвечана ў гонар кананізаванага князя Аляксандра Неўскага. 24 чэрвеня таго ж года яе наведаў імператар Аляксандр ІІ, які праязджаў праз Гродна. Новапаўсталая пасярод Дварцовай плошчы царква сказіла архітэктурны выгляд плошчы, забудаванай яшчэ ў часы каралеўскага старасты Антонія Тызенгаўза.

У 1899 г. губернатар звяртаўся да насельніцтва падначаленай яму Гродзенскай губерні з заклікам да ахвяраванняў на пабудову ў Вільні помніка Кацярыны ІІ «как главной виновнице возвращения России отторженного от нея Белорусского края», дзеля таго, каб «…дать возможность каждому члену великой русской семьи внести свою лепту на это общерусское дело…» Дваранства Гродзенскага ўезда адгукнулася сумай у 4 руб. (з якіх 3 руб. даў памешчык Аркадзь Курлоў)[29].

Больш ахвотна здавалі грошы на ўзвядзенне ў Вільні помніка графу Міхаілу Мураўёву. Гродзенскі губернатар атрымаў указанне распачаць збор ахвяраванняў на гэта ў сакавіку 1891 г. Ад гродзенскага маршалка (*предводителя)* дваранства паступіла сума ў 31 р. 65 к.: у падпісным лісце значылася 20 чалавек, найбольшыя ўнёскі (па 10 руб.) былі ад генералара Русау і ўжо згаданага Курлова[30]. Гродзенскі губернатар, які быў у складзе камітэта па ўвекавечванні памяці Мураўёва і прысутнічаў на яго пасяджэн-

нях у Вільні, узгадваў, што на адным з іх па прапанове мінскага губернскага маршалка было вырашана пытанне аб складанні гістарычнага нарыса адміністрацыйна-палітычнай дзейнасці Мураўёва, даручылі гэтую працу пісьменніку Усеваладу Крэстоўскаму.

А вось сярод гарадзенцаў прамову, у якой была «обрисована личность и государственные заслуги покойного графа», рыхтаваў гімназічны выкладчык гісторыі Яўстафій Арлоўскі. Яна была агучана 8 лістапада 1898 г., калі з нагоды адкрыцця помніка Мураўёву ў Вільні ў Гродзенскай гімназіі адбыўся літаратурна-вакальны ранішнік[31].

Вялікая ўвага губернскай адміністрацыяй была нададзеная даце, звязанай са 100-годдзем са дня смерці Аляксандра Суворава. 29 сакавіка 1900 г. гродзенскі губернатар атрымаў ліст ад віленскага генерал-губернатара, у якім адзначалася: «Дабы оживить в памяти народа славные деяния великого русского полководца и народного героя, генералиссимуса, Светлейшего князя Александра Васильевича Суворова, имеющего общегосударственное русское значение, имею честь просить Ваше Превосходительство принять меры к устройству наиболее торжественного чествования памяти русского героя […] как в губернском, так и в уездных городах»[32]. Такую ж самую рыторыку гродзенскі губернатар паўтараў у перапісцы са сваімі падначаленымі. Была створаная спецыяльная камісія для распрацоўкі праграмы ўшанавання памяці Суворава.

Епіскап Гродзенскі і Брэсцкі зрабіў распараджэнне ўсяму епархіяльнаму духавенству адслужыць 5 мая (6 мая быў таксама днём нараджэння імператара Мікалая Аляксандравіча) ва ўсіх гарадскіх і прыходскіх храмах «заупокойную литургию и панихиду, с провозглашением вечной памяти Державным Вождям России, при которых служил Суворов, самому Генералиссимусу и всем воинам, на поле брани живот свой положившим»[33].

Камітэт папячыцельства аб народнай цвярозасці займаўся арганізацыяй у Гродне і іншых населеных пунктах губерні народных чытанняў пры чайных ці ў іншых зручных месцах. Дзеля гэтага былі выпісаныя брашуры і карціны, прысвечаныя Сувораву. Гродзенская гарадская дума 26 красавіка 1900 г. пастанавіла назваць новазбудаваную вуліцу «Сувораўскай», а таксама вылучыць грошы на ўладкаванне ўрачыстых мерапрыемстваў 50 руб.[34]

Была адкрытая падпіска на збор сродкаў для ўзвядзення помніка Сувораву ў Кобрынскім уездзе ў маёнтку «Губерня», дзе ён правёў апошнія дні свайго жыцця. Аднак не было ўлічана, што гэты маёнтак, які раней належаў Сувораву, цяпер знаходзіўся ў прыватным уладанні спадкаемцаў Марыі Скаўронскай. Акрамя таго вясной 1899 г. у губерні ўжо збіраліся ахвяраванні на ўшанаванне памяці Суворава, таму, на думку губернатара, «местная подписка едва-ли могла-бы дать сумму, достаточную

для сооружения памятника, соответствующего делам великого героя-полководца»[35].

Імя Суворава зноў узгадваецца ў дакументах НГАБ у Гродне ў пачатку 1914 г. у сувязі з лістом ад камітэта па будаўніцтву Сувораўскай Свята-Пакроўскай царквы ў г.Кобрыне. Тэкст гэтага ліста варта працытаваць:

> «В последнее десятилетие XVIII в. имя Великого Суворова прогремело победоносно под Кобрином, Гродненской губернии (бой под Кобрином и Крупчицами 4 и 6 Сентября 1791 г.), и победы эти озарили неувядаемой славою русское оружие. Здесь в пожалованной Императрицей Екатериной Великой вотчине, в расположенной вблизи города Кобрина усадьбе, непобедимый полководец в молитве и размышлениях проводил последние месяцы своей жизни перед своим отъездом в марте месяце 1800 г. в Петербург, и в Кобрине по сей день сохранилась историческая церковь во имя Св. Верховных Апостолов Петра и Павла, прозванная народом «Суворовскою», в которой молитвенно обращался к Богу славный полководец. В настоящее время эта деревянная, небольшая церковь, пришла в ветхость и со всех сторон ее затеснили еврейские постройки. Стремясь сохранить и поддержать исторический памятник о славном воине, Комитет, состоящий под покровительством ЕГО ИМПЕРАТОРСКОГО ВЕЛИЧЕСТВА ГОСУДАРЯ ИМПЕРАТОРА, озабочен, чтобы место возле Суворовской церкви было расчищено путем покупки еврейских построек, и на нем была (не уничтожая старой) воздвигнута новая каменная церковь памяти незабвенного героя. Комитет обращается к Вам в глубокой надежде, что почтить имя Великого Суворова, составляющее гордость России, пожелает большинство ея граждан и при их помощи окажется возможным воздвигнуть не только храм, но также памятник и школу имени Великого полководца Генералиссимуса Князя Суворова»[36].

Далей у гэтай справе змяшчаецца пусты падпісны ліст (магчыма, што ахвотных здаць грошы не знайшлося).

Прыведзеныя цытаты з дакументаў канцылярыі гродзенскага губернатара яскрава паказваюць супрацьлегласць расійскай імперскай трактоўкі асобы Суворава і гістарычнай памяці мясцовага грамадства (як і сучаснай нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі).

У пачатку 1914 г. з Кішынёва ад члена Рускага ваенна-гістарычнага таварыства Іеўраінава паступіла просьба аб распаўсюдзе на Гарадзеншчыне брашуры «Поход Румянцева к Дунаю в 1770 г.» На выручаныя сродкі планавалася адкрыць помнік на Ларгінскім полі бітвы. У лісце гаварылася:

«Среди исторических событий, имеющих выдающее значение в жизни нашей родины, несомненно одним из важнейших был победоносный поход великого нашего полководца П. А. Румянцева к Дунаю в 1770 г., поход, ознаменованный первыми нашими блестящими победами над турками при Ларге и Калуге… Льщу себя надеждой, что Вы не откажете сделать посильную помощь святому делу увековечения памяти наших предков героев, оросивших своею кровью поля Бессарабии, впервые сломивших здесь грозные силы турок и вписавших своими подвигами столько славных страниц в историю нашего великого отечества»[37].

Збор ахвяраванняў на ўшанаванне падзеяў і герояў расійскай гісторыі, чужой для большасці жыхароў Гродзенскай губерні, быў звязаны і з 300-годдзем царавання Раманавых. У жніўні 1910 г. у Гродна прыйшоў ліст ад будаўнічага камітэта па ўзвядзенню ў памяць гэтай падзеі храма ў Санкт-Пецярбургу, у якім адзначалася:

«Созидание Божих церквей, в ознаменование Великих Исторических событий Русской Истории, было издревле любимым делом Россиян, почитающих прошлое своей отчизны. Через 3 года всей России предстоит празднование многознаменательного события 300-летия царствования дома Романовых. Три века тому назад, после длительной смуты, отдавшей нашу Родину во власть чужеземцев и приведший ее на край погибели, выборные от всей земли, предводимые высшим духовенством, склонили юную отрасль Дома Рюриковичей возложить на себя тяжкое бремя Самодержавного Правления Российским Государством… Желая привлечь к этому истинно народному делу всех по возможности ревнителей нашей Государственности, всех верных сынов Церкви, Строительный комитет обращается к Вам, Милостивый Государь, с твердым упованием, что Вы пожелаете принять участие в сооружении предпринятого храма посильным пожертвованием».

Захаваўся ліст Гродзенскага ўезднага камітэта папячыцельства аб народнай цвярозасці ў Санкт-Пецярбург ад 15 студзеня 1914 г., у якім паведамлялася аб «возврате подписного листа в виду не поступления пожертвований»[38].

Ва ўсіх згаданых юбілейных святкаваннях удзельнічалі дзяржаўныя навучальныя ўстановы Гродна. Напрыклад, калі святкавалася 300-годдзе царавання Раманавых, педагагічная рада Гродзенскай жаночай гімназія прыняла рашэнне падтрымаць будаўніцтва і ўладкаванне храма-помніка ў Санкт-Пецярбургу, прысвечанага гэтай даце, шляхам збору ахвяраванняў

для пакупкі дывана[39]. У мужчынскай гімназіі да гэтага юбілея была арганізаваная ўрачыстая імпрэза, а ў справаздачы адзначылі: «Подобными днями гимназия пользуется для воспитания в детях любви к своему Царю и Родине в истинно-патриотическом духе. Наряду с воспитанием религиозного начала это было главною и руководящею задачею в деятельности Педагогического Совета гимназии»[40].

На 1912 г. прыпаў 100-гадовы юбілей вайны 1812 г. Як было паказана вышэй, бібліятэкі Гродна і Гродзеншчыны папоўніліся шматлікай гістарычнай літаратурай, прысвечанай расійскаму погляду на гэтыя падзеі. 7 кастрычніка пры актыўным удзеле гімназістаў у Гродне было наладжана ўрачыстае святкаванне юбілейнай даты: 80 вучняў былі ў Кафедральным Саборы на Св. Літургіі, 77 – на вайсковым парадзе, 160 – у ганаровай працэсіі. Увечары 145 вучняў атрымалі дармавыя квіткі ў тэатр, а 325 вучняў – у цырк на кінематаграфічны сеанс, арганізаваны спецыяльна для вучняў у памяць гэтай юбілейнай падзеі[41].

Падобныя акцыі не заўсёды праходзілі спакойна. Паводле ўспамінаў Міхала Панкевіча, калі ўлады ў Гродне арганізавалі ўрачыстасці, прысвечаныя Кацярыне II, вучні з Польскага кола вырашылі іх сарваць. Падчас іх правядзення яны разбілі прабіркі з серавадародам, за што некалькі вучняў былі выключаныя з гімназіі[42].

1 студзеня 1902 г. у горадзе ўрачыста святкавалася 100-годдзе Гродзенскай губерні. Праваслаўная царква ў гэты дзень наладзіла малебен у памяць імператараў, кіраваўшых падчас стогадовага існавання губерні. Узгаданыя былі і ўсе імёны праваслаўных іерархаў, якім падначальваліся гэтыя землі. У залі шляхетнага (*благородного*) сходу адбылася ўрачыстая імпрэза з ўдзелам прадстаўнікоў свецкіх і духоўных уладаў горада і губерні. Пры яе адкрыцці хор вучняў мужчынскай і жаночай гімназій выканаў гімн «Боже, царя храни», затым прадстаўніком губернскай канцылярыі Шыпіным была прачытаная кароткая гістарычная запіска аб Гродзенскай губерні за стагоддзе яе існавання.

3 студзеня ў прысутнасці гарадскога духавенства, губернатара і шматлікай публікі епіскап Гродзенскі і Брэсцкі Іаакім асвяціў народны дом у Гродне. Была зачытаная гістарычная запіска аб Гродзенскай губерні, якая ўяўляла сабою нарыс гісторыі краю, пачынаючы з часоў князя Уладзіміра. Пры апісанні трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння тэрыторыі заходняга рэгіёна Беларусі да Расійскай імперыі хор выканаў гімн імператрыцы Кацярыне II «Гром победы, раздавайся». Падчас чытання на экране з’яўляліся светавыя карціны з партрэтамі гістарычных дзеячаў і гістарычных датаў, якія ўзгадваліся.

Па прапанове губернатара Мікалая Урусава былі ўстаноўленыя святыя

абразы ў памяць 100-годдзя губерні. 10 красавіка 1905 г. у Гродзенскім кафедральным саборы адбылося іх асвячэнне: Святой пакутніцы Кацярыны (у памяць Кацярыны II), Св. Аляксандра Неўскага (у памяць Аляксандра I), Св. Мікалая Цудатворца (у памяць Мікалая II), Св. Архістраціга Міхаіла (у памяць М. Мураўёва), Св. Іосіфа Абручніка (у памяць Іосіфа Сямашкі) ды інш.[43] Пасля асвячэння абразаў епіскап Іаакім прамовіў слова «О любви к начальникам», тэкст якога быў надрукаваны ў «Гродненских епархиальных ведомостях» (1905. № 16, 17.) Да юбілея выйшла кніга Л. Саланевіча «Краткий исторический очерк Гродненской губернии за сто лет ее существования. 1802 – 1902».

Паралельна з навязваннем гарадзенцам расійскага юбілейна-ўшанавальнага канона адбывалася **выцясненне з памяці былых грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай падзеяў і імёнаў іх мінуўшчыны**, што праяўлялася, сярод іншага, і ў забароне святкаванняў гістарычных гадавінаў.

Так, дакумент «Дело о манифестации, бывшей в м.Друскениках в память соединения Литвы с Польшей», які захоўваецца ў ЛДГА ў Вільні, пралівае святло на атмасферу святкавання мясцовай грамадскасцю ў 1862 г. 293-й гадавіны Люблінскай уніі, а таксама на рэпрэсіі гарадзенскіх уладаў у адказ на гэта.

8 жніўня з Гродна ў Вільню быў накіраваны ліст, у якім падрабязна апісвалася імпрэза, наладжаная ў м.Друскенікі 31 ліпеня 1862 г. (адзначалася, што падобнае ладзіцца ўжо ў другі раз). Удзельнікамі святкавання былі памешчыкі і каля 100 чалавек сялян і габрэяў. У 11 гадзін у касцёле пачалося набажэнства з аркестрам музыкантаў. Мужчыны былі апранутыя ў чамаркі і светлыя жупаны, а жанчыны – у белыя сукенкі з малінавымі і блакітнымі стужкамі. Затым «просты народ» быў запрошаны ў публічны сад, дзе ў 16 гадзін для яго быў наладжаны абед. Перад абедам адстаўны тытулярны дарадца (*советник*) Махнаўр, які, паводле следчай справы, быў асноўным арганізатарам мерапрыемства, чытаў для гасцей Варшаўскую газету, робячы ўласныя тлумачэнні. Пасля абеду для сялян была разыграная бясплатная латарэя з танных рэчаў, якія дасталіся кожнаму ў памяць аб гэтым дні. У будынку вакзала ўвечары адбыўся музычны вечар з уваходам па платных білетах, на які быў дапушчаны просты народ. Пасля гэтага сялян і габрэяў частавалі гарбатаю і цукеркамі. А 21-й гадзіне адбыўся феерверк на Нёмане з дэманстрацыяй транспаранта з выявай працягнутых над Неманам двух рук розных берагоў, адна з якіх была драпіраваная польскім кунтушам, а другая – літоўскаю сярмягаю[44].

Акрамя Махнаўра арганізатарамі гэтага святкавання выступалі адстаўны прапаршчык Станішэўскі і некалькі іншых «неизвестных и не-

значительных людей». Напрыканцы апісання гэтага дня адзначалася: «Что же касается до г.Гродно, то день этот прошел совершенно спокойно, кроме того только, что вместо траура заметны были цветные платья»[45]. З Гродна ў Друскенікі былі камандзіраваныя рота пяхоты, «расположенная по всем обывательским домам экзекуционным порядком», а таксама 20 казакоў з афіцэрам[46]. Махнаўр быў высланы ў Петразаводск.

Неабходна пракаментаваць узгаданы ў дадзеным дакуменце факт нашэння жалобнага адзення ў Гродне. Гэта быў адзін са спосабаў дэмаршу, асабліва папулярны сярод жанчынаў. Ён выяўляўся праз нашэнне рэвалюцыйных знакаў і адзення, спяванне забароненых гімнаў, прысутнасць на жалобных набажэнствах (па загінуўшых у 1830–1831 гг., або расстраляных у варшаўскай дэманстрацыі 15 (27) лютага 1861 г.). Асноўнымі відамі вопраткі былі чорныя сукенкі і капялюшыкі з белымі султанкамі, спражкі з выявай злучанага герба Польшчы і ВКЛ або пераламанага крыжа ў цярновым вянку.

Распаўсюджанасць дэмаршаў на тэрыторыі Беларусі пацвярджае наяўнасць забараняючага іх распараджэння Віленскага ваеннага, Ковенскага, Гродзенскага і Мінскага генерал-губернатара з падпарадкаваннем Віцебскай і Магілёўскай губерняў ад 12 чэрвеня 1863 г. Згодна з гэтым дакументам, за жалобны ўбор пры затрыманні першы раз з жанчыны спаганялі штраф у памеры 25 руб. срэбрам, за другі – 50. Трэці раз прыводзіў да арышту жанчыны і звальненню мужа са службы. Жанчыны, у сваю чаргу, ішлі на хітрасць. Яны нашывалі каляровыя паскі на чорныя сукенкі, насілі хустачкі з такімі ж стужачкамі, завязвалі іх абавязкова пад падбародак. Выглядала ўсё як бы маскарад насуперак уладзе.

Распараджэннем генерал-губернатара М. Мураўёва ад 4 лістапада 1863 г. усталёўваліся правілы для жаночай вопраткі: чорныя капелюшы патрабавалі ўпрыгожваць кветкамі, сукенкі – каляровымі пацеркамі і стужкамі. Чорныя вуалі, пальчаткі, шалі, белыя і чорныя пер'і забараняліся ўвогуле. Каптуры маглі быць чорныя на любой падкладцы, але толькі не на белай. Ужыванне спалучэння чорнага і белага лічылася рэвалюцыйным сімвалам[47].

У 1883 г. гарадзенскія ўлады, сярод іншага, былі заклапочаныя праблемаю прадухілення святкавання мясцовай грамадскасцю 200-годдзя разгрому туркаў пад Венаю Янам III Сабескім у 1683 г. У лісце да гарадзенскага губернатара віленскі генерал-губернатар адзначаў:

> «Празднование годовщины сего события имеет целью воскресить в памяти не только поляков, но и всего цивилизованного мира времена политической самостоятельности и могущества Польши, мужества и храбрости ея героев, которым в лице короля Яна Собесского христианство и цивилизация, по выражению польских заграничных газет, обязаны спасением от язычества

и варварства. Опыт же прежнего времени свидетельствует, что польское население и римско-католическое духовенство Северо-Западного края, признавая оный нераздельною частию древней Польши, не только лично никогда не относились безучастно к подобного рода патриотическим польским торжествам, но всегда делали попытки тем или другим видимым способом ознаменовать дни таких торжеств в пределах здешнего края и привлечь местное население к участию в празднествах. В виду сего нельзя не ожидать, что и предстоящее ныне празднование […] может вызвать у нас те или другие неуместные проявления демонстративного свойства»[48].

Перад гродзенскім губернатарам ставілася задача не дапусціць ніякіх урачыстасцей, працэсій, публічных сходаў, чытанняў і прамоваў, а таксама распаўсюду выдадзеных за мяжою ў памяць гэтага юбілею медальёнаў, карцінаў, брашураў і асобных вершаў. 31 жніўня 1883 г. губернатар зрабіў распараджэнне такога ж зместу ўсім уездным спраўнікам і паліцмайстрам.

Пад забарону таксама трапіла адпаведная літаратура: Rok 1683. Wizerunki króla Jana III, rodziny jego, oraz znakomitszych, a mało ogółowi znanych uczęstników wyprawy pod Wiedeń (Krakow, 1884); Tatomir (Lucyan). Zwycięstwo króla polskiego Jana Sobieskiego pod Wiedniem roku 1683. Hymn na cześć zwycięzcy z pod Wiednia śpiewany w Rzymie (Lwów, 1883); Leliwa (Piotr). Jan Sobieski i jego wiek (Kraków, 1884. Tom III.)[49]

Забаронена было святкаванне 25-гадовага юбілею вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці. Гарадзенскі губернатар на аснове ліста з МУС тлумачыў гэтую забарону наступным чынам: «Время издания законоположения о крестьянах настолько еще близко, что всякое более или менее торжественное празднование этого события, как проявление исторического воспоминания, может лишь вызвать весьма нежелательное возбуждение умов и обострить таким образом далеко еще неупрочившиеся взаимные отношения обоих сословий».

Улады імкнуліся не дапусціць нават узняцця пытання аб афіцыйным святкаванні дня 19 лютага 1886 г. Адзначалася, што «общественные и сословные учреждения не должны касаться этого вопроса и по прямому указанию закона, определяющего точно предметы их специального ведения, к числу которых почин празднования исторических событий не принадлежит»[50].

Не дазвалялі гарадзенскія ўлады ўшаноўваць памяць класікаў польскай літаратуры. Так, у 1882 г. жыхары Гродзенскай губерні ахвотна адгукнуліся на прапанову газеты «Tygodnik illustrowany» аб зборы сродкаў на помнік Міцкевічу. У некаторых мясцовасцях паліцыяй былі выяўленыя факты розыгрышу латарэяў, паказу аматарскіх спектакляў з гэтаю мэтаю. Справа скончылася штрафамі для арганізатараў і ўдзельнікаў імпрэзаў[51].

16 красавіка 1907 г. гарадзенская гарадская дума пастанавіла хадайнічаць аб перайменаванні Палявой вуліцы ў Гродне ў вуліцу Элізы Ажэшка. Гэта ініцыятыва выклікала жорсткую крытыку з боку губернскай адміністрацыі. Губернатар характарызаваў Э. Ажэшку як «ярую польскую националистку, крупную величину в лагере противников русского дела в Северо-Западном крае». Прыгадаў нават напісаную ёй падчас вайны Расіі з Турцыяй 1876–1877 гг. пракламацыю, якая ўтрымлівала заклік да антырасійскай барацьбы: «К оружию, к оружию! Везде повсеместно развейте знамёна, шитые руками польских жен. Наступил удобный случай отбросить Россию за Днепр и Двину. Повторим же удары меча Болеслава Храброго на золотых воротах Киевских. Пусть теперь увидят москали наше королевское знамя на башне Варшавского замка».

Губернатар сцвярджаў, што не можа быць санкцыі на перайменаванне адной з галоўных вуліц «русского города и притом города, служащего ареной борьбы с вожделениями польских националистов, именем такой типичной польки и врага России [...]» Губернатар выказваў шкадаванне, што грамадскасць горада ужо выпрасіла для Ажэшкі званне ганаровай грамадзянкі горада, і адзначаў, што гэтага «более чем достаточно для выражения сочувствия со стороны русского города польской писательнице»[52].

Як адну з праяваў палітыкі памяці ў Гродне можна разглядаць **ўмяшанне расійскай улады ў мясцовы ўрбананімны ландшафт.** Падчас масавага змянення назваў вуліц беларускіх гарадоў у 1864–1866 гг. пад перайменаванне падпалі ўсе вуліцы з «польскім», каталіцкім зместам. У Гродне вуліца Дамініканская была перайменавана ў Саборную, Баніфратэрская – у Татарскую, Басняцкая – у Паштовую, Брыгіцкая – у Купецкую, Златарская – у Палацкую, Магілковая – у Крывую. З'явіліся патранімічныя назвы вуліц, якія называліся мясцовымі ўладамі ў гонар рэальных асобаў. Так, вуліцы Купецкая і Садовая ў Гродне былі перайменаваныя адпаведна ў Кутузаўскую і Мураўёўскую. Верагодна, што Аляксандраўская вуліца была названая ў гонар Аляксандра I[53].

Гістарычная палітыка ўладаў праяўлялася і ў **кантролі над тэатральным жыццём горада.** На падтрымку рускага тэатра ў Гродне выдзяляліся спецыяльныя ўрадавыя субсідыі: па звестках на 1873 г. – 1000 руб.[54] У той жа час на гарадзенскую сцэну не дапускалася нічога, што магло б паспрыяць абуджэнню і ўмацаванню нерасійскай нацыянальнай свядомасці гледачоў.

У маі 1888 г. разбіраўся скандальны выпадак аб паказе ў гарадскім тэатры пасля канцэрта opernай спявачкі Цэзарыні аддзялення, якое складалася з польскіх балетных нацыянальных танцаў. Віленскі генерал-губернатар патрабаваў тлумачэнняў, «принимая во внимание, что допущение в здешнем крае на публичных представлениях чего бы то ни было национально-

польского не только не уместно, но и воспрещено». Гродзенскі паліцмайстар апраўдваўся: «Воспрещающие публичные проявления польской национальности относятся, главным образом, к воспрещению публичного употребления польского языка как в разговорной речи, так и в печати. Что же касается танцев, то особого распоряжения я не имел…»[55]

Палітыка, накіраваная на планамернае вынішчэнне тутэйшай ідэнтычнасці, праявілася і ў **адносінах да аховы мясцовых помнікаў гісторыі і культуры.** Пэўная ўвага надавалася захаванню тых з іх, якія ўлады лічылі «рускімі». Гэта, найперш, Каложа. Так, калі ў выніку апоўзня ў 1853 г. абваліліся ў рэчку паўднёвая і частка заходняй сцяны храма, то ўлады шукалі магчымасці для яго аднаўлення і ўмацавання берага Нёмана. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць матэрыялы з фондаў ЛДГА[56]. Праўда, толькі ў 1897 г. бераг быў замацаваны, а на месцы разбураных сцен пастаўлены драўляныя.

Адначасова знішчаліся і перабудоўваліся да непазнавальнасці старажытныя каталіцкія святыні. Так, касцёл кляштару дамініканцаў пасля 1863 г. ператварылі ў праваслаўную царкву Ямбургскага ўланскага палка, а ў 1874 г. цалкам разбурылі. Кляштар кармелітаў босых пасля скасавання ў 1843 г. перайшоў да ваеннага ведамства, а ў 1903 г. на яго аснове пабудавалі казармы.

Шматпакутную «Фару Вітаўта», мураваны летапіс гісторыі нашага горада, расійскія ўлады прыстасавалі пад праваслаўную царкву. У 1804–1807 гг. былі праведзеныя аднаўленчыя работы (у 1782 г. будынак касцёла моцна пацярпеў ад пажару), пасля чаго храм быў асвячоны як праваслаўны Сафійскі сабор. Першая праваслаўная рэканструкцыя ў стылі класіцызму не змяніла істотна архітэктуру касцёла. У 1892 г. у выніку чарговага пажару абваліліся скляпенні, што дало магчымасць пры новай рэканструкцыі значна панізіць алтарную частку і надаць пабудове кампазіцыйны лад псеўдарускіх цэркваў. У 1896–1898 гг. акадэмік архітэктуры М. Чагін перабудаваў храм у псеўдарускім стылі. Над дахам на маскоўскі капыл было пастаўлена пяць «цыбулінаў», вежа пераўтворана ў званіцу, завершаную высокім шатром. Выразную пластыку фасадаў здрабнілі бясконцыя броўкі, какошнікі, парэбрыкі і іншыя псеўдарускія дэкаратыўныя элементы. Гэтая перабудова пераўтварыла галоўную святыню ў макабрычную спаруду, што раптоўна прыдушыла сваім духам і памерам увесь горад.

На прыкладзе Гродна бачым як у царскія часы закладваліся асноўныя прынцыпы каланіяльнай будаўнічай практыкі ў Беларусі: гвалтоўная змена функцыяў старых ансамбляў, брутальнае разбурэнне важных у духоўным і гістарычным сэнсах аб'ектаў, наўмыснае стварэнне эстэтычнага канфлікту праз радыкальную стылістычную змену альбо пабудову чужародных і несувымерных аб'ектаў у традыцыйным высокамастацкім асяроддзі[57].

Абыякавае стаўленне расійскай акупацыйнай адміністрацыі да гістарычна-культурнай спадчыны «забранага» краю праявілася таксама на пачатку Першай сусветнай вайны. 4 лютага 1916 г. выконваючы абавязкі гродзенскага губернатара дакладваў тэлеграмай у Дэпартамент паліцыі, што «архивов, музеев, библиотек, колекций и вообще всякого рода древне-хранилищ, которые представляли бы собою памятники старины и подлежали по случаю нашествия неприятеля эвакуации, в Гродненской губернии не было»[58].

Такім чынам, пошукі дакументальных матэрыялаў у НГАБ у Гродне і ЛДГА дазволілі нам закрануць палітыку памяці ў Гродне ў другой палове XIX – пачатку XX ст. у такіх сферах, як гістарычная адукацыя, бібліятэчная справа, юбілейна-ўшанавальныя мерапрыемствы, урбананіміка, тэатральнае жыццё, ахова помнікаў гісторыі і культуры.

З прыведзенага матэрыялу вынікае, што інструменталізацыя гісторыі станавілася ўсё больш вызначальнай рэальнасцю той эпохі. Гродна быў уцягнуты ў гістарычную палітыку расійскай каланіяльнай улады. Яна цалкам адпавядала палітычным і ідэалагічным інтарэсам самадзяржаўя і была накіраваная на выцясненне з памяці былых грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай падзеяў і імёнаў іх мінуўшчыны, стварэнне ў мясцовых жыхароў такога вобраза мінулага, якое б надавала легітымнасць дзеянням расійскіх уладаў у сучасным, ператварала гарадзенцаў у паслухмяных падданых Расійскай імперыі. Але канчаткова сваёй мэты царскаму ўраду дасягнуць не ўдалося. Галоўнай перашкодай была полікультурнасць нашага горада. Чэрава Расійскай імперыі аказалася няздольным пераварыць разнастайнасць культур, што існавалі на нашых землях здаўна, і спарадзіць нейкую інтэгральную расійскую культуру. Расійскім уладам не ўдалося праз маніпуляцыю гістарычнай свядомасці ператварыць Гродна ў расійскі правінцыйны цэнтр з адпаведнай гістарычнай памяццю гараджан.

---

1 Яны разглядаюцца ў: Ліндsuccessfully Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. Мінск, 2005; Карев Д. В. Белорусская и украинская историография конца 18 – начала 20-х гг. XX в. в процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев. – Вильнюс: ЕГУ, 2007; Смоленчук А. Белорусская историография второй половины 19 – начала 20 в. и становление национальной идеологии // Славяноведение. – Москва, 1999. № 5. С. 60–67.

2 Цыт. па: Ліндснер Р. Гісторыкі і ўлада… С. 481.

3 Падрабязней пра гэта: Соркіна І. Навучальныя ўстановы, настаўнікі і вучні Гродна ў 60-я гады XIX – пачатку XX ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры XVI – XX ст. / Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. Мінск: Зміцер Колас, 2011. С. 355 – 394.

[4] Корчинский И. Личность учителя начальной церковной школы. Гродно, 1901. С. 8.
[5] Томпсан Э. М. Песняры імперыі: расійская літаратура і каланіялізм. Мінск, 2009.
[6] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, адз. з. 1502. «Повеление великого князя о приглашении пренумерантов «Истории Российского государства», сочинённой Карамзиным и переведённой на польский диалект Бучинским. 1826 г.».
[7] Ліндиер Р. Гісторыкі і ўлада… С. 58.
[8] Томпсан Э. М. Песняры імперыі: расійская літаратура і каланіялізм. Мінск, 2009. С. 99–100.
[9] НГАБ у Гродне. Ф. 981, воп. 1, адз. з. 5. «Дело о сборе средств на постройку в СПб церкви в память 300-летия царствования дома Романовых. 1914 г.»
[10] Тамсама. Ф. 20, воп. 1, адз. з. 13. «Переписка с Гродненским народным домом, народными училищами, губернским комитетом попечительства о народной трезвости, об обеспечении библиотек и читален уезда книгами и световыми картинами. 1912 г.». Арк. 32, 74, 79 адв.
[11] Тамсама. Арк. 40, 42.
[12] Тамсама. Ф. 543, воп. 1, адз. з. 4. «Дело о переустройстве Гродненского народного дома и сведения о прочитанных там лекциях. 1912 г.» Арк. 9.
[13] Тамсама. Ф. 981, воп. 1, адз. з. 5. «Дело о сборе средств на постройку в СПб церкви в память 300-летия царствования дома Романовых. 1914 г.» Арк. 136.
[14] Тамсама. Арк. 1.
[15] Тамсама. Адз. з. 4. «Дело о расходах авансовых сумм чайной в г. Гродно. 1913–1915.» Арк. 47.
[16] Тамсама. Ф.1, воп. 8, адз. з. 1259. «Дело об изъятии из продажи литературы, запрещенной Цензурой. 1884 – 1885». Арк. 113, 155, 194, 206 адв.
[17] Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей ЛДГА). Ф. 378, агульны аддзел, 1868 г. Адз. з. 136. «Дело о книжных магазинах и лавках. 1868 г.» Арк. 6 адв., 37 адв., 38.
[18] НГАБ у Гродне. Ф.1, воп. 7, адз. з. 1846. «Дело о запрещении продажи фотографических снимков художника Матейки, носящих характер польской пропаганды. 1876». Арк. 1-1 адв.; ЛДГА. Ф. 378, палітычны аддзел, 1876 г. Адз. з. 30. «Дело о продаже торговцами товаров в разнос в Виленской, Ковенской и Гродненской губерниях фотографических снимков с недозволенных в Росии картин известного польского художника Матейки. 1876–1878.»
[19] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 8, адз. з. 382. «Дело о наблюдении за нераспространением фотографических снимков с картины художника Матейко, отражавшей отношение Муравьева к участникам польского восстания 1863 г.». Арк. 1–2.
[20] Тамсама. Воп. 13, адз. з. 1025. «Дело о сборе пожертвований на сооружение памятника в честь 1000-летия существов. Русского гос-ва в г. Новгороде. 1857–1862». Арк. 1, 54.
[21] Тамсама. Адз. з. 1469. «Дело о продаже медалей в память тысячелетия России. 1864 г.». Арк. 2, 5.
[22] Там сама. Адз. з. 2289. «Дело о праздновании девятисотлетия крещения русского народа. 1888 г.». Арк. 6–6 адв.
[23] Тамсама. Арк. 14, 17.
[24] Тамсама. Воп. 9. Адз. з. 319. «Дело о сборе пожертвований на сооружение памятника царю Петру I в г. Таганроге. 1894–1899». Арк. 1, 2, 7.
[25] Тамсама. Адз. з. 327. «Дело о сборе пожертвований на постройку церкви в г. Севастополе в честь князя Александра Невского. 1894–1898.» Арк. 8.
[26] ЛДГА. Ф. 378, агульны аддзел, 1866. Адз. з. 115. «Дело по письму гродненского губернатора об изъявленном желании жителей г. Гродно построить храм Св. Александра Невского в память события 4 апреля 1866 г.» Арк. 4.

[27] Тамсама. Арк. 1–2.
[28] Загідулін А. Лёс царквы св. Аляксандра Неўскага ў Гродна як адлюстраванне палітычных працэсаў другой паловы XIX – першай паловы XX ст. на Беларусі // http://uctopuk.info/875/3zag.htm
[29] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 1113. «Дело о сборе пожертвований на строительство памятника царице Екатерине II. 1899–1907». Арк. 1, 7, 14.
[30] Тамсама. Ф. 1, воп. 8, адз. з. 2717. «Переписка с уездными предводителями дворянства о сборе пожертвований для устройства памятника графу Муравьеву Михаилу в Вильно. 1891–1895 гг.» Арк. 16, 17, 30.
[31] Орловский Е. Ф. Исторический очерк Гродненской гимназии. С. 103.
[32] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 1115. «Дело о сборе пожертвований на строительство памятника генералисимусу Кутузову. 1899 – 1903». Арк. 7.
[33] Тамсама. Арк. 13–13 адв.
[34] Тамсама. Арк. 17, 22–22 адв.
[35] Тамсама. Арк. 36.
[36] Тамсама. Ф. 981, воп. 1, адз. з. 5. «Дело о сборе средств на постройку в СПб церкви в память 300-летия царствования дома Романовых. 1914 г.» Арк. 31, 32.
[37] Тамсама. Арк. 33 – 33 адв.
[38] Тамсама. Арк. 3 – 3 адв., 7.
[39] Тамсама. Ф. 39, воп. 1, адз. з. 588. «Протоколы заседаний педагогической конференции гимназии. 1912–1914 гг.» Арк. 16.
[40] Тамсама. Ф. 1186, воп. 3, адз. з. 82. «Обзор о деятельности гимназии за 1913 г.» Арк. 3.
[41] Тамсама. Арк. 7 адв., 18.
[42] Токць С. Матэрыялы да гісторыі Горадні і ваколіц у зборах Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх //Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. Пад рэдакцыяй А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. Гародня, 2009. С. 339.
[43] Колоцей М. Я., Дубравина А. М. О праздновании столетия Гродненской губернии (артыкул знаходзіцца ў друку ў зборніку «Гродзеншчына ў гістарычным, эканамічным і культурным развіцці 1801–1921 гг. (да 210-годдзя утварэння Гродзенскай губерні»)
[44] ЛДГА. Ф. 378, палітычны аддзел, 1862 г. Адз. з. 97. «Дело о манифестации, бывшей в м. Друскениках в память соединения Литвы с Польшей. 1862–1873.» Арк. 3–5 адв.
[45] Тамсама. Арк. 5.
[46] Тамсама. Арк. 40.
[47] Фірыновіч А. Э. «Жаночы фактар» у паўстанні 1863-1864 гг.: інфармацыйны патэнцыял беларускіх архівасховішчаў // Весці НАН Беларусі. Серыя гуманітарных навук, 2011. № 2. С. 60–61.
[48] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 8, адз. з. 951. «О запрещении населению устраивать собрания, процессии, выступать с речами по случаю 200-летия разгрома турков под Веной польским королем Яном III Собеским в 1683 г. 1883 г.» Арк. 1–2.
[49] Тамсама. Адз. з. 1259. «Об изъятии из продажи литературы, запрещенной Цензурой. 1884 – 1885». Арк. 19, 19 адв., 155.
[50] Тамсама. Адз. з. 1472. «О запрещении празднования 25-тилетия со дня освобождения кр-ян от крепостной зависимости. 1885». Арк. 1 адв., 4.
[51] Тамсама. Адз. з. 867. «Переписка с полицейскими учреждениями о незаконном розыгрании лотереи в им. Зводы Брестского уезда на сооружение памятника писателю Мицкевичу. 1882». Арк. 2, 4–5, 11.
[52] ЛДГА. Ф. 378, агульны аддзел, 1908. Адз. з. 525. «Дело о переименовании Полевой улицы в г. Гродне в улицу Элизы Ожешко». Арк. 2, 2 адв.
[53] Сацукевіч І. Гісторыя і сучаснасць урбананімікі Гродна і Мінска (параўнаўчы аналіз) //

Гарады Беларусі ў кантэксце палітыкі, эканомікі, культуры: зб. навук. арт. Гродна, 2007. С. 367–368.

[54] ЛДГА. Ф. 378, агульны аддзел, 1873. Адз. з. 311 «Дело о Гродненском театре. 1873 г.» Арк. 3 адв.

[55] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 8, адз. з. 2129. «Переписка с виленским генерал-губернатором и гродненским полицмейстером о запрещении впредь исполнять польские национальные танцы на сцене Гродненского театра. 1888 г.» Арк. 1,4.

[56] ЛДГА. Ф. 378, агульны аддзел, 1865. Адз. з. 1504. «Дело о возобновлении в г. Гродно Борисо-Глебской (Коложанской) церкви с укреплением берегов р. Неман. 1865–1872».

[57] Харэўскі С. Два стагоддзі руйнавання Горадні // Горад святога Губерта. Краязнаўчы альманах. Выпуск трэці. Варшава, 2007. С. 80 – 81.

[58] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 9, адз. з. 2151 «О вывозе и охране памятников старины по случаю войны. 1916 г.» Арк. 5.

*Мечыслаў Супрон*
*(Гродна)*

# Арганізацыя прафесійнай пажарнай службы ў Горадні ў XIX – пачатку XX ст.

За амаль тысячагадовую гісторыю Горадні пажары неаднаразова наносілі вялізную шкоду. Адпаведна пажарная бяспека з'яўлялася і з'яўляецца адной з найважнейшых умоў існавання горада. Менавіта таму вывучэнне гісторыі станаўлення пажарна-выратавальнай справы Горадні мае не толькі навукова-тэарэтычнае, але і практычнае значэнне. У дадзеным артыкуле аўтар імкнуўся прасачыць працэс арганізацыі гарадской пажарнай каманды ў перыяд уваходжання Горадні ў склад Расейскай Імперыі, а таксама яе дзейнасць па ліквідацыі пажараў.

На працягу XIX ст. Горадня шмат цярпела ад пажараў. Гэта было абумоўлена, перш за ўсё, тым, што пры будаўніцтве не заўсёды ўлічваліся супрацьпажарныя нарматывы. Гарадское жытло будавалася пераважна з гаручых канструкцый і матэрыялаў, а гараджане ў побыце часта дапускалі парушэнні норм пажарнай бяспекі. Драўляныя дамы размяшчаліся ўпрытык адзін да аднаго, і вельмі часта пажар усяго за некалькі гадзін спусташаў значную частку вуліцы. Пажарную небяспеку пагаршала неадукаванасць насельніцтва, якое, «не разумеючы для сябе карысці супрацьпажарных мер, робіць нямое, але ўпартае супраціўленне ім»[1]. Яшчэ болей кідалася ў вочы бестурботнасць і абыякавасць габрэйскага насельніцтва. Трухлявыя і новыя дамы ў габрэйскіх кварталах практычна «сядзелі адзін на адным, коміны ў большасці выпадкаў былі няспраўныя»[2]. У выніку ўсё гэта прыводзіла да частых пажараў, адпаведна, да чалавечых ахвяраў і велізарных матэрыяльных стратаў.

У перыяд уваходжання Горадні ў склад Рэчы Паспалітай буйныя пажары ў горадзе былі вельмі частай з'явай[3]. Напрыклад, падчас пажару 1753 г. ад горада «ледзьве трэцяя частка места засталася»[4]. Абавязак тушэння пажараў, як і супрацьпажарных засцярог, ляжаў на гараджанах, якія павінны былі ў дварах мець прасцейшыя пажарныя прылады і бочкі з вадою. Гарадскія ўлады рабілі пэўныя высілкі для паляпшэння супрацьпажарнага стану, арганізоўваючы камісіі магістрата для правядзення рэвізій проціпажарнага ды санітарнага стану горада. Але, па сутнасці, камісіі амаль нічога не вырашалі. Найбольш дзейсным сродкам для ліквідацыі пажараў магла б стаць гарадская пажарная каманда, якая так і не была арганізавана.

Пытанне аб яе арганізацыі ўздымалася ў магістраце, асабліва калі ў Беластоку пасля пажару 1753 г. была арганізавана прафесійная пажарная каманда з 12 чалавек[5]. Але выніку не было. Патрэбны быў пэўны аўтарытарызм уладаў, каб стварыць пажарную каманду. Гэта і адбылося дзесьці паміж 1818 – 1825 гг.

У пажарнай камандзе першапачаткова служылі жаўнеры мясцовых вайсковых фармаванняў. У »ведамасці аб стане паліцыі» ў Горадні за 1826 г. паведамлялася, што «ніжніх служачых уласна пры пажарнай частцы не знаходзіцца, а карыстаюцца з гарнізоннага батальёна па чарзе як для навучання карыстанню заліўнымі трубамі, так і штодзённым нарадам адмысловай з таго ж батальёна каманды на выпадак пажару». Кіраваў дзеяннямі «пажарнай каманды» брандмайстар, які меў вучня і некаторыя пажарныя прыстасаванні: 5 заліўных трубаў і 12 бочак для вады. Для дастаўкі гэтых пажарных прыладаў на месца пажару наймаліся чацвёрка коней за аплату 200 руб. у год[6].

У «Отчёте о состоянии губернии за 1835 г.» адзначалася, што пажарная каманда Горадні складалася з брандмайстра[7], якому дапамагала 20 чалавек ніжніх чыноў гарадзенскага гарнізону, якія толькі ў начны час знаходзіліся пры пажарным абсталяванні. Днём гэтае абсталяванне зберагалі два дзесяцкія[8]. У імянным спісе паліцэйскіх служачых Горадні за 1834 г. указаны імёны двух паліцэйскіх «пры пажарных прыладах» Абрама Ермакова і Васіля Дземанава[9]. Пасаду брандмайстра займаў Эйбейлер[10].

З канца 1830-х гг. каманда пачала камплектавацца з вольнанаёмных служачых. У 1841 г. яна ўжо налічвала 6 чалавек. Усе яны працавалі па вольнаму найму[11] і папаўняліся «з ніжніх чыноў унутранай варты»[12]. Але не хапала людзей, якія б у выпадку пажару «былі прывучаны» для карыстання пажарным абсталяваннем. У 1848 г. брандмайстар звярнуўся з рапартам у паліцыю, просячы прызначаць кожную суботу 8 чалавек ніжніх чыноў, каб «выпрабоўваць пажарныя прылады»[13].

У 1849 г. пажарная каманда мела ўласных 6 коней, 2 лінейкі, павялічыла колькасць пажарных труб да 14. Штогадовыя затраты на каманду складалі 885 руб.[14] Пад канец 1853 г. пажарная каманда Горадні складалася з брандмайстра і 12 »радавых пажарных». Апроч таго, яна не мела ўласнага памяшкання і павінна была яго арандаваць[15].

25 лістапада 1861 г. гарадзенскі губернатар моцна пакрытыкаваў пажарную службу. Ім было заўважана, што пажарная каманда адсутнічае на сваім месцы (у »паліцэйскім будынку») і працуе каля пераправы праз Нёман. Больш таго «пажарныя коні [...] не заслугоўваюць адабрэння. Прылады параскіданы і ўтрымліваюцца неахайна». Раззлаваны губернатар прапанаваў праўленню зрабіць вымову паліцмайстру Змееву «за абыякавасць» і за

тое, што пажарнікі выкарыстоўваюцца для працаў, якія не маюць ніякага дачынення да іх непасрэдных абавязкаў[16].

Абсталяванне, якое дастаўлялася пажарнымі на месца пажару, а гэта 4 параконныя, 3 аднаконныя і 2 малыя «машыны», 6 бочак і 1 лінейка, у сваёй большасці амаль не выкарыстоўваліся. У сувязі з гэтым нават планавалася іх перадаць жыхарам Горадні з абавязкам дастаўляць іх на конях на месца пажару[17]. Пажарны абоз быў недагледжаным. Невыпадкова намеснік генерал-губернатара выслаў ліст гарадзенскаму губернатару, у якім паведамляў, што «падчас пажару 11 снежня [1867 г.] на Бальнічнай вуліцы гарадская пажарная каманда прыбыла на месца праз дзве гадзіны пасля таго, як ён пачаўся і пры даволі нездавальняючым сваім складзе і дрэнным стане абсталявання, мала магла садзейнічаць спыненню [пажару]». Намеснік прапанаваў прыняць меры для паляпшэння стану як пажарнай каманды, так і абсталявання[18].

Падчас пажару 1869 г. у Горадні згарэла сама пажарная частка і каланча. Гарадскія ўлады адмовіліся выдзеліць грошы на пабудову новай каланчы. У сувязі з гэтым паліцмайстар дабіваўся дазволу ў святароў Сафійскага сабора на размяшчэнне вартаўніка на званіцы храма, а таксама пабудову каля яго памяшкання для размяшчэння пажарнага абозу і коней. Царкоўныя ўлады дазволу на размяшчэнне назіральнага пункта на званіцы не далі[19].

Пасля пажару 1869 г. гарадскія ўлады ўсё ж выдаткавалі сродкі і купілі коней, бочкі, нанялі на службу людзей і арандавалі дом на Замкавай вуліцы, які належаў летняму ваеннаму лазарэту. У 1869 г. пажарная каманда ўжо складалася з брандмайстра, двух унтэр-брандмайстраў і 34 радавых[20]. У канцы гэтага года ў горадзе праводзіліся таргі з мэтаю арганізацыі дастаўкі



***Пажарны завулак і дэпо на вул. Замкавай, 19. Пачатак XX ст.***

Крыніца: Мая Гародня [электронны рэсурс]. – С 1880 по 1940. – Рэжым доступу: http://www.oldgrodno.com/v/1880-1940/

правіянту і прыладаў для пажарнай каманды, фуражу для коней, а таксама рамонту абсталявання[21].

Аднак пажарная каманда і на новым месцы не была цалкам укамплектавана. Брандмайстар бачыў недахопы ў »адсутнасці катлоў для гатавання ежы, недахопе кармоў для коней, адсутнасці ложкаў, нягоднасці абмундзіравання пажарных»[22]. Акрамя таго, шмат пажарных прыладаў заставалася «зусім нягоднымі», патрэбны былі яшчэ тры заліўныя машыны, 12 бочак і »поўны багоравы ход са шчытом і высоўнымі драбінамі замест прыйшоўшых у нягоднасць»[23].

Грошай увесь час не хапала. У 1871 г. улады вырашылі эканоміць на пажарнай камандзе. Яе склад скарацілі на аднаго унтэр-афіцэра і 10 радавых. Грошы, што такім чынам эканоміліся (711 рублёў і 8,5 капеек) пайшлі на выплату заробка паліцэйскім[24].

Да 1877 г. пажарная каманда Горадні скарацілася да крытычнага мінімуму. Яна складалася з брандмайстра і 8 «працоўных людзей»[25]. Праз 5 гадоў колькасць пажарных узрасла да 25-ці[26]. Гарадскі бюджэт не мог цалкам пакрываць расходы на ўтрыманне і забеспячэнне пажарнікаў усім неабходным. У 1883 – 1884 гг. з мэтаю «павелічэння сродкаў пажарнай камандзе і заахвочвання яе ніжніх чыноў» гарадзенскі паліцмайстар збіраў грошы са страхавых таварыстваў[27].

Абавязкі пажарнай каманды пры зборы і выездзе на пажар былі выразна размеркаваныя. У матэрыялах фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіву Беларусі ў Горадні захавалася апісанне выезду пажарнай каманды на пажар: «Пры ўзнікненні пажару неадкладна адпраўляецца пажарны абоз […] для чаго найперш перавозіцца адна пажарная труба, запрэжаная па-



***Гарадзенская пажарная каманда. 1907 г.***

Крыніца: Музей гісторыі пажарнай службы ў г. Гродна

раю коней, затым 2 лінейкі, запрэжаныя па каню, у якіх перавозіліся драбіны, бусакі, вёдры і 6 бочак, для чаго выкарыстоўваецца па аднаму каню для кожнай. Калі пажар вялікі, то з месца пажару распрагаецца пара коней ад пажарнай трубы і перавозіцца другая пажарная труба»[28]. На пажар адпраўляліся ўсе служачыя каманды, акрамя трох чалавек, адзін з якіх заставаўся дзяжурыць на каланчы, другі – ў казарме, а трэці – пры тэхніцы, што засталася. Калі пажар адбываўся за Нёманам, то мясцовыя жыхары павінны былі, не дачакаўшыся прыбыцця пажарнай каманды, самі браць трубы з бочкамі і тушыць полымя[29].

Служба ў пажарнай ахове з прычыны нізкай заработнай платы, напружанай і небяспечнай працы, адсутнасці сацыяльных гарантый не карысталася аўтарытэтам. Разам з тым, перавагай пры паступленні на службу карысталіся салдаты, яфрэйтары і унтэр-афіцэры запасу. З працоўных і сялян, якія не служылі ў войску, у пажарную ахову бралі галоўным чынам рамеснікаў (цесляроў, бондараў і г. д.). У 1885 г. у пажарнай камандзе Горадні было 25 пажарных[30].

Дзякуючы дакументам, нам вядомы імёны большасці з іх: брандмайстрам быў Кліменцій Вайтукевіч. Усе пажарныя «працавалі па вольнаму найму». Людвіг Асенаймер працаваў ў камандзе з 1875 г., Франц Точка, Франц Грабоўскі і Ігнацый Дашута – з 1877 г., Кірыл Іваноў, Франц Мірскі і Фама Чарняўскі – з 1878 г., Іосіф Прушынскі і Іосіф Себасцьяновіч – з 1880 г., Ігнацый Андронік – з 1881 г., Казімір Юшкевіч і Франц Станкевіч – з 1882 г., Цімафей Тарасаў, Канстанцін Карлаў, Іосіф Савіцкі, Іван Мількевіч, Вікенцій Гуменны і Антон Галавач – з 1884 г., Мацвей Ламашэвіч – з пачатку 1885 г. Разам з імі працавалі Гваздзевошчаў і Клімашэўскі[31].

Кожны, хто паступаў у пажарную каманду, заключаў кантракт не менш чым на год. Акрамя таго, на пачатку службы з яго браўся заклад на суму, роўную месячнаму акладу. Калі пажарны звальняўся з каманды раней тэрміну, заклад яму не вяртаўся.

Абуджаліся пажарныя а 5-й гадзіне раніцы. Працоўны дзень заканчваўся позна ўвечары. Дзяжурылі яны ў адну змену, праводзячы час у казарме цэлымі месяцамі без выходных дзён[32]. Заняткаў па спецыяльнасці не было, пажарная справа вывучалася на практыцы падчас тушэння пажараў. Складанасць у арганізацыі заняткаў заключалася і ў тым, што абсалютная большасць пажарных былі непісьменнымі[33]. Да таго ж радавым пажарным даводзілася займацца шматлікімі справамі, якія не адносіліся да іх прамых абавязкаў. У Горадні на пажарных ускладаліся дадатковыя абавязкі з ініцыятывы губернатара, паліцмайстра або гарадскога галавы. Напрыклад, менавіта яны запальвалі ліхтары каля губернатарскага дому і на мосце, падмяталі вуліцу каля каля лавак гасціннага двара. За гэта яны атрымлівалі па 3 руб. у месяц прыбавачных[34].

Тым не менш, як сведчаць дакументы, падчас пажараў каманда дзейнічала зладжана і аператыўна. Аднак 29 траўня 1885 г. пачаўся пажар, які пажарная каманда не была ў сілах спыніць.

Раніца таго дня была адной з тысячаў. Пажарныя былі занятыя сваімі справамі: трое з іх вывозілі смецце з пажарнай казармы «на бульвар, што насупраць Фарнага касцёла», двое падмяталі вуліцы, чацвёра «вазілі жвір да Акруговага суда» на Саборную вуліцу па распараджэнню гарадской управы, Дашута «вадзіў дзесяцярых арыштантаў за Нёман» на працу, а Юшкевіч увогуле «знаходзіўся на старых габрэйскіх могілках для ахоўвання травы ад патравы». На каланчы ўвесь гэты час дзяжурыў Вікенцій Гуменны, які і заўважыў пажар, пасля чаго «даў сігнал на выезд». Усе пажарныя паспяшаліся на месца здарэння, дзе «быў заўважаны вялікі дым»[35].

Аднак яны не здолелі супрацьстаяць стыхіі, паколькі «спыніць агонь не было ніякай магчымасці, бо маналікі склад каманды і абозу гэтым разам больш, чым калі ў іншы час быў прыкметны, а недахоп вады канчаткова спыніў дзеянне каманды»[36]. На дапамогу прыехала пажарная каманда з Беластоку, якая разам з гарадзенскімі пажарнымі без перапынку тушыла ачагі нават на наступны дзень. Не абышлося без ахвяраў. Раніцай 30 траўня загінуў служачы беластоцкай пажарнай каманды Пышко. Акрамя таго 6 пажарных атрымалі траўмы і апёкі. На пажары моцна пакалечыўся гарадзенскі брандмайстар Вайтукевіч, які ўпаў з даху дома[37].

Тым не менш незадавальненне гарадзенцаў дзейнасцю пажарных было відавочным. Так, 10 чэрвеня а 9-й гадзіне вечара ў адной са згарэлых крамаў у доме пры Параднай плошчы загарэлася старая мэбля, зваленая туды габрэем Шаяй Пікам. Людзі прыбеглі, выцягнулі частку мэблі на вуліцу і патушылі полымя, але ў краме быў яшчэ дым і значная колькасць мэблі, якая працягвала тлець. У гэты час з'явілася пажарная каманда. Пажарныя сталі адцягваць мэблю, каб ачысціць уваход у краму. Пры гэтым выкарыстоўвалася сякера. Раптам гаспадыня мэблі Бэйля Пік з натоўпам родных і служачых накінулася на пажарных, а калі тыя адпіхнулі яе, то яна падняла лямант і разам з натоўпам габрэяў, з якіх «некаторыя прыхапілі палены, калы і камяні», напалі на пажарных. Шлёма Пазняк кінутым каменем параніў галаву аднаму з пажарных. Калі пажарныя яго затрымалі, то натоўп яшчэ з большым напорам пачаў на іх нападаць. Пажарныя вымушаны былі абараняцца: габрэю Пазняку і яшчэ нейкаму маладому габрэю, якія «асабліва моцна» на іх нападалі, «былі нанесены ўдары па галаве і спіне». Усё гэта магло скончыцца непрадказальна, калі б не ўмяшалася паліцыя. Паліцэйскімі быў наведзены парадак, а самыя актыўныя затрыманыя[38].

У тыя часы ахове працы і тэхніцы бяспекі належнай увагі не надавалася. Пажарныя часцяком заставаліся калекамі, шмат было выпадкаў са

смяротным зыходам. У 1886 г. пры пажары дома Лебядзінскага пажарны Іосіф Себасцьяновіч, атрымаўшы «моцнае калецтва», памёр у шпіталі, пакінуўшы пасля сябе жонку і двое дзяцей. Удаве Себасцьяновіча пасля прашэння брандмайстра Вайтукевіча з гарадскіх сродкаў была назначана штогадовая сума кампенсацыі ў памеры 144 рублі[39]. А ў 1889 г. жонка былога пажарнага служачага Ігнацыя Дашуты Марцыяна звярнулася ў гарадскую думу з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе, грунтуючы просьбу тым, што «адстаўны салдат Ігнацый Дашута 10 гадоў праслужыў у гарадзенскай пажарнай камандзе, а ў 1888 г. быў звольнены ў выніку пагаршэння здароўя і страты зроку; у дадзены час ён, будучы непрацаздольным, не ў стане зарабіць на пражытак для сябе і траіх малалетніх дзяцей»[40]. У лістападзе 1901 г. памёр Сцяпан Бярнацкі, былы пажарны служачы, які працаваў у гарадской паліцыі[41], пакінуўшы пасля сябе ўдаву Анастассю і траіх дзяцей[42].

У 1890 г. паліцмайстар напісаў у гарадскую думу ліст, у якім падкрэсліваў, што «аклад жалавання ў гарадзенскай пажарнай камандзе недастатковы». Ён сцвярджаў, што «ўсе спробы арганізаваць каманду пажарных служачых з людзей, якія цалкам адпавядаюць гэтай службе, г. зн. моцных, фізічна развітых, шустрых, а галоўным чынам нязменнага саставу, засталіся марнымі, бо асобы, калі і паступалі ў пажарную службу, то пры першай магчымасці […] кідалі яе і пераходзілі на месцы з больш забяспечаным утрыманнем. Пры такіх умовах у пажарнай камандзе заўсёды заставаліся толькі людзі менш здольныя, менш развітыя і больш слабыя фізічна, якія, адным словам, мала адпавядалі ўмовам пажарнай службы, ды і тыя, не задаволеныя […] жалаваннем, служаць кароткія тэрміны і часта змяняюцца, а гэтая акалічнасць перашкаджае […] арганізаваць каманду […] з людзей вопытных і добра абучаных сваёй справе».

Паліцмайстар прапанаваў плаціць кожнаму пажарнаму па 150 руб., унтэр-афіцэру – 250 руб. і па 30 руб. кожнаму на абмундзіраванне. Гарадская дума, разгледзеўшы гэтае пытанне, пастанавіла зрабіць «надбаўку кожнаму з 1892 г. па 25 руб. у год на абмундзіроўку»[43]. Адпаведна заробак брандмайстра ў 1892 г. складаў 360 руб., старэйшага унтэр-афіцэра – 265 руб., а 24 пажарныя служачыя атрымлівалі па 169 руб.[44]

29 траўня 1898 г. было створана Гарадзенскае добраахвотнае пажарнае таварыства, пажарная каманда якога размяшчалася ў тых жа казармах, дзе і гарадская пажарная каманда. Днём 22 ліпеня 1899 г. падчас моцнага пажару ў горадзе згарэў ваенны летні лазарэт[45] разам з канюшняй і дэпо гарадской пажарнай каманды і пажарнага таварыства[46]. Гэтае пажарнае здарэнне канчаткова пераканала гарадскія ўлады пабудаваць у 1902 г. «вежу вакольнага агляду» побач з флігелем. Разам з каланчой пабудавалі пажарны

двор, плошча якога складала 246 кв. м[47]. У гэты час пажарная каманда складалася з брандмайстра і 24-х пажарных служачых. У каманды было 12 коней, 4 пажарныя трубы, адна летняя лінейка, 12 бочак ды і інш.[48]

Падчас рэвалюцыйных падзей 1905 – 1907 гг. пажарныя паддаліся рэвалюцыйным настроям. 15 траўня 1905 г. яны патрабавалі прыбаўкі да ўтрымання па 5 руб. у месяц. Але атрымалі адмову і прыступілі зноў да работы[49].

Пажарныя часта дапамагалі паліцэйскім служачым. Так, 24 студзеня 1907 г. два анархісты падчас уцёкаў паранілі з агнястрэльнай зброі траіх чалавек і застрэлілі паліцэйскага. Аднаму з іх удалося збегчы, другі забарыкадаваўся ў адной з кватэр і каля трох гадзін вёў перастрэлку з паліцыяй і войскамі. Пажарныя дапамагалі штурмаваць дом, кідаючы ў кватэру факелы. Пасля заняцця кватэры войскамі быў знойдзены труп анархіста[50].

Падчас Першай сусветнай вайны становішча пажарных рэзка пагоршылася. 8 красавіка 1915 г. служачыя каманды звярнуліся да паліцмайстра з калектыўным хадайніцтвам аб павелічэнні ім грашовага ўтрымання, бо «з прычыны падаражання ўсіх жыццёвых прадуктаў жыць ім на атрымліваемае жалаванне няма ніякай магчымасці»[51].

Падчас нямецкай акупацыі гарадзенскае гарадское паліцэйскае ўпраўленне было эвакуявана ў Калугу, а пажарная каманда (Нікіфар Панасюк, Дзіянісій Дабранскі, Мікалай Дрозд, Андрэй Пічкоўскі, Станіслаў Авечка, Аляксандр Калач, Віктар Тарасюк-Шыла, Канстанцін Ярмолік, Міхаіл Трахімюк-Трахімовіч, Іосіф Тубай-Дубай, Дзіянісій Назарка, Максім Бараноўскі, Філіп Шэйко, Ціхан Васільеў, Мікалай Дзятчэня, Рыгор Стэльмашук, Пётр Малевіч, Фёдар Карытцо, Сільвестр Сяўрук, Ігнацый Раманюк, Ігнацый Цюхай, Сцяпан Гутоўскі і Максім Жэжа) – ў Ніжні Ноўгарад[52]. Амаль усе пажарныя былі прызначаныя гарадавымі ў ніжагародскую паліцыю[53], дзе і служылі на працягу ўсёй вайны.

Такім чынам, створаная ў Горадні пажарная каманда на працягу другой паловы XIX – пачатку XX ст. была малалікаю. Гарадскія ўлады неахвотна яе фінансавалі, у той час як акрамя выплаты заробка пажарным служачым трэба было пастаянна абнаўляць і рамантаваць пажарныя прылады, абнаўляць форму і набываць правіянт. Тым не менш, пажарныя мужна змагаліся з вогненнай стыхіяй, неаднаразова падвяргаючы жыццё рызыцы.

---

1 НГАБ у Гродна. Ф. 8, воп. 1, адз. з. 1538., арк. 38.
2 Тамсама. Арк. 153.
3 Borowik P. Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII wieku / Przemysław Borowik. Supraśl, 2005. С. 37–38; Марозава С.В. Гродна ў 2-й палове 16 – 18 стагоддзях // Памяць: Гродна. Мн.,

1999. С. 68–74. Найбольшую шкоду гораду прынеслі пажары 1646, 1655, 1672, 1720, 1753, 1782 гг. Значныя пажары адбыліся ў 1586, 1613, 1617, 1636, 1675, 1705, 1709, 1735, 1750, 1776, 1781 гг.

[4] Дыярыуш князя Міхала Казімера Радзівіла Ваяводы Віленскага Гетмана Вялікага В. К. Літ. / Спадчына, 1996, № 4. С. 122.

[5] Boćkowski, D. Jedzie, jedzie straż ogniowa...125 lat Straży Pożarnej w Białymstoku. Białystok, 2000. С. 6.

[6] НГАБ у Гродна Ф. 1, воп. 2, адз. з. 1486, арк. 9.

[7] Тамсама. Воп. 27, адз. з. 465, арк. 242.

[8] Тамсама. Воп. 4, адз. з. 244, арк. 15-16.

[9] Тамсама. Адз. з. 176, арк. 66.

[10] Тамсама. Адз. з. 244, арк. 17.

[11] Тамсама. Ф. 1, воп. 20, адз. з. 459, арк. 215 аб.

[12] Тамсама. Воп. 13, адз. з. 264, арк. 1,11.

[13] Тамсама. Арк. 12–13.

[14] Тамсама. Ф. 1, воп. 27, адз. з. 766, арк. 723.

[15] Тамсама. Воп. 13, адз. з. 962, арк. 2.

[16] Тамсама. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1239, арк. 1.

[17] Тамсама. Ф. 2, воп. 38, адз. з. 631, арк. 1437-1439.

[18] Тамсама. Ф. 1, воп. 6, адз. з. 1434, арк. 1.

[19] Тамсама. Адз. з. 1953, арк. 1-3.

[20] Тамсама. Ф. 2, воп. 38, адз. з. 711, арк. 196.

[21] Тамсама. Адз. з. 701, арк. 626; Ф.2, воп. 38, адз. з. 702, арк. 70–73.

[22] Тамсама. Адз. з. 719, арк. 1519-1527.

[23] Тамсама. Ф. 8, воп. 4, адз. з. 60, арк. 1.

[24] Тамсама. Ф. 2, воп. 38, адз. з. 717, арк. 414–416.

[25] Яковчук, В. Пожарная служба Беларуси: история развития: монография / В. И. Яковчук. Минск, 2005. С. 124.

[26] Обзор Гродненской губернии за 1882 г.

[27] НГАБ у Гродна. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 291, арк. 1.

[28] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 774, арк. 2.

[29] Тамсама.

[30] Обзор Гродненской губернии за 1885 г.

[31] НГАБ у Гродна. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 774, арк. 5–8.

[32] Яковчук, В. Пожарная служба Беларуси… С. 134–135.

[33] НГАБ у Гродна. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 774, арк. 5–8.

[34] Тамсама. Арк. 2.

[35] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 774, арк. 5–8.

[36] Тамсама. Ад. з. 824, арк. 29-33.

[37] Тамсама. Арк. 29-33.

[38] Тамсама. Арк. 33. Матэрыял прадастаўлены А. Р. Радзюком.

[39] Тамсама. Ф. 1, воп. 17, адз. з. 838, арк. 245.

[40] Тамсама. Адз. з. 1515, арк. 6.

[41] У пажарнай камандзе ён працаваў амаль 6 гадоў, пасля чаго 1,5 гады – ў паліцыі.

[42] НГАБ у Гродна. Ф. 125, воп. 1, адз. з. 70, арк. 13.

[43] Тамсама. Арк. 156.

[44] Тамсама. Арк. 186-187.

[45] Орловский, Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродно, 1910. С. 326.

[46] Местная хроника // Гродненские губернские ведомости. 1899, 3 августа. С. 5.

[47] Кот, В. Пад гістарычнай каланчой // Гродзенская праўда. 2006, 13 снежня. С. 6.
[48] Обзор Гродненской губернии за 1890 г.
[49] Швед, В. Губернскі Гродна. Аповяды з гісторыі горада (канец 18 – пачатак 20 ст.). Гродна, 2003. С. 140.
[50] Тамсама. С. 152.
[51] Черепица, В. Город-крепость Гродно в годы Первой мировой войны / В. Н. Черепица. Гродно: ГрГУ, 2006. С. 228.
[52] НГАБ у Гродна. Ф. 117, воп. 1, адз. з. 51, арк. 99.
[53] Тамсама. Арк. 99-104.

*Вадзім Кароль*
*(Гродна)*

# Гарадзенцы ў экстрэмальных сітуацыях: пажар 1885 г. у Гародні

Пажар са старажытных часоў лічыцца адной з найбольш страшэнных бед, якія абрушваюцца на чалавека. У гісторыі застаўся цэлы шэраг пажараў, якія знішчалі гарады дашчэнту: Вялікі пажар у Рыме 64 г. н. э., Вялікі Лонданскі пажар 1666 г., Маскоўскі пажар 1812 г., Гамбургскі пажар 1842 года, Вялікі Чыкагскі пажар 1871 г. і г. д.

Грандыёзны пажар, які адбыўся ў Гародні напрыканцы вясны 1885 года, быў адной з найбольш значных падзеяў у гісторыі горада і яго гараджан на працягу XIX ст.

Пажары не былі рэдкасцю ў Расійскай імперыі. Большасць з іх мелі стыхійны характар і былі сапраўдным бедствам для насельніцтва. Больш за 43 тыс. пажараў штогод адбывалася ў гарадах і вёсках Расійскай імперыі на працягу 1880-х гадоў. Гэта больш чым ў тры разы перавышала паказчыкі 1860-х гадоў, і таму ў краіне пачалі казаць пра «пажарную эпідэмію»[1]. Прычын такога незайздроснага становішча было мноства:

• асаблівасці горадабудавання. Пераважная большасць гарадоў мелі хаатычную планіроўку. Будынкі узводзіліся з дрэва, хаты і гаспадарчыя пабудовы знаходзіліся вельмі блізка адзін да аднаго, так што агонь ахопліваў цэлыя кварталы ў лічаныя хвіліны;

• адсутнасць сродкаў тушэння агню, уключаючы самае элементарнае – ваду. Нават у тых месцах, дзе па патрабаванні ўлад ствараліся пажарныя вадаёмы і пажарныя студні, летам яны або перасыхалі, або выкарыстоўваліся для гаспадарчых патрэб;

• слабая распаўсюджаннасць і малалікасць пажарных каманд (прафесійных ці дабраахвотных). У 1896 г. 596 981 населены пункт Расійскай імперыі не меў наогул ніякай абароны ад пажараў[2].

• дрэннае становішча печаў і труб, неасцярожнасць насельніцтва, маланкі і падпалы.

Тэрыторыя Беларусі не была ў гэтым сэнсе выключэннем. Гарады і мястэчкі «Паўночна-Заходняга краю» гарэлі вельмі часта. Толькі Гародня 8 разоў гарэла ў XIX ст., страшэнныя пажары адбыліся ў Мінску ў 1835 і 1881 гг. У іншых беларускіх гарадах вялікія пажары адбываліся амаль штогод.

Вышэй ужо адзначалася, што слабая распаўсюджанасць і малалікасць пажарных каманд былі аднымі з галоўных недахопаў ў барацьбе з пажарамі ў гарадах Расійскай імперыі. У 1884 г. на Гарадзенскую губернію прыходзілася ўсяго 3 брандмайстры, 89 рабочых, 43 коні, 40 пажарных труб і 77 бочак[3]. Больш-менш значныя сілы пажарных былі толькі ў буйнейшых гарадах Гарадзенскай губерніі: Гародні, Берасці, Беластоку. У астатніх гарадах абарона ад пажараў была ўскладзена ў большай ступені на мясцовых жыхароў. Кожны гаспадар абавязаны быў трымаць у двары вялікую бочку з вадой, адмысловыя лесвіцы, сякеры, вёдры і г.д., але гэтых мер відавочна было недастаткова.

Арганізацыя супрацьпажарнай аховы ў горадзе над Нёманам пакідала жадаць лепшага. Гарадзенская пажарная каманда была малалікая і да таго не валодала дастатковымі сродкамі для барацьбы з буйнымі пажарамі. Паводле архіўных дадзеных, у яе склад за год да пажару (у 1884 г.) уваходзіла ўсяго 26 чалавек (1 брандмайстар і 25 рабочых). Забеспячэнне гарадзенскіх пажарных было таксама вельмі сціплым: 10 коней, 3 пажарныя трубы, 23 пажарных рукавоў, 13 бочак, 30 вёдраў, 20 сякер[4]. Утрыманне пажарнай часткі складала 6592–7092 руб. у год[5]. У горадзе была пабудавана спецыяльная пажарная вежа. Драўляны прататып цяперашняй вежы з’явіўся ў 1870 г., аднак галоўным яе недахопам была недастатковая вышыня, якая не дазваляла своечасова прадухіліць пажары і папярэдзіць гараджан[6].

Відавочна, што такія сілы не маглі забяспечыць надзейную абарону ад вогненнай стыхіі. У выніку, толькі за 1884 г. у Гародні адбылося 10 невялікіх пажараў, а ўсяго па губерніі – 540 пажараў, у якіх пацярпелі 1992 будынкі[7]. Ад пажараў у 1884 г. па Гродзенскай губ. загінулі 18 чалавек[8]. Найбольш распаўсюджанымі прычынамі пажараў былі падпалы (153), неасцярожнасць (72), маланкі (43), дрэнны стан пячэй і труб (26)[9].

Страшэнны пажар, які прынес гораду катастрафічныя разбурэнні і страты, адбыўся ў Гародні ў 1885 г. Ён пачаўся раніцай 29 траўня (10 чэрвеня па новым стылі) 1885 г. Каля 9 гадзін загарэўся адзін з будынкаў. Наконт крыніцы катастрофы існуюць розныя версіі: па адной з іх першым загарэўся драўляны дом аднаго з мяшчан на вуліцы Малай Траецкай; па іншай – дом сталяра, напоўнены гаручымі матэрыяламі; па трэцяй – лазня на вуліцы Саборнай (зараз Савецкай).

Як пісаў адзін з відавочцаў: «З гэтай хвіліны пачаўся сапраўдны ад: дом за домам, квартал за кварталам ахопліваліся агнём і нішчыліся ў ім, падобна картачным домікам»[10]. Пажар імгненна распаўсюджваўся па фахверкавым будынкам Гародні, сухое надвор’е разам з моцным ветрам зрабілі сваю справу: полымя паглынала вуліцу за вуліцай. Вогнішча так хутка перакідвалася з аднаго дома на іншы, ахопліваючы ўсё новыя кварталы горада,

што аб ратаванні дамоў не магло ісці размовы. Людзі ратавалі сваё жыцце і рэчы, якія траплялiся пад рукі.

Па ўспамінах сведкаў, чорны дым быў бачны за дзесяткі кіламетраў ад горада, яго бачылі нават у Беластоку, адкуль і прыехала на дапамогу пажарная каманда з дзвюма помпамі[11]. Акрамя таго, на дапамогу гарадзенскім пажарным для барацьбы з пажарам былі адпраўлены вайскоўцы.

Газета «Kurjer Warszawski» пісала: «Цэлы квартал горада быў ахоплены пажарам, які дасягаў абодвух бакоў Нёмана, а паўвярсты ў дыяметры ўяўляла сабой адзінае мора агню, які згасаў толькі там, дзе нічога ўжо не заставалася для знічшэння»[12].

Увечары вецер супакоіўся і полымя пачало сціхаць, але з ранку вецер ізноў узмацніўся, пажар распаліўся з новай сілай, пылаючы яшчэ тры дні. Толькі на чацвёрты дзень пажар скончыўся, пакінуўшы пасля сябе зруйнаваны горад над Нёманам.

Відавочцы адзначалі, што пажарная каманда прыбыла вельмі позна. Па адной з версій, «пажарныя» коні былі на пашы, па іншай версіі на іншай працы. Да таго ж у дамах, якім пагражала вогнішча не аказалася ані кроплі вадаправоднай вады. Гараджане казалі, што адбылося гэта з тае прычыны, што вадаправодны механік ад’ехаў з горада, а іншыя не ўмелі працаваць з механізмамі. Акрамя таго, падчас пажару ў горадзе адсутнічаў начальнік дывізіі генерал Малахаў, а ягоны 70-гадовы намеснік не здолеў арганізаваць неабходную дапамогу[13].



*Малюнак 1. Пажар Гародні, гравюра. Аўтар С. Янкоўскі (C. Jankowski). Надрукавана ў часопісе «Kłosy» № 1044 ад 2.07.1885. – С. 8-9.*

Усе гэтыя факты выклікалі вялікую незадаволенасць сярод гарадзенцаў. Як пісаў карэспандэнт часопіса «Край», «з усіх месцаў адкрыта сыплюцца праклёны, гучна, у публічных установах і сходах, на вуліцах і ў дамах, таму што кожны добра разумее, што зроблена было не ўсё, што трэба, і не так, як трэба»[14] .

У першую ноч з серады на чацвер ніхто не спаў, усе пільнавалі выратаваныя рэчы. Эліза Ажэшка так апісвала першыя дні пажару: «Паветра напоўнена горкім дымам, адчайным перазвонам, стогнам і жахлівымі крыкамі. На вялізным Сянным рынку – зваленыя горы хатняга начыння і вузлоў. Носяцца звар'яцелыя натоўпы да смерці перапуджаных і заплаканых людзей»[15].

Дзеля недапушчэння новых пажараў і аховы сваёй маёмасці гараджане самастойна арганізоўвалі начныя варты. Тым больш, што ў першыя дні пажару мелі месца факты марадзёрства. У дзень пажару – сераду – у горадзе традыцыйна быў гандлёвы дзень, падчас якога на рынак з'ехаліся сяляне з бліжэйшых вёсак. Па сведчаннях відавочцаў, сяляне неслі ўсё, што можна было схапіць і вывозілі нарабленыя рэчы з горада. Спакусіліся на чужую маёмасць і многія з мясцовых гараджан. Але пасля правядзення рэвізіі многія з іх былі арыштаваны і апынуліся за кратамі мясцовай турмы.

Аднак, як і ў любой экстрэмальнай сітуацыі, сярод гараджан знайшліся людзі, якія не спакусіліся на чужую ўласнасць, самахвярна дапамагаючы ратаваць іншым сваё жыцце і маёмасць. У гісторыі захаваліся імёны некаторых з іх. Так, паводле архіўных дакументаў, Я. Сяргеевай і І. Чарняўскаму за тое, што яны «принимали горячее участие в тушении пожара и спасении чужого имущества» была прызначана грашовая дапамога, нават нягледзячы на тое, што іх маёмасць не пацярпела ў агні[16].

### *Маштабы трагедыі*

Пажар 29 траўня 1885 г. прынёс гораду велізарныя страты. Вогненная стыхія знішчыла каля сотні жылых дамоў, значна пашкодзіўшы гістарычны цэнтр Гародні. Загінула трэцяя частка горада, дашчэнту згарэлі 10 вуліц. Вогнішчам было знішчана сэрца горада: цэнтр грамадскага, гандлёвага і культурнага жыцця Гародні. Поўнасцю ці часткова згарэлі цэнтральныя вуліцы горада, на якіх знаходзіліся лепшыя магазіны, гандлёвыя лаўкі, гатэлі, разнастайныя дзяржаўныя ўстановы: вул. Саборная (Савецкая – сучасная назва), вул. Вялікая Траецкая, Парадная плошча (Савецкая плошча), Паліцэйская (Кірава), Купецкая вул. (Карла Маркса) і інш. Ад пажару пацярпелі 7105 чалавек, было спалена 884 пабудовы (у тым ліку 139 каменных і 380 драўляных жылых дамоў). На шчасце, удалося

пазбегнуць вялікіх людскіх ахвяр: памерла 3 чалавекі. Агульныя маёмасныя страты склалі каласальную для таго часа суму – 2 940 558 руб. 70 кап.[17] Пагаршала становішча пагарэльцаў тое, што маёмасць большасці з іх была незастрахавана.

Натуральнымі перашкодамі для стыхіі сталі стромкія берагі Нёмана з аднаго боку і чыгунка з боку вуліцы Купецкай (цяперашняя Карла Маркса), якая знаходзілася ў глыбокім і шырокім рове. Гэта дазволіла лакалізаваць пажар і не дапусціць яго распаўсюджання ў Занёманскі фарштат і прадмесці горада.

Уражаны маштабамі трагедыі відавочца падзей Віктар Гамуліцкі (Wiktor Gomulicki) пісаў у часопіс «Край»: «Усё, што было дрэвам, ператварылася ў лятучы попел; усё, што было металам, злілося ў паток вогненнай лавы; усё, што было шклом, растала ў бясформенную масу»[18].

Вогнішча пашкодзіла многія дзяржаўныя ўстановы: канцылярыю губернскага маршалка шляхты; магістрат; філіял дзяржаўнага банку; канцылярыю ваеннага начальніка і канцылярыю двух натарыусаў і інш. З прычыны пажару з гарадзенскай турмы былі тэрмінова эвакуіраваны ўсе яе насельнікі, якія пад канвоем былі перапраўлены ў іншае месца.

Былі зруйнаваны лепшыя гатэлі ў горадзе: гатэль «Еўрапейскі», гатэль «Шляхецкі» і гатэль «Маскоўскі» (Ромэра). Многія гандляры засталіся без сродкаў для існавання і без працы, бо лепшыя ў горадзе магазіны таксама ператварыліся ў попел.

Што тычыцца культавых пабудоў, то пацярпелі некалькі сінагог, у тым ліку і драўляны габрэйскі малельны дом 70-х гадоў XVI стагоддзя, на месцы якога ў пачатку XX ст. з'явілася Вялікая Харальная сінагога. Часткова пацярпеў Брыгіцкі касцёл: згарэлі драўляныя купалы вежаў і часткова абгарэла званіца. Астатнія ж культавыя пабудовы, у тым ліку і тыя, якія знаходзіліся ў цэнтры горада ацалелі.

«На адлегласці ўздоўж амаль вярсты вочы сустракаюцца толькі з руінамі і попелам, над якімі тут і там тырчаць счарнелыя дымаходы, кучы патрэсканай цэглы; пні дрэваў ператвораны ў вугаль, якія разбаўлены ўсяго толькі некалькімі апаленымі галінкамі з некалькімі лістамі. Страшэнны, страшэнны гэта выгляд! Ад саміх вуліц засталіся месцамі толькі брук з дзвюма шэрагамі руін, і план некаторых кварталаў адчыняецца толькі паводле кучак попелу. Тут пустата і цішыня, якая вельмі ўражвае; сярод руін можна хадзіць і на працягу чвэрці гадзіны не сустрэць ніводнай жывой душы, толькі некалі сустракаецца жаўнер з карабінам на рамні, які пільнуе разбіты ушчэнт рыштунак; старая жанчына ў лахманах, якая працягвае руку, ці босае дзіця, якое выгортвае штосьці з попелу;» – паведамляў часопіс «Край»[19].

Гарадское жыццё перамясцілася ў прадмесці горада, у Занёманскі фарштат, ваенныя казармы, дзе апынулася большасць пагарэльцаў. У ахвя-

ры пажаруператварыліся сотні гараджан; пагарэльцы і бяздомныя сталі на некалькі месяцаў неад'емнай часткай гарадскога жыцця. Не мінула стыхія і вядомых людзей Гародні: пажарам быў знішчаны дом знакамітай пісьменніцы Элізы Ажэшкі, моцна пацярпела яе бібліятэка (з чатырохтысячнай калекцыі засталося толькі некалькі сот асобнікаў) і некаторыя рукапісы. Аднак, нягледзячы на тое, што пісьменніца згубіла амаль ўсю сваю маёмасць, яна стала адным з кіраўнікоў камітэта дапамогі пагарэльцам. Невыпадкова пасля аднаўлення Гародні ад наступстваў пажару ў многіх дамах жыхары захоўвалі партрэты Э. Ажэшкі.

### *Арганізацыя дапамогі, становішча пацярпелых*

Дзеля арганізацыі дапамогі пацярпелым ад стыхіі 30 траўня (11 чэрвеня) 1885 г. быў арганізаваны Гарадзенскі губернскі часовы камітэт аказання дапамогі жыхарам горада, якія пацярпелі ад пажару 29 траўня 1885 года. На чале камітэта стаяў віцэ-губернатар І. Ф. Іскрыцкі. Актыўны ўдзел ў справах тушэння пажару і арганізацыі дапамогі пагарэльцам прымаў таксама губернатар Аляксандр Мікалаевіч Пацёмкін. Менавіта па ягоным хадатайніцтве цар на ліквідацыю наступстваў пажару вылучыў з казны 25 тысяч рублёў[20].

Дапамогу гарадзенцам аказвалі і іншыя гарады Расійскай імперыі: матэрыяльная дапамога, рэчы першай неабходнасці, харчаванне дасылалі ў Гародню прыватныя асобы і арганізацыі з Вільні, Коўна, Беластоку, Варшавы, Масквы, Чарнігава, Ніжняга Ноўгарада і інш. гарадоў[21]. Дасланая пагарэльцам дапамога падзялялася на тры катэгорыі. Хлеб выдаваўся спецыяльна прызначанымі асобамі па талонах; грошы – камітэтам дапамогі, у складзе якіх былі толькі мужчыны; бялізна, вопратка і г. д. – г. зв. «жаночым камітэтам» пад кіраўніцтвам жонкі губернатара А. Ю. Пацёмкінай. Актыўнай удзельніцай яго была Эліза Ажэшка.

Раздача хлеба была арганізавана па «талонах», якія можна было атрымаць у мясцовых улад усім, хто мог прадставіць доказы істотных страт ад пажару. Аднак, атрымаць іх было не так проста. За талонамі ўтварыліся велізарныя чэргі, у якіх цэлымі днямі стаялі жанчыны з галоднымі дзецьмі. Вось як апісваў працэс раздачы хлеба карэспандэнт часопіса «Край»: «У невялікім перадпакоі адзін з муніцыпальных канторшчыкаў раздае квітанцыі людзям, якія ціснуцца вакол яго; на прыступках сядзяць, чакаючы сваей чаргі пагарэльцы, на плошчы каля рынку стаяць знясіленыя жанчыны, акружаныя дзецьмі і крычаць нам: Пан, талончык, на міласць Бога!...»[22]

Дзеянні мясцовых улад па ліквідацыі наступстваў пажару ў першыя дні пасля трагедыі многім здаваліся недастатковымі. У той час, калі трэба было біць у званы, прасіць аб дапамозе ўсіх, хто мог яе аказаць, мясцовыя ўлады

імкнуліся схаваць сапраўдныя маштабы трагедыі. Непаваротлівасць мясцовых ўлад стала тэмай фельетона А. П. Чэхава «На луне». Вось урывак з твора знакамітага расійскага пісьменніка:

«*Первый лунный астроном.* Посмотрите-ка, коллега, какой на Земле яркий свет, в том месте, где город Гродно находится! Это, должно быть, громадный пожар. Вероятно, горит целый город.

*Второй лунный астроном.* Что вы, помилуйте! Просто где-нибудь блестящая увеселительная иллюминация.

*Первый лунный астроном.* Почему вы так думаете, коллега?

*Второй лунный астроном.* Я полагаю, что случись такой страшный пожар, то люди забегали бы, засуетились, начали бы собирать подписки на помощь несчастным погорельцам, образовались бы благотворительные комитеты, появился бы кружечный сбор в пользу лишившихся крова... А этого ничего нет; на Земле всё тихо, спокойно и все предаются крепкому, мирному сну. Очевидно, что всё обстоит благополучно»[23].



***Малюнак 2. Ілюстрацыя У. І. Парфір'ева да фельетона «На луне» А.П. Чэхава. Надрукавана ў часопісе «Осколки», 1885, № 25, 22 июня. С. 1.***

Эліза Ажэшка першая забіла трывогу. Яна даслала звароты ў розныя выданні Пецярбурга, Масквы і Варшавы з просьбамі аб неадкладнай дапамозе. Пісьменніца вяла вялікую перапіску, у гэты час яна атрымала каля 500 лістоў з грашыма для пагарэльцаў з розных куткоў Расійскай імперыі. Усяго, дзякуючы пісьменніцы, на карысць пагарэльцаў была сабрана значная сума ў 19 507 руб.[24] Эліза Ажэшка ў лісце да Эразма Пілца ад 19 чэрвеня 1885 г. пісала: «У нас горача, душна, шумна, слёзна і адчайна. Цэлымі днямі маем горлы, поўныя пылу і попелу, а вочы, поўныя слёз. З сотняй беднякоў штодзённа трэба размаўляць, а гэтыя розныя забароны […] фармалізм штодзённа адну вялікую калючку ў сэрца забіваюць»[25].

Пагарэльцы Гародні былі размешчаны ў розных месцах: у вайсковых казармах, у мужчынскай гімназіі, у калідорах касцёлаў і цэркваў, у разнастайных установах і прыватных хатах. Становішча няшчасных

было вельмі цяжкім: людзі спалі на падлозе, ці на дзвух-, трохпавярховых «нарах», без цёплай вопраткі і дастатковага харчавання. У некаторых будынках адначасова знаходзілася па 100 чалавек. У такіх месцах панавала антысанітарыя, што павялічвала рызыку ўзнікнення эпідэмій[26]. Людзі спалі побач: старыя і маладыя, хворыя і здаровыя, з сем’ямі і паадзінку. Многія пагарэльцы збіралі пакінутыя пасля пажару дошкі, цэглу і іншыя матэрыялы і рабілі часовыя клеткі ці шалашы, у якіх жылі з сем’ямі ў чаканні дапамогі.

Многія засталіся без даху над галавой з маленькімі дзецьмі. За сухімі архіўнымі дакументамі стаяць трагічныя лёсы гарадзенцаў, якія былі пастаўлены стыхіяй на мяжу выжывання. Так, напрыклад, Качынеўскі Іван 55 гадоў, які пацярпеў ад пажару, застаўся на вуліцы з жонкай і 10 дзецьмі (4 сынамі і 6 дачкамі)[27]. Увогуле, босыя і галодныя дзеці сустракаліся на кожным кроку. «Досыць дзяцей, апаленых, чарнавокіх, бадзяюцца па сенях і па ізбах, толькі ў кашулях, з голай галавой і басымі нагамі»[28], – так апісваў быт пагарэльцаў, размешчаных ў «Крывой афіцыне», Віктар Гамуліцкі (Wiktor Gomulicki).

Карэспандэнт «Гродненских губернских ведомостей» пісаў праз тыдзень пасля пажару: «Страшна жыць у спустошаным горадзе: днём жыхары ацалелых дамоў і кватэр не адыходзяць далёка ад дому, баючыся раптоўнага пажару, а ноччу, кладучыся спаць, не ведаюць, ці будуць яшчэ спаць, а трымаюць ўсё напагатове»[29].

На працягу 1885 г. у камітэт паступілі тысячы лістоў ад пагарэльцаў, з просьбай аб дапамозе. Лісты адлюстроўваюць страшэнную карціну разбурэнняў, крушэння асабістых надзей гараджан, расчаравання і смуты пагарэльцаў, якія засталіся без усялякіх сродкаў для існавання. Амаль у кожным лісце людзі пісалі аб сваім «безвыходном», «незавиднейшем», «безысходном» становішчы. Камітэтам выдавалася грашовая дапамога для пагарэльцаў, але сумы былі параўнальна невялікія (у сярэднім 25–30 руб.), што не магло пакрыць усе страты асоб, якія згубілі ўсю сваю маёмасць.

Пажар вынішчаў вуліцы горада не зважаючы на сацыяльны і маёмасны стан людзей. Сярод пагарэльцаў аказаліся прадстаўнікі розных прафессій і адукацыі. Усе былі роўныя перад стыхіяй. Для кожнага чалавека пажар быў асабістай трагедыяй, але маштабы гэтай трагедыі ў кожнага былі свае. Так, хтосьці з пагарэльцаў пісаў аб «згарэлай скрыні з прыладамі», ці «гародніне з харчовымі запасамі», іншыя пісалі аб «4-х дамах, з прыбудовамі», якія загінулі у полымі. Адзін з багатых мяшчан згубіў у полымі 8 дамоў з мезанінамі і сараямі коштам 600 тыс. руб., і рухомую маёмасць на 400 руб.[30].

Маштабы трагедыі і вялікія разбурэнні мелі такі глыбокі адбітак ў свядомасці гараджан, што многія з іх ужо не верылі ў тое, што горад калі-небудзь падымецца з попелу і зможа аднавіцца. Паўсюднай сярод гараджан

была думка аб тым, што горад ніколі не паўстане з руін. Нават Эліза Ажэшка пісала ў адным з сваіх лістоў аб «пахаванні» горада, бо, па словах пісьменніцы, «малаверагодна, каб яно паўстала з руін»[31].

Аднак, нягледзечы на ашаламляльныя маштабы трагедыі, каласальныя разбурэнні і сотні скалечаных лёсаў, Гародня, як тая легендарная птушка Фенікс змагла паўстаць з попелу. Ужо праз 10 гадоў усе наступствы пажару былі ліквідаваны. Горад змяніў свой вонкавы выгляд, значна «памаладзеўшы»: на змену драўляным і фахверкавым будынкам у цэнтры горада былі пабудаваны прыгожыя каменныя дамы, актыўна пачалося каменнае будаўніцтва вуліц.

Шмат што было зроблена для недапушчэння падобных трагедый у будучыні. Для своечасовага выяўлення пажару і прыняцці неадкладных мер па яго ліквідацыі ў 1889 г. гарадская Дума прыняла рашэнне пра будаўніцтва пажарнай каланчы на вул. Замкавая. У 1902 г. яна была завершана. На вежы пастаянна знаходзіўся чалавек, які сачыў за становішчам ў горадзе. Калі ён заўважаў ў якой-небудзь частцы горада дым, то павінен быў вывесіць на вышцы сінія шары, а пры выяўленні адкрытага полымя – чырвоныя. У начны час вывешваліся чырвоныя ліхтары. Гэта рабілася для папярэджання гараджан, каб яны прынялі тэрміновыя меры для абароны сваіх дамоў[32].

Такім чынам, пажар 1885 г. стаў для гараджан сапраўдным стыхійным бедствам, якое мела самыя жудасныя наступствы для горада і яго жыхароў. Пажар, які знішчыў значную частку горада і пакінуў тысячы людзей без даху над галавой і сродкаў для існавання, застаўся ў гістарычнай памяці гараджан незабыўнай падзеяй.

---

1 Жирнов, Е. Общество содействия пожарам // Журнал «Коммерсантъ Деньги». Еженедельный экономический журнал [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://kommersant.ru/doc/1491426. – Дата доступа: 29.08.2011.

2 Жирнов, Е. Общество содействия пожарам…

3 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей – НГАБ у Гродне). Ф. 14, воп. 1, адз. з. 387, арк. 20–21.

4 НГАБ у Гродне. Ф. 14, воп. 1, адз. з. 387, арк. 20-21.

5 Супрон, М. С. Узнікненне і дзейнасць пажаранай каманды ў Гродне ў XIX ст. // Рэха мінуўшчыны. Гродна, 2010. С. 153.

6 Матвеев, В. 120 ступеней вверх // Рэспубліка. [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://respublika.info/4803/history/article32782/print/. – Дата доступа: 10.09.2011.

7 НГАБ у Гродне. Ф. 14, воп. 1, адз. з. 387, арк. 19.

8 НГАБ у Гродне. Ф. 14, воп. 1, адз. з. 387, арк. 20–21.

9 НГАБ у Гродне. Ф. 14, воп. 1, адз. з. 387, арк. 19.

10 Орловский, Е. Ф. Гродненская старина. Гродно, 1910. С. 317.

11 Попко, И. С видом на каланчу. В Гродно открылся музей истории пожарной службы //

СБ. Беларусь сегодня [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://pda.sb.by/post/vidom_kalanchu/. – Дата доступа: 10.09.2011.

12 Kurjer Warszawski. 1885, № 160. S. 1.

13 Kraj. 1885. № 23. S. 14.

14 Kraj. 1885, № 23. S. 14.

15 Королёв, Н. Рука помощи была всегда // Гродзенская праўда. 2001, 23 чэрвеня. С. 2.

16 НГАБ у Гродне. Ф.45, воп. 1, адз. з. 1, арк. 56.

17 Швед, В. В. Гродзенскія пагарэльцы 1885 года і Эліза Ажэшка // Губернскі Гродна. Баранавічы, 2003. С. 89.

18 Kraj. 1885, № 24. S. 9.

19 Kraj. 1885, № 24. S. 9.

20 Гродзенская праўда. 2011, 11 жніўня. С. 4.

21 НГАБ ў Гродне. Ф. 45, воп. 1, адз. з. 1, арк. 1–3.

22 Kraj.1885, № 24. S. 10.

23 Осколки, 1885, № 25, С. 1

24 Швед, В. В. Гродзенскія пагарэльцы 1885 года… С. 93–95.

25 Listy Orzeszkowej do Erazma Piltza // Wikiźródła, teksty i materiały [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://pl.wikisource.org/wiki/Listy_Orzeszkowej_do_Erazma_Piltza. – Дата доступа: 25.08.2011.

26 Kraj. 1885, № 24. S. 8.

27 НГАБ у Гродне. Ф. 45, воп. 1, адз. з. 3, арк. 54.

28 Kraj. 1885, № 24. S. 9.

29 Швед, В. В. Гродзенскія пагарэльцы 1885 года…С. 90

30 НГАБ у Гродне. Ф. 45, воп. 1, адз. з. 16 а, арк. 85.

31 Швед, В. В. Гродзенскія пагарэльцы 1885 года…С. 94.

32 От стражников до МЧС, или Пять веков борьбы со стихией // Биржа информации. Архив газеты [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://gazeta.grodno.by/232/t8.html. – Дата доступа: 19.08.2011.

***Андрэй Чарнякевіч,***
***кандыдат гіст. навук (Гродна)***

# Крымінальны свет міжваеннай Гародні. 1919 – 1939 гг.

*– Ej-że Marku! Już z jarmarku? Nie kupiłeś nic?*
*– Ach! Z za pasa znikła kasa!... Zwędił jakiś fryc!*[1]

Калі адкінуць у бок нонканфармісцкую эстэтыку ды ідэю вульгарнай свабоды, раптам высветліцца, што злачынца ў грамадстве выконвае, фактычна, ролю сацыяльнага індыкатара, выяўляючы межы дазволенага і надзейнасць існуючай дзяржаўнай сістэмы. Магчыма, ён маргінал, аднак, гэткая асоба адкрыта супрацьпастаўляецца існуючым нормам права і гатова гэта прадэманстраваць. Пакуль дзяржава ў стане стрымліваць падобны кансалідаваны зарад сацыяльнай агрэсіі, карпарацыя злачынцаў будзе існаваць у межах пэўнага *status quo* амаль на самым дне паўсядзённага жыцця. Але, у той момант, калі адбываецца сацыяльная катастрофа і інстытут улады губляе сваю манаполію на насілле, ініцыятыва пераходзіць у рукі ягоных былых апанентаў...

Так і здарылася ў Гародні і наваколлях напрыканцы нямецкай акупацыі, узімку 1918 г. «Эксцэсы бандытызму [...] з'яўляліся прадуктам безуладдзя. – Гэтак тлумачыла існуючы стан рэчаў гарадзенская газета «Наше утро». – Відавочна, што бандытызм з'яўляецца непазбежным вынікам пералому і пераходнага часу. Аднак, гэты пераход, гэты крызіс ужо занадта працяглы, ён настолькі зацягнуўся, што стаў нязносным і зняволены мірны грамадзянін страціў ужо ўсялякую надзею на лепшую будучыню. Эксцэсы бандытызму ў нашым раёне паралізуюць апошнія імкненні да стваральнай працы. Адчуўшы аслабленне ўлады, некаторая частка нашага насельніцтва ва ўсю праяўляе свае інстынкты. Некаторыя нашы «разнузданыя грамадзяне» нішчаць і прысвойваюць усё, што трапляе ім на шляху, уцягваючы ў свае шэрагі нават тых, хто да апошняга часу трымаўся з боку ад прынцыпу «лаві момант»[2].

Разбой, крадзяжы, махлярства, ліхвярства, рабаванне – гэты спіс можна працягваць да бясконцасці. Пры гэтым адбывалася відавочнае знікненне мяжы паміж сацыяльным супрацьстаяннем і крымінальным гвалтам. Напрыклад, калі ў студзені 1919 г. да Гародні падышлі часткі г. зв. Віленскай самаабароны («Віленскі атрад Польскага войска») пад камандаваннем маёра

Уладзіслава Дамброўскага, яны правялі некалькі акцый «пацыфікацыі» навакольных вёсак, якія не адрозніваліся ад разбою[3].

Больш за тое. Узніклі паважныя цяжкасці з легітымізацыяй новапаўсталых судовых інстытутаў, бо гэта аўтаматычна вяло да вызначэння палітычнай прыналежнасці краю. Першы такі канфлікт разгарнуўся паміж Міністэрствам беларускіх спраў, якое дзейнічала ад імя літоўскага ўрада, і Часовым гарадскім камітэтам, што прадстаўляў мясцовы самаўрад. 6 лютага ў Гародні прайшлі выбары гарадскіх суддзяў, якія Міністэрства апратэставала[4]. Калі праз тыдзень літоўскі прадстаўнік з'явіўся на паседжанне Камітэта, яго там сустрэлі больш чым варожа. Часовы камітэт вырашыў перадаць пытанне аб незаконных дзеяннях Міністэрства беларускіх спраў ...у гарадскі суд, які сам і ўтварыў![5]

Нават з усталяваннем польскай улады вясной таго ж года сітуацыя ў сферы грамадскай бяспекі заставалася без зменаў. Тут нельга не згадаць забойства восенню 1919 г. ва ўласным маёнтку Навасёлкі Індурскага пав. актыўнага грамадскага дзеяча, былога старшыні Гарадзенскай беларускай управы Яўгенія Курлава. Беларускі бок надаваў гэтаму здарэнню характар палітычнага злачынства, а сам гэты эпізод патрапіў у пералік праяваў тэрору з боку польскіх уладаў у дачыненні да палітычных праціўнікаў[6].

Паводле следчай справе Я. Курлаў загінуў зусім не з прычыны палітыкі. Незадоўга перад смерцю ён прадаў леташняе збожжа. 7 кастрычніка 1919 г. каля 11-й гадзіны вечара ў іменні з'явілася некалькі чалавек у польскай вайсковай форме, якія папрасілі каней да Індуры. Калі служачая разам з сынам гаспадара адчынілі дзверы, незнаёмыя ўварваліся ў дом і, пагражаючы зброяй, запатрабавалі грошы. Курлавы паспрабавалі уцячы. Малодшага сяляне схавалі ў хляве, а старэйшы выскачыў праз вакно, але быў застрэлены.

Следчыя выйшлі на жыхара Гародні Ільдэфонса Клімовіча. Той заявіў, што ў піўной на Беластоцкай вуліцы чуў размову некалькіх асобаў аб тым, як яны абрабавалі маёнтак Курлавых. Пазней высветлілася, што інфарматар сам удзельнічаў у абмеркаванні плана злачынства. На маёнтак бандытаў навёў нейкі Ян Сухоцкі, які пад выглядам пошуку працы даведаўся аб прададзеным збожжы. Бандыты спадзяваліся ўзяць у Навасёлках каля 200 тыс. марак, а замест гэтага кожны атрымаў па 130 марак[7].

Апагей насілля прыйшоўся на сярэдзіну 1920 г., калі падчас польска-савецкай вайны Гародня некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Гэтыя пераходы суправаджаліся масавымі рабункамі мірных жыхароў. Расейскі пісьменнік Аркадзій Бухаў апісаў гэты момант наступным чынам:

«...Бальшавікі хацелі ўзяць Гародню, а палякі не хацелі добраахвотна сыходзіць. Для мірнага насельніцтва гэта азначала, што адны будуць біць перад сыходам, а другія пасля прыходу. Адзін з мясцовых стратэгаў – гаспа-

дар бакалейнай лаўкі – пераконваў мяне, што неабходна толькі пралічыць момант:

– Калі будуць сыходзіць, дык кожны павінен ісці на паддашша.

– Навошта?

– Ён пытаецца: навошта? Хто ж захоча рабаваць на паддашшы, калі гэта магчыма зрабіць на першым паверсе. Затое, калі будуць прыходзіць, дык трэба лезці у падвал.

– А гэто навошта?

– Ён яшчэ не разумее… Хто жа палезе рабаваць у падвал, калі гэта магчыма зрабіць на другім паверсе.

Павінен сказаць, што мой скептык-знаёмы недааціаніў энергіі і працавітасці сыходзячых і прыходзячых. Адны сыходзячы, а іншыя – прыходзячы рабавалі і ў падвалах, і на паддашы, і на ўсіх трапіўшых у вочы паверхах. Гэта была добрасумленная, выдатна зробленая праца, якая казала пра асаблівую якасць і уважлівасць»[8].

Пасля заканчэння вайны Гародня пераўтвараецца ў правінцыйны польскі горад. Мясцовы крымінальны свет хутка набыў тыповыя для тагачасных польскіх гарадоў рысы і структуру.

Найбольш небяспечную групу злачынцаў у гэты перыяд складалі ўзброеныя рабаўнікі. У гэтым сэнсе асабліва вылучаўся пачатак 1920-х гг., калі ў наваколлях Гародні адбываўся шэраг рабункаў. Звычайна, банды складаліся з дэзерціраў ці дэмабілізаваных жаўнераў, якія былі апранутыя ў вайсковую вопратку, мелі карабіны, рэвальверы, гранаты. Яны нават у дзень нападалі на прахожых, рабавалі хаты, пад выглядам рэвізіі ўваходзілі ў крамы, фірмы ці на малыя прадпрыемствы. Нядзіўна, што паліцыя доўгі час не давала сабе рады з гэткімі правапарушэннямі. У Беластоку, напрыклад, дзейнічала банда Антонія Лукашынскага, якая здзейсніла каля 30 збройных рабункаў.

У 1930-я гг. збройныя рабункі часта адбываліся на вуліцы, калі з дапамогаю нажа ці нават палкі злачынцы спрабавалі абрабаваць выпадковых прахожых. Злачынцамі найчасцей былі асобы без асаблівых крымінальных кваліфікацый, звычайныя авантурысты, маладыя сялянскія дзеці, якія прыбылі ў горад з вёскі, а таксама асобы, звольненыя з турмы.

Што праўда, па ранейшаму сустракаліся і арганізаваныя банды, якія спецыялізаваліся на рабунках са зброяю ў руках. Напрыклад, у 1937 г. вядомыя ў тым жа Беластоку бандыты Іцхок Хуторыянскі і Чэслаў Красоўскі абрабавалі ў тытунёвага прадпрымальніка Якуба Ліпшыца, пасля чаго схаваліся ў Гародні. Арыштаваць іх удалося толькі праз два гады[9].

Найбольш колькаснай і багатай на крымінальных «спецыялістаў» розных кваліфікацый была група гарадскіх злодзеяў. Напрыклад, у міжваен-

ным Беластоку, паводле Ул. Ярмоліка, налічвалася каля 200–300 прафесійных злодзеяў. У Гародні напрыканцы 1912 г. паліцыя мела інфармацыю пра 525 прафесійных злодзеяў[10].

Вышэй за ўсіх ў крымінальнай іерархіі стаялі г. зв. «касяжы» («kasiarze»). Іх было не шмат, бо падобная спецыялізацыя патрабавала як высокіх кваліфікацый, так і дастаткова дарагіх прыстасаванняў. Напад на банк, абменнік або прыватную кватэру былі справай вельмі складанай. Большасць з «касяжаў» працавала па-за межамі свайго пражывання, каб не звяртаць на сабе ўвагу паліцыі. Вядомыя беластоцкія злачынцы Генрых Гебаўэр, Янкель Фрыдланд, Хаім Гарбер ці Меер Крынскі звычайна «працавалі» ў Гародні, Сувалках, Едвабным, Супраслі, Воўпе ды інш. А Беласток наведвалі гастралёры з Варшавы. Тым не менш, пасля чарговага спрытнага рабунку паліцыя звярталася да ўжо вядомых постацей, які былі пад наглядам[11].

«Асы крымінальнага свету»... Пад гэткім загалоўкам гарадзенская газета «Dziennik Kresowy» ў лютым 1938 г. паведамляла пра паседжанне Акругавага суда, на якім разглядалася справа трох рабаўнікоў Гаспадарчагандлёвага бюро варшаўскіх «касяжаў» Дыяніза Зыгмунда Сташкевіча, Станіслава Гадлеўскага ды «аса» з Гародні – Міхаіла Міцкевіча. Яны атрымалі па 6–7 год турмы. Дарэчы, у касе Бюро на момант злачынства знаходзілася ўсяго толькі 30 злотых (некалькі дзён раней там было 15 тыс.)[12].

Другой па рангу ў крымінальным свеце была катэгорыя кватэрных злодзеяў, якія ў сваю чаргу дзяліліся на тры «вламывачаў» («włamywaczy»), г. зн. тых, хто здзейсняў кражу выбіваючы замок; «ліпкажаў» («lipkarzy»), г. зн. тых, хто забіраўся ў кватэру праз вакно, і «клавішнікаў» («klawiszników»). Апошнія, што карысталіся адмычкамі ды падабранымі загадзя ключамі, былі найбольш паважанай у сваім асяроддзі групай. Таксама ў горадзе было дастаткова тых, хто ішоў на крадзеж, не маючы асаблівых навыкаў і не разлічваючы на вялікі прыбытак.

З кватэрнымі крадзяжамі былі звязаныя і дзве іншыя спецыялізацыі злодзеяў: «паенцяжы» («pajęciarze») ды «шпрынгоўцы» («szpryngowcy»). Першыя займаліся крадзяжом бялізны, што сушылася на паддашы, а другія выносілі рэчы з калідораў ды верандаў, перад гэтым заблакіраваўшы дзверы у памяшканне.

Польскі даследчык міжваеннага крымінальнага свету ў Беластоку Ул. Ярмолік яшчэ ўзгадвае такія групы злодзеяў, як «даліняжы» («doliniarze»), г. зн. спецыялісты па кішэнным крадзяжам, «шопенфельдзяжы» («szopenfeldziarze»), г. зн. злодзеі, якія кралі з прылаўкаў крамаў; «патакажы» («potokarzy»), г. зн. злодзеі, што кралі з вазоў; «пехацяжы» («piechociarzy»), г. зн. злодзеі хатняй птушкі; «на выдры» («na wydrzę»), г. зн. злодзеі, якія вырывалі дамскія сумачкі ды інш.[13]

Акрамя злодзеяў, армію міжваенных крыміналістаў складалі шматлікія махляры. Тут вылучаліся прадаўцы фальшывых залатых пярсцёнкаў ды іншых ювелірных вырабаў, аферысты, якія выдавалі сабе за іншыя асобы, намагаючыся атрымаць матэрыяльную карысць («паліцэйскія», «ксяндзы», «шлёнскія паўстанцы», «удовы ваенных герояў», «фатографы», «выдаўцы»), з якіх большасць складалі «гастралёры» ды арганізатары нелегальных азартных гульняў у «ачко», «тры карты» ці «напарстак». Асобна стаялі фальшываманетчыкі, якія разгарнуліся пасля грашовай рэформы 1924 г.[14], і карумпаваныя чыноўнікі, у т. л. служачыя гарадзенскага Магістрата[15].

Сярод гарадзенскіх аферыстаў сустракаліся вельмі цікавыя персанажы. Так, у лютым 1922 г. «Dziennik Grodzieński» змясціў артыкул пра былога вайсковага інжынера капітана Мар’яна Гуртлера, які падчас польска-савецкай вайны быў адным з кіраўнікоў мясцовага Упраўлення вайсковым будаўніцтвам. Паводле газетнай інфармацыі, з прычыны шматлікіх злоўжыванняў камандуючы гарадзенскай крэпасцю Маеўскі адправіў яго ў «бестэрміновы адпачынак».

Былы вайсковец падпісаў кантракт з Управай Віленскай чыгункі па арганізацыі падняцця з дна Нёмана металічных рэшткаў узарваных мастоў і лакаматываў. Паводле дамовы, М. Гуртлер павінен быў перадаваць медзь Віленскай чыгунцы, а жалеза – мог пакінуць сабе. Замест гэтага М. Гуртлер увесь здабыты метал прадаў гарадзенскаму купцу М. Лапіну на агульную суму амаль 1,3 мільёна польскіх марак. Больш за тое! Ён нават прадаў і тую медзь, якая яшчэ заставалася ляжаць на дне ракі, узяўшы ў мясцовых гандляроў грашовы задатак![16]

Іншае зло – сутэнёры ды прастытуткі, якія, паводле Ул. Ярмоліка, адыгрывалі «асабліва важную ролю сярод крымінальнага свету амаль кожнага вялікага горада». Прастытуткі падзяляліся на тых, хто займаўся гэтым «прафесійна» і тых, хто выходзіў гандляваць сабою час ад часу. Яны адрозніваліся па ўзросту, веравызнанню, прафесіям. У тым жа Беластоку большасць прастытутак складалі жанчыны каталіцкага веравызнання ва ўзросце каля дваццаці год з пачатковай адукацыяй ці, наогул, непісьменныя. Сутэнёрамі ці альфонсамі часцей за ўсё былі крыміналісты, а менавіта злодзеі, махляры ды шулеры[17].

Напрыклад, у 1930 г. выклікала вялікі скандал гісторыя пра служачую габрэйскай лазні Хелену Пачобутаву, якая ўтварыла тайны публічны дом, дзе «працавалі» дзяўчынкі-сіроты, некаторыя з якіх былі яшчэ і венерычныя хворыя[18]. (Дарэчы, гарадзенскія прастытуткі лячыліся за кошт горада ў венералагічным шпіталі, які знаходзіўся ў адным будынку з псіхіятрычнай лячэбніцай ў самым цэнтры Гарадніцы[19]). Іншая справа пра пакоі для «віп-персонаў» у мясцовым тэатры (перш за ўсё з ліку вайскоўцаў), якія таксама

абслугоўвалі гарадзенскія прастытуткі, не выйшла за межы пастарунка паліцыі.

Існаванне злачыннага свету не было для ўладаў сакрэтам. У гарадзенскім камісарыяце на канец 1927 г. «чорны спіс» з найбольш крымінальна небяспечных асобаў паліцыі ўтрымліваў каля паўсотні прозвішчаў: Францішак Эмерт (Грандзіцкая, № 31), Гарошка Вераніка (Грандзіцкая, № 31), Міхаіл Эмерт, Аляксандр Эмерт ды Анна Эмерт (Горная 19), Павел Альшэўскі (Рэзніцкая № 11), Аляксандр і Уладзімір Сімчук (Горная, № 45), Юлія Галубовіч (Горная, № 15), Сора Кункес (Віленская, № 18), Семён Гінзбург (Горная, № 43), Шлёма Мацульскі (Грандзіцкая, № 10), Элія Кушнер (Рынкавая, № 6), Іосіф Клукман (Школьная, № 5), Хаім і Хая Лапідусы (Фабрычная, № 72), Юдэль Сегал (Фабрычная, № 20), Лейба Шнэер (Св.Троіцы, № 10), Міхаіл Фёдоров (Рыбацкая, № 1), Іосіф і Сергей Фёдоровы (Рыбацкая, № 1), Берко Сідранскі (Школьная, № 23), Наттолі Бурлін (Школьная, № 6), Мера Аўнет (Школьная, № 4), Канстанцін Юсман (Рыбацкая, № 5), Кароль Мацкевіч (Крэсовая, № 23), Маісей Меламед (Вызвалення, № 18), Вольга Юсман (Рыбацкая, № 5), Аляксандр Багумяк (Гараднічанская, № 7), Мечыслаў Чарняўскі (Гараднічанская, № 6), Ян Пушкевіч (Гараднічанская, № 19), Ян Аверук (Дамініканская, № 23), Сяргей Янчулік (Гувера, № 6), Моўша Голдберг (Дамініканская, № 2), Вільгельм Субач (Басняцкая, № 5), Мечыслаў Навіцкі (Рыдз-Сміглага, № 5), Мацей і Мар'я Плаховічы (Пясковая, № 14), Эфраім Шапіра (Лістоўскага, № 40), Хана Седлецкая (Пясковая, № 5), Хаім Бромберг (Ажэшкі, № 50), Канстанцін Русак (Ажэшкі, № 27), Мечыслаў Міклашэвіч (Ягелонская, № 62), Франц і Крыстына Шаўчук (Ягелонская, № 62), Уладзіслаў Марцінчык (Ягелонская, № 38), Францішак Дэпто (Ягелонская, № 6), Казімір Кажанеўскі (Станіслававa, № 1), Аляксандр Янушкевіч (Зялёная, № 8), Юзэф Сеплевеня (Крэсовая, № 23)[20]. Як відаць, што крымінальныя адрасы былі раскіданыя па ўсяму гораду.

Крымінальная хроніка Гародні даволі багатая. Вось кароткі пералік некаторых яе эпізодаў. У канцы 1922 г. п'яныя афіцэры ў рэстаране «Еўропа» пабілі паліцэйскіх, а потым яшчэ і ўзнялі страляніну. Адзін з іх быў паранены[21]. Наогул, вайсковы гарнізон у горадзе быў прычынаю шматлікіх авантур. Нвыпадкова «Dziennik Grodzieński» звярнуўся да вайсковых уладаў з патрабаваннем, каб яны навучылі падуладных паводзінам на вуліцах[22].

У пачатку 1927 г. быў абрабаваны гарадскі ламбард. За злоўжыванні ў лютым 1927 г. быў звольнены секвестар магістрата Абрам Прэнер[23]. У сярэдзіне чэрвеня 1927 г. газета «Nowy Dziennik Kresowy» інфармавала пра выпадкі крадзяжоў. У прыватнасці, у Рэфеса Дэбона скралі адзенне на суму 3 тыс. злотых; у Тадэвуша Жангалевічу з вул. Пясковай № 4 – грошы і адзенне на суму каля 180 зл.; у Зыгмунта Туральскага з вул. Паліцыйнай

№ 36 – адзенне на 60 злотых (усе гэтыя крадзяжы здзейснілі злодзеі, што пранікалі ў кватэры праз вокны); у Хяшова Шылінга з плошчы Стэфана Баторыя – ежу на суму каля 155 злотых; у Меланіі Штал з вул. Падольнай № 95 – мужчынскія туфлі[24] ды інш.

А вось хроніка здарэнняў за 1929 г. Паводле справаздачы камісарыята паліцыі ў Гародні ў студзені гэтага году былі здзейсненыя тры крадзяжы з «уламаннем», чатыры кішэнныя кражы, трынаццаць звычайных. Акрамя таго, былі складзеныя 242 адміністратыўныя пратаколы[25]. У лютым мела месца 21 крадзеж, адзін выпадак спекуляцыі, было складзена 155 пратаколаў[26]. У сакавіку было зафіксавана 30 розных крадзяжоў, адзін выпадак спекуляцыі, два выпадкі махлярства. Складзена 237 пратаколаў[27]. У красавіку зарэгістравана 24 крадзяжы, тры выпадкі махлярства, адно цяжкае цялеснае пашкоджанне, а таксама двойчы «падкідалі» дзяцей[28]. У траўні здарылася 27 крадзяжоў, было складзена 477 адміністрацыйных пратаколаў[29]. На чэрвень выпала 21 крадзеж, два падкінутых дзіцяці ды адзін аборт. Было складзена 227 розных пратаколаў[30].

У ліпені колькасць крадзяжоў склала 12, таксама зарэгістравалі два выпадкі махлярства, пратаколаў было складзена 238[31]. У жніўні адбылося 23 крадзяжы, адно махлярства, адна падробка грошай[32]. У верасні лічба крадзяжоў знізілася да 18, ізноў зафіксавалі адзін выпадак падробкі грошаў і падабралі адно падкінутае дзіця[33]. У кастрычніку – 16 крадзяжоў (у адным выпадку скралі каня, якога пазней знайшлі забітым з садранай скурай), адзін выпадак махлярства. Найбольш значнымі падзеямі сталіся растрата грошай на суму 19 тыс. злотых касірам скарбовай касы ў Гародні Янам Глэмбоцкім і... знаходка выбуховых рэчываў у праваслаўным саборы па вул. Ажэшкі[34]. У снежні 1929 г. колькасць крадзяжоў падскочыла да 36, тройчы фіксаваліся выпадкі «падкідання» дзяцей, двойчы – махлярства, а таксама ўпершыню зарэгістраваныя выпадкі парушэння законаў палітыкамі і паліцыяй[35].

«Dziennik Grodzieński» таксама распавёў чытачам гісторыю сям'і Міцкевічаў, якія забыліся ў габрэйскай краме па вул. Ерусалімскай кашалёк з грашыма. Калі яны вярнуліся, гандляр заявіў, што ніякіх грошай не было… Толькі пагроза пайсці да мясцовага рабіна прымусіла гаспадара «знайсці» згубленае[36]. У 1930 г. на старонках мясцовай прэсы гарадзенцы абмяркоўвалі справу злоўжывання гарадскіх манцёраў, якія кралі... электрычнасць[37].

Менавіта крымінальны свет Гародні першым адчуў подых надыходзячай бяды: «У свеце станавілася ўсё больш трывожна. – Узгадваў пазней у сваіх успамінах былы палітычны вязень гарадзенскай турмы Якуб Міско. – У паветры яўна пахла порахам. А ўдзень 1 верасня над горадам з'явіліся нямецкія самалёты. [...] Заводы і фабрыкі сталі накіроўваць сваіх дэлегатаў у магістрат з патрабаваннем вызваліць з турмы палітвязняў. Пад іх націскам

гарадскія ўлады згадзіліся на гэта. [...] Тады крымінальнікі – многія з іх працавалі на кухні, у лазні – дазнаўшыся, што магістрат прыняў рашэнне вызваліць толькі палітычных, схапілі сякеры, малаткі, ламы і пачалі самохаць адчыняць дзверы і брамы. [...] Вязні-крыміналісты кінуліся па крамах [...] цягнулі ўсё, што можна было панесці»[38].

А вось радкі пра вызваленне з турмы Піліпа Пестрака: «Выпускалі групамі – па 5-6 чалавек, аддавалі нашу адзежу на складзе. І раптам крыкі, неймаверна дзікія крыкі: «Няхай жыве Чырвоная Армія!» Хто крычыць? Аказалася, крымінальныя зняволеныя ў другім будынку турмы ўзнялі бунт: чаму іх не выпускаюць? Сталі біць вокны, ламаць дзверы. Адміністрацыя іх выпусціла. Крымінальнікі кінуліся на склад за нашай адзежай, разрабавалі, што хацелі, а рэшту раскідалі па турэмным двары»[39].

Савецкі аўтар пасля заняцця Гародні Чырвонай арміяй апісаў гэты эпізод лаканічна: «Вышэйшая турэмная адміністрацыя ўцякла і перапужаная ахова была вымушана [...] па аднаму вызваляць палітычных зняволеных. Калі пра гэтае даведаліся крымінальныя злачынцы, яны выламалі дзверы сваіх камер, а за адно і дзверы ў камеры палітзняволеных»[40].

Гэта быў знак надыходзячай катастрофы...

---

1 Nowe życie. 20.12.1928. № 113. S. 4.
2 Наше утро. 30.01.1919. № 25. С. 2.
3 Тамсама. 14.1.1919. № 11.
4 Тамсама. 1919. № 37.
5 Тамсама. 1919. № 37, 39, 41.
6 І. Антонаў, Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны у 1919-1921 гг.: Малюнкі гвалту і зьдзеку фацетных польскіх паноў на Беларусі: (Мае перажываньні ). – Б. м., 1921. С. 28.
7 Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл. (далей ДАГВ) Ф. 52, воп. 1, адз. з. 654, арк. 5–10, 12.
8 Эхо. 16.2.1923.
9 Wł. Jarmolik, Świat przestępczy przedwojennego Białegostoku // Białostocczyzna. 1992. № 4 (28). S. 32–33.
10 Gazeta Białostocka. 23.12.1912. № 6. S. 87.
11 Wł. Jarmolik, Świat przestępczy przedwojennego Białegostoku... S. 32–33.
12 Dziennik Kresowy. 22.2.1938. № 52 . S. 4.
13 Wł. Jarmolik, Świat przestępczy przedwojennego Białegostoku... S. 34–36.
14 Тамсама. S. 32.
15 Ilustrowany dziennik ludowy. 3.08.1939. № 191. S. 4.
16 Dziennik Grodzieński. 16.2.1922. № 1. S. 4.
17 Ул. Ярмолік налічыў у міжваенны час у Беластоку ад 150 да 400 і болей жанчын, якія гэтым займаліся // Wł. Jarmolik, Świat przestępczy przedwojennego Białegostoku... S. 36-37.
18 О. Соболевская, В. Гончаров, Евреи Гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк: Норд-Пресс, 2005. С. 128–129.
19 ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 4, арк. 182–183.
20 Тамсама. Ф. 17, воп. 1, адз. з. 172, арк. 68.

[21] Тамсама. Адз. з. 201, арк. 41.
[22] Dziennik Grodzieński. 14.3.1922. № 23. S. 3.
[23] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 2, арк. 1, 15, 17.
[24] Nowy Dziennik Kresowy. 18.06.1927. S. 4.
[25] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, адз. з. 200, арк. 1.
[26] Тамсама. Арк. 39.
[27] Тамсама. Арк. 76.
[28] Тамсама. Адз. з. 201, арк. 1.
[29] Тамсама. Арк. 41.
[30] Тамсама. Арк. 83.
[31] Тамсама. Арк. 119.
[32] Тамсама. Адз. з. 202, арк. 1.
[33] Тамсама. Арк. 33.
[34] Тамсама. Арк. 69.
[35] Тамсама. Арк. 143.
[36] Dziennik Grodzieński. 12.9.1922. № 167. S. 3.
[37] ДАГВ Ф. 46, воп. 1, адз. з. 17, арк. 84 адв.
[38] Я. Міско, Маё маўклівае сэрца: З літаратурнай спадчыны. – Мінск, Юнацтва, 1983. С.143–147.
[39] П. Пестрак, Незабыўнае: З успамінаў аб вызваленні // Збор твораў у пяці тамах. Том 5. – Мінск, 1986. С. 168–172.
[40] П. Лидов, Взятие Гродно // Свабодная Беларусь. 1940. № 77. С. 3.

*Ларыса Міхайлік,*
*PhD (Гродна)*

# Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921 – 1939 гг.

Паводле эканамічных паказчыкаў, разглядаемы перыяд не быў аднародным. Умоўна тут можна вылучыць некалькі этапаў:

I. 1918–1926 гг. – пасляваенная эканамічная адбудова, для якой быў характэрны невялікі рост гаспадаркі пры яе агульным значным адставанні ад іншых краін Еўропы;

II. 1926–1930 гг. – адносны эканамічны рост, падчас якога значна палепшылася становішча ў гаспадарцы, зменшылася беспрацоўе;

III. 1930–1935 гг. – глыбокі эканамічны крызіс, значны спад прамысловай вытворчасці;

IV. 1935–1939 гг. – паступовая стабілізацыя гаспадаркі і яе развіццё[1].

Польскі ўрад пачаў рабіць захады па выпрацоўцы метадаў і фарміраванні структур сацыяльнага забеспячэння і дапамогі насельніцтву ўжо ў першыя гады незалежнасці. Пільнасць вырашэння гэтай задачы дыктавалася нізкім узроўнем жыцця насельніцтва і цяжкім эканамічным становішчам II Рэчы Паспалітай (далей РП) пасля Першай сусветнай і польска-савецкай вайнаў. Першыя крокі ў арганізацыі сацыяльнай дапамогі былі зроблены яшчэ ў студзені 1919 г., калі Юзаф Пілсудскі падпісаў шэраг дэкрэтаў, што датычылі арганізацыі працы, сацыяльнага страхавання ў выпадку хваробы, а таксама апекі над мігрантамі. У гэтыя гады на сацыяльныя патрэбы выдзяляліся нязначныя сродкі[2]. У далейшым былі выпрацаваны агульныя правілы, запісаныя ва Уставе ад 16.08.1923 г.[3] Устава пастанаўляла, што рэалізацыя сацыяльнага забеспячэння насельніцтва ажыццяўляецца Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння (з 1932 г. – Міністэрства працы і сацыяльнай апекі); Міністэрствам грамадскага здароўя; Міністэрствам унутраных спраў.

Структура дзяржаўнай сістэмы сацыяльнага забеспячэння Польшчы выглядала ў міжваенны перыяд наступным чынам. Непасрэдна курыравалі сацыяльную дапамогу дэпартаменты сацыяльнага страхавання і сацыяльнай апекі Міністэрстве працы і сацыяльнай апекі. Першы меў у сваім складзе дзве секцыі: Каса хворых і Секцыя міграцыі і пенсій, а другі – чатыры секцыі (Інспекцыі сацыяльнай апекі; Апекі над дзецьмі і моладдзю; Апекі над дарослымі; Дапамогі пры працаўладкаванні).

Паводле Уставы пра сацыяльнае забеспячэнне ад 16.08.1923 г., непасрэднымі рэалізатарамі сацыяльнай палітыкі з'яўляліся органы самакіравання паветаў, гарадоў, гмінаў). Яны павінны былі ажыццяўляць апеку над немаўлятамі, дзецьмі і моладдзю, асабліва над сіротамі, дзецьмі з маральна і матэрыяльна неўладкаваных сямей; абарону мацярынства; апеку над састарэлымі, інвалідамі, псіхічна хворымі і няздольнымі да працы; апеку над бяздомнымі і ахвярамі вайны; апеку над зняволенымі пасля адбыцця імі пакарання; барацьбу з жабрацтвам, бяздомнасцю, алкагалізмам і прастытуцыяй; дапамогу прыватным і грамадскім установам сацыяльнага забеспячэння. Аналіз бюджэтных інвестыцый у сацыяльнае забеспячэнне паказвае дамінуючы ўклад у гэтую галіну менавіта органаў мясцовага самакіравання[4]. Гэта было абумоўлена тым, што сацыяльная сфера не была прыярытэтным напрамкам для дзяржаўных капіталаўкладанняў, якія канцэнтраваліся больш у галіне развіцця буйной прамысловасці і абароны краіны. Клопат пра малазабяспечаных, хворых і беспрацоўных перакладаўся на плечы лакальнай адміністрацыі.

Дзяржава не абмяжоўвала аказання сацыяльнай дапамогі з боку іншых органаў, арганізацый, юрыдычных і фізічных асоб. Сродкі ў гэтай галіне паходзілі з фондаў, грамадскіх і рэлігійных арганізацый, манаскіх згуртаванняў. Часцей, аднак, здаралася, што фонды і арганізацыі былі непасрэднымі «здзяйсняльнікамі» дапамогі, валодаючы сацыяльнымі ўстановамі, а дзяржаўныя і тэрытарыяльныя органы ўлады дапамагалі ім субсідыямі. Напрыклад, у 1937 г. таварыствы, што працавалі ў сацыяльнай сферы, мелі 50 % усіх устаноў апекі над дзецьмі, а дабрачынныя фонды – 7 % такіх устаноў і 20 % устаноў апекі над дарослымі[5]. У шматнацыянальнай краіне большасць дабрачынных таварыстваў паўставала на нацыянальнай і канфесійнай глебе. Польскія даследчыкі сцвярджаюць нават, што, практычна, усе фонды мелі характар нацыянальны і канфесійны, а г.зн. абслугоўвалі пэўныя нацыянальныя супольнасці[6].

## *Дзяржаўная сістэма сацыяльнага забеспячэння ў Гродне*

Гродна, як павятовы горад, у 1919-1920 гг. належаў да Віленскай акругі «Цывільнага ўпраўлення Усходнімі Землямі»[7]. Ён захаваў статус сталіцы павету ў 1920–1921 гг., але ў складзе Наваградскай акругі гэтага ж упраўлення, а затым у складзе Беластоцкага ваяводства, да якога быў далучаны 19.02.1921 г.

У далейшым паводле адміністратыўнага падзелу два паветы Беластоцкага ваяводства – Гродзенскі і Ваўкавыскі – належалі да «Усходніх Земляў» (Kresy Wschodnie), разам з ваяводствамі: Віленскім, Навагрудскім

і Палескім. Гэтая прыналежнасць абумовіла глыбокія сацыяльныя праблемы на Гродзеншчыне, паколькі ўвесь міжваенны перыяд згаданыя тэрыторыі адставалі ў эканамічным развіцці ад цэнтральнага рэгіёна (існавала неафіцыйнае, але агульнавядомае паняцце «Польшча А» і Польшча Б»). Найбольшыя эканамічныя цяжкасці і найбольшая розніца паміж рэгіёнамі адчувалася на пачатку 20-х гг., у т. л. і ў сферы сацыяльнага забеспячэння[8].

У першыя гады адраджэння Польшчы у Гродне назіраўся агульны спад гаспадаркі, абумоўлены ваеннымі дзеяннямі, чатырохгадовай нямецкай акупацыі (1915–1919 гг.) і неаднаразовай зменай палітычнай улады[9]. Галоўнымі праблемамі былі беспрацоўе, значная колькасць інвалідаў і мігрантаў (пераважна асоб без грамадзянства і сталага месца жыхарства), адсутнасць патрэбнай колькасці жыллёвага фонду ў горадзе і крызіс сельскай гаспадаркі, які выклікаў слабае забеспячэнне прадуктамі харчавання і рост цэн на іх. Ваенныя дзеянні паўплывалі і на змяншэнне колькасці насельніцтва, якое часткова загінула, а часткова эвакуіравалася далёка на Усход. Паводле спісу насельніцтва, праведзенага адміністрацыяй «Цывільнага упраўлення Усходнімі Землямі» у 1919 г., Гродна налічваў 28 165 чал. Прычым у працэнтных адносінах нацыянальны склад выглядаў наступным чынам: 32,9 % палякаў; 7,5 % беларусаў; 0,1 % літоўцаў; 58,9 % габрэяў і 0,6 % іншых[10].

Менавіта ў гэты перыяд у горадзе пачалі рабіцца першыя крокі на шляху вырашэння сацыяльных праблем. На падставе арт. 10 *Распараджэння Генеральнага камісара Усходніх зямель* ад 14.08.1919 г. «Аб дзейнасці гарадскіх гмін» у абавязак гарадскіх уладаў уваходзіла апека над беднымі, стварэнне і утрыманне дабрачынных установаў, арганізацыя шпіталяў і падтрыманне санітарных нормаў[11]. У гэты час пачалі адраджацца некаторыя з існуючых да рэвалюцыі сацыяльных установаў (прытулкі для дзяцей і інвалідаў), разгортваць сваю дзейнасць такія арганізацыі, як Польскі Чырвоны крыж і ствараецца дабрачынныя таварыствы. Гэтаму моцна спрыяла тое, што адным з першых крокаў гродзенскай улады сталася звальненне ад падаткаў на нерухомасць храмаў усіх веравызнанняў, а таксама ўсіх таварыстваў і арганізацый, што паводзяць дабрачынную і рэлігійную дзейнасць[12].

З моманту далучэння горада да Польшчы пытаннямі сацыяльнага забеспячэння займалася гарадская ўлада. Калі не хапала фінансавых ці арганізацыйных магчымасцяў, падключалася павятовая ўлада, а ў асобных выпадках і ваяводская. У горадзе знаходзілася таксама прадстаўніцтва цэнтральнага апарату – гэта Інспекцыя па працы 39 акругі[13] і Установа пасрэдніцтва пры працаўладкаванні[14]. Наяўнасць іх сведчыць пра значэнне,

якое надавалася праблеме працы і беспрацоўя ў маштабе краіны і таксама ў Гродне, дзе гэтая праблема абвастралася па меры павялічэння насельніцтва і ў перыяд эканамічнага крызісу.

Узросту насельніцтва спрыялі натуральны прырост[15] і міграцыя. У першае міжваеннае дзесяцігоддзе колькасць гараджан узрастала галоўным чынам коштам дэмабілізаваных і ўцекачоў з-за ўсходняй мяжы[16]. Як можна меркаваць па данясеннях паліцыі і паведамленнях прэсы, у гэты перыяд істотна знізіўся ўзровень жыцця. Адчуваўся дэфіцыт тавараў першай неабходнасці, пагоршыліся побытавыя ўмовы, ураслі цэны на тавары і паслугі. Пагоршыўся і стан бяспекі ў горадзе – павялічылася колькасць падкінутых дзяцей і дробных крадзяжоў. Здзяйснялі іх як збяднелыя мясцовыя жыхары, якія ўцякалі з крамаў, не заплаціўшы за тавары, так і »галадаючыя рэпатрыянты з Савецкай Расіі»[17].

Пазней колькасць рабочага класа і рамеснікаў істотна павялічылася коштам выхадцаў з вёскі, а таксама спецыялістаў, прыбываючых з цэнтральнай Польшчы. Насельніцтва павялічвалася на працягу ўсяго міжваеннага часу: 34 694 чал. (перапіс 1921 г.) і 49 669 чал. (перапіс 1931 г.)[18]. Гэта было абумоўлена далейшым развіццём адміністратыўнай, культурнай, асветніцкай сфераў жыцця горада, павелічэннем колькасці войска і паліцыі. Разам з тым недастатковая колькасць буйных прадпрыемстваў, а таксама фінансавая нядольнасць малых не спрыялі развіццю і стварэнню новых рабочых месцаў, правакавалі беспрацоўе.

*Структура гарадской дзяржаўнай сістэмы сацыяльнага забеспячэння*

Сацыяльныя праблемы вырашаліся ў рамках агульнапольскай сістэмы сацыяльнага забеспячэння. У ваяводскай управе ў Беластоку існаваў адмысловы аддзел. На ўзроўні старостваў справы сацыяльнай дапамогі былі размеркаваныя па некалькіх рэфератах (сектарах). Напрыклад, у Гродзенскім старостве чатыры рэфераты проста ці ўскосна вырашалі сацыяльныя праблемы[19]. У Гродзенскай гарадской управе таксама быў асобны Сацыяльны аддзел, у якім дзейнічалі Рэферат па сацыяльных пытаннях, Рэферат па ахове здароўя, а таксама Бюро па ўліку і кантролю за рухам насельніцтва, Інспекцыя санітарнага кантролю і Сектар спарадычнай дапамогі незаможнаму насельніцтву[20].

З Сацыяльным аддзелам супрацоўнічала Камісія па справах сацыяльнага забеспячэння[21], якая выбіралася членамі Гарадской рады. Яна вырашала справы гарадскога бюджэту на сацыяльныя патрэбы, выплаты субвенцыі ўстановам і матэрыяльнай дапамогі прыватным асобам, адкрыцця і закрыцця дабрачынных асяродкаў, разглядала іх статуты,

рэкамендавала асобы на пасаду сацыяльных апекуноў[22]. Старшынёй Камісіі, як правіла, быў прэзідэнт горада, намеснікам на працягу доўгіх гадоў – Стэфанія Носціц-Яцкоўская (1870–1945), якую можна лічыць найбольш вядомым у горадзе грамадскім дзеячам. Яна ўзначальвала Гродзенскае аддзяленне Чырвонага Крыжа, была намесніцай старшыні Саюзу грамадзянскай працы жанчын і Занёманскага дабрачыннага таварыства ім. Элізы Ажэшка. Грамадскія арганізацыі ў складзе Камісіі былі прадстаўлены членамі найбуйнейшых у горадзе Польскага і Габрэйскага дабрачынных таварystваў.

Інстытут сацыяльных апекуноў, які быў утвораны распараджэннем прэзідэнта РП у 1920 г. У крызісным 1933 г. на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства існавала 533 апякунчыя акругі і 624 апекуны[23]. Тэрыторыя Гродна была падзелена на 4 акругі, якія складаліся з 28 раёнаў, таму ў горадзе працавала 4 акруговых і 28 раённых апекуноў. Раённыя апекуны мелі яшчэ 20 намеснікаў. Паводле дадзеных з 1935 г. акруговымі апекунамі ў Гродне былі Генрык Ваёўнік (І акруга); Саламон Біргер (ІІ акруга); Стэфан Цыдзік (ІІІ акруга), Абрам Троп-Крыньскі (IV акруга)[24]. У пратаколах Гродзенскай гарадской рады за розныя гады фігуруюць прозвішчы і некаторых раённых апекуноў, у прыватнасці, Алены Лавіцкай, Зыгмунта Дзічмана, Адама Пукарэвіча, Фелікса Онасса, Станіслава Кульчыцкага, Ісака Длугасельскага ды інш.[25]

Апекуны выбіраліся радамі гмін (гарадоў) на тры гады з ліку асоб з беззаганнай палітычнай і грамадскай рэпутацыяй, у іх распараджэнні былі сродкі з бюджэту гміны ці горада для аказання дапамогі. Абавязкам апекуна было веданне сацыяльных праблем у падлеглай яму акрузе і дакладнае вывучэнне матэрыяльнага становішча асобы, якая звярнулася за дапамогай. На кожную такую асобу ён павінен быў скласці дакумент з інфармацыяй пра членаў сям'і, узрост, веравызнанне, прафесію, адукацыю, стан здароўя, стаж пражывання ў Гродне, месца апошняй працы і заробак, а таксама сродкі існавання ў дадзены момант. На падставе праведзенага апытання і азнаямлення з бытавымі ўмовамі прасіцеля апякун прымаў рашэнне аб мэтазгоднасці аказання дапамогі.

Сродкі на сацыяльныя мэты магістрат атрымліваў з Міністэрства сацыяльнага забеспячэння, Фонду працы, ваяводскага і павятовага сацыяльных аддзелаў, страхавых унёскаў, а таксама агульнапольскіх арганізацый, якія падтрымлівалі канкрэтныя катэгорыі насельніцтва[26]. Выкарыстоўваліся таксама ўласныя даходы ад арэнды гарадской нерухомасці, электрастанцыі, мясакамбіната, аплаты за лячэнне, за санітарнае і ветэрынарнае абслугоўванне і г. д.

*Метады дапамогі патрабуючаму насельніцтву*

Да абавязкаў сацыяльнай службы горада належала апека над: мацярынствам, дзецьмі з убогіх сем'яў і сіротамі, састарэлымі, бяздомнымі, былымі зняволенымі, невылечна хворымі, дапамога беспрацоўным, уцекачам і інвалідам. Клопат пра дзяцей палягаў на іх змяшчэнні ва ўстановы апекі і выхавання, дадатковым харчаванні, арганізацыі летняга адпачынку і навагодніх святаў, закупцы зімовага абутку і выдзяленні прыватных стыпендый. Клопат пра дарослых – на падтрымцы хоспісаў і багадзельняў, закупцы паліва для бедных сем'яў, кампенсаванні малазабяспечаным пахаванняў, лячэння ў шпіталях і амбулаторыях, выдзяленні ім аднаразовай грашовай або харчовай дапамогі.

На ўсе гэтыя мэты магістрат прадугледжваў сродкі ў сваім гадавым бюджэце: у 1919 – 42 %; у 1920 – 31,5 %; у 1923 г. – 14,42 %; у 1928 – 5,83 %; у 1933 г. – 10,9 %; у 1934 г. – 16,5 % і г. д., але іх заўсёды не хапала[27]. Як можна меркаваць, на сацыяльныя асяродкі фармальна выдзяляліся аднолькавыя квоты з разліку на адну асобу, незалежна ад яго канфесійнай прыналежнасці, а розніца ў памеры субсідый залежала ад профілю сацыяльнага асяродка і ад колькасці выхаванцаў ці пацыентаў. Найбольш атрымлівалі шпіталі для невылечна хворых (габрэйскі і хрысціянскі хоспісы), значна менш – прытулкі для дзяцей-сірот, з якіх найменш – прытулкі, дзе дзеці былі толькі ў дзень, а самыя малыя квоты даставаліся багадзельням. Напрыклад, у бюджэце на 1934/1935 г. усе гродзенскія дзіцячыя прытулкі планавалася фінансаваць аднолькава з разліку 0,54 зл. на 1 дзіця ў дзень, але сумы атрымаліся розныя, бо, напрыклад, польскі ўтрымліваў 140 выхаванцаў, рускі – 20, а габрэйскі («Цэнтас») – 90[28]. Хоспісы Пані міласэрнасці св. Вінцэнта а'Поля і Габрэйскай гміны атрымалі з разліку 1,2 зл. на 1 асобу, а багадзельні Польскага дабрачыннага таварыства (ПДТ) – з разліку 0,36 зл. на 1 асобу[29].

Рэгулярна штогод выдзяляліся сродкі з гарадскога бюджэту і на летні адпачынак дзяцей, які адбываўся ў лагерах (калоніях) з кругласутачным або дзённым побытам. У 1933 г. кошт утрымання 1 дзіцяці складаў 1,7 зл. (кругласутачны) і 0,5 зл. (дзённы). Прыкладна 40 % коштаў пакрывалі бацькі, рэшту складалі субвенцыі ад органаў самакіравання. Лагеры належалі ці арандаваліся габрэйскім ТАЗ і хрысціянскім Жаночым саюзам грамадскай працы. Дзеці накіроўваліся па канфесіянальнай прыкмеце. Заўсёды прадугледжваліся сродкі і на спарадычныя акцыі: навагоднюю вечарыну для салдат, падтрымку таннай кухні для інтэлігенцыі, матэрыяльную дапамогу ўбогім, дровы для малазабяспечаных сем'яў, бясплатнае лячэнне беднага насельніцтва і г. д.

Памер гадавых субсідый дабрачынным арганізацыям, а асабліва

дадатковыя фінансавыя датацыі і ільготы залежалі ад розных прычынаў. Уплывала палітычная лаяльнасць арганізацыі, наяўнасць іншых крыніц фінансавання і асоб у складзе гарадской рады ці сацыяльнай камісіі, якія маглі лабіраваць яе інтарэсы. Напрыклад на пачатку 20-х гадоў Беларускі прытулак, які знаходзіўся пад апекай Беларускага нацыянальнага камітэту, атрымаў 18 адмоўных адказаў на свае просьбы аб дапамозе[30]. У той жа час улады дазволілі правесці свае мерапрыемствы ў гарадскім тэатры польскім і габрэйскім арганізацыям з аплатай толькі 50 зл. за святло і пакрыццём коштаў абслугі, а рускай – за 25 % кошту прададзеных білетаў[31]. Для Рускага дабрачыннага таварыства ўстанаўлівалася 20 % зніжка за электраэнергію[32].

Найбольш цяжкім з эканамічнага пункту гледжання аказаўся для гродзенцаў 1933 г. У данясенні паліцыі за I квартал гэтага году гаварылася, што «па прычыне цяжкага матэрыяльнага становішча настрой шырокіх мас насельніцтва прыгнечаны»[33]. Год адзначыўся і шматлікімі антыўрадавымі акцыямі: выступленнямі супраць высокіх падаткаў, байкотам манапольнай прадукцыі, вывешваннем транспарантаў, распаўсюджваннем камуністычнай літаратуры, лістовак, забастоўкамі і нават актамі тэрору. Паліцыя прызнавала, што «найгорш справа бяспекі выглядае ў Гродзенскім павеце», дзе «агітацыя знаходзіць найбольш моцны водгук сярод беларусаў», і, што асабліва «значныя эфекты падрыўныя элементы дасягнулі ў Гродне»[34]. Абвінавачанні ўраду за наступствы крызісу былі чутныя і з боку «легальнай апазіцыі», між іншым на сходзе хрысціянскіх дэмакратаў, які адбыўся 25.06.1933 г. у Гродне з удзелам сенатара Карфанці і некалькі дэпутатаў сейму, а таксама на мітынгу, арганізаваным ППС і «Бундам» на пляцы Ст. Баторыя 1 Мая таго ж года[35].

У гэтым годзе Ваяводская ўправа накіравала старастам і прэзідэнтам гарадоў ліст, у якім інфармавала, што ў сувязі з пагаршэннем фінансавага становішча дзяржавы Міністэрства сацыяльнага забеспячэння (МСЗ) зніжае квоты дапамогі патрабуючым на 10 %[36]. Адпаведна гродзенскі магістрат скараціў датацыі на прытулкі, багадзельні і яслі на 10–30 %, а на таварыствы да 50 %[37]. Гродзенская гарадская рада выдала ў 1933 г. на сацыяльнае забеспячэнне 10,9 % гадавога бюджэту (189 тыс. зл.)[38], але гэта істотна не паўплывала на становішча. Паводле матэрыялаў сацыяльных апекуноў, у гэты час у гродзенскіх прытулках не хапала месцаў для ўсіх патрабуючых і істотна павялічылася колькасць тых, што звярталіся да дабрачынных арганізацый па матэрыяльную дапамогу. Так, у просьбе гродзенца г. Русіка ў ПДТ ад 17.02.1933 г. гаварылася, што яму «няма чаго есці»[39]. Нягледзячы на гэта, яго просьба была адхіленая, як і многія іншыя ў гэты крызісны год. Не дапамагалі нават асабістыя заслугі прасіцеля. Адзін з былых «легіянераў» Ю. Пілсудскага апеляваў да самой Аляксандры

Пілсудскай, просячы хаця б «якой-небудзь аднаразовай дапамогі» па прычыне «страшэннай матэрыяльнай галечы»[40]. Частымі сталі паведамленні і аб падкінутых дзецях, якіх галодныя маці пакідалі ў цягніках, пад дзвярыма мясцовых прытулкаў і манастыроў[41].

У далейшым па меры выхаду краіны з крызісу эканамічнае становішча ў горадзе пачало выпраўляцца, але галоўныя сацыяльныя праблемы заставаліся, паколькі ў правінцыяльнай гаспадарцы не адбывалася істотных структурных перамен, або яны наступалі вельмі павольна. Усе сацыяльныя захады ўлады былі «кропляй у моры», і дапамогу маглі атрымаць адзінкі. Так у бюджэце горада на 1936/1937 г. было закладзена 450 зл. на пахаванне бедных. Кошт пахавання вагаўся ў межах 30 зл., гэта значыць, што на бясплатнае пахаванне маглі разлічваць толькі 15 гродзенцаў. Таксама на лячэнне бедных магістрат вылучыў 67 245 зл.[42] Прыкладна 48 % гэтай квоты ішло на лячэнне ў гарадскім шпіталі. Калі ўлічыць, што кошт 1 дня лячэння складаў 5,5-8,5 зл., то квота на бясплатнае лячэнне ў гарадскім шпіталі была разлічана на 11-12 чал. у дзень[43]. Ацэньваючы ў справаздачы за 1936/1937 г. стан сацыяльнай дапамогі, беластоцкі ваявода прызнаў яе «недастатковай адносна існуючых патрэбаў»[44].

*Барацьба з беспрацоўем*

Беспрацоўе прысутнічала ў эканамічным жыцці горада на працягу ўсяго міжваеннага перыяду, хаця ўзровень яго вагаўся ў розныя гады ў залежнасці ад стану эканомікі краіны.

Калі разглядаць становішча ў Гродзенскім павеце (з улікам Гродна), то напрыклад, у перыяд 1927–1933 гг. колькасць зарэгістраваных беспрацоўных вагалася ад 858 чал. у год (1929) да 2 555 чал. (1933).

***Табліца № 1. Стан беспрацоўя ў Гродзенскім пав. (з улікам Гродна). 1927–1933 гг.***

| Гады | 1927 | 1928 | 1929 | 1930 | 1931 | 1932 | 1933 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць беспрацоўных | 2080 | 1019 | 858 | 1238 | 1668 | 1878 | 2555 |

Крыніцы: Дзяржаўны архіў Беластоцкага ваяводства (ДАБВ), Ф. 47, адз. з. 36, арк. 15, адз. з. 39, арк. 33, адз. з. 47, арк. 7, адз. з. 69, арк. 34; Ф. 47, адз. з. 72, арк. 24.

На падставе гэтых лічбаў можна сцвярджаць, што ў маштабе Гродзенскага павету беспрацоўе не ўяўляла сабою значнай пагрозы. Калі абапірацца на дадзеныя 1931 г. (насельніцтва павету 213 100 чал., беспрацоўных 1 668 чал.), то ўзровень яго складаў усяго 0,8 %. Больш небяспечным яно лічылася ў горадзе, бо канцэнтравалася менавіта там, выклікаючы адчувальнае

пагаршэнне якасці жыцця, а разам з тым узрост палітычнай і сацыяльнай напружанасці, павялічвала колькасць бяздомных, уплывала на павелічэнне крымінальных злачынстваў.

Калі разгледзець сацыяльны склад беспрацоўных Гродна ў 1927 г., то сярод 874 зарэгістраваных дамінавалі некваліфікаваныя рабочыя (340 супраць 114 кваліфікаваных). Найбольш было працаўнікоў харчовай прамысловасці (243), найменш – сельскагаспадарчай (3). Без працы была і інтэлігенцыя – 77 чалавек[45]. Страта працы ставіла сем'і гродзенцаў у крытычную сітуацыю. Ганна Сабалеўская ўспамінае: «Матэрыяльная становішча пагоршылася пад канец 20-х гадоў, калі бацька страціў працу. Яго звольнілі нібыта па прычыне слабага здароўя і далі пенсію 63 зл. У той час мы наймалі двухпакаёвую кватэру на вул. Агароднай і плацілі ўладальніцы 20 зл. у месяц. Утрымацца з пенсіі (сям'я мела 5 дзяцей – аўт.) было цяжка, і бацькі пастаянна шукалі дадатковых заробкаў. Маці заўсёды нешта шыла, а бацька, звычайна, браў пілу і сякеру, станавіўся на рагу нашай вуліцы і чакаў, каб хто-небудзь наняў яго да пілавання дроў. Калі здаралася такая магчымасць, удавалася зарабіць 2-3 зл.[46]

***Табліца № 2. Стан беспрацоўя ў Гродзенскім пав. (з улікам Гродна). 1933 г.***

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| *Студзень* | *Люты* | *Сакавік* | *Красавік* | *Май* | *Чэрвень* |
| 2555 | 2180 | 2269 | 2285 | 1962 | 2021 |
| *Ліпень* | *Жнівень* | *Верасень* | *Кастрычнік* | *Лістапад* | *Снежань* |
| 2015 | 2029 | 2134 | 2112 | 2251 | 2295 |

Крыніцы: Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл. (ДАГВ), Ф. 57, воп. 1, адз. з. 249, арк. 18.

З табліцы відаць, што на працягу году колькасць беспрацоўных ўтрымліваецца прыкладна на аднолькавым узроўні (1,2-0,9 %), нязначна зніжаючыся ў летні перыяд (май-жнівень) і павялічваючыся пад канец году. Гэтая тэндэнцыя сведчыць аб тым, што структурнае беспрацоўе, абумоўленае агульным станам гаспадаркі, не мяняецца, а нязначнае яго зніжэнне было злучана з прыцягненнем пэўнай колькасці рабочых рук да часовай працы.

У змаганні з беспрацоўем адміністратыўнымі метадамі дамінавалі працаўладкаванне і матэрыяльная дапамога. Гарадскія ўлады не мелі юрыдычнай магчымасці ўздзейнічаць на ўладальнікаў прыватных прадпрыемстваў, якія самастойна вырашалі пытанні колькасці наёмных працаўнікоў. Не мелі яны і фінансавай магчымасці ўплываць на павелічэнне рабочых месцаў, бо дзяржаўны сектар у горадзе быў зусім малы. Абарона рынку працы палягала галоўным чынам на правядзенні дыскрымінацыйнай

палітыкі – перакананні прыватных прадпрымальнікаў да звальнення з працы непаўналетніх, замужніх жанчын, іншаземцаў і пенсіянераў. Гродзенец Юдэ Баярскі ўспамінаў, што ягоная маці была звольнена з тытунёвай фабрыкі, бо ў першую чаргу звальняліся жанчыны, якія мелі малых дзяцей, і бацька, які быў фурманам, застаўся адзіным карміцелем 7-асабовай сям'і. Зарабляў ён 3-5 зл. у дзень, а з гэтага павінен быў яшчэ штодзённа выдаваць 2,2 зл. на ўтрыманне каня. Сям'я апынулася ў галечы[47]. Часта здаралася, што звальняліся асобы ненадзейныя палітычна – тыя, што сімпатызавалі СССР ці камуністычным ідэям, або праваслаўныя, асабліва калі яны выступалі супраць паланізацыі[48]. Прадстаўнікі рускай меншасці Гродна напрыклад у сакавіку 1939 г. скардзіліся на сваіх сходах, што дзяржаўныя ўлады прымаюць на працу «выключна членаў Таварыства праваслаўных палякаў», а свядомых рускіх звальняюць[49]. Праваслаўная Ганна Сабалеўская ўспамінае: «У палове трыццатых гадоў у Гродне панавала страшэннае беспрацоўе. Мае старэйшыя браты мелі толькі сезонную працу, пераважна летам, а зімою жылі з дапамогі для беспрацоўных»[50].

Часовае працаўладкаванне (напрыклад, прыцягненне беспрацоўных да працы на будаўнічых пляцоўках) было часта ўжываным метадам барацьбы з беспрацоўем. Звычайна, часовыя працаўнікі наймаліся на летні перыяд і звальняліся ў верасні або кастрычніку. Улетку 1936 г. па распараджэнні Гродзенскага магістрата беспрацоўныя былі занятыя пры будове і рамонце 16 аб'ектаў горада, між іншым брукаванні дарог, рамонце пажарнага дэпо, пабудове Рабочага пасёлка, школ № 7 і 8, мосту па вул. Ажэшка і інш. Гэта дазволіла даць працу 370 асобам. Паводле дадзеных з верасня гэтага ж года агулам да будаўнічай працы было прыцягнутых больш за 1000 беспрацоўных[51]. Сродкі на часовае працаўладкаванне паходзілі з МСЗ і паступалі ў распараджэнне ваяводы. У крызісным 1933 г. МСЗ выдзеліла беластоцкаму ваяводзе ў рамках барацьбы з беспрацоўем прыкладна аднолькавыя квоты на публічныя работы і на акцыі дапамогі (адпаведна 47 367 зл. і 47 235 зл.)[52].

Матэрыяльная дапамога беспрацоўным паходзіла галоўным чынам з Фонду працы, філіялы якога (бюро) існавалі пры ваяводскім, павятовым і гарадскім аддзелах сацыяльнага забеспячэння. Фонд садзейнічаў працаўладкаванню, у т. л. часоваму. Мясцовая прэса (19.06.1934 г.) пісала: «Учора Фонд працы выслаў на будову чыгуначнай трасы Парэчча – Друскенікі яшчэ адну групу беспрацоўных у лічбе 60 чалавек. Дзённая аплата – 2,5 зл.»[53] Са сродкаў Фонду з 1933 г. па 1936 г. беспрацоўным выплачваўся невялікая грашовая дапамога, але тым, хто адмаўляўся ад «публічнай працы» яна не выдзялялася[54]. Пазней гэтая дапамога выплачвалася з грамадскіх сродкаў. У 1936 г. пры Фінансавым аддзеле Гродзенскай гарадской рады паўстаў

Камітэт па збору фінансаў на працаўладкаванне беспрацоўных. За 1936 г. Камітэт сабраў 45 463,46 зл. Найбольш ахвяравала войска (20 470,78 зл.), найменш – пенсіянеры (940,77 зл.)[55]. Грашовая дапамога выплачвалася з сацыяльных фондаў і раней, але не ўсім зарэгістраваным беспрацоўным, напрыклад у студзені 1928 г. у г. Гродна было толькі 74 пастаянных атрымальніка і 38 аднаразовых[56].

Гарадскія ўлады праводзілі таксама асобныя акцыі па падтрымцы беспрацоўных. Яны мелі індывідуальны характар і палягалі на аплаце за беспрацоўных коштаў лячэння, утрымання дзіцяці ў прытулку, пахавання, часам судовых выдаткаў ці выдзяленні асабліва патрабуючым прадуктаў харчавання. У 1928 г. у рамках такой акцыі адзінокім асобам выдзялялася 15 кг жытняй мукі і 1 кг сала (для хрысціян) або 1 кг алею (для габрэяў)[57]. Дапамога арганізоўвалася ў розных асяродках і на розных ўзроўнях: Школьная рада Гродна з 1928 г. прызначала стыпендыі бедным вучням рамесных вучылішчаў, а Гродзенскае староства накіроўвала вясковым гмінам распараджэнні збору садавіну і гародніну дзеля дапамогі беспрацоўным[58].

Да ўдзелу ў акцыях дапамогі заахвочваліся дзяржаўныя служачыя – паліцыя, войска, пажарныя, ураднікі. Папулярнай у міжваенны час была акцыя «Дадатковае харчаванне беднага дзіцяці»[59]. У Беластоцкім ваяводстве ў 1933 г. сярод 22 865 дзяцей, якія атрымлівалі дадатковае харчаванне было 16 710 дзяцей беспрацоўных (73 %)[60]. У гэтай акцыі актыўна ўдзельнічала паліцыя. Кожны паліцэйскі павінен быў ахвяраваць на харчаванне аднаго дзіцяці прыкладна 0,2 зл. у дзень[61]. У паліцэйскай кухні ў Гродне ў гэтым годзе харчавалася 11 беспрацоўных, а ў сем'ях паліцэйскіх на тэрыторыі павету – 150 дзяцей. За год падчас 9 такіх акцый гродзенскія паліцэйскія сабралі для беспрацоўных 5 477,7 зл. [62]

Да 1938 г. становішча з беспрацоўем у Гродне адносна стабілізавалася. І хаця паліцыя ўсё часцей рапартавала, што ў Гродне «забастовачных настрояў не заўважана»[63], яны ўсё ж існавалі. Напрыклад, «Nowy Grodzieński Kurjer codzienny» ад 9.05.1938 г. інфармаваў, што да забастоўкі рыхтуюцца працаўнікі бетоннай фабрыкі, якіх прымушаюць працаваць не чатыры, а шэсць дзён у тыдзень[64]. Гэтая ж газета змяшчала як драматычныя просьбы гродзенцаў дапамагчы з »якой-небудзь працай», бо няма чаго есці, няма адзення і абутку, пагражае прымусовае высяленне, так і лаканічныя афіцыйныя абвесткі пра пошукі працы. Працу ў асноўным шукалі адзінокія жанчыны без прафесіі і моладзь да 20 гадоў.

Гродзенская прэса таксама імкнулася па меры магчымасці дапамагаць беспрацоўным. У нумарах з лютага 1938 г. можна спаткаць заклікі: «Беспрацоўны чакае працы і хлеба! Ахвяруй грошы на зімовую дапамогу!»

альбо: «Зімовая дапамога – гэта патрэба дадзенай хвіліны, абавязак кожнага грамадзяніна». З'яўлялася інфармацыя і аб канкрэтных кроках у справе дапамогі. У прыватнасці, гродзенскія пажарныя перадалі на дапамогу беспрацоўным даход ад хакейнага матчу паміж клубамі «Баторый» і «Маккабі»[65]. Іншая газета ў траўні 1938 г. пасярэднічала пры кантактах беспрацоўных з ахвярадаўцамі, якія перадавалі патрабуючым харчовыя пасылкі ці дробныя ахвяры 1-2 зл.[66]

Афіцыйныя статыстычныя дадзеныя сведчаць пра тэндэнцыю зніжэння ўзроўню беспрацоўя пад канец 30-х гадоў.

***Табліца № 3. Стан беспрацоўя ў першым паўгоддзі 1939 г. у Гродзенскім пав. (без уліку Гродна) і ў Гродне.***

| Месяц | *Студзень* | *Люты* | *Сакавік* | *Красавік* | *Май* | *Чэрвень* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Павет | 444 | 525 | 490 | 254 | 214 | 176 |
| Горад | 2845 | 2971 | 2563 | 1712 | 1705 | 1739 |

Крыніцы: ДАБВ Ф. 47, адз. з. 106, арк. 41, 79, 116, 138, 154, 172.

За першае паўгоддзе 1939 г. беспрацоўе зменшылася на 60 % у павеце і на 39 % у горадзе. З пэўнай доляй хібнасці на падставе гэтых лічбаў можна меркаваць:

– аб непараўнальна большай колькасці беспрацоўных на душу насельніцтва ў горадзе, чым у павеце, што натуральна, паколькі вясковае насельніцтва жыло ў большасці з уласнага гаспадарства. Тая ж яго частка, што не мела зямлі і не знаходзіла працаўладкавання ў вёсцы, папаўняла шэрагі рабочага класа або беспрацоўных у горадзе.

– аб няўхільным і хуткім зніжэнні беспрацоўя. Выключэннем з'яўляецца чэрвень, калі ў горадзе яно нязначна павысілася, што было звязана з закрыццём аднаго з прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай прамысловасці. У ліпені ж гэты паказчык ізноў зменшыўся да 1502 чал. Такім чынам, агульная тэндэнцыя зніжэння дзейнічала і пазней.

## *Дзейнасць грамадскіх дабрачынных арганізацый*

Прынцыпы дзейнасці згуртаванняў і таварыстваў у Польшчы рэгулявал спачатку часовы дэкрэт кіраўніка ўраду з 7.02.1919 г., а з 1932 г. – Закон аб таварыствах. У ім паняцце «таварыства» акрэслівалася, як «добраахвотнае аб'яднанне грамадзян, якое не дзейнічае з мэтай заробку»[67]. Тыя таварыствы, саюзы і фонды, якія дзейнічалі ў сферы сацыяльнай апекі, асветы і медыцыны, прызнаваліся асабліва важнымі для інтарэсаў дзяржавы і грамадства, залічваліся да арганізацый «найвышэйшай карыснасці», а таму

маглі разлічваць на розныя ільготы, звальненне з падаткаў і паніжэнне коштаў на паслугі. Разам з тым, яны кантраляваліся з боку старастаў і спецыяльных кантрольных камісій і органаў.

У Гродне дзейнічалі розныя грамадскія і рэлігійныя арганізацыі, якія таксама садзейнічалі дапамозе малазабяспечанаму насельніцтву. Сярод іх былі як агульнапольскія з мясцовымі аддзяленнямі, так і лакальныя, большасць з якіх мела канфесійны і нацыянальны характар. Паколькі ў горадзе ў міжваенны перыяд колькасна дамінавалі нацыянальныя супольнасці каталікоў (43,4 %) і іўдзеяў (42,6 %)[68], то яны і валодалі найбольшымі магчымасцямі ў сферы сацыяльнай дапамогі[69].

З агульнапольскіх у г. Гродна існавалі і працавалі ва ўзгаданай сферы наступныя арганізацыі:

*Хрысціянскія*: Польскі Чырвоны крыж (ПЧК), Жаночы саюз грамадскай працы (ЖСГП), Таварыства абароны жанчын (ТАЖ), Таварыства апекі над дзяўчатамі (ТАД), Беспрацэнтная каса пазыкі ім. Скаргі і Кілінскага.

*Іўдзейскія*: Таварыства аховы здароўя габрэйскага насельніцтва (ТАЗ), Таварыства апекі над габрэйскімі сіротамі «Цэнтас», Таварыства дапамогі бедным хворым «Лінас-Хацэдэк», Таварыства пашырэння працы сярод габрэяў (ТПП), Габрэйская беспрацэнтная каса пазыкі.

*Неканфесійныя*: Таварыства дапамогі моладзі «Прыстань», Таварыства апекі над зняволенымі «Патранат», Таварыства барацьбы з жабрацтвам і галечай, Таварыства апекі над сляпымі, Таварыства барацьбы з сухотамі, Саюз інвалідаў вайны.

Гродзенскімі лакальнымі арганізацыямі сацыяльнай накіраванасці былі:

*Хрысціянскія*: Польскае дабрачыннае таварыства (ПДТ) (вул. Пілсудскага, 28), Занёманскае дабрачыннае таварыства ім. Элізы Ажэшка (ЗДТ) (вул. Лелевеля, 12), Беларускае дабрачыннае таварыства (БДТ) (вул. Маставая, Барысаглебскі кляштар), Рускае дабрачыннае таварыства (РДТ) (вул. Ягелонская, 24), Евангеліцкае дабрачыннае таварыства (ЕДТ) (пл. Тэатральны, 9).

*Габрэйскія*: Філіял Беластоцкага таварыства аховы здароўя габрэяў [«OZE»] (вул. Банковая, 16), Камітэт дапамогі студэнтам габрэям («Auxilium Academicum Judaicum») (вул. Ажэшкі, 7), Сталовая для незаможных (вул. Гараднічанская, 16).

*Рэлігійныя*: Праваслаўнае брацтва св. Сафіі. Каталіцкія манаскія ордэны: сс. Найсвяцейшай сям'і з Назарэту, сс. Св. Вінцэнта дэ Поля, сс. Служкі Найсвяцейшай Марыі Панны Беззаганнай, аа. Францысканцы, а таксама Рымска-каталіцкае дабрачыннае таварыства пры Фарнай парафіі [ФДТ].

У валоданні дабрачынных таварыстваў знаходзіліся ўстановы лячэння, апекі і выхавання. Дзейнасць таварыстваў палягала на зборы сродкаў

на ўтрыманне гэтых асяродкаў апекі, а таксама на дапамогу насельніцтву і правядзенне спарадычных дабрачынных акцый. Для збору сродкаў выкарыстоўваліся розныя метады: дабрачынныя балі, латарэі, акцыі продажы сімвалічных «цаглінкаў» на будову ці рамонт таго ці іншага аб'екту, выкананне валанцёрамі таварыства нейкіх прац (мыццё бялізны ці шыццё ваеннага абмундзіравання, продаж уласных вырабаў і г. д.), добраахвотныя ахвяраванні, у т. л. з боку мясцовай арыстакратыі і заможнай часткі гараджан.

Хто ж працаваў у гэтых таварыствах?

*Польскае дабрачыннае таварыства*

Польскае дабрачыннае таварыства ў Гродне было зарэгістравана пасля 1921 г., але можна лічыць, што яно працягвала традыцыі ПДТ, якое паўстала ў горадзе ў сярэдзіне XIX ст., аб'яднаўшы найбольш вядомых, уплывовых і актыўных гараджан – палякаў[70]. У міжваенны час сярод сяброў ПДТ былі вядомыя гараджане: Надзея Друцкая[71], жонка графа Маўрыцыя О'Браена дэ Лацы (у 1930–1933 гг. прэзідэнта Гродна), актыўныя грамадскія дзеячы Фларэнціна дэ Вірыён[72] і Стэфанія Носціц-Яцкоўская.

ПДТ было самым заможным сацыяльным таварыствам у горадзе. Яно арандавала ў Гродне і ваколіцах некалькі участкаў зямлі і ўтрымлівала яслі-дзіцячы садок (вул. Легіяновая, 10)[73], прытулак для дзяцей-сірот (Дом дзіцяці св. Казіміра) (вул. Ажэшкі), багадзельню для састарэлых (вул. Рыдз-Сміглага?). Абслугоўвалі гэтыя асяродкі сёстры Служкі Найсвяцейшай Марыі Панны Беззаганнай (СНМПБ).

Яслі былі заснаваны ў 1915 г., а ў 1917 г. яны былі пераўтвораны ў прытулак для сірот абодвух палоў, які атрымаў назву «Дом дзіцяці св. Казіміра» і меў выдатныя бытавыя ўмовы. У 1921 г. у Доме дзіцяці працавала 6 сясцёр і знаходзілася 180 выхаванцаў рознага ўзросту (120 хлопчыкаў і 60 дзяўчынак)[74]. У 1934-1936 гг. у ім выхоўвалася 140 дзяцей, у 1936–1938 гг. – 125[75]. Кіравала Домам с. Марыя Скраінская, а ўсе працы выконвалі сёстры[76], колькасць якіх вагалася ад 6 да 9. Выхавацелямі хлопцаў былі с. Зіновія Пелчыньская, с. Валерыя Акцябрыньская і с. Фелікса Зарэмба. Дзяўчынак выхоўвала с. Моніка Барысоўна[77]. Дзеці былі розных веравызнанняў: каталікі, праваслаўныя і іўдзеі. Старэйшыя з іх хадзілі ў гарадскія агульнаадукацыйныя і рамесныя школы і вучыліся рамёствам у Доме дзіцяці, дзе існавалі кравецкая і шавецкая майстэрні.

У 1925 г. ПДТ заснавала новыя яслі, якія існавалі да 1939 г. і абслугоўваліся трыма сёстрамі СНМПБ. У 1934/1935 г. яслі налічвалі 72 выхаванцаў, у 1937/1938 г. – 70[78]. Акрамя гэтага ПДТ утрымлівала багадзельню, у якой у 1936–1938 г. пражывала да 90 старых[79].

*Таварыства аховы здароўя габрэйскага насельніцтва (ТАЗ)*

Гродзенскае аддзяленне ТАЗ падпарадкоўвалася агульнапольскай арганізацыі, заснаванай у 1921 г. на падмурку Таварыства аховы здароўя габрэяў, якое існавала яшчэ да рэвалюцыі. ТОЗ мела сетку амбулаторый і медыцынскіх цэнтраў, кансультацый для маці і дзіцяці, сацыяльных установаў і шпіталяў і фінансавалася прыватнымі асобамі, а таксама рознымі замежнымі арганізацыямі тыпу *American Joint Distribution Comitee*. У міжваеннай Польшчы з трох шпіталяў ТОЗ два знаходзіліся на тэрыторыі сённяшняй Беларусі – у Ружанах і Ваўкавыску.

Гродзенскім аддзяленнем ТОЗ (вул. Вітаўта, 12) кіравалі вядомыя ў горадзе прадстаўнікі габрэйскай супольнасці. У сярэдзіне 30-х гг. старшынёй быў д-р Абрам Ліпнік, галоўны ўрач габрэйскага шпіталя, па спецыяльнасці псіхіятр; сакратаром – Аўсей Сухаўлянскі, шматгадовы працаўнік магістрату, намеснік прэзідэнта горада (1930 г.); скарбнікам – д-р Саламон Біргер, педыятр.

У горадзе ТАЗ дзейнічала вельмі актыўна, ва ўладанні арганізацыі былі багадзельня, яслі, кансультацыя маці і дзіцяці, дзіцячая паліклініка, супрацьсухотавая паліклініка, стаматалагічны кабінет, кабінет электралячэння[80]. Штогод ТАЗ арганізоўвала летні адпачынак габрэйскіх дзяцей у маляўнічых мясцовасцях каля Гродна і дадатковае харчаванне дзяцей з бедных сем'яў. У багадзельні ў 1936/1937 г. утрымлівалася 75, а ў 1937/1938 г. – 25 старых[81]. На ўтрыманні ТАЗ быў таксама Дом апекі над невылечна хворымі пры габрэйскім шпіталі (вул. Баніфратарская, 36/11)[82]. У 1937/1938 г. у хоспісе знаходзілася 25 чал.[83] У 1936/1937 г. у Доме апекі пражывала 10, а ў 1937/1938 г. – 8 чал.[84]

*Занёманскае дабрачыннае таварыства ім. Э. Ажэшкі*

Занёманскае дабрачыннае таварыства (ЗДТ), якое ў 1939 г. мясцілася на вул. Лялевеля, 12, паўстала ў 1918 г. (па іншых дадзеных – у 1915 г.[85]) і першапачаткова называлася «Таварыствам апекі над ахвярамі вайны». У той час яму належала багадзельня па вул. Млынарскай, 25, паблізу касцёла аа. Францысканцаў. Пад канец 1919 г. Таварыства перастала існаваць, а багадзельня пераўтварылася ў прытулак для дзяцей і перайшла ў валоданне каталіцкага «Таварыства апекі над дзецьмі» (старшыня д-р Аляксандр Тальгейм).

Пасля далучэння Гродна да Польшчы прытулак і кіраўніцтва таварыствам перайшло да аа. Францысканцаў, статут таварыства быў перагледжаны і зацверджаны беластоцкім ваяводам[86]. Яно стала называцца *Занёманскім дабрачынным таварыствам імя Элізы Ажэшкі*. У статуце гаварылася, што ЗДТ ставіць сваёй мэтай: «Аказанне пастаяннай і часовай дапамогі

сіротам, найбяднейшым дзецям і адзінокім старым з прадмесця Гродна, а таксама тэарэтычнае і практычнае пашырэнне ў грамадстве прынцыпаў хрысціянскай этыкі»[87]. Праўленне ў 1928 г. выглядала так: старшыня – а. Андрыян Ледухоўскі, намеснік старшыні – Фелікс Карповіч, скарбнік – Наталля Маркоўская, сакратар – Рычард Стэфаньскі. Усяго Таварыства налічвала 170 сяброў[88]. Яно дзейнічала пад кіраўніцтвам аа. Францысканцаў і старшынёю заўсёды быў гвардыян францысканцаў з кляштара Маці Божай Анёльскай (а. Маўрыцы Мазурэк (1924–1927 гг.), а. Эдмунд Дулік (1927–1936 гг.), а. Андрыян Ледухоўскі (1936–1939 гг.). Ні ў статуце, ні ў назве арганізацыі не падкрэслівалася яе «каталіцкасць». Вызначаўся толькі «хрысціянскі» характар Таварыства.

У міжваенны перыяд ЗДТ належаў дзіцячы прытулак па вул. Млынарскай, 25, у якім атрымлівалі харчаванне і адукацыю сіроты і дзеці з найбяднейшых сем'яў ва ўзросце 4-7 гадоў. Абслугоўвалі прытулак сс. Служкі Найсвяцейшай Марыі Беззаганнай. У 20-я гг. у прытулак прыходзіла да 38-40 дзяцей, а першай іх выхавацельніцай была с. Сільвестра Бахенко[89]. У 1934/1935 г. у прытулку было 35 дзяцей[90]. Галоўнай апякункай прытулку ў 20-я гг. была адміністратарка маёнтку князёў Друцкіх-Любецкіх Хмельніцкая, у 30-я – Міхал Панасік.

Галоўным фундатарам Таварыства былі дзяржаўныя органы. Так, паводле справаздачы ЗДТ за 1934/1935 г. сяброўскія складкі налічвалі толькі 6 зл., ахвяры прыватных асоб – 70 зл., у той час як субвенцыі ад камунальных саюзаў – 2685,74 зл., субвенцыі ад магістрату – 549,6 зл.[91] Фінансавае становішча таварыства было цяжкае, часта сёстры-выхавацельніцы (с. Аляксандра Ядкоўская (1924–1932 гг.), с. Соф'я Васілюк (1932-1945 гг.) не атрымлівалі зарплаты. У 1932 г. нават паўстала пытанне аб закрыцці прытулку. Але да гэтага не дайшло. Наадварот, сітуацыя паляпшылася, дзяцей нават пачалі карміць тры разы ў дзень, а не адзін раз, як раней[92].

Больш таго, гродзенскія аа. Францысканцы выступілі з ініцыятывай пабудовы вялікага дому для прытулку на вул. Млынарскай, 23. Быў створаны Камітэт на чале з а. Андрыянам Ледухоўскім, які ўзяў крэдыт на суму 50 000 зл. у Банку народнай гаспадаркі. Іншыя сродкі планавалася атрымаць з ахвяраванняў заможнай часткі гродзенцаў, да якіх Камітэт звярнуўся з адозвай унесці «хаця б сціплы ўнёсак у гэтую божую справу» [93]. Пабудове перашкодзіла вайна.

*Фарнае дабрачыннае таварыства*

Дабрачыннае таварыства пры гродзенскім фарным касцёле св. Францішка Ксаверыя (ФДТ) паўстала ў 1907 г. У статуце гаварылася, што Таварыства ставіць сваёй мэтай «пошук сродкаў дзеля паляпшэння матэры-

яльнага і маральнага становішча бедных каталікоў гродзенскіх парафій без адрознення полу, узросту, звання ці стану». Дзейнасць ФДТ паводле статуту палягала на «забеспячэнні адзеннем, харчаваннем і прытулкам незаможных, а бедных хворых – медычным абслугоўваннем на даму ці змяшчэнні іх у шпіталі, багадзельні, дапамозе ім у пошуках працы і ў пахаванні памерлых, уладкаванні непаўналетніх у сіроцкія дамы і прытулкі, або на выхаванне, дапамозе незаможным вярнуцца на радзіму»[94]. Таварыству дазвалялася адкрываць прытулкі і багадзельні, сталовыя для бедных, начлежныя дамы, шпіталі і амбулаторыі. У адрозненне ад ЗДТ Фарнае таварыства заўсёды фігуравала ў дакументах магістрату, як «рымска-каталіцкае»[95].

Першым старшынёю ФДТ стаў пробашч фарнай парафіі кс. Юлій Элерт, а ў склад ўправы ўвайшлі вядомыя ў горадзе постаці: князь Станіслаў і княгіня Марыя Святаполк-Чацвярцінская, граф Радрыг і графіня Марыя Патоцкія, княгіня Севярына Сапега і Аліна Урублеўская[96]. Фарнае таварыства адчыніла багадзельню Св. Юзафа і прытулак для непаўналетніх дзяцей Езуса Дзіцяці ў арандаваным доме (зав. Татарскі, 5). У 1910 г. яно выкупіла гэты дом і набыло зямлю па вул. Скідальскай. У тым жа годзе ў прытулку было 25 хлопчыкаў і дзяўчынак, а ў багадзельні 7 старых. З часам колькасць выхаванцаў прытулку павялічвалася: у 1917 г. іх было 32 (абодвух палоў), а ў 1921 г. – 41 (толькі дзяўчынкі)[97].

У 1919 г. прытулак Езуса Дзіцяці (вул. Бернардынская) пераўтварыўся ў прытулак для дзяўчат і стаў называцца «Фарным прытулкам св. Юзафа». Выхавацельніцамі былі сс. Служкі Найсвяцейшай Марыі Панны Беззаганнай, якія апекаваліся 57-65 дзяўчынкамі ва ўзросце 3-18 гадоў. У розныя гады колькасць выхаванак была рознай, што залежала ад матэрыяльных магчымасцяў прытулку: у 1924/1925 г. – 35[98], у 1934/1935 г. – 30, у 1936/1937 г. – 30, у 1938/1939 г. – 45[99]. Прымаліся ў прытулак сіроты, а таксама дзяўчынкі з бедных каталіцкіх сем'яў. Сіроты знаходзіліся на бясплатным пансіёне, рэшта павінна была аплачваць побыт. Паводле сведчання адной з выхаванак прытулку ў 1936-1939 гг. Тэрэсы Ш., месячная аплата ў ім складала 20 зл.[100] Маці Тэрэсы працавала служанкай у заможнай сям'і і зарабляла 30 зл. у месяц, што пад канец 30-х гадоў было ніжэй мяжы беднасці. Дзяўчынкі вучыліся ў школе пры пабернардынскім касцёле і атрымоўвалі навыкі вядзення хатняй гаспадаркі. Тэрэса Ш. сцвярджала, што ў прытулку панавала суровая дысцыпліна, а асабліва непаслухмяныя маглі нават атрымаць лінейкай па руках[101].

Старшынёй ФДТ заўсёды быў настаяцель фарнага касцёла св. Францішка Ксаверыя, ён жа гродзенскі дэкан. У міжваенны перыяд таварыства ўзначальвалі кс. Лявон Жаброўскі (1916–1927 гг.), кс. Баляслаў Сперскі

(1927–1931 гг.), кс. Ігнат Альшанскі (1931–1936 гг.), кс. Альбін Ярашэвіч (1937–1939 гг.)[102]. Дарэчы, кс. А. Ярашэвіч працягваў дабрачынную дзейнасць да 13.04.1940 г., патаемна, абапіраючыся на дапамогу сясцёр шарытак св. Вінцэнта дэ Поля, а ў перыяд нямецкай акупацыі стварыў «экуменічны» Грамадзянскі камітэт дапамогі ахвярам вайны. Камітэт існаваў толькі два месяцы ў 1941 г., але гэты факт стаўся падставай ягонага абвінавачання ў 1945 г.. Ён быў асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» і памёр 18.07.1946 г. у лагеры НКУС пад Мінскам. А ў 1992 г. яго рэабілітавалі «за адсутнасцю складу злачынства»[103].

*Беларускае дабрачыннае таварыства (БДТ)*

БДТ было заснаванае ў 1917 г. як філіял Беларускага дабрачыннага таварыства «Золак» у Вільні. З гэтага ж моманту яно пачало апекавацца Прытулкам для беларускіх дзяцей-сірот, які з часоў Першай сусветнай вайны знаходзіўся пры мужчынскім праваслаўным кляштары св. Барыса і Глеба (вул. Маставая). Пасля ліквідацыі «Золака» ў 1919 г. прытулкам апекаваўся Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) у Гродне, арганізаваўшы пры ім беларускую школу.

У 1921 г. у прытулку пражывала 20 хлопцаў, 83 дзяўчынкі і 18 старых[104]. Паводле інфармацыя сяброў БНК С. Баранава і П. Тамашчыка, у гэты час прытулак знаходзіўся ў вельмі цяжкіх фінансавых умовах, не атрымліваючы датацыі з боку дзяржаўных органаў. У 1922 г. старэйшыя дзеці былі накіраваныя вучыцца ў беларускую гімназію ў Вільні, а малодшыя былі размеркаваныя паміж Беларускім і Праваслаўным (пры РДТ) прытулкамі. У 1923 г. у Беларускім прытулку было 46 хлопчыкаў і дзяўчынак, у 1927 г. – 32. У гэты ж час з ліку сяброў яго апякунчай рады было створана Гродзенскае БДТ, склад якога быў лаяльны да існуючай улады[105]. Такім чынам, польскія ўлады паспрабавалі «дэпалітызаваць» прытулак, вывеўшы яго з-пад уплыву беларускіх нацыянальных арганізацый.

Пасля 1927 г. у дакументах магістрату БДТ ужо не згадваецца, але назва «Беларускі прытулак» фігуруе да 1934 г. У 1928 г. ён фігураваў у фінансавых дакументах у сувязі з пастановай магістрату ад 14.07.1928 г. аб аказанні грашовай дапамогі дружыне скаўтаў з гэтага прытулку на выезд у летні лагер[106]. Пастановай ад 7.12.1928 г. магістрат вяртаў кошты летняга адпачынку ўсіх сірот з Беларускага прытулку, выдзеліўшы суму ў 150 зл., з разліку 1,41 зл. на 1 дзіця[107].

У праекце гарадскога бюджэту на 1928/1929 г. была запланавана субсідыя на Беларускі прытулак у такім самым памеры, як і для каталіцкага Фарнага прытулку – 14 400 зл.[108] Падобна, што мова ідзе пра частку беларускіх дзяцей, якія раней апынуліся ў Праваслаўным прытулку. Павод-

ле дадзеных 1928 г., Барысаглебскі кляштар быў нядзейны, у ім пражываў толькі адзін манах, а ў будынку размяшчалася Мужчынская настаўніцкая семінарыя[109].

Калі верыць дакументам магістрату, субсідыі выдзяляліся і далей, але што раз, то ў меншым памеры: у бюджэце горада на 1932/1933 г. было прадугледжана для беларускіх сірот сума 1296 зл., у 1933/1934 – 363 зл.[110] Беручы пад увагу тое, што фінансы выдзяляліся з разліку на адно дзіця, то змяншэнне сумы азначае змяншэнне колькасці выхаванцаў. Пачынаючы з 1935 г. субсідыі выдзяляліся ўжо толькі Праваслаўнаму прытулку пры РДТ. Відавочна, што прытулак для беларускіх дзяцей, як асобны асяродак, канчаткова перастаў існаваць у 1933–1934 гг.

*Рускае дабрачыннае таварыства*

Рускае дабрачыннае таварыства (РДТ) паўстала ў міжваенным Гродне пасля 1921 г. з мэтаю падтрымкі праваслаўнага насельніцтва горада[111]. Спачатку яно мясцілася на вул. Ягелонскай, 24, а з 1930 г. на вул. Грандзіцкай, 2, у г. зв. Архірэйскім доме. Яно было ідэнтычна падобным арганізацыям у іншых гарадах Польшчы са значнай рускай дыяспарай (Варшава, Вільня), якія не абмяжоўвалі сваю дзейнасць толькі дабрачыннасцю, але станавіліся цэнтрамі культурна-грамадскага жыцця супольнасці.

Гродзенскае РДТ падтрымлівала навучанне рускай мовы, ладзіла спектаклі, вечарыны, запрашала вядомых артыстаў, спевакоў, пісьменнікаў і вучоных з шэрагу дзеячаў рускай эміграцыі. На мерапрыемствы РДТ збіралася да 600 чал., але актыўна дзейнічалі ў ім 25-30 чалавек[112]. Склад праўлення РДТ у 1928 г. быў наступны: Барыс Гагман (старшыня), Клаўдзія Станьская-Атовіч, Мікалай Седлярэвіч, Вераніка Радчанка, Вера Грыгель, Аляксандр Малашка[113]. На працягу многіх гадоў намеснікам старшыні быў актыўны дзеяч рускай меншасці М. Седлярэвіч, які ўдзельнічаў у выбарчых акцыях, падтрымліваючы кандыдатаў ад праваслаўнай супольнасці. Пры РТД пад кіраўніцтвам М. Седлярэвіча дзейнічала дружына рускіх скаўтаў[114]. Да 1938 г. Таварыства функцыянавала без асаблівых перашкодаў з боку дзяржаўных уладаў, якія лічылі яго «сацыяльна карыснай арганізацыяй» і ішлі ў некаторых пытаннях насустрач[115].

У валоданні РДТ быў Праваслаўны прытулак для дзяцей-сірот, які, паводле дадзеных 1926 г., знаходзіўся пры жаночым кляштары Нараджэння Багародзіцы (вул. Крэнтая). Магістрат штогод аказваў фінансавую дапамогу гэтаму прытулку на ўтрыманне дзяцей і арганізацыю летняга адпачынку. Паводле дадзеных з 1936-1937 гг., у прытулку для праваслаўных сірот пражывала 20 дзяцей. Гадавая субсідыя магістрату на яго ўтрыманне ў 1936-1938 гг., планавалася з разліку 0,54 зл. на 1 дзіця, як і на іншыя

прытулкі[116], аднак у гэтай субсідыі таварыству было адмоўлена. Праект гарадскога бюджэту на 1938/1939 г. таксама прадугледжваў для прытулку суму ў памеры 3942 зл.[117], але ў снежні 1938 г. пастановай гарадскіх уладаў РДТ было зліквідавана.

Закрыццё адбылося адразу пасля выхаду 19.11.1938 г. Дэкрэта прэзідэнта аб статусе ў Польшчы праваслаўнай аўтакефальнай царквы[118] і было звязанае з узмацненнем курса на «дзяржаўную асіміляцыю» праваслаўнага насельніцтва і актывізацыю руху г. зв. «праваслаўных палякаў». Ідэя паланізацыі царквы і ўзмацнення яе сувязі з дзяржавай існавала і раней, выклікаючы супраціў праваслаўных, але адміністратыўны націск абвастрыўся з вясны 1938 г.[119] У Гродне ў той час наступіў выразны падзел паміж большасцю праваслаўных гродзенцаў і сябрамі «Таварыства праваслаўных палякаў»[120], арганізацыі, што выступала за хутчэйшую паланізацыю царкоўнага жыцця. Адбываліся вострыя дыскусіі, як сярод духавенства, так і сярод вернікаў. У паліцэйскіх справаздачах з 1938 г. адзначалася, што сябры РДТ «канцэнтраваліся на культурна-асветніцкай дзейнасці», але разам з тым «вялі дыскусіі на тэму канфесійнай палітыкі»[121] і »змагаліся за рускасць царквы»[122]. У верасні 1938 г. за намеснікам старшыні РДТ Мікалаем Седлярэвічам пачала сачыць паліцыя[123].

За далучэнне да «праваслаўных палякаў» выступала гродзенскае ваеннае духавенства, за захаванне «рускасці» настаяцель Святапакроўскага сабору а. Ананій Сагайдакоўскі. Улады палічылі гэтага папулярнага ў Гродне святара ініцыятарам «смуты» і ў снежні 1938 г. перавялі яго на Валынь. У гэты ж час гродзенскае РДТ было закрытае, а яго сябры з мэтай захавання адзінства ўступілі ў Рускае дабрачыннае таварыства ў Варшаве[124].

Дзейнасць РДТ аднак канчаткова не спынілася, яно працягвала арганізоўваць спатканні, а мясцовае праваслаўнае духавенства адзначала ў сваім «Летапісе», што дзіцячы Праваслаўны прытулак, які перавялі з невыгоднага памяшкання ў будынак Архірэйскага дому, «працягвае існаваць і нават расквітаць, дзякуючы падтрымцы насельніцтва і нягледзячы на пазбаўленне яго магістратам некаторых субсідый»[125]. У паліцэйскіх дакументах за люты 1939 г. адзначалася, што гродзенская руская меншасць і далей настроена супраць «паланізацыйных крокаў царквы», а РДТ застаецца «цэнтрам русіфікатарскіх настрояў»[126].

Вялікую ролю ў сацыяльнай падтрымцы насельніцтва адыгрывалі таксама рэлігійныя арганізацыі.

*Праваслаўнае Сафійскае брацтва і сястрынства*

Сафійскае брацтва было заснаванае пры Сафійскім саборы (былая Фара Вітаўта), а яго статут быў зацверджаны арцыбіскупам Літоўскім

Аляксандрам 10.02.1882 г.[127] Як і іншыя рэлігійныя згуртаванні свецкіх, яно лічыла сваёй мэтай хрысціянскае выхаванне і дабрачыннасць.

У міжваенны перыяд Брацтва аднавіла сваю дзейнасць на падставе рэзалюцыі арцыбіскупа Алексія з 1927 г., але ў 1920-30-я гг. гэтая дзейнасць не была заўважальнай па прычыне адносна невялікай колькасці ў горадзе праваслаўнага насельніцтва і стратай праваслаўнай царквой дамінуючага статуса. Больш таго, да Сафійскага брацтва польская паліцыя адносілася насцярожана, паколькі лічыла, што яно мае «русіфікатарскія традыцыі яшчэ з перадваеннага часу»[128].

Пасля дэкрэту прэзідэнта ад 18.11.1938 г. Брацтва было яшчэ больш абмежавана ў дзеяннях. Паводле Летапісу, які вяло праваслаўнае духавенства, у 1939 г.: «Сафійскае Брацтва не магло праявіць хоць якой-небудзь заўважальнай дзейнасці»[129], а Гродзенскае староства імкнулася рэарганізаваць яго на ўзор польскага праваслаўнага брацтва. Але гэтаму супрацiўляліся і сябры Брацтва, і мясцовы біскуп Сава. Адзінае на што яны пагадзіліся, дык гэта на ўвядзенне ў склад праўлення «праваслаўнага паляка» Арцішэвіча, які на паседжанні гаварыў па-польску і выклікаў тым «незадаволенне большасці членаў праўлення».

На падставе ўзгаданага Летапісу можна меркаваць, што галоўным напрамкам дзейнасці Брацтва быў збор сродкаў на дапамогу дзіцячаму прытулку і беднаму праваслаўнаму насельніцтву: «Перад Вялікім Пастом арганізавана сястрынства пры саборы на чале са старшынёй і ўправай. Перад Святам Св. Пасхі яно сабрала 237 зл. і зрабіла святочны абед для 126 бедных сем'яў і дзіцячага прытулку»[130].

Але нават гэткая актывізацыя дзейнасці Брацтва (павелічэнне колькасці сяброў да 80, арганізацыя сястрынства пры саборы і пашырэнне дабрачыннай дзейнасці) выклікала непакой ваяводскай улады, і ў красавіку 1939 г. пачаўся адміністратыўны ціск з мэтай яго рэгістрацыі паводле ўзору польскіх таварыстваў, што азначала б яго паланізацыю. Гэтаму працэсу перашкодзіла вайна.

*Сёстры міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля*

Сёстры міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля або сс. шарыткі мелі пад сваёй апекай шпіталь для невылечна хворых – Дом апекі св. Людвікі (вул. Гарадніцанская, 23). Кіравала гэтай манаскай супольнасцю ў Гродне с. Людвіка Кроцін. Пад даглядам сясцёр у шпіталі ў 1936–1938 гг. знаходзілася 30 чал.[131] У чэрвені 1930 г. дзённы рацыён у Доме выглядаў наступным чынам: бульба 600 г., гародніна 400 г., хлеб жытні 500 г., хлеб пшанічны 350 г., цукар 25 г., крупы 100 г., сала 25 г., малако 160 г., мука 25 г., мяса 100-150 г., гарбата 6 г.[132] Магістрат падтрымліваў шпіталь, выдзяляючы сёстрам не толькі гадавыя

субсідыі, але і аднаразовыя датацыі і матывававаў гэта тым, што «Пані міласэрнасці, дапамагаюць людзям у крайняй галечы і з'яўляюцца добрымі спецыялісткамі, але маюць абмежаваныя сродкі»[133].

*Сёстры Найсвяцейшай Сям'і з Назарэту*

Сёстры Назаратанкі займаліся дабрачыннасцю ў Гродне ў невялікай ступені. Яны апекаваліся некалькімі састарэлымі жанчынамі ў сваім кляштары і штодзённа выдавалі пры кляштарнай браме каля 30 абедаў для бедных[134].

Таксама варта коратка ахарактарызаваць іншыя арганізацыі сацыяльнай накіраванасці.

*Аддзяленне Польскага Чырвонага крыжа*

Гродзенскае аддзяленне ПЧК складалася з 3-асабовага праўлення, 9 сяброў камітэту і 5 намеснікаў сяброў, сярод якіх былі вядомыя ў горадзе ўрачы, юрысты, ураднікі магістрату, а таксама жонкі мясцовых ураднікаў высокага рангу, якія прысвячалі свой час дабрачыннасці. У склад праўлення ў 1929 г. уваходзілі: Стэфанія Носціц-Яцкоўская (старшыня), д-р Ян Руп (намеснік старшыні), д-р Аркадзь Хігер (сакратар).

Аддзяленне валодала ў Гродне лячэбніцай (вул. Сапёрная, 16), Кансультацыяй маці і дзіцяці (вул. Касцельная, 2) і супрацьсухотавай паліклінікай. Пад яго патранатам працавала танная дзіцячая кухня[135]. Менавіта праз гэтае аддзяленне дэлегатка Савецкага Чырвонага Крыжа Паўліна Гаршэўская перадавала ў чэрвені 1921 г. адзенне і прадукты для савецкіх ваеннапалонных, якія знаходзіліся ў гродзенскай турме[136].

*Аддзяленне Жаночага саюзу грамадзянскай працы*

Жаночы саюз грамадзянскай працы (ЖСГП) быў заснаваны 25.03.1928 г. у Варшаве вядомай грамадскай дзеячкай Соф'яй Марачэўскай (1873–1958). У адпаведнасці са статутам 1928 г. Саюз ставіў мэтай:» адраджэнне Польшчы ў духу сапраўднай незалежнасці шляхам распаўсюджання ідэі польскай дзяржаўнасці, правядзення ў жыццё дэмакратычных ідэй, забеспячэння жанчынам непасрэднага ўдзелу ў дзяржаўным і грамадскім жыцці, выхавання як мага больш шырокіх жаночых колаў у духу падначалення асабістых інтарэсаў інтарэсам грамадства і дзяржавы»[137]. Саюз меў аддзелы ва ўсіх ваяводствах і паветах і лічыўся ў міжваенны час самай шматлікай і актыўнай польскай жаночай арганізацыяй патрыятычнага і сацыял-дэмакратычнага напрамку[138]. Фінансаванне яго адбывалася коштам сяброўскіх складак, грамадскіх ахвяраванняў і субсідый.

На сацыяльным полі ён праяўляў клопат галоўным чынам пра ахову

здароўя маці і дзіцяці, выхаванне дзяўчат. Гродзенскае аддзяленне ЖСГП, намеснікам старшыні якога была Стэфанія Носціц-Яцкоўская, дапамагала хрысціянскай Кансультацыі маці і дзіцяці, клапацілася пра дадатковае харчаванне дзяцей з бедных сем'яў і штогод арганізоўвала іх выезд на летні адпачынак.

*Аддзяленне таварыства дапамогі дзецям і моладзі «Прыстань»*

«Прыстань» была арганізацыяй, якая падтрымлівала вучнёўскую моладзь. Павятовы філіял гэтай агульнапольскай арганізацыі быў заснаваны ў Гродне 9.03.1929 г. Старшынёй на працягу ўсяго міжваеннага перыяду быў кс. канонік Антоні Курыловіч, пробашч пабернардынскага касцёла. У складзе першага праўлення былі прадстаўнікі розных веравызнанняў і сябры дабрачынных таварыстваў: Свехоўская, Мячынская, Цыдзік, Гагман, Калэцкі (іх намеснікі – праф. Кісялевіч, д-р Якімовіч, жонка маёра Сітка)[139].

Кс. А. Курыловіч (1876–1954) быў вядомым у горадзе грамадскім дзеячам. Яшчэ падчас Першай сусветнай вайны ён узначальваў дабрачынную секцыю Грамадзянскага камітэту, а пры пабернардынскім касцёле адкрыў у 1915 г. прытулак, дзе дзеці набывалі спецыяльнасці шаўцоў, краўцоў, вышывальшчыц і вязальшчыц. Пасля 1921 г. на падставе прытулку ён стварыў школу для дзяўчынак розных веравызнанняў, якая з 1935 г. пачала называцца «7-гадовая публічная Бернардынская школа № 3». Дзякуючы кс. А. Курыловічу ў горадзе ўзнікла аддзяленне «Польскай мацежы школьнай» і падлеглыя ёй тры сярэднія навучальныя ўстановы: гандлёвае і рамеснае вучылішчы і гімназія ім. Г. Сянкевіча. У міжваенны перыяд кс. А. Курыловіч быў дэпутатам Гарадской рады і ўзначальваў Камісію кантролю за школамі[140].

*Аддзяленне таварыства апекі над зняволенымі «Патранат».*

Гродзенскае аддзяленне Таварыства паўстала ў 1924 г. і займалася аказаннем align рознабаковай дапамогі (юрыдычнай, матэрыяльнай, медыцынскай) зняволеным гродзенскай турмы незалежна ад іх катэгорыі (палітычныя або крымінальныя). У склад першага праўлення ўваходзілі суддзя Адольф Матушэвіч (старшыня), вядомая польская пісьменніца Зоф'я Налкоўская[141], Фларэнціна дэ Вірыён, урач Клаўдзія Станьская-Атовіч і юрысты Станіслаў Земак, Вінцэнт Фюрстэнберг, Антоні Забакліцкі. Сярод членаў «Патранату» было шмат прадстаўнікоў гродзенскай інтэлігенцыі. Напрыклад, Пётр Хайноўскі, нам. старшыні акругавага суда, а потым натарыус, які прыбыў у Гродна ў 1921 г. з Кіева. У ягонай кватэры праходзілі вечарыны Кола сяброў літаратуры і мастацтва. Падчас акупацыі ён стаў кіраўніком групы Арміі Краёвай, але загінуў як закладнік у ліпені 1943 г. разам з усёй сваёй сям'ёй.

*Евангеліцкае дабрачыннае таварыства*

Таварыства аказвала спарадычную матэрыяльную дапамогу парафіянам. Займаўся гэтым «Жаночы саюз дапамогі бедным парафіянам» (пл. Тэатральная, 10), які існаваў пры евангеліцкай парафіі. Кіравала ім жонка ўрача-акуліста Яна Рупа.

*Таварыства апекі над габрэйскімі сіротамі «Цэнтас».*

Таварыства «Цэнтас» (вул. Скідальская, 6) мела на ўтрыманні дзіцячы прытулак і яслі. У прытулку знаходзіліся кругласутачна дзеці-сіроты, а таксама дзеці з бедных або няпоўных сем'яў на дзённым рацыёне. У 1937/1938 г. у яслях знаходзілася 20 немаўлят, а ў прытулку 70 дзяцей-сірот і 40 дзяцей з бедных сем'яў[142].

У заключэнні трэба адзначыць, што сістэма сацыяльнага забеспячэння міжваеннага Гродна складалася з двух сектараў: дзяржаўнага і грамадскага. Дзейнасць дзяржаўнага сектара палягала галоўным чынам на фінансавай падтрымцы грамадскіх арганізацый сацыяльнай накіраванасці, барацьбе з беспрацоўем і індывідуальнай дапамозе бедным. Грамадскі сектар быў даволі стракаты па накірунку сваёй дзейнасці і складаўся з аддзяленняў агульнапольскіх і лакальных арганізацый. Усе гродзенскія сацыяльныя асяродкі належалі грамадскім арганізацыям і мелі пераважна канфесійны і нацыянальны характар. Галоўным інвестарам у грамадскія арганізацыі была гарадская ўлада, а ўжо потым іншыя арганізацыі.

Паколькі міжваенны перыяд характарызаваўся прыспешанай паланізацыяй нацыянальных меншасцяў, барацьбой з камуністычнымі арганізацыямі і іх уплывам, перыядычным абвастрэннем ксенафобскіх настрояў, гэта не магло не ўплываць на сацыяльную сферу і праяўлялася ў палітычна матываваным падыходзе да праблемы дапамогі.

---

1 Albert A. (Roszkowski W.), Najnowsza historia Polski 1918–1980, Londyn 1991, s. 83, 93, 105, 133, 151–154, 157, 175–177, 253.

2 У 1920 г. – 0 % бюджэту на ахову здароўя і 1,2 % на сацыяльнае забеспячэнне (Гл. Weinfeld J. Tablice statystyczne Polski 1923, Warszawa-Bydgoszcz 1923, s. 81).

3 Dz. U. RP 1923, nr 92, poz. 726.

4 Dane z zakresu niektórych zadań publicznych // Samorząd Miejski. Nr 1–2, Warszawa 1938, s. 59.

5 Stowarzyszenia, związki i fundacje w II RP. Рэжым доступу: http://www.osektorze.ngo.pl. Дата доступу 11.04.2011.

6 Jasiewicz K., Polityka fundacyjna w II RP // Polityka Społeczna. 1990, Nr 2, s. 27.

7 Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich – цывільная адміністрацыя на тэрыторыі сённяшняй Беларусі і Украіны, занятай Войскам Польскім падчас польска-савецкай вайны. Структура была створаная на падставе дэкрэту ад 19.02.1919 г. Генеральнага цывільнага камісара, які падпарадкоўваўся Галоўнакамандуючаму Войска Польскага.

[8] Гл. Wiadomości Statystyczne GUS, Nr 11, Warszawa 1927, s. 398.

[9] У гродзенскай хроніцы з 1928 г. гаворыцца, што праходзячыя праз горад войскі нічога не пашкадавалі, нават забралі каней пажарнай часткі (Гл. Kołecki S., Kronika m. Grodna, 1928 r., s. 17).

[10] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл. (ДАГВ). Ф. 312(п) / S-72, адз. з. 964, арк. 13, 16.

[11] Тамсама. Ф. 352 / У-82, арк. 15.

[12] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 141, арк. 23.

[13] У сферы барацьбы з беспрацоўем тэрыторыя Польшчы была падзелена на некалькі акругаў. Гродна належала да 39 акругі.

[14] ДАГВ. Ф. 91/G-86, адз. з. 937, арк. 22.

[15] У Польшчы натуральны прырост на 1000 жыхароў склаў у 1921 г. – 10,8 а ў 1925 г. – 16,1. (Wiadomości Statystyczne GUS, Nr 23, Warszawa 1926, s. 303).

[16] З 1.10.1921 па 31.12.1923 у Гродна перабралася 2709 рэпатрыянтаў з Савецкай Расіі (Гл. Kołecki S., Kronika m. Grodna, 1928 r., s. 28).

[17] ДАГВ. Ф 17, воп. 1, адз. з. 12, арк. 1; Dziennik Grodzieński ад 19.10.1922 г.; Dziennik Kresowy ад 17.12.1922 г.

[18] Гл. Drugi powszechny spis ludności z dn. 9.12.1931, Warszawa 1938, s. 29.

[19] ДАГВ. Ф. 91/G-86, адз. з. 937, арк. 16.

[20] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 305, арк. 22-34.

[21] Усяго ў Беластоцкім ваяводстве існавала 192 гмінныя Камісіі па сацыяльным забеспячэнні.

[22] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 284, к. 53. Пратакол паседжання гарадской рады з 18.06.1935 г.

[23] Тамсама. Ф. 352/S-74, арк. 13.

[24] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 284, к. 47.

[25] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 27; Ф. 46, воп. 1, адз. з. 296, арк. 1,37.

[26] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 305, к. 67-68.

[27] Kołecki S., Kronika m. Grodna, 1928 r., s. 28; Ф. 46, воп. 1, адз. з. 281, к. 1–2.

[28] Дабрачынныя таварыствы: ПДТ – Польскае, ФДТ – Фарнае, ЗДТ – Занёманскае, РДТ – Рускае.

[29] ДАГВ. Ф. 336-1П/Б-90, адз. з. 1249, арк. 38–39.

[30] Чарнякевіч А. Прытулак для беларускіх дзетак // Біржа інфармацыі № 208 ад 23.10.2003 г.

[31] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 10, арк. 66.

[32] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 19, арк. 49.

[33] Тамсама. Ф. 17с, воп. 1, адз. з. 257, арк. 1.

[34] Гл. Дзяржаўны архіў Беластоцкага ваяводства (ДАБВ). Ф. 79, воп. 1, адз. з. 72, арк. 3, 16; ДАГВ. Ф. 17с, воп. 1, адз. з. 257, арк. 1.

[35] ДАГВ. Ф. 17с, воп. 1, адз. з. 257, арк. 8.

[36] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 195.

[37] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 282, арк. 11.

[38] Тамсама. Ф. 352 / S-4, арк. 111.

[39] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 3.

[40] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 76.

[41] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 90-93.

[42] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 42.

[43] Варта нагадаць, што ў гэты час месячная зарплата ў Гродне складала: ураднікаў ад 90 да 400 зл., інжынераў – 300–350 зл., пажарных 180–250 зл., санітараў у шпіталі – 140–180 зл., медсясцёр – 200–230 зл., сярэдняя пенсія – 75 зл. (Гл. ДАГВ, Ф. 46, воп. 1, адз. з. 305, арк. 22-34).

[44] ДАГВ. Ф. 352/ S-74, арк. 27.

45 ДАБВ. Ф. 47, адз. з. 39, арк. 13.
46 Sobolewska A. Moje Grodno // Europa Nieprowincjonalna, Warszawa 1999, s. 592.
47 Bojarski J. Moje Grodno // Europa Nieprowincjonalna, Warszawa 1999, s. 232.
48 Інтэрв'ю з 1999 г. з Ганнай Стасюкевіч, праваслаўнай жыхаркай г. Гродна.
49 ДАБВ Ф. 79, адз. з. 107, арк. 66.
50 Sobolewska A. Moje Grodno…, s. 595.
51 ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 287, арк. 1–4.
52 Тамсама. Ф. 352 / S-74, арк. 14.
53 Ostatnie Wiadomości Grodzieńskie. Nr 168 ад 19.06.1934.
54 ДАГВ. Ф. 57, воп. 1, адз. з. 249, арк. 18.
55 Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 312, арк. 1.
56 ДАБВ. Ф. 47, адз. з. 39, арк. 25.
57 ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 15, арк. 24.
58 У лістападзе 1931 г. напрыклад гміна Верцялішкі сабрала на гэтую мэту 7200 кг бульбы (Гл. ДАГВ, Ф. 46, воп. 1, адз. з. 122, арк. 71).
59 Усяго ў Беластоцкім ваяводстве існавала ў 1933 г. 69 пунктаў бясплатнага харчавання дзяцей, з якіх было 2 дзяржаўныя, 28 школьных, 39 грамадскіх.
60 ДАГВ. Ф. 336 – 1П/S-74, адз. з. 1, арк. 12.
61 Тамсама. Ф. 17, воп. 1, адз. з. 267, арк. 6.
62 Тамсама. Ф. 17с, воп. 1, адз. з. 281, арк. 87.
63 Тамсама. Ф. 17, воп. 1, адз. з. 333, арк. 19.
64 Nowy Grodzieński Kurier Codzienny 5 groszy, nr 127 ад 9.05.1938 г.
65 Dziennik Kresowy ад 21.02.1938 г.; Dziennik Kresowy ад 22.02.1938 г.; Dziennik Kresowy ад 25.02.1938 г.
66 Nowy Grodzieński Kurier Codzienny 5 groszy, nr 127 ад 9.05.1938 г.
67 Stowarzyszenia, związki i fundacje w II RP. Рэжым доступу: http://www.osektorze.ngo.pl. Дата доступу: 11.04.2011.
68 Паводле перапісу насельніцтва 1931 г. у Гродне было 21556 каталікоў, 21159 іўдзеяў, 6277 праваслаўных, 171 грэка-каталікоў (гл. Drugi powszechny spis ludności z dn. 9.12.1931, Warszawa 1938, s. 29).
69 Паводле дадзеных з 1933 г. у Беластоцкім ваяводстве са 136 таварыстваў сацыяльнага профілю 80 было габрэйскіх (гл. ДАГВ, Ф. 352 / S-74, арк. 11).
70 Вядома, напрыклад, што старшынёй ПДТ з 1883 г. быў адвакат Станіслаў Нагорскі, муж Э. Ажэшка.
71 Князёўна Надзея Друцкая (1898–1986), пісьменніца і перакладчык рускай класікі, мясцовы грамадскі дзеяч, у 1925–1937 гг. старшыня Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва, член Кола памешчыц і ПЧК.
72 Фларэнціна дэ Вірыён-Сыгетыньская (1850–1939), жонка памешчыка Мечыслава Антонія дэ Вірыёна (герб Леліва), мясцовы грамадскі дзеяч , сябра дабрачынных камісій і таварыстваў (ПЧК, «Патранат», ПДТ).
73 ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 92.
74 АССНМБ. Grodno – Dom Dziecka św. Kazimierza, s. 3.
75 ДАГВ. Ф. 333-1Р/В-90, адз. з. 1249, арк. 46–48, 50; ДАГВ, Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 14.
76 Паводле інфармацыі сясцёр, у 1925 г. ў прытулку на адміністратыўных пасадах было некалькі свецкіх.
77 АССНМБ. Grodno – Dom Dziecka św. Kazimierza, s. 4.
78 ДАГВ. Ф. 333- 1Р/В-90, адз. з. 1249, арк. 46–48, 50; ДАГВ, Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 14.

[79] Тамсама. Ф. 336 – 1Р/В-90, адз. з. 1259, арк. 48; ДАГВ, Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 42.
[80] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 313, арк. 81.
[81] Тамсама. Ф. 336 – 1Р/В-90, адз. з. 1259, арк. 48.
[82] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 134.
[83] Тамсама. Ф. 336 – 1Р/В-90, адз. з. 1259, арк. 48.
[84] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 42; Ф. 336 – 1Р/В-90, адз. з. 1259, арк. 48.
[85] Архіў Сясцёр Законных Беззаганнага Пачацця Маці Божай (АСЗБПМБ). J. Wróbel, Praca wychowawcza zgromadzenia: s. 124–126.
[86] Архіў Канвенту Айцоў Францішканаў Гродзенскіх (АКАФГ). Sprawozdanie ZTD za okres 1.04.1934-31.03.1935.
[87] Тамсама. Sprawozdanie zakładu opiekuńczego półotwartego dla dzieci i młodzieży im. Elizy Orzeszkowej.
[88] Makarczyk J., Stowarzyszenia i organizacje religijne oraz działalność charytatywna franciszkanów grodzieńskich w latach 1919-1939, Grodno 2011, s. 6. msp.
[89] АСЗБПМБ. M. Wójcik, Zgromadzenie, t. I, s. 240.
[90] ДАГВ. Ф. 336 – I P/W-90, адз. з. 1249, к. 50.
[91] АКАФГ. Sprawozdanie finansowe za okres 1.04.1934 – 31.03.1935.
[92] АСЗБПМБ. J. Wróbel, Praca wychowawcza zgromadzenia: s. 124–126.
[93] АКАФГ. List Komitetu Budowy do Konrada Łozińskiego, właściciela majątku Hołynka z 28.08.1938 r.
[94] Афанасьева Т. Ю., Благотворительное общество при Гродненском фарном костеле // Misericordia. Nr 2. Гродно, 2000. с. 25–26.
[95] ДАБВ. Ф. 46, адз. з. 304, к. 41.
[96] У Гродзенскім кафедральным касцёле св. Францішка Ксаверыя замешчаны мармуровыя памятныя дошкі ў гонар яе братоў, навукоўцаў Урублеўскіх.
[97] Афанасьева Т. Ю., Благотворительное общество… С. 25–26.
[98] АСЗБПМБ. Informacja o Stowarzyszeniu «Brzask», placówki w Grodnie.
[99] ДАГВ. Ф. 336 – I P/W-90, адз. з. 1249, к. 50; Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, к. 14; Ф. 336 – IP/В-90, адз. з. 1259, к. 46–48.
[100] Рэспандэнтка пажадала захаваць ананімнасць.
[101] Сведчанне Тэрэсы Ш., жыхаркі г. Гродна з 2011 г.
[102] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioecesis Vilnensis Pro Anno 1920, 1930, 1936, 1939.
[103] Гл. Dzwonkowski R., Leksykon duchowieństwa polskiego represjonowanego w ZSRS 1939–1988, Lublin 2003, s. 294
[104] Гл. Чарнякевіч А., Прытулак для беларускіх дзетак // Біржа інфармацыі № 298 ад 23.10.2003 г.
[105] Тамсама.
[106] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 15, к. 75.
[107] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 280, к. 1.
[108] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 305, к. 63-64.
[109] Тамсама. Ф. 46, воп. 2, адз. з. 6, арк. 48.
[110] Тамсама. Ф. 336-1П/Б-90, адз. з. 1249, арк. 38–39.
[111] Дакладнай даты заснавання гродзенскага РДТ устанавіць не ўдалася, але вядома, што ў 1926 г. яно ўжо існавала, а аналагічнае ў Варшаве было зарэгістравана ў 1925 г. (гл. Kalina M. Prawosławna cerkiew w II RP. Рэжым доступу: http://liturgia.cerkiew.pl. Дата доступу 15.08.2011.
[112] На лекцыі аб творчасці І. Буніна прысутнічала ў 1934 г. 200 чалавек,
[113] ДАБВ. Ф. 47, адз. з. 39, арк. 90.
[114] Інтэрв'ю з 1999 г. з Ганнай Стасюкевіч, праваслаўнай жыхаркай Гродна.

[115] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 19, арк. 49.
[116] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 42.
[117] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 305, арк. 63.
[118] У 1922 г. сінод праваслаўных біскупаў прызнаў Праваслаўную царкву в РП аўтакефальнай, г. зн. незалежнай ад РПЦ. Гэта выклікала незадавальненне значнай часткі духавенства і вернікаў.
[119] У маі 1938 г. дэлегацыя Саюзу арганізацый рускай меншасці, у складзе якой быў і старшыня варшаўскага РДТ М. А. Плямяннікаў, перадала прэм'еру РП Мемарыял, дзе між іншым выказвалася незадавальненне «неабгрунтаваным ўмяшаннем адміністрацыі ва ўнутраныя справы царквы» (гл. Sprawy narodowościowewo Nr 3, Warszawa 1938).
[120] У іншых крыніцах: «Дом праваслаўных палякаў ім. Стэфана Баторыя» (гл. Mironowicz E., Polityczne uwarunkowania funkcjonowania Kościoła prawosławnego w Polsce w latach 1920–1939. // Białoruskie Zeszyty Historyczne 2005, nr 24, s. 140).
[121] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, адз. з. 352, арк. 6.
[122] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, адз. 1. 101, арк. 52.
[123] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, адз. з. 333, арк. 21.
[124] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, адз. з. 107, арк. 31, 49.
[125] Черепица В. Н. Не потерять связующую нить. История Гродненщины столетий в событиях и лицах. Гродно 2003, с. 249.
[126] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, адз. з. 107, арк. 26.
[127] Орловский Е. Гродненская старина. Гродно 1910, с. 315.
[128] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, адз. з. 107, арк. 26.
[129] Гл. Черепица В. Н. Не потерять связующую нить... С. 250.
[130] Тамсама.
[131] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 42; Ф. 336 – 1Р/В-90, адз. з. 1259, арк. 48.
[132] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 19, арк. 69.
[133] Тамсама. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 282, к. 115.
[134] Michajlik L., Grodzieński Nazaret // Misericordia. Nr 3. Grodno 1996, s. 20.
[135] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 404, арк. 140.
[136] Тамсама. Ф. 55, воп. 1, адз. з. 10, арк. 1-3.
[137] Пашковіч А. Удзел польскіх грамадскіх арганізацый у выхаванні і асвеце насельніцтва Заходняй Беларусі (1921–1939) // pod red. Śleszyński W., Rola oświaty i szkolnictwa w procesie kształtowania się świadomości narodowej na pograniczu polsko-litewsko-białoruskim. Białystok 2007, s. 207.
[138] Члены Саюзу бралі ўдзел у сесіях Міжнароднай арганізацыі працы Лігі Нацый у 1931 г., Канферэнцыі па разбраенні ў 1932 г.
[139] ДАБВ. Ф. 47, адз. з. 47, арк. 177.
[140] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 284, арк. 90.
[141] У «Дзённіках» З. Налкоўскай з можна спаткаць поўныя спачування ўражанні пасля наведвання зняволеных гродзенскай турмы (Гл. Nałkowska Z. Dzienniki 1918–1929. Warszawa 1980).
[142] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз. з. 304, арк. 42; Ф. 336 – 1Р/В-90, адз. з. 1259, арк. 46.

*Тадэвуш Гавін,*
*PhD (Гродна-Беласток)*

# Практыка адносінаў савецкай і партыйнай улады да мясцовага насельніцтва ў першыя пасляваенныя гады ў Гародні і вобласці

Савецкая акупацыйная палітыка характарызавалася ліквідацыяй усіх структур і інстытутаў, якія існавалі ў апанаванай краіне, а таксама яе поўнай уніфікацыяй з СССР. Суправаджалася гэта своеасаблівай каланізацыяй, а таксама сістэматычным вынішчэннем усіх непажаданых з пункту гледжання новай улады элементаў[1].

Нягледзячы на прапагандысцкія заявы, новы рэжым, які ўсталяваўся пасля 17 верасня 1939 г., асабліва не звяртаўся да сялян і рабочых, якія, як гэта вынікала з афіцыяльнай дактрыны камунізму, павінны былі з радасцю вітаць перамены. Сістэма ў сваёй большасці абапіралася на «імпартаваных» людзей не толькі з усходняй Беларусі або суседняй Украіны, але таксама з іншых рэгіёнаў СССР. Для ажыццяўлення функцый кіравання на гэтыя тэрыторыі перасяліліся дзесяткі тысяч чалавек без уліку вайскоўцаў. Акрамя таго, з усходу прыбываў таксама дапаможны персанал, пачынаючы ад розных чыноўнікаў, настаўнікаў, разнастайных спецыялістаў і заканчваючы рабочымі разам з сем'ямі[2].

Усё гэта ўяўляла сабой натоўп каланістаў, якія напаўнялі краіну, паралізуючы ранейшае жыццё, знішчаючы яго каштоўнасці. Адбываліся эканамічныя змены і масавыя ідэалагічная апрацоўка, якая тычылася падстаў светапогляду. Рэжым найбольш вынішчаў рэлігійнае жыццё. Адбываліся рэпрэсіі супраць землеўладальнікаў, асаднікаў і багатага сялянства. Улада шырока прымяняла тэрор у самых розных формах[3].

Трэба адзначыць, што савецкая ўлада сваімі дзеяннямі ў перыяд 1939–1941 гг. скампраметавала сябе нават у вачах тых, хто, як здавалася, атрымаў выгоду ад пераменаў. Яна не пакідала ніякіх ілюзій у сутнасці ўласнай палітыкі, і польскі эміграцыйны урад, які супрацоўнічаў з заходнімі саюзнікамі, у свядомасці польскага насельніцтва пачаў атаясамлівацца з надзеяй на лепшую будучыню. Напярэдадні паўторнага ўступлення Чырвонай Арміі на былыя Усходнія Крэсы сітуацыя была цалкам іншая, чым у 1939 г. Польскае насельніцтва, а таксама і частка беларускага, памятаючы

«першыя Саветы», прымала гэтыя войскі не як саюзніка ў барацьбе з немцамі, але як новага акупанта[4].

На захадзе Беларусі вяртанне савецкай улады сустрэла неадназначную рэакцыю грамадства. Спачатку пераважала меркаванне аб часовасці савецкай улады, дамінаваў настрой чакання. Вясною і летам 1945 г. гэты настрой быў характэрны, напр., для Сапоцкінскага раёна Гродзенскай вобл., на тэрыторыі якога пражывала 90 % палякаў. Тут ішла сапраўдная вайна супраць савецкай улады, гінулі яе актывісты, распаўсюджвалася інфармацыя аб верагоднай вайне паміж Расіяй і Польшчай, якую падтрымаюць Англія і ЗША[5].

Грамадзянская адміністрацыя, якая была створана на занятых землях, у сваёй большасці складалася з асоб, якіх прыслалі з усходніх тэрыторый СССР. Яшчэ падчас вайны ў 1943 г. і на пачатку 1944 г. па рашэнню ЦК ВКП (б) з РСФСР на тэрыторыю Беларусі было прыслана 2 124 чал. на кіруючыя пасады ў органы партыйнай і савецкай улады. У 1944 г. ЦК ВКП (б) накіраваў у БССР яшчэ 429 чал. з усходніх абласцей. Сярод іх знаходзіліся 10 першых сакратароў абласных камітэтаў і 40 раённых[6]. У снежні 1944 г. ЦК ВКП (б) прыняў пастанову «Аб узмацненні партыйных і савецкіх органаў улады заходніх абласцей БССР». Тэмп перасялення кіруючых кадраў з усходу паскорыўся. Да чэрвеня 1945 г. з усходніх абласцей БССР прыехала 1 060 асоб дзеля працы ў партыйным апараце, а таксама 2 200 – у адміністрацыйным[7]. У другой палове 1944 г. на тэрыторыю Беларусі з усходу было прыслана таксама 1 059 асоб на працу у камсамольскія арганізацыі[8].

У 1945 г. у Гарадзенскую вобл. з усходу прыехала 89 чал., якія працавалі ў партыйным апараце і 176 – у адміністрацыйным[9]. У той жа час з ліку мясцовага насельніцтва было прапанавана на гэтыя пасады толькі 8 чалавек. У 1945 г. сярод 223-х кіраўнікоў сельсаветаў Гарадзенскай вобл., якія прадстаўлялі ніжэйшы пласт улады, толькі 132 (59,2 %) асобы былі мясцовага паходжання. Большасць з іх былі беларусы – 142 (64 %), рускіх было 55 (24,7 %), палякаў – 17 (7,6 %), украінцаў – 8, габрэяў – 1 120 чал. падчас вайны былі ў партызанскіх атрадах[10].

Як выглядала сітуацыя з працаўладкаваннем насельніцтва мясцовага паходжання ў структурах партыйнай і адміністрацыйнай улады ў Гродзенскай вобл. у 1946 г. адлюстроўвае ніжэй прадстаўленая табліца.

Дадзеныя табліцы сведчаць, што самую цяжкую працу (збор падаткаў, стварэнне калгасаў) даручалі якраз прадстаўнікам мясцовага насельніцтва. А вось невялікая колькасць дырэктараў школ з ліку мясцовага насельніцтва сведчыць аб тым, што такую справу, як выхаванне новага савецкага чалавека, давяралася толькі самым надзейным асобам. На гэтую пасаду пераважна падбіраліся кадры, якія прысылалі з усходу.

*Табліца 1. Работнікі мясцовага паходжання ў структурах партыйнай і адміністрацыйнай улады Гродзенскай вобл. у 1946 г.*

| *Урады* | *Чыноўнікі* | |
|---|---|---|
| | *Мясцовага паходжання* | *Усяго* |
| Кіраўнікі аддзелаў мясцовых і раённых камітэтаў ВКП (б) | 3 | 65 |
| Інструктары ГК і РК ВКП (б) | 5 | 63 |
| Прапагандысты ГК і РК ВКП (б) | 2 | 19 |
| Кіраўнікі партыйных кабінетаў | 1 | 16 |
| Намеснікі кіраўнікоў райвыканкамаў | 2 | 16 |
| Намеснікі кіраўнікоў райвыканкамаў сельскай гаспадаркі | 4 | 15 |
| Сакратары райвыканкамаў | 3 | 17 |
| Кіраўнікі гандлёвых аддзелаў райвыканкамаў | 2 | 17 |
| Намеснікі кіраўнікоў фінансавых аддзелаў райвыканкамаў | 4 | 12 |
| Інструктары фінансавых аддзелаў райвыканкамаў | 54 | 118 |
| Агенты фінансавых аддзелаў райвыканкамаў | 161 | 203 |
| Кіраўнікі раённых аддзелаў Нацыянальнага банка | 1 | 15 |
| Інструктары раённых аддзелаў Нацыянальнага Банка | 4 | 39 |
| Кіраўнікі раённых кас спажыўцоў | 4 | 15 |
| Кіраўнікі раённых асацыяцый спажыўцоў | 1 | 15 |
| Дырэктары падрыхтоўчых бюро | 3 | 15 |
| Інструктары і рэвізоры | 6 | 16 |
| Упаўнаважаны Міністэрства забеспячэння | 1 | 15 |
| Кіраўнікі аддзелаў гадоўлі буйной рагатай скаціны райвыканкамаў | 2 | 15 |
| Кіраўнікі калгасаў | 20 | 28 |
| Пракуратары | 1 | 16 |
| Памагатыя пракуратара | 1 | 11 |
| Сакратары судоў | 6 | 20 |
| Кіраўнікі аддзелаў культуры райвыканкамаў | 3 | 17 |
| Інструктары раённых аддзелаў народнай асветы | 2 | 42 |
| Дырэктары школ | 11 | 108 |

Крыніцы: S. Tokć, Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSRR (1945–1959) // Białoruskie Zeszyty Historyczne, № 21, 2004, s. 24, ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 1781, арк. 109

Як выглядаў нацыянальны склад кіруючых кадраў Гродзенскай вобл. у 1947 г. адлюстроўвае наступная табліца.

***Табліца 2. Нацыянальная структура кіруючых кадраў Гродзенскай вобласці ў 1947 г.***

| *Урады* | *Бел.* | *Руск.* | *Укр.* | *Польск.* | *Габр.* | *Інш.* | *Усяго* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Апарат Абласнога камітэта (АК) | 13 | 9 | 1 | - | - | 1 | 24 |
| Кіраўнікі аддзелаў АК | 2 | 5 | - | - | - | - | 7 |
| Інтсруктары АК | 15 | 13 | 2 | - | - | 1 | 31 |
| Апарат раённых і мясцовых камітэтаў (РМК) ВКП (б) | 64 | 57 | 3 | - | 2 | 2 | 128 |
| Сакратары РМК ВКП (б) | 31 | 18 | - | - | 1 | - | 50 |
| Кіраўнікі аддзелаў РМК ВКП (б) | 23 | 32 | 3 | - | 1 | 2 | 61 |
| Інструктары РМК ВКП (б) | 32 | 25 | 2 | - | 1 | 2 | 61 |
| Прапаганадысты РМК ВКП (б) Б | 24 | 36 | 1 | - | 2 | 2 | 65 |
| Апарат абласнога і раённых выканаўчых камітэтаў (АРВК) | 53 | 27 | 10 | - | 2 | 2 | 94 |
| Кіраўнікі аддзелаў сельскай гаспадаркі АРВК | 34 | 43 | 5 | - | - | 3 | 85 |
| Кіраўнікі калгасаў | 27 | 5 | - | - | - | 6 | 38 |
| Кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў | 20 | 21 | 3 | - | 8 | 1 | 53 |
| Кіраўнікі будаўнічых прадпрыемстваў | 16 | 4 | 2 | - | - | - | 22 |
| Кіраўнікі транспартных прадпрыемстваў | 5 | 8 | 2 | - | - | - | 15 |
| Кіраўнікі мясцовых аддзелаў народнай адукацыі | 14 | 3 | - | - | - | - | 17 |
| Кіраўнікі мясцовых аддзелаў здароўя | 9 | 4 | 1 | - | 1 | 1 | 16 |
| Пракуратары | 8 | 6 | 1 | - | - | - | 15 |
| Суддзі | 6 | 13 | 2 | - | - | - | 21 |
| Кіраўнікі раённых аддзелаў Міністэрства унутраных спраў | 2 | 10 | - | - | - | 2 | 14 |
| Кіраўнікі раённых аддзелаў Міністэрства грамадскай бяспекі | 1 | 14 | 4 | - | - | - | 19 |

Крыніцы: S. Tokć, Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSRR (1945-1959) // Białoruskie Zeszyty Historyczne, № 21, 2004, s. 126; ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 1810, арк. 22–29.

Усе кадры раённага і абласнога дзяржаўнага апарату Гродзенскай вобл. былі абраны з ліку савецкіх партызан. Каля 300 чал. былі пасланыя на курсы павышэння кваліфікацыі пры ЦК ВКП (б)[11]. З былых партызан былі створаны таксама раённыя аддзелы міліцыі. У Сапоцкінскім, а таксама ў Радуньскім раёне Гродзенскай вобл., дзе пражывала пераважна польскае насельніцтва, яны арганізоўваліся выключна з прыезджых кадраў. У Сапоцкінскім раёне кіраўнік раённага аддзела НКУС Гарлоў і кіраўнік міліцыі Банчук, выязджаючы па аперацыйных справах разам з сваімі падначаленымі, займаліся п'янствам і незаконнай канфіскацыяй маёмасці грамадзян. На іх рахунку таксама незаконныя арышты жыхароў раёна[12]. Падобныя дзеянні адбываліся таксама ў Радуньскім раёне[13].

Факты парушэння закону і п'янства «вызваліцеляў» фігуруюць у матэрыялах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобл. У прыватнасці, паведамляецца, што ў 1945 г. у в. Пескі Мастоўскага раёна п'яны раённы ваенны камісар скінуў з печы хворую жанчыну, пасля чаго вынес з хаты хромавыя боты, 1 кг цукру, 1 кг сыра, 1 літр гарэлкі[14].

З самага пачатку адносіны паміж прысланымі кадрамі і мясцовым насельніцтвам мелі напружаны характар. Невуцтва і нізкі ўзровень адукацыі[15], нежаданне прымаць мясцовыя ўмовы, традыцыі, а часта і адкрытая пагарда да іх выклікалі ў людзей непрыняцце гэтай улады. Шматлікія факты парушэння права, неабгрунтаваныя арышты, выпадкі збіцця, а таксама парушэнні нормаў паводзінаў станавіліся былі паўсюднымі[16].

Новая ўлада свае праблемы вырашала коштам мясцовага насельніцтва. Найлепшыя дамы ў Гародні занялі тыя савецкія чыноўнікі, якія першымі прыбылі ў горад у 1944 г. У цяжкі пасляваенны перыяд, калі ў вобласці існавала праблема выплаты настаўнікам грошай, па загаду міністра фінансаў БССР пачалі прадаваць дамы тых гарадзенцаў, што выязджалі ў Польшчу[17]. На Пленуме Гарадзенскага абласнога камітэта КП(б)Б была ўзнятая праблема адсутнасці жытла для савецкіх афіцэраў і савецкіх чыноўнікаў. Старшыня гарадскога выканаўчага камітэта Ражноўскі востра крытыкаваў старшыню Гарадзенскага раённага выканаўчага камітэта Сукачова: «Трэба не мець сумлення, каб пражываць у Гародні 4 гады, атрымаць зямлю пад будаўніцтва, грошы, і сабачай буды нават не пабудаваць. Акрамя таго, маючы 200–300 дамоў палякаў, якія выехалі ў Польшчу, вы маглі б частку гэтых дамоў перавезці ў Гародню, каб вашы чыноўнікі не мелі праблемы з пражываннем»[18]. Улады, аднак, вырашалі гэту праблему па-бальшавіцку: не ўкладваць інвестыцыі ў будаўніцтва, а забраць у адных і аддаць іншым.

У Гародні адміністрацыя сяліла прыезджых у дамах мясцовых жыхароў. Вельмі часта «кватаранты» (вайскоўцы, міліцыянеры, партыйныя чыноўнікі) прымушалі гаспадароў выселіцца. Так, жыхарку Гародні Рачкоўскую разам

з пяццю дзецьмі маёр Дарожка прымусіў пакінуць двухпакаёвую кватэру і выехаць у Польшчу. Начальнік пашпартнага аддзела, маючы пакой у кватэры гарадзенца Лапы, прымусіў яго выехаць разам з усёй сям'ёй[19].

Яшчэ больш нахабна паводзіла сябе вышэйшая савецкая наменклатура. Старшыня гарвыканкама Саўкоў незаконна выселіў жыхарку Вайцахоўскую з яе ўласнага дома на вул. Міцкевіча, а разам з ёй таксама ўсіх, хто там пражываў, у т. л. сям'ю вайскоўца Далгоўскага. Гэты дом пасля зробленага ў ім рамонту і абсталявання мэбляй павінен быў служыць новаму гаспадару. Нягледзячы на тое, што гэта справа нарабіла шуму і разглядалася на паседжанні бюро абласнога камітэта партыі, на якім Саўкоў быў зняты з пасады, ён усё ж такі застаўся супрацоўнікам аблвыканкама[20]. Падобных выпадкаў у гэты перыяд было шмат[21].

Улады БССР выдалі пастанову, накіраваную на паляпшэнне ўмоваў працы вясковай міліцыі. Цяпер кожны міліцыянер мог жыць у любым свабодным доме з забудовамі ў двары, мець 0,15-0,20 га зямлі. Мясцовыя ўлады павінны былі дапамагчы міліцыянерам набыць карову, свіней і хатніх птушак, забяспечыць іх коньмі і павозкамі, а таксама прадуктамі харчавання[22]. Гэта распараджэнне адкрывала дадатковыя магчымасці для злоўжывання ўладай[23].

Апошняе даволі часта было прадметам абмеркавання бюро абкама партыі. Міліцыянераў таксама прыцягвалі да адказнасці. У траўні 1946 г. міліцыянер Чудук з Радуньскага раёна адабраў у сельскага жыхара каня і прадаў яго. У тым жа годзе міліцыянер Шэсцярын, добра выпіўшы, разам з братам пабіў селяніна і адабраў 400 рублёў і 10 метраў тканіны. Аб гэтым ведалі іх начальнікі, але скаргаў не паступіла, і гэтыя міліцыянеры працягвалі службу[24].

Супрацьзаконныя паводзіны значнай часткі служачых Міністэрства унутраных спраў, Міністэрства грамадскай бяспекі і чыгуначнай міліцыі, злоўжыванні ўладай, амаральныя паводзіны былі прадметам размоў на Аб'яднаным пленуме абласнога і гарадскога камітэтаў партыі. Першы сакратар Васілішкаўскага РК КП(б)Б Багуцкі заявіў: «Мы ў сваёй дзейнасці ўзялі курс не на выхаванне кадраў з мясцовых жыхароў, а зрабілі стаўку толькі на прыезджых. Жыццё паказала, што значная іх частка аказалася ашуканцамі і аферыстамі, якія імкнуліся толькі да ўзбагачэння, што паспрыяла таму, што ў асобных месцах працоўныя масы былі адлучаны ад партыі і Савецкага ўрада. […] Там, дзе працуюць кадры, якія складаюцца з мясцовых жыхароў, няма парушэнняў рэвалюцыйнага заканадаўства, няма хабарніцтва і іншых дзеянняў, якія не адпавядаюць партыйным і савецкім працаўнікам»[25].

Парушэнні заканадаўства часта дапускалі іншыя чыноўнікі з усходу,

якія працавалі ў сферы эканомікі і ў органах савецкай улады. Існаванне наменклатурных спісаў вяло да таго, што парушальнікі проста пераводзіліся з аднаго месца ў іншае. Так, сакратар РК КП(б)Б у Сапоцкіне Міронаў скардзіўся вышэйшым уладам, што да яго ў раён быў накіраваны нейкі Доскін, які працуючы ў Радуньскім раёне моцна збіў чалавека, а на пасаду кіраўніка аддзела агітацыі і прапаганды быў накіраваны Ражноў, які таксама дапусціў супрацьзаконныя дзеянні ў тым жа раёне. Абодва былі звольненыя з працы ў Сапоцкінскім раёне за дрэннае выкананне сваіх абавязкаў і кепскія паводзіны[26]. Сакратар Шчучынскага РК КП(б)Б Гнедзька папракаў у п'янстве кадры, якія прысылалі з Гародні ў раён[27].

За два гады панавання ў Заходняй Беларусі ўлада канчаткова ўпэўнілася, што без падтрымкі мясцовых кадраў яна не здолее арганізаваць сістэму кіравання. У выніку, Пленум абласнога камітэта партыі звярнуў увагу РК КП(б)Б Свіслацкага і Сапоцкінскага раёнаў на тое, што яны не прымаюць рашэнняў аб «ачышчэнні савецкіх і гаспадарчых арганізацый ад неправераных асоб», і працягваюць практыку недаацэнкі мясцовых кадраў[28]. Начальнік Гарадзенскага пагранічнага атрада палкоўнік Грэкаў заявіў, што партыйныя і савецкія органы ў сваёй дзейнасці выпрацавалі несправядлівае стаўленне да мясцовага польскага насельніцтва. «Я лічу, – сказаў ён, – што трэба пакончыць з гэтым усеагульным прыгнётам палякаў, трэба лічыць іх савецкімі грамадзянамі». Звярнуў ён увагу і на тое, што праца з палякамі праводзіцца не на іх роднай мове[29].

Гэты ж самы пленум запатрабаваў ад партыйных арганізацый вобласці ўмацавання палітычнай работы сярод польскамоўнага насельніцтва і асабліва сярод «насельніцтва польскага паходжання». Абавязковым стала выкарыстанне польскай мовы. Улада імкнулася прыцягнуць польскае насельніцтва да ўмацаванне савецкай улады на гэтых тэрыторыях[30].

Адначасна ўлады рабілі ўсё, каб мага хутчэй беларусізаваць і русіфікаваць палякаў. Найлепшым доказам гэтага можа быць адпраўлены ў ліпені 1947 г. ліст Першага сакратара ЦК КП(б)Б М. Гусарава да сакратара ЦК ВКП(б) Б А. Жданава. У гэтым лісце Гусараў пісаў: «[…] Нягледзячы на тое, што партыйнымі арганізацыямі была праведзена велізарная агітацыйна-прапагандысцкая праца, палітычная сітуацыя ў заходніх абласцях БССР папранейшаму застаецца складанай. У апошнія тры гады значна павялічылася колькасць людзей, якія лічаць сябе палякамі, нягледзячы на тое, што адбывалася рэпатрыяцыя ў Польшчу, і колькасць польскага насельніцтва паменшылася. Беручы вышэй сказанае пад увагу, ЦК КП(б)Б лічыць неабходным правесці беларусізацыю апалячанага беларускага насельніцтва, а таксама рабіць акцэнт на шырокім развіцці беларускай і рускай савецкай культуры ў заходніх абласцях БССР, каб у бліжэйшыя гады далучыць

да беларускай і савецкай культуры апалячаных беларусаў і польскае насельніцтва, якое засталося ў рэспубліцы»[31].

Нацыянальная палітыка характарызавалася тэндэнцыяй да дэнацыяналізацыі палякаў, далучэння іх да беларускай ці рускай культуры, а таксама прымусовай саветызацыяй[32]. Спачатку ставілася задача пераканаць мясцовых палякаў у тым, што яны на самой справе толькі апалячаныя беларусы, а потым іх канчаткова асіміляваць. Уцягванне польскамоўнага насельніцтва ў працэс умацавання савецкай улады праходзіла з вялікай цяжкасцю. Так, у Ваўкавыску падчас выбараў у Вярхоўны Савет БССР людзі часта не пускалі ў свае дамы агітатараў, заяўляючы на парозе сваёй хаты: «Мы ўжо аддалі свой голас за нашага кандыдата Ісуса Хрыста і больш у нас няма аніякіх кандыдатаў»[33].

У 1947 г. улады Гарадзенскай вобл. звярнулі ўвагу на сітуацыю з міліцэйскімі кадрамі. Паседжанне бюро абласнога камітэту партыі адзначыла шматлікія факты правапарушэнняў, амаральных паводзінаў службовых асобаў у міліцэйскай форме, што аказвала негатыўны ўплыў на стан аператыўнай працы[34]. Аналагічная сітуацыя склалася таксама ў раённых і сельскіх саветах. Давялося правесці спецыяльнае паседжанне Гарадзенскага абласнога камітэта партыі. Яго матэрыялы сведчаць пра шматлікія злоўжыванні савецкіх чыноўнікаў у Скідзельскім раёне. У прыватнасці, куратар раённай асветы Яцук збег з 55 тыс. рублёў. Дырэктар раённага прамысловага камбіната Лашкоў таксама аказаўся ашуканцам, бо выдаткаваў на ўласныя патрэбы дзяржаўныя сродкі і ўцёк. Паўторна прызначаны на гэту пасаду Акіменка прысвоіў 3 тыс. рублёў, у выніку чаго быў зняты з пасады. Прызначаны на яго месца Коткін[35] прысвоіў ужо 9 тыс. рублёў, за што быў асуджаны. У гэтым раёне за 6 месяцаў 1946 г. змянілася 4 дырэктары раённага прамысловага камбіната і 3 куратары асветы[36]. Аналагічныя факты мелі месца ў іншых раёнах Гарадзеншчыны. Кіраўнік Мастоўскага раёна аддзела МГБ Скрабін на гэтым паседжанні заявіў, што арганізацыі нармальнай працы ў раёне перашкаджаюць г. зв. «восточники»[37].

Праблема крадзяжоў, незаконнага прысваення дзяржаўных сродкаў, п’янства, іншых правапарушэнняў закранула таксама высокапастаўленых савецкіх і партыйных чыноўнікаў. Гарадскі камітэт партыі за п’янства вырашыў выключыць з членаў партыі супрацоўніка гарадзенскага аблвыканкама Эльмана. Аднак бюро абкома партыі скасавала гэта рашэнне, улічваючы тое, што Эльман прызнаў сябе вінаватым і абяцаў выправіцца. Акрамя таго, ён быў удзельнікам бітвы пад Сталінградам[38].

Першы сакратар гарадзенскага абкама КП(б)Б Калінін быў абвінавачаны на Пленуме абкама ў сакавіку 1948 г. кіраўніком фінансавага аддзела аблвыканкама Елянеўскім у крадзяжы з сацыяльнага фонду больш за

30 тыс. рублёў[39]. Для параўнання адзначым, што ўвесь Мастоўскі раённы камітэт партыі на сацыяльныя і гаспадарчыя патрэбы атрымоўваў у той час з абласнога бюджэту 5 тыс. рублёў[40].

Парушаў правы першы сакратар, а следам ішлі падначаленыя. Так, кіраўнік аддзела гандлю і сацыяльнага харчавання Гусакоў, выкарыстоўваючы службовае становішча, купіў па заніжанаму кошту дом і карову. Каб пра гэта не даведаліся, то пакупку аформіў на жонку, таксама члена партыі. Працу рабочых, што збудавалі хлеў, ён аплаціў прадуктамі харчавання, што было парушэннем, прадукты выдзяляліся па талонам. Малако сваёй каровы ён прадаваў работнікам камітэта партыі. Камерцыйнымі гандлёвымі аперацыямі займаўся таксама кіраўнік прамысловага аддзела Сакальчук. Меў карову і прадаваў малако па рыначных коштах кіраўнік Зэльвенскага райвыканкама Гардзейчык. Начальнік абласной сельскай гаспадаркі Пачухін атрымаў ад дзяржавы карову, якую ён памясціў у Гарадзенскім раённым МТС і прымусіў яго дырэктара арганізаваць кармленне і выпас каровы. Дырэктар таксама адказваў за даенне каровы і дастаўку малака яе гаспадару[41]. Фактаў падобнага захавання чыноўнікаў, прысланых з усходу, было шмат. Уся «народная ўлада» выкарыстоўвала службовае становішча з мэтай асабістага ўзбагачэння.

Сакратар чыгуначнай партыйнай арганізацыі ў Ваўкавыску на тым жа Пленуме прызнаў: «Першы крок вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй характарызаваўся тым, што паўсюдна панавала атмасфера ўзбагачэння сярод дзяржаўных чыноўнікаў. Так, кіраўніцтва гарадзенскай чыгункі пасылала сотні вагонаў ва Усходнюю Прусію з мэтай прывезці адтуль розныя багацці: адзенне і мэблю для ўласнага карыстання. Людзі прыязджалі сюды не маючы нічога, а ад’язджалі з 2-3 вагонамі маёмасці»[42].

Маральны твар большасці савецкіх і партыйных чыноўнікаў быў непрывабным. Гэта была іншая «культура» агульначалавечых адносінаў, іншы свет, які прыйшоў разам з імі на гэтыя тэрыторыі. На правах «вызваліцеляў» яны прысвоілі сабе права зняважлівага трактавання мясцовых жыхароў. З пагардай нават да савецкага права яны мацавалі ўладу на землях далучаных да БССР.

Важным элементам савецкай улады на занятых тэрыторыях было выкарыстанне гаспадарчых рэсурсаў на патрэбы Чырвонай Арміі і гаспадаркі СССР. Гэта праяўлялася ў выкананні планаў дзяржпаставак прадуктаў сельскай гаспадаркі вясковым насельніцтвам, выканання розных прамысловых прац (высечка лесу, рамонт дарог і мастоў)[43]. За невыкананне плану паставак прадугледжвалася пакаранне[44].

Таксама вельмі часта людзі падвяргаліся прыніжэнню з боку савецкіх чыноўнікаў. Гэтая з’ява была настолькі актуальнай і распаўсюджанай, што

таксама абмяркоўвалася на Пленуме Гарадзенскага абласнога камітэта партыі. Яго сакратар Кароткін выказаўся вельмі рэзка: «У Васілішкаўскім раёне і шэрагу іншых раёнаў, калі жыхарамі польскай нацыянальнасці не выконваюцца тыя ці іншыя заданні, можна пачуць такі зварот: «Да якога часу ты, польская морда, будзеш тут сядзець?» Ці гэта пазіцыя партыі? Ці гэта лінія нашай партыі? У рэшце рэшт, гэта фашысцкая лінія. Хто даў права асобным таварышам з партыйным білетам дапамагаць фашыстам? Мы не можам абражаць нацыянальныя пачуцці чалавека. Гэта прынясе нам шкоду»[45].

Нягледзячы на падобныя заявы і прызнанні, адносіны цэнтральных уладаў СССР і БССР да мясцовага польскага насельніцтва былі варожыя. Палякі як грамадзяне СССР павінны былі адчуць на сабе ўсю моц першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян. Гэта, у прыватнасці, праявілася падчас прызыву ў Чырвоную Армію летам 1944 г. Дарэчы, людзі часта лічылі прыналежнасць да польскай нацыянальнасці дастатковым аргументам для вызвалення ад ваеннай службы ў СССР і байкатавалі ваенкаматы[46].

Летам і восенню 1944 г. ваенныя камісары з заходніх абласцей БССР накіравалі шматлікія скаргі ў партыйныя ўлады, у якіх паведамлялі пра «сабатаж палякаў». Праблема была сапраўды сур'ёзнай, бо, напр., у такіх раёнах як Іўеўскі і Юраціцкі Баранавіцкай вобл. наогул ніхто з мясцовага польскага насельніцтва не з'явіўся дзеля службы ў Чырвонай Арміі[47]. Падобным чынам людзі паводзілі сябе ў іншых раёнах Баранавіцкай вобл., у т. л. і ў Лідскім раёне. Адбывалася масавая адмова ад службы ў Чырвонай Арміі[48]. У Бабруйску каля 1 тыс. прызыўнікоў з Маладзечна адмовіліся ад прыняцця ваеннай прысягі. Яны патрабавалі выслаць іх у Польскую армію[49].

Не апошнюю ролю ў гэтых падзеях адыгрывала польскае падполле, якое забараняла палякам служыць у арміі і выкарыстоўвала рэпрэсіі да тых, хто ішоў на службу[50]. Улады дзейнічалі рознымі сродкамі – ад «выхаваўчых» размоў да гвалту і прымусу. Падчас аблаваў выкарыстоўвалася зброя[51]. Жахлівае падзея адбылася 15 ліпеня 1944 г. падчас канваіравання 159 мабілізаваных з в. Солы ў Вілейку. Пры спробе ўцячы салдаты пачалі страляць. У выніку было забіта 18 чал. і паранена – 20. У Вілейку прывялі толькі траіх[52].

Адмаўляючыся ад службы ў Чырвонай Арміі, многія адначасова хацелі служыць у Польскай арміі. Так, у сваёй запісцы ў ЦК КП(б)Б Гарадзенскі абласны камітэт інфармаваў, што мабілізацыя ў Чырвоную Армію ў Гародні праводзілася нездавальняючым спосабам. Прычынай такога становішча былі адносіны мясцовага насельніцтва да службы ў Чырвонай Арміі. Калі ж пачалі накіроўваць палякаў у мабілізацыйныя пункты Польшчы, іх адносіны да мабілізацыі рэзка памяняліся на пазітыўныя. У гарадзенскі

ваенкамат прыходзілі людзі і прасілі, каб іх накіравалі ў Польскую армію[53].

У апошняй дэкадзе 1944 г. улады БССР павінны былі мабілізаваць на патрэбы прамысловасці і будаўніцтва ў СССР 139 тыс. чал. Але мабілізавалі трохі больш за 110 тыс. На працягу траўня-чэрвеня 1945 г. на працу ў прамысловасць і будаўніцтва толькі з заходніх абласцей БССР трэба было направіць ужо 250 тыс. чал. У прыватнасці, з Баранавіцкай вобл. – 50 тыс., Берасцейскай, Гарадзенскай і Маладзечанскай – па 40 тыс.[54]

Працэдура прымусовай мабілізацыі на працу ў аддаленыя раёны СССР і накіраванне ў школы ФЗУ і рамесныя вучылішчы працягвалася да пачатку 50-х гг. XX ст. Гэта, несумненна, паўплывала на распад сямей у БССР. Усё тое, што адбывалася, было настолькі небяспечным, што для некаторых сямей ад’езд у Польшчу быў адзіным выйсцем, каб выратавацца ад нечалавечых умоваў працы на паўночна-ўсходніх землях СССР.

Мясцовае насельніцтва у т. л. і палякі прымушалася абслугоўваць усе патрэбы савецкай улады на далучаных тэрыторыях. Кіруючыя пасады для мясцовых ураджэнцаў не прадугледжваліся. Асабліва складана гэта было зрабіць палякам, бо нават беларусы, у т. л. былыя члены КПЗБ, як сцвярджаў Пётр Калінін, былі практычна адкінуты ўладай[55].

Фактычна, у кадравай палітыцы, нягледзячы на шматлікія злоўжыванні прысланых чыноўнікаў, дзейнічала правіла прызначэння кіраўнікамі толькі «восточников». У чэрвені 1947 г. на пленуме Гарадзенскага абкама партыі першы сакратар Сапоцкінскага раённага камітэта партыі Міронаў прызнаў: «У Навумавіцкім сельсавеце змяніўся ўжо дзевяты кіраўнік і так, як і іншыя кіраўнікі, ён быў накіраваны з усходу[56]. Савецкая ўлада імкнулася да поўнага кантролю над далучанымі землямі.

Вышэйшыя партыйныя і савецкія ўлады ў заходніх абласцях БССР спрабавалі дысцыплінаваць, мабілізаваць да актыўнай працы і затрымаць на кіруючых пасадах спецыялістаў з усходу. Тых, хто не адпавядаў гэтым патрабаванням, адпраўлялі назад[57].

Трактоўка савецкай і партыйнай уладай мясцовага польскага насельніцтва як людзей другога гатунку ў траўні 1955 г. спарадзіла пратэст, які выражаўся ў тым, што палякі з вёсак Сапоцкінскага і Гарадзенскага раёнаў адмовіліся падпісацца пад зваротам Сусветнай рады міру супраць атамнай вайны[58].

Старшыня Гарадзенскага абласнога камітэта КПБ Махаеў паведамляў, што ў в. Доргунь Навікоўскага сельсавета Сапоцкінскага раёна з 446 жыхароў падпісалася толькі 26 чалавек (5,8 %). Усе астатнія, у т. л. калгаснікі і нават дэпутат сельсавета не згадзіліся падпісацца пад зваротам[59]. Адзін з вяскоўцаў заявіў: «А няхай гэты атам падае хоць цяпер, таму што няма зямлі, няма хлеба, няма, што есці»[60].

Адносіны паміж прысланымі з усходу партыйнымі і савецкімі кадрамі чыноўнікаў і мясцовым насельніцтвам характарызаваліся напружанасцю і варожасцю да гэтых кадраў з боку большасці мясцовага насельніцтва не толькі ў першыя гады пасля вайны, але і пазней. Савецкая ўлада для гэтага насельніцтва заставалася варожай сілай. Яна не жадала разумець ні культуру, ні традыцыі людзей. Шматлікія факты парушэння закона, неабгрунтаваныя арышты, а таксама парушэнні асноўных правоў чалавека з'яўляліся нормай прынамсі да канца 1950-х гг.

[1] B. Grott, Polacy na Białorusi – szanse przetrwania? // Polityczne, religijne i kulturalne aspekty sprawy polskiej na Kresach Wschodnich. Pod redakcją Bogumiła Grotta, Kraków 2009, s. 154.

[2] K. Jasiewicz, Aparat sowiecki na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej jako model patologiczny funkcjonowania klasy politycznej (1939–1953) // Tygiel narodów. Stosunki społeczne i etniczne na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej 1939–1953, red. K. Jasiewicz, Warszawa–Londyn 2002, s. 92–94.

[3] M. Wierzbicki, Zmiany społeczne i gospodarcze na wsi kresowej w latach 1939–1953 // Tygiel narodów...., s. 119.

[4] B. Grott, Polacy na Białorusi... S. 155.

[5] Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобл. (далей ДАГАГВ). Ф. 1, воп. 1, адз. з. 2273, арк. 2. Справка, докладные документы, мероприятия о выполнении решения ЦК ВКП(б)Б о политической работе среди населения западных областей БССР.

[6] А. Бодак, Некоторые вопросы кадровой политики в Беларуси в послевоенное десятилетие // Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёну Беларусі. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Брэст, 1998, с. 232.

[7] S. Tokć, Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSRR (1945–1959) // Białoruskie Zeszyty Historyczne, nr 21, Białystok 2004, s. 121.

[8] Ibidem, s.121.

[9] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 1763, арк. 34.

[10] S. Tokć, Zmiany struktury narodowościowej… S. 121.

[11] J. Szumski, Sowietyzacja Zachodniej Białorusi 1944–1953. Propaganda i edukacja w służbie ideologii, Kraków, 2010, s. 42.

[12] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 2273, арк. 7.

[13] Тамсама. Ф. 11, воп. 1, адз. з. 3, арк. 22. Протокол № 8 Радуньского РК КП(б)Б от 8.12.1944 г.

[14] Тамсама. Документы о злоупотреблениях и нарушениях закона руководящими работниками (спецсообщения, доклады, записки, справки) за 1945 год. (Ф. 1, воп. 1, адз. з. 31, арк. 8).

[15] [16]Архіўныя дакументы пераконваюць, што ўзровень адукацыі ў большасці прадстаўнікоў улады быў вельмі нізкі. Нават высокапастаўленыя чыны ў абласных ці раённых камітэтах партыі КП(б)Б былі прадстаўлены партыйнымі кіраўнікамі, якія ледзьве мелі пачатковую адукацыю. Для заняцця пасад у першую чаргу ўлічваўся партыйны стаж і адданасць савецкай уладзе. Так, у Гарадзенскай вобл. амаль палова кіраўнікоў

мела толькі пачатковую адукацыю, у т. л. 67 % сакратароў гарадскіх камітэтаў партыі, 78 % сакратароў раённых камітэтаў, 88,2 % кіраўнікоў раённых і гарадскіх выканкамаў. (ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 149, арк. 9. Стенограмма VII Пленума Гродненского обкома КП(б)Б от 15 мая 1948 г.)

16 ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 26, арк. 33–36. Протоколы заседания бюро Гродненского обкома КП(б)Б и документы к ним. О противоправных действиях отдельных работников Свислочского раённого отдела НКВД.

17 [18]Тамсама. Адз. з. 147, арк. 155–156. Стенограмма Пленума Гродненского обкома КП(б) Б от 26-27 марта 1948 г.

18 Тамсама. С. 157.

19 J. Szumski, Sowietyzacja Zachodniej Białorusi… S. 44.

20 ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 23, арк. 247–249. Постановление бюро Гродненского обкома КП(б)Б от 8.06.1945 г.

21 Незаконна быў выселены са сваёй кватэры жыхар Гародні Рэйнгард Г. К. На раённым узроўні выпадкі захопу кватэр новымі кадрамі былі яшчэ больш абуральныя. (ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, адз. з. 3, арк. 22. Протокол № 8 Радуньского РК КП(б)Б от 9.12.1944 г.).

22 ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 24, арк. 148–151. Заседание бюро Гродненского обкома КП(б)Б от 3.08.1945 г.

23 Як міліцыянер мог атрымаць, напрыклад, дом у вёсцы, з якой ніхто не збіраўся перасяляцца ў Польшчу? Заставаўся толькі адзін спосаб альбо прымусіць да ад’езду, альбо зрабіць з кагосьці «ворага народа»…

24 [24]ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 63, арк. 193. Заседание бюро Гродненского обкома КП(б)Б от 8.08.1994 г.

25 [25]Тамсама. Адз. з. 91, арк. 55–56. Стенограмма Объединённого пленума Гродненского обкома и горкома КП(б)Б от 28.03.1947 г.

26 Тамсама. Адз. з. 93, арк. 7. Стенограмма Пленума Гродненского обкома и горкома КП(б) Б от 13.06.1947 г.

27 Тамсама. Арк. 10.

28 Тамсама. Адз. з. 92, арк. 9. Протокол Пленума Гродненского обкома КП(б)Б, постановление от 13 июня 1947 г. и документы к нему.

29 Тамсама. Адз. з. 93, арк. 18–19. Стенограмма Пленума Гродненского обкома КП(б)Б от 13 июня 1947 г.

30 Тамсама. Адз. з. 92, арк. 20.

31 [31] Нацыянальны архіў РБ (далей НА РБ). Ф. 4, воп. 29, адз. з. 543, арк. 40. Докладные записки ЦК КП(б)Б в ЦК ВКП(б)Б.

32 [32]Z. J. Winnicki, Uwagi o wpływie i skutkach stosowania niektórych metod i środków depolonizacji na obszarze Ziem Białoruskich, na polską świadomość narodową w drugiej połowie XX wieku i współcześnie // Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi, Grodno 2003, s. 33–57.

33 ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 89, арк. 6. Стенограмма Пленума Гродненского обкома КП(б)Б от 26.01.1947 г.

34 Так, капітан Котаў п’янстваваў, фальшаваў дакументы, краў грошы, нарэшце, застрэліў афіцэра Савецкай Арміі і застрэліўся сам. Лейтэнант Рэзнікаў п’янстваваў, краў, браў хабар. У выніку быў звольнены з міліцыі. Кіраўнік Лідскага райаддзелу МУС Сівашчук падтрымліваў кантакты з крымінальным светам, у гады вайны быў у арміі генерала Уласава. Арыштаваныя органамі контрвыведкі міліцыянеры з Гародні Яварчук і Гайдук падчас вайны служылі ў паліцыі і ўдзельнічалі ў арыштах і расстрэлах. Міліцыянеры Барадач і Прахарэня з Мастоўскага райаддзелу МУС застрэлілі арыштаванага

Дубравіцкага, каб схаваць сляды злачынства і г. д. За 1946 г. з органаў МУС Гарадзенскай вобл. было звольнена 214 чал. а за 3 месяцы 1947 г. – 109. У 1946–1947 гг. былі знятыя з пасады начальнікі міліцыі ў Воранаве, Жалудку, Зэльве, Поразаве, Радуні, Мастах, Сапоцкіне. Але большасць з іх была накіраваная на аналагічныя пасады ў іншыя раёны. (ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 99, арк. 214, 217, 218).

[35] Усе савецкія чыноўнікі, якіх прыслалі з усходу.

[36] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 98, арк. 8. Протоколы № 11–15 заседания бюро Гродненского обкома КП(б)Б, постановления и документы к ним.

[37] Тамсама. Адз. з. 112, арк. 84. Стенограмма совещаний секретарей райкомов КП(б)Б и председателей райсполкомов.

[38] Тамсама. Адз. з. 103, арк. 100. Протокол заседания бюро Гродненского обкома КП(б)Б, постановления и документы к ним от 4.11.1947 г.

[39] Тамсама. Адз. з. 147, арк. 102. Стенограмма Пленума Гродненского обкома КП(б)Б от 26–27 марта 1948 г.

[40] Тамсама. Арк. 121.

[41] Тамсама. Арк. 35–37.

[42] Тамсама. Арк. 46.

[43] J. Szumski, Sowietyzacja Zachodniej Białorusi… S. 49.

[44] НАРБ. Ф. 4, воп. 1, адз. з. 121, арк. 100. Пастанова Савета Народных Камісараў СССР № 2348 ад 17.09.1945

[45] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 147, арк. 176.

[46] Больш па тэме: А. Вялікі, Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах 1944–1955 гг., Мінск, 2010, с. 180–202, J. Szumski, Sowietyzacja Zachodniej Białorusi… S. 98–105.

[47] Освобождённая Беларусь. Документы и материалы в 2 книгах составили В. Адамушко [и другие], Минск, НАРБ, 2004–2005. Книга 1: сентябрь 1943 – декабрь 1944 гг., составил В. Адамушко [и другие]. 2004, с. 186.

[48] НАРБ. Ф. 4, воп. 42, адз. з. 245, арк. 118. Докладные записки секретарям ЦК КП(б)Б. VII–XII. 1944 г.

[49] А. Вялікі, Беларусь у савецка-польскіх… С. 187.

[50] НАРБ. Ф. 4, воп. 42, адз. з. 245, арк. 327. Докладные записки секретарям ЦК КП(б)Б. VII–XII. 1944 г.

[51] Тамсама. Арк. 220.

[52] J. Szumski, Sowietyzacja Zachodniej Białorusi…S. 102.

[53] НАРБ. Ф. 4, воп. 42, адз. з. 375, арк. 62. У ДАГАГВ ёсць папка, якая тычыцца прызыву палякаў у Польскую армію. Па гэтай справе была прынятая рэзалюцыя бюро Гарадзенскага абкама КП(б)Б і аблвыканкама ад 29.XI.1944 г. Доступ да гэтай папкі абмежаваны. Атрымаць матэрыялы не ўдалося. (ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 8, арк. 186).

[54] J. Szumski, Sowietyzacja Zachodniej Białorusi… S. 108.

[55] Нягледзячы на тое, што амаль на кожным паседжанні бюро Гарадзенскага абласнога камітэта партыі яго першы сакратар Пётр Калінін заклікаў прызначаць на кіруючыя пасады мясцовае насельніцтва, гэтага не адбывалася. У прыватнасці, у студзені 1947 г. на Пленуме абкама партыі П. Калінін прыгадаў членаў КПЗБ: «У нас у вобласці вельмі шмат былых членаў КПЗБ. Гэта рэзерв, які дапамагае нам расці. Сярод іх ёсць тыя, хто ў былой буржуазнай Польшчы адсядзелі па 5-10 гадоў у турмах за палітычную дзейнасць. Гэтым людзям пагражала небяспека і пакуты. Мы тым не менш іх пакінулі па-за палітыкай. Займаюцца яны выключна ўласнай гаспадаркай. (ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 89, арк. 63.)

[56] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 93, арк. 6. Стенограмма Пленума Гродненского обкома КП(б)Б от 13 июня 1947 г.

[57] Старшыня гарадзенскага раённага выканкама Варанцоў за неадпаведныя адносіны да працы, кепскае кіраўніцтва раёнам, за сістэматычнае п’янства і падман вышэйстаячых партыйных і савецкіх органаў быў зняты з пасады. Аналагічных прыкладаў было шмат. (ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 100, арк. 130)

[58] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, адз. з. 2322, арк. 5. Документы о работе среди населения.

[59] Тамсама.

[60] Тамсама. Арк. 14.

*Навуковае выданне*

# Гарадзенскі палімпсест 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV – XX стст.

Адказны за выпуск *Зміцер Колас*

Падпісана да друку 29.01.2012.
Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 22,32. Ул.-выд. арк. 23,70.
Наклад 200 асобнікаў. Заказ б/н.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас
ЛИ № 02330/0552654 ад 14.01.2010.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.

Пераплёт выраблены
ў ТАА «Інпрэдо»
Вул. Сямашка, 15-29/1, 220116, Мінск